ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ
ШТОМЕСЯЧНІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ IX

№ 15
Снежань 1935 г.



ЗМЕСТ

ПАМЯЦІ С. М. КІРАВА.



Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.,
ЦК КП(б)Б, пакой 21.
Тэлефон адказнага рэдактара па
камутатару 20 000, даб. 68.



## Вобраз яго будзе жыць стагоддзі!

Год назад перастала біцца палкае сэрца Сергея Міронавіча Кірава. Куля, выпушчаная рукой раз'юшанага і труслівага ворага, абарвала тераічнае жыццё, аб якім народы складаюць усё больш цудоўныя песні. Ад вучнёўскіх гадоў да апошняй мінуты Кіраў змагаўся, мысліў, пакутваў, гарэў вялікім агнём соцыялістычнай рэволюцыі. Яго жыццё стане лепшым узорам і ідэалам для нашай моладзі,—так вяліка і беззаветна была яго любоў да прыгнечанага чалавецтва, так моцна і дзейсна яго нянавісць да эксплаататараў, так гарача і даходчыва яго кіпучая прамова, так абаяльны яго натхнёны ўзрок і светлая ўсмешка.

Праходзяць нямногія гады, і вобразы буржуазных герояў усё больш цямнеюць, памяць аб іх паглынае бясследна рака часу. Пройдуць стагоддзі, але чым далей, тым ярчэй будуць свяціць вобразы герояў большэвізма. Перамагаючы соцыялізм паднімае з небыцця сотні мільёнаў падняволеных капіталізмам людзей, і адроджанае чалавецтва ніколі не забудзе Сергея Кірава, які разам са Сталіным у галаўной шарэнзе большэвікоў будаваў першую ў свеце дзяржаву пролетарыята.

Вораг ведаў, у каго ён пасылае кулю. Зіноўеўска-каменеўская сволач ведала, як любіць Кірава ўся партыя, увесь рабочы клас, увесь совецкі народ. Найміты і агенты асуджанага класа капіталістаў, самі асуджаныя і выкінутыя на смяццёвую звалку гісторыі, Зіноўеў і Каменеў паднялі руку Нікалаева і трусліва накіравалі кулю ў затылак Сергея Міронавіча. Гэтым актам зіноўеўская банда спадзявалася расстроіць большэвіцкія рады, развінціць і аслабіць велізарны механізм пролетарскай дыктатуры.

Сляпыя гадзіны пралічыліся! Магутнасць і моц нашай партыі і нашай дзяржавы непарушны. Ні на секунду не дрогнулі большэвіцкія рады, ні адзін вінцік нашага механізма не аслабіўся, ні адна гайка не развінцілася. Бо совецкі механізм і ўсе часткі яго адліты з большэвіцкага металу і загартаваны сталінскім гартам, якога ніколі не адолее шалёная ярасць капіталістаў, іх агентаў, іх наймітаў, іх шпіёнаў і забойцаў. Контррэволюцыйным гадзінам удалося забіць Кірава, але ім не ўдалося і не можа ўдацца забіць рэволюцыю, звярнуць краіну і гісторыю са шляху большэвізма, са шляху Леніна—Сталіна. Бо гадзіна мізэрна нават у ярасці сваёй, а пролетарская рэволюцыя несакрушальнай сілай рушыць свет к соцыялізму.

Стрэл у Кірава прагучэў для ўсёй нашай краіны сігналам да большай зоркасці і пільнасці.

Стрэл гэты зноў і з вялікай сілай паказаў кожнаму рабочаму і калгасніку, да чаго шалёным зверам капіталізм рынуўся ў бойку з ладам перамагаючага соцыялізма. Мільёнам людзей стала і стано-

віцца канчаткова ясна, што ідзе апошні жорсткі бой паміж старым і новым светам, і няма ў гэтым баі месца мяккасардэчнасці да змеяў старога свету, нельга разлічваць на тое, што змяя сама вырве жала сваё. І з дапамогай мільёнаў працоўных совецкая ўлада ўскрыла нямала глыбокіх нор ворага, вырвала нямала жалаў у трацкісцкіх, зіноўеўскіх і іншых белагвардзейскіх гадзін.

Гэта ачышчальная работа яшчэ не закончана. Яна прадаўжаецца і будзе даведзена да канца. Совецкі чалавек, у якім партыя выхавала і выхоўвае найлепшае пачуццё пролетарскага гуманізма, совецкі чалавек пасля забойства Кірава навучаецца мацней ненавідзець ворага і знімаць з яго лічыну і яшчэ мацней любіць сваю радзіму, сваю большэвіцкую партыю, якая вядзе народ да шчаслівага жыцця.

Аб ім, аб гэтым жыцці, марыў, за яго змагаўся і яго будаваў Кіраў. Дарагі Міроныч! Радзіма твая, радзіма наша, як дзівосны сад, наліваецца сокамі багацця. Табе ўдалося пабачыць у жыцці толькі пачатак нашага росквіту. Але перад тваімі вачыма—мы гэта ведаем—прыгожым відзеннем стаяў шчаслівы сёнешні і яшчэ больш прыгожы заўтрашні дзень радзімы нашай і ўсяго чалавецтва. Гэты цудоўны дзень стаяў перад тваімі вачыма і ў гады падполля і ў месяцы затачэння ў царскай турме. Цудоўны дзень соцыялізма стаяў перад тваімі вачыма і ў гады грамадзянскай вайны, калі ты на фронце ўзброенай рукой адстойваў права соцыялізма на жыццё і перамогу. Гэты цудоўны дзень ты бачыў і навучаў другіх бачыць,—навучаў у рабочых гуртках, на чырвонаармейскіх сходах, у горных аулах Каўказа, на нафтавых промыслах Баку, на заводах горада Леніна і на ўсесаюзнай трыбуне Крэмлёўскага палаца і Краснай плошчы.

Натхнёная прамова твая, трыбуна пролетарскай рэволюцыі, нясучага гарачае слова Леніна і Сталіна ў масы народныя, прынесла найлепшыя плады. Цудоўны дзень прышоў. Прыходзіць дзень, калі нужда, беднасць канчаткова знікаюць з твару зямлі нашай, уступаюць месца раднаснаму, шчасліваму, заможнаму жыццю. Жыць на совецкай радзіме стала і становіцца ўсё лепш, усё весялей. Узараная вялікім сталінскім плугам зямля наша вырасціла новых людзей — Стаханава і стаханаўцаў, якія пачынаюць пабіваць капіталізм і самай моцнай зброяй—высокай прадукцыйнасцю працы. Варштаты соцыялістычных заводаў, гул якіх ты так любіў, паравозы нашых чыгунак, трактары і камбайны на палях пераходзяць на новыя, вышэйшыя хуткасці, памнажаючы багацці краіны, моц і веліч совецкай дзяржавы.

Вялікія клятвы каля труны Кірава дала краіна вуснамі лепшых сваіх людзей. Партыя і народ далі клятву ісці да канца па таму шляху, якім ішоў Кіраў, па шляху яго настаўнікаў—Леніна і Сталіна. Партыя і народ далі клятву яшчэ больш рашуча распраўляцца з подлымі ворагамі, якія мецяць свае стрэлы ў самае сэрца рэволюцыі. Партыя і народ далі клятву моцна трымаць у руках вялікі сцяг комунізма, на якім гараць кроплі крыві Кірава, і данесці гэты сцяг да таго дня, калі ён будзе развявацца над усім светам.

Гэтыя клятвы партыя і народ выконваюць і будуць выконваць верна і непарушна. Збываюцца мары і жаданні Кірава. Самай заветнай з іх былі яго словы:

«Таварышы, многа вякоў таму назад вялікі матэматык марыў знайсці пункт апоры, каб, апіраючыся на яго, павярнуць земны шар. Прайшлі вякі, і гэта апора не толькі знойдзена, але створана нашымі рукамі. Не пройдзе многа гадоў, калі мы з вамі,

апіраючыся на заваяванні соцыялізма ў нашай совецкай краіне, абоДва земныя поўшар'і павернем на шлях комунізма».

Кожны дзень усё больш шпаркімі крокамі набліжае нас да гэтага заветнага моманту. Мы ўпэўнена паварочваем і, наперакор супраціўленню ваўкоў і змеяў капіталізма, павернем увесь свет на шлях комунізма. Упэўненасць наша грунтуецца на тым, што і пункт апоры, і рычаг створаны большэвікамі, што рычаг гэты ў руках партыі, у радах якой на перадавой лініі працаваў, змагаўся, гарэў і памёр на пасту Сергей Міронавіч Кіраў. На рычагу гэтым—рука Сталіна і дзесяткі мільёнаў рук непераможнага совецкага народу.

(«Правда»).

# Прамова таварыша Кірава на XVII з'ездзе ВКП(б)

## *Даклад таварыша Сталіна—праграма ўсёй нашай работы*

### Самы яркі дакумент эпохі

Таварышы, мы падводзім вынікі работы нашай партыі і нашага Цэнтральнага камітэта за перыяд часу ў тры з паловай гады. Я думаю, таварышы, што самым кароткім выражэннем зместу нашай работы за гэты прамежак часу з'яўляецца тое, што мы даказалі практычна (тэарэтычна гэта было ўстаноўлена партыяй значна раней) магчымасць пераможнага будаўніцтва соцыялізма ў нашай, паасобна ўзятай краіне і прышлі к XVII з'езду з велізарнейшымі перамогамі.

Магчымасць пабудовы соцыялізма ў адной краіне—формула сама па сабе вельмі кароткая, і цяпер яна ў радах партыі не выклікае ні ў кім ніякіх сумненняў. Але калі ўспомніць, які шлях папярэднічаў гэтай нашай перамозе, то стане ясным, якую выключную ролю адыграла наша партыя, якую выключную барацьбу вынес пад кіраўніцтвам нашай партыі рабочы клас у справе ажыццяўлення ленінскага плана будаўніцтва соцыялізма ў адной краіне.

Бо калі ўспомніць, таварышы, усе нашы ўнутрыпартыйныя спрэчкі, то ў канчатковым выніку ўсе яны ўрашчаліся вакол гэтай асноўнай асі, вакол рашаючага для пролетарскай рэволюцыі пытання аб магчымасці будаўніцтва соцыялізма ў паасобна ўзятай краіне. Праўда, не заўсёды і не ўсюды атакуючыя генеральную лінію нашай партыі прадстаўнікі правых, «левых» і «лева»-правых апартуністаў адкрыта выказвалі свае сумненні адносна гэтай асноўнай тэмы. Але мы ведаем, што з якога-б боку ні пачыналася атака на генеральную лінію нашай партыі, у канчатковым выніку, расшыфроўваючы гэтую атаку, мы заўсёды бачылі, што ў корані яе ляжыць пытанне аб магчымасці пераможнага будаўніцтва соцыялізма ў нашай краіне.

Зараз, паўтараю, гэта пытанне вырашана для нас не толькі тэарэтычна, але і практычна. Мы маем не толькі каласальныя заваёвы ў справе нашай прамысловасці, у ажыццяўленні ленінскага лозунга індустрыялізацыі нашай краіны, але мы за гэтыя тры з паловай гады рашучым чынам павярнулі шматмільённую аднаасобную сялянскую гаспадарку на новыя, соцыялістычныя рэйкі.

Соцыялістычнае ператварэнне дробнабуржуазнай сялянскай гаспадаркі было самай труднай, самай цяжкай і самай складанай праблемай для пролетарскай дыктатуры ў яе барацьбе за новае, соцыялістычнае грамадства. Іменна гэта праблема, іменна гэта, так званае

сялянскае пытанне і параджала ў галовах апазіцыянераў сумненні ў магчымасці пераможнага будаўніцтва соцыялізма ў нашай краіне. Гэта галоўнейшае пытанне пролетарскай рэволюцыі вырашана цяпер беззваротна і канчаткова ў карысць соцыялізма.

У выніку ўсёй нашай работы мы на данай стадыі нашага развіцця маем такое ўмацаванне дыктатуры рабочага класа ў нашай краіне, якога мы не мелі ніколі. Мы маем зараз сапраўды моцна зладжаную і трывала сцэментаваную нашу вялікую Совецкую дзяржаву, стварыўшую фундамент соцыялістычнай экономікі. Гэта дае агромнае маральнае задавальненне не толькі рабочаму класу і многамільённаму калгаснаму сялянству нашай краіны, але гэта з'яўляецца лепшым агітатарам, самым сільным прапагандыстам за справу соцыялізма за межамі нашай краіны, сярод міжнароднага пролетарыята, сярод усіх прыгнечаных Усходу і Захаду.

Мне, таварышы, здаецца, што многія з нас недастаткова ўлічваюць вынікі той работы, якую мы прарабілі за апошнія тры з паловай гады. У гісторыі часта бывае так, што для таго, каб ацаніць тое, што было зроблена гістарычна ўчора, трэба адыйсці на значную гістарычную адлегласць, паглядзець здалёк на тое, што мы зрабілі.

Самым яркім і самым поўным дакументам, які мы ведаем да сёнешняга дня, які нарысаваў перад намі ўвесь малюнак нашай вялікай соцыялістычнай будоўлі за тры з паловай гады, з'яўляецца справаздачны даклад таварыша Сталіна на гэтым з'ездзе. (Апладысменты).

Я думаю, не будзе таксама пераўвелічэннем сказаць, што мы яшчэ не падышлі к таму часу, калі мы дасканальна, поўнасцю да кожнай коскі разбярэмся ва ўсім тым, што нам сказаў тут таварыш Сталін. **(Галасы: «Правільна!»)**. У яго дакладзе быў не толькі вынік праробленай намі работы,—таварыш Сталін даказаў нам шляхам найглыбейшага марксісцка-ленінскага аналіза, **як мы гэтага дасягнулі,** чаму мы гэтага дабіліся. Таварыш Сталін не абмежаваўся справаздачным бокам свайго дакладу, ён разгарнуў перад намі гіганцкія перспектывы работы на бліжэйшыя гады, гэту новую старонку нашай вялікай праграмы. І больш таго, таварышы, там не толькі нарысавана, адлюстравана праграма гэтай работы,—таварыш Сталін нам сказаў, **як патрэбна ажыццяўляць** гэту праграму, як трэба далей умацоўваць і ўмнажаць нашу соцыялістычную будоўлю.

Мне, таварышы, здавалася-б, што ў выніку такога падрабязнага абгаварэння даклада ЦК нашай партыі, якое мела месца на гэтым з'ездзе, было-б дарэмна ламаць галаву над пытаннем аб тым, якое вынесці рашэнне, якую вынесці рэзалюцыю па дакладу таварыша Сталіна. Будзе правільней, па-мойму,—і для справы ва ўсякім выпадку гэта будзе больш мэтазгодным, чым усякае іншае рашэнне,— прыняць к выкананню, як партыйны закон, усе палажэнні і вывады справаздачнага даклада таварыша Сталіна. **(Галасы: «Правільна!» Бурныя, доўгія апладысменты. Усе ўстаюць, апладзіруючы).**

Але гэтага мала, таварышы, аднаго гэтага далёка яшчэ не дастаткова для поспеху далейшай работы. Прыняць—гэта адно, а другое— трэба будзе гарантаваць нам усім аўтарытэтам нашага вялікага з'езда рэчаіснае, поўнае, сапраўднае, чэснае, большэвіцкае выкананне ўсяго таго, што тут было сказана таварышом Сталіным. **(Бурныя апладысменты, воклічы: «Правільна!»).**

## Аб тых, хто прасядзеў у абозе

Таварышы, у выніку ўсёй работы паміж XVI і XVII з'ездамі мы бачым, якая велізарная перабудова ўсёй народнай гаспадаркі адбылася ў нашай краіне, якая велізарная перасоўка ў размеркаванні соцыяльных сіл адбылася ў нас у карысць соцыялізма.

Ва ўсіх звеннях нашай соцыялістычнай будоўлі зараз пераважае соцыялістычны пачатак. І вось у такіх якраз абставінах, пры такіх якраз выніках здавалася: ці варта было спыняцца на выступленнях, якія мы чулі тут з боку былых лідэраў правай і троцкісцкай апазіцыі?

З'езд без асаблівай увагі слухаў выступленні гэтых таварышоў, і вось мне здаецца, што да гэтых выступленняў трэба цяпер ужо падысці не толькі з пункту погляду тэарэтычнага,—мы гэтыя справы дыскусіравалі ўжо цэлы рад год таму назад (**воклічы:** «Правільна!»),—а трэба некалькі больш практычна, так сказаць, пачалавецку, глянуць на тое, што адбылося з правадырамі былых апазіцыйных груповак. Не ўдаючыся ў тэарэтычны аналіз поглядаў усякага роду апазіцый, якіх яны і самі-то цяпер не абараняюць, мне хацелася-б выкарыстаць прысутнасць тут вайсковых і ўявіць сабе, скажам, такі малюнак. Мы з вамі—наша вялікая комуністычная армія пад аўтарытэтным камандваннем Цэнтральнага камітэта нашай партыі, узначальваемага такім найвялікшым стратэгам соцыялістычнай будоўлі, як таварыш Сталін,—мы павялі рашучае соцыялістычнае наступленне па ўсяму фронту. Мільёны рабочых, з імі ў саюзе яшчэ большыя мільёны сялян на чале з цвёрдай, жалезнай, сталёвай ленінскай партыяй пашлі ў бойку. У гэтай бойцы, таварышы, нам прышлося пацярпець нямала паасобных няўдач і няўзгод, але ў выніку мы вышлі к XVII з'езду партыі на такія новыя пераможныя вышыні, што ўсе гэтыя хібы і ўсе гэтыя недачоты тушуюцца перад веліччу нашых перамог. Але вы ведаеце, таварышы, што ва ўсякай вайне, а ў тым ліку, аказваецца, і ў той вайне, якая вядзецца за будаўніцтва соцыялізма, здарылася так, што паасобныя таварышы па розных прычынах пачалі сумнявацца ў мэтазгоднасці і паспяховасці таго вялікага паходу, які мы разгарнулі, і замест таго, каб біцца ў радах асноўных байцоў, яны то паадзіночцы, то цэлымі групамі нават з кіруючых радоў іншы раз або нырялі ў бок, або прыадставалі, або скрываліся ў абозе ці яшчэ дзе-небудзь, не гледзячы на тое, што па фізічных дастатках ім было месца ў перадавой лініі агня. А армія ідзе, таму што гэта ніякім чынам хістаць боездольную армію не павінна і не можа. Армія ідзе наперад, атрымлівае адну перамогу за другой. Але там, у абозе, сярод гэтых паасобных хістаючыхся груп, звенняў і групачак, усё-ж такі прадаўжаецца свая работа. Атрымліваючы загады камандвання, гэтыя людзі не толькі не стараюцца праводзіць гэтыя загады, наадварот, яны ўсяляк стараюцца падарваць аўтарытэт гэтых загадаў, яны ўсяляк стараюцца расхістаць бліжэйшыя да іх шарэнгі. Справа даходзіць да таго, як здараецца і на вайне, што праціўнік, заўважыўшы наяўнасць празмернай колькасці такіх «абозных» элементаў, пачынае нават некаторыя разлікі трымаць на гэтыя пласты арміі. А барацьба ідзе, армія атрымлівае адну перамогу за другой. І вось уявіце сабе малюнак,—пасля таго, як армія атрымала рашаючыя перамогі над ворагам: асноўныя пазіцыі заняты, вайна яшчэ не скончылася, далёка не скончылася, але наступіла нешта накшталт пераможнай перадышкі, калі можна так выразіцца, і

вось уся вялікая пераможная раць байцоў спявае магутную пераможную песню. І ў гэты час што застаецца рабіць усім тым, якія да сёнешняга дня былі ў абозе? **(Апладысменты, смех).**

Яны, таварышы, выходзяць, прабуюць таксама ўклініцца ў гэтую агульную ўрачыстасць, прабуюць у нагу пайсці, пад адну музыку, падтрымаць гэты наш уздым. Але як яны ні стараюцца, не выходзіць і не атрымліваецца. **(Смех, апладысменты).**

Вось вазьміце Бухарына, напрыклад. Па-мойму, спяваў як быццам-бы па нотах, а голас не той. **(Смех, апладысменты)**. Я ўжо не гавару аб таварышу Рыкаве, аб таварышу Томскім.

**Ройзенман.** Так, так.

**Кіраў.** Тут нават і мелодыя іншая. **(Смех, апладысменты).** І ў тон не трапляюць і ў крок не паспяваюць.

І я па-чалавецтву, таварышы, павінен сказаць, што гэта не так проста: трэба ўвайсці ў становішча людзей, якія цэлыя гады, рашаючыя гады напружанейшай барацьбы партыі і рабочага класа сядзелі ў абозе.

**Ройзенман.** Абознікі, абознікі.

**Кіраў.** Ім вельмі трудна стаць на партыйныя пазіцыі. І мне здаецца, я не хачу быць прарокам, але яшчэ некаторы час пройдзе, пакуль уся гэта абозная раць увальецца ў нашу пераможную комуністычную армію. **(Апладысменты).**

**Ройзенман.** Брава, брава!

**Кіраў.** Таварышы, мы называем свой з'езд з'ездам пераможцаў. Гэта верна. Але вось з усяго таго, што я стараўся папросту расказаць, вельмі элементарна,—па-мойму, гэта правільна, так сказаць, па сутнасці **(апладысменты)**,—мне здаецца, што з усяго гэтага трэба зрабіць неабходныя вывады іменна таму, што барацьба не скончылася, барацьба прадаўжаецца. Уперадзе—ажыццяўленне той праграмы, якую нам нарысаваў таварыш Сталін.

Уперадзе яшчэ вельмі многа клопатаў і турбот для ўсёй партыі, для кожнага з нас і для ўсяго рабочага класа. І можа яшчэ здарыцца, што сяму-таму, паасобным таварышам, а можа быць, паасобным групам, зноў прыдзецца ў сім-тым расчаравацца, гэта не выключана. Таму вось з таго прыкладу, які я вам прывёў, мы павінны атрымаць урок у тым сэнсе, што нам неабходна і ў далейшым блюсці ў нашых радах, у радах нашай комуністычнай партыі, велізарнейшую, найглыбейшую партыйную пільнасць і жалезную большэвіцкую дысцыпліну. Тое, што мы перамаглі, тое, што зараз гэтыя разбітыя апазіцыянеры так гэта, ведаеце, спрабуюць усяляк падладзіцца да нашых перамог, гэта яшчэ ні ў якой ступені, таварышы, не знімае з парадку дня пытання аб тым, што нам і ў далейшым трэба берагчы чыстату і недатыкальнасць генеральнай лініі нашай партыі. **(Апладысменты).**

Я паўтараю, уперадзе, таварышы, яшчэ вельмі многа вельмі цяжкіх і вельмі складаных пытанняў і ўнутранага і знешняга парадку, якія нам прыдзецца вырашаць.

## Горад Леніна вытрымаў экзамен

Я з'яўляюся прадстаўніком так званага старога прамысловага раёна, які працуе на справу соцыялістычнай будоўлі. Але мне здаецца, што калі мы на XVI з'ездзе партыі дзялілі нашы прамысловыя раёны на старыя і новыя, то на XVII з'ездзе нашай партыі мы

маем многа падстаў для таго, каб адмовіцца ад гэтага раздзялення. Тут ужо многа гаварылася, я паўтараць не буду, якія гіганцкія работы, якія гіганцкія поспехі мы маем у справе соцыялістычнай будоўлі, у новых раёнах. І разам з тым належыць сказаць, што і так званыя старыя раёны за гэтыя тры з паловай гады перасталі быць старымі.

У нас, напрыклад, ленінградскія рабочыя гавораць, што ў Ленінградзе засталіся старымі толькі слаўныя рэволюцыйныя традыцыі пецербургскіх рабочых, усё астатняе стала новым. **(Апладысменты).**

І гэта, таварышы, сапраўды так. Калі ўзяць нашу прамысловасць, то за справаздачны прамежак часу, дакладней, за тры гады (я не буду затрудняць вас лічбамі), мы асноўныя фонды ленінградскай прамысловасці павялічылі на 70% з лішнім. Але тут мала гаварыць проста аб павелічэнні асноўных фондаў, аб рублях і аб колькасці станкоў і абсталявання. Гаворачы пра абнаўленне нашых старых заводаў, трэба заўсёды мець на ўвазе якасны бок гэтага абнаўлення, таму што новыя станкі, якімі мы замяняем ранейшыя станкі, нічога агульнага са старымі станкамі не маюць; тыя агрэгаты, якія мы ставім зараз, яны карэнным чынам адрозніваюцца ад тых, якія былі раней. У выніку вось такое абнаўленне нашай ленінградскай прамысловасці прывяло к таму, што, як гэта ні дзіўна, мы з XVI па XVII з'езд амаль захоўваем удзельную вагу ў валавой прадукцыі Савецкага Саюза, яна хістаецца ад 14 да 15%. Але справа не толькі ў гэтым. Справа ў тым, што такія рашаючыя галіны прамысловасці, як машынабудаўніцтва, суднабудаўніцтва, электрабудаўніцтва і оптыка, г. зн. тыя галіны прамысловасці, якія з'яўляюцца вядучымі ў Ленінградзе, яны як былі, так і застаюцца на ранейшым высокім узроўні. Напрыклад уся металічная прамысловасць вырасла за тры гады ні многа, ні мала як на 92% з лішнім. Я гэта вяду к таму, што гэтага не было-б, калі-б мы своечасова не здолелі абнавіць рашучым чынам наш асноўны капітал, які мы маем у нашай ленінградскай прамысловасці.

Нельга абыйсці моўчкі і ролю Ленінграда як магутнай кузні кадраў для нашых новых соцыялістычных будоўляў і навукова-даследчых устаноў усяго Совецкага Саюза. У 1932 і 1933 гг. мы накіравалі за межы нашай області 7500 кваліфікаваных работнікаў.

Гэта не значыць, што ў нас няма ніякіх недахопаў і ніякіх недачотаў у нашай рабоце. Не гледзячы на велізарны вопыт, які мае ленінградская прамысловасць, ленінградскія рабочыя, не гледзячы на агромныя рэволюцыйныя традыцыі, і ў нас недахопаў, недачотаў яшчэ вельмі і вельмі многа. Але ў асноўным горад Леніна вытрымаў той экзамен, які Цэнтральны камітэт партыі прад'явіў яму, і паспяхова справіўся з ускладзенымі на яго задачамі па ўзбраенню перадавым тэхнічным абсталяваннем важнейшых новых будоўляў і рашаючых галін прамысловасці ўсяго Совецкага Саюза.

Уперадзе, таварышы, у нас у перспектыве бліжэйшых год велізарныя задачы ў далейшым развіцці нашай прамысловасці.

Я-б хацеў звярнуць увагу на адзін бок справы, які вельмі затрудняе далейшы рост ленінградскай прамысловасці. Гэта пытанне аб нашых паліўных рэсурсах. Вы ведаеце, на якой адлегласці знаходзіцца ленінградская прамысловасць ад нафты і вугалю. Стараліся мы з усіх сіл, у асаблівасці пад націскам таварыша Сталіна, знайсці хоць які-небудзь гаручы матар'ял у нашай області або ў нас на Поўначы, але да гэтага часу пакуль што гэта справа беспаспяхова. Але ў нас ёсць, і не толькі ў нас, а на ўсёй Поўначы, велізарныя запасы

торфу, на здабычу якога і мы, ленінградцы, і нашы суседзі, якія жывуць на тарфяных месцах, належнага напору не праяўлялі. Колькасна, праўда, мы здабываем яго непараўнаўча больш, чым гэта было раней.

Пры цару ленінградская прамысловасць харчавалася не мясцовым вуглем і нават не данецкім, а англійскім палівам. Зараз мы пераключыліся на наша айчыннае паліва.

У апошні час нам удалося дабіцца парадачных вынікаў у справе больш мэтазгоднага выкарыстання тарфянага паліва. Я маю на ўвазе, таварышы, прыстасаванне топак для добрага, прадукцыйнага спальвання так званага фрэзернага торфу. Мы маем зараз новыя, праверадыя не толькі лабараторнымі вопытамі, але і фабрычна-заводскім шляхам новыя топкі праф. Макар'ева для спальвання фрэзернага торфу. Гэта ўносіць цэлую рэволюцыю ў паліваснабжэнне нашай прамысловасці.

Вядома, што здабыча фрэзернага торфу значна лягчэй, чым здабыча якога-небудзь іншага віду торфу. Але далей ідзе цэлы рад пытанняў, такіх, як хаваць фрэзерны торф, як яго захаваць ад самазагарання і т. д. Усе гэтыя пытанні мы і іншыя області, якія сядзяць на торфе, павінны будзем паставіць у цэнтр увагі сваёй гаспадарчай работы. Таварышы, ніякім чынам нельга пагарджаць гэтым відам паліва. Калі параўнаць яго з іншымі відамі паліва, то, вядома, нафтавае паліва лепш і выгадней, вядома, данецкі вугаль прыемней і т. д. Але, таварышы, калі ўзяцца за торф як след, можна зрабіць велізарную справу. Я ўжо не гавару аб перспектывах далейшага развіцця тарфянай прамысловасці, аб газіфікацыі і т. д. Я гавару аб задачах сёнешняга дня.

А запасы тарфянога паліва невычарпальны. Тое, што мы ўзялі зараз у арбіту свайго наглядання, гаворыць аб тым, што мы не спальваем яшчэ і той колькасці торфу, якая нараджаецца ў нас кожны год.

Другое—гэта разгортванне ў нас у Ленінградскай області работы па здабычы сланца. Мы знашлі за апошнія гады велізарныя залежы сланцоў. Палохала нас некалькі тое, што ў 1932 г., узяўшыся шчыльна за гэтую справу, мы мелі цэлы рад усякага роду няўдач, звязаных з багаццем грунтовых вод у залежах сланцоў, але зараз мы гэту справу асілілі. Велізарная будзе заваёва для прамысловасці нашай області, калі мы справу сланцоў асвоім, а мы павінны гэта зрабіць.

Да ўсяго гэтага трэба дадаць, што мы знашлі ў нашай області, на поўначы, велізарнейшыя залежы жалезнай руды. Я не хочу вам лічбы называць.

Жалеза там вельмі падыходзячае. Мы яго даследвалі ўсяляк— і ў лабараторыях і на заводзе і бачым, што гэта—такое жалеза, якое па сваёй якасці (я нікога не хочу тут пакрыўдзіць) з любым раёнам можа паспрачацца і пацягацца. Але ўсё пытанне з выкарыстаннем гэтых жалезных руд упіраецца ў адсутнасць мясцовага паліва, неабходнага для металургіі.

Калі мы маем такі велізарны прамысловы цэнтр, які дзесяткамі гадоў складваўся, і калі нам удасца сапраўды з заўтрашняга дня арганізаваць новую цвёрдую паліўную базу і калі раскрываюцца такія прыродныя перспектывы, то падумайце, што тут выходзіць для далейшага развіцця не адной толькі ленінградскай прамысловасці. Нават на адным гэтым прыкладзе можна зразумець, у якіх неабсяж-

ных межах на соцыялістычных асновах можа разгортвацца далейшы ўздым прадукцыйных сіл. Тое, што ўчора здавалася зусім непрабудным, куды, як гаварылі, «Макар цялят не ганяў», куды ў царскія часы толькі ў ссылку людзей ссылалі,—цяпер там воляй большэвікоў, на базе прыродных багаццяў (апаціты, жалеза, малібдэн, слюда, торый, цітан і інш.), у поўтундры, куды да гэтага часу нага чалавечая не ступала, створан новы, хутка растучы індустрыяльны цэнтр запалярнага круга.

Там-жа, на поўначы, па ініцыятыве таварыша Сталіна пабудаваны Беламорска-Балтыйскі канал—гэта гіганцкае збудаванне нашай эпохі. Вам раздалі тут кніжку аб Беламорска-Балтыйскім канале, абавязкова прачытайце яе, вельмі карысная кніжка. Такі канал, у такі кароткі тэрмін, у такім месцы ажыццявіць—гэта сапраўды гераічная работа, і трэба аддаць справядлівасць нашым чэкістам, якія кіравалі гэтай справай, якія літаральна цуды зрабілі.

У выніку мы звязалі Белае мора з Балтыйскім і стварылі водны шлях праз Марыінскую сістэму, праз Волгу з Белага мора ў Каспійскае. А ў бліжэйшыя гады гэты вялікі водны шлях заверне і ў нашу чырвоную сталіцу—Маскву. І украінцы заключаюць з намі саюз у тым, каб правесці новы водны шлях прама ад нас да Чорнага мора. Падумайце, як цесна звяжам мы наш вялікі і неабсяжны Савецкі Саюз сеткаю рэк, каналаў і як праз іх злучым і ажывім ненаселеныя моры і акіяны.

Далей, буйнейшай задачай для нас з'яўляецца стварэнне ў межах області сваёй харчовай сельскагаспадарчай базы. Таварыш Сталін у сваім дакладзе ўказаў, што ў даны момант кожны прамысловы цэнтр павінен разлічваць у першую чаргу на выкарыстанне сваіх унутрыабласных харчовых рэсурсаў, бо цяпер няма ўжо больш чыста сельскагаспадарчых абласцей, якія маглі-б у ранейшых размерах снабжаць старыя прамысловыя раёны.

Усім вядома, дарэчы, тут многа старых піцерцаў сядзіць, што да рэволюцыі Ленінград быў акружан крыху большай сельскагаспадарчай тэрыторыяй, усе вы ведаеце, што граніцы з суседнімі дзяржавамі прашлі так, што многа сельскагаспадарчых раёнаў ад нас адышло, і калі гаварыць аб мінулым, зусім нядаўнім мінулым, справа складвалася так, што не толькі мы, работнікі, жывучыя ў Ленінградзе, жылі прывозным хлебам, але і сяляне-псковічы. Ім хапала свайго хлеба да студзеня—лютага, самае большае, а далей трэба было з іншых раёнаў завозіць. Цяпер мы дабіліся таго, што сяляне Ленінградскай області ў прывозным хлебе не маюць патрэбы; больш таго, мы сёе-тое нарыхтоўваем і для дзяржавы. Але Ленінград не забяспечвае сябе хлебам і асабліва гароднінай за кошт унутрыабласных рэсурсаў. Мы ставім задачай у 1934 г.—і тут ЦК нам усяляк дапамагае—давесці сваю прадукцыю бульбы для задавальнення ленінградскіх рабочых у 1934 г. да 60% і гародніны—да 50%. Гэта вельмі вялікі рост у параўнанні з тым, што мы маем да гэтага часу, і труднавата прыдзецца нам. Але трэба ва што-б там ні стала побач з сыравіннай базай для прамысловасці развіваць і нашу харчовую базу. Думаю, таварышы, што за год гэтай справы мы не вырашым, але мы так ставім сабе: гадкі два—тры,—калі вы нам крыху будзеце дапамагаць гароднінай і бульбай, кожны год усё менш ды менш,—у канцы канцоў мы станем на свае ўласныя ногі, і ў гэтых адносінах у нас няма ніякага сумнення.

Таварышы, я думаю, што дапамагчы нам варта, тым больш што на нас ляжаць вельмі вялікія задачы. Вы ведаеце, што ў справе індустрыялізацыі Ленінград адыгрывае выключна адказную ролю, няма ніводнага месца, няма ніводнага кутка ў Совецкім Саюзе, куды не ішла-б прадукцыя ленінградскай прамысловасці. Праўда, яна не заўсёды добраякасна, але гэта мы пастараемся знішчыць. У парадку ўзаемадзейнасці асноўным сельскагаспадарчым абласцям прыдзецца пакуль што дапамагаць Ленінграду па частцы сельскагаспадарчых прадуктаў, тым больш, што гэтаму слаўнаму гораду дапамагчы не грэх.

Таварышы, гэтымі днямі споўнілася роўна дзесяць год з таго моманту, калі нашаму гістарычнаму гораду было прысвоена імя нашага вялікага настаўніка: Петраград быў перайменаваны ў Ленінград.

За гэтыя дзесяць год ленінградскія рабочыя і работніцы сваёй самааддданай барацьбой за генеральную лінію партыі паказалі, што яны варты імені горада Леніна, у якім яны жывуць і працуюць. Я тут скарыстаю з выпадку і ад імя ленінградскіх рабочых павінен вам засведчыць, што яны заўсёды былі не ў апошніх радах той вялікай барацьбы за соцыялістычную будоўлю, якую мы з вамі вялі. Яны і ў далейшым будуць адной з самых верных, самых непахісных і самых надзейных калон нашай большэвіцкай партыі і яе Цэнтральнага камітэта. **(Бурныя апладысменты).**

Таварышы, мне хацелася-б, на аснове вопыту нашай ленінградскай прамысловасці, узяць адно—два пытанні, якія датычаць, па-мойму, работы ўсёй прамысловасці Саюза.

Першае—гэта якасць нашай работы на нашых фабрыках і заводах. Гэта—хворае месца, і, я думаю, не толькі ў нас у Ленінградзе. Упівацца ўсялякімі 100—200% колькаснага росту нам ніяк не прыходзіцца. Гэта ўсё вельмі добра, што колькасць расце, але якасць астаўляе жадаць вельмі многага. Бо не дарма-ж ЦК нашай партыі, Соўнарком націскаюць на гэтую справу. Бо мы дашлі—тут я забягаю крыху наперад—да таго, што нядаўна наш совецкі ўрад і наш ЦК вымушаны былі выдаць дэкрэт, закон, па якому за дрэнную якасць прадукцыі мы—хто-б там ні быў: партыйныя, совецкія і гаспадарчыя работнікі, кожны з нас, каго гэта датычыць,—будзем прыцягвацца да **крымінальнай адказнасці.** Гэта, таварышы, як-бы сказаць памякчэй, ганьба для нашай работы—такі дэкрэт, і тут трэба рэальна даць сабе адказ у тым, што ў нас адбываецца.

Мы ў Ленінградзе, напрыклад, наглядаем: кадры ў нас нядрэнныя, уменне як быццам ёсць, заводы таксама не з апошніх, а ўсё-ж такі, як што асабліва новае і асоба новы заказ, то выходзіць наступнае: пачынаем паціханьку рабіць, нарэшце зробім; пачынаем збіраць—усё як быццам выходзіць; перанясем на месца,—гэтага не хапае, гэта не прыладжана, гэта не падыходзіць, гэта несалідна. І выходзіць цэлая каніцель.

Вось, напрыклад, турбабудаўніцтва: на ўвесь Саюз робім турбіны, займаем першае месца, а нашы турбіны да апошняга часу прычыняюць нам масу клопатаў.

Толькі цяпер мы разблытваемся з тымі, якія мы рабілі ў папярэднія гады. І да гэтага часу яшчэ да канца не разблыталі. На пытанні якасці трэба наваліцца нам усім, і партыйцам, і гаспадарнікам, самым зверскім, самым бязлітасным чынам.

І заўважце, што ў нас выходзіць: ёсць прадукцыя, якую мы выво-

зім за граніцу. Напрыклад мы ў Ленінградзе робім машыны на экспарт, для заграніцы, і не такія простыя машыны; але я вам павінен сказаць, што калі патрэбна машыну для заграніцы,—зробяць як след, а калі для сябе, дык зусім не тое. Вазьміце больш простую прадукцыю, скажам, харчовай прамысловасці. Таксама значную колькасць робім за граніцу, аж да ўсякай цукеркі і інш. Так, калі вам паказаць заграпічныя нашы цукеркі,—проста ад аднаго выгляду прыемна робіцца, не кажучы ўжо пра тое, калі яе з'ясі. (**Смех**).

А вазьміце нашы. Вось нашы рабочыя на тых-жа заводах гавораць: сыравіна, матар'ял іншы. Наконт матар'ялу таксама можна паспрачацца. Тут-жа так: крыху больш салодка, крыху менш—не вырашае справы, а самы выгляд і якасць гэтай прадукцыі—за гэта трэба прыняцца па-сапраўднаму.

Я ведаю на прыкладзе Ленінграда, як мы дабіваемся нашых поспехаў. Там, дзе мы наваліліся,—там выходзіць. Два выпадкі прывяду ўсяго, не буду зацягваць. У нас ёсць такі Іжорскі завод, вы ведаеце,—агромны завод, мае велізарныя гаспадарчыя задачы, адказныя рэчы робіць. Завод быў доўгі час у прарыве. Што мы зрабілі? Мы скарысталі з выпадку, з таго, што паказалі нам Донбас і іншыя месцы, дзе рэарганізацыя работы і кіраўніцтва ў корані змянілі справу. Мы наваліліся на гэты завод. За апошнія поўгода, як-бы не сурочыць, завод змяніўся к лепшаму. Нічога не прыбавілі: снабжэнне тое-ж, тыя-ж людзі ў асноўным, тое-ж абсталяванне, але толькі завод пастаўлен на чалавечую нагу, кожны адказвае за сваё месца, кожны адказвае за сваю справу і інш. Справа пашла. Той-жа малюнак мы бачым і на другім вялікім і важным ленінградскім заводзе, «Чырвоная зара», які амаль увесь 1933 г. знаходзіўся ў вялікім прарыве, а цяпер, толькі пасля перастаноўкі людзей і палепшання арганізацыі работы, паспяхова выпраўляецца і бясспрэчна выканае студзеньскую праграму бягучага, 1934 г.

Такім чынам, як вы бачыце, ад арганізацыі справы залежыць поспех работы—і якасць і ўсё іншае.

Цяпер некалькі слоў па пытанню адносна нашых далейшых затрат на закупку за граніцай усякага абсталявання для нашых фабрык і заводаў.

Калі вы прагледзіце ўсе нашы рэзалюцыі за апошні час на ўсіх канферэнцыях, то ў іх запісана, што наша цяжкая прамысловасць знаходзіцца зараз на такім высокім узроўні, што можа зрабіць любую машыну, любы станок і агрэгат. Мы ўсе галасуем за гэта, гучна апладзіруем гэтай справе. У нас у Ленінградзе мы прынялі такія ўстаноўкі, і я ўпэўнен, што і ўсюды зыходзяць з такіх-жа ўстановак (**Галасы:** «Правільна!»).

Вы гаворыце «правільна». З другога боку, я не сумняваюся, што заўтра-ж, калі будзе дана якое-небудзь сур'ёзнае новае заданне таму ці іншаму заводу, у тым ліку нашаму ленінградскаму,—дык першае, што сустрэнеш ад дырэктара завода, гэта будзе: «Заказ трэба прыняць, але для гэтага неабходна выпісаць такое-та і такое-та абсталяванне з-за граніцы».

Учора толькі галасавалі, што ўсё самі зробім, а сёння будуць патрабаваць: давай імпарт.

З гэтай справай трэба пакончыць. Мы маем у гэтых адносінах такую практыку і вопыт, што калі бярэмся за справу па-сапраўднаму, па-сумленнаму,—выходзіць. Аказваецца—можна. Я не хочу ўсю віну

звальваць на адных толькі гаспадарнікаў-комуністаў. Тут вінаваты і нашы работнікі, якія вядуць непасрэдную партыйную работу на заводах, няма чаго грэха ўтойваць. Калі прымаюць заказ, то абстаўляюць выкананне яго такімі тэрмінамі, якія, як правіла, утрымліваюць нічым не апраўдваемыя рэзервы часу. Гэта робіцца для таго, каб можна было адрапартаваць аб выкананні заказу ў тэрмін і нават датэрмінова.

І вось тут часта наглядаецца паміж нашымі гаспадарнікамі і партыйцамі нейкі «альянс». Калі прапануюць 100—давайце возьмем 50. Гэта больш надзейна, а потым паказыраем—«перавыканалі». А раз так, то належнай мабілізацыі ўсіх унутраных рэсурсаў не выходзіць.

З гэтым непартыйным падыходам да заказаў трэба канчаць.

Я-б хацеў сказаць тут, што нашым партыйным работнікам трэба ў гэтых адносінах з-пад уплыву гаспадарнікаў вызваліцца. А з другога боку, трэба сказаць нашым гаспадарнікам-дырэктарам, што яны павінны падыходзіць да гэтага, як і да ўсёй сваёй работы, больш блізка, больш па-партыйнаму, памятаючы заўсёды аб тым, што яны не проста дырэктары, не проста тэхнічныя дырэктары, але перш за ўсё члены нашай комуністычнай партыі.

Вось калі будзе, з аднаго боку, пабольш чыста гаспадарчага погляду на ўсё ў нашых партыйных работнікаў і, з другога боку, больш партыйнага духу ва ўсёй штодзеннай рабоце гаспадарнікаў, мы за кароткі час зможам знішчыць многія недахопы ў рабоце прамысловасці.

Далей, пара таксама самым рашучым чынам кінуць нашы старыя прыёмы і метады работы, якімі мы карысталіся да гэтага часу на нашых прамысловых прадпрыемствах, і, як-б сказаў, надта нам неабходна рэволюцыйным чынам укараняць новую культуру ў арганізацыю вытворчасці.

У гэтай справе адыгрывае велізарную ролю ўвядзенне тэхпромфінплана, які дае больш высокую аснову для работы нашых прамысловых прадпрыемстваў.

Я, таварышы, зацягнуў сваё выступленне. Каб вас не затрудняць больш, хацеў-бы толькі сказаць адносна тых агульных задач, якія стаяць перад намі зараз, якія падкрэсліў таварыш Сталін, і перш за ўсё адносна чыгуначнага транспарта.

У сілу нашага асобага геаграфічнага становішча мы, ленінградцы, затрудненні ў транспарце адчуваем, бадай, больш, чым хто-б там ні было. Мы павінны зараз больш, чым калі-небудзь, удзяліць увагу праблеме транспарта, але выступаўшыя таварышы гаварылі больш аб чыгуначным транспарце і мала падкрэслівалі значэнне воднага транспарта. Мы тут нават прадстаўнікоў гэтага воднага транспарта не бачым, а ўсё-ж такі пара-б ім пусціцца ў сапраўднае плаванне па нашых агромных рэках і морах. **(Смех і апладысменты).** Такое плаванне будзе агромным падспор'ем чыгуначнаму транспарту. Бо мы-ж маем такія водныя артэрыі, якіх не мае ні адна краіна. А што выходзіць? Мы нават зразумелай праграмы развіцця воднага транспарта не атрымалі. Мы пабудавалі Беламорска-Балтыйскі канал імя Сталіна, праводзім агромныя збудаванні, скажам канал Масква—Волга, іншыя каналы намечаны. Гэта стварае новыя водныя шляхі. Калі сёння воднікі не зразумеюць новых задач, як яны будуць працаваць далей? Заўтра яшчэ большыя патрабаванні паўстануць, паслязаўтра яшчэ большыя і так далей.

У нас часам прынята гаварыць так: пытанні работы транспарта—

гэта справа ўсёй партыі. Гэта верна, хто-ж у гэтым сумняваецца? Але гэта не толькі не аслабляе, але і ўзмацняе, узнімае адказнасць за стан транспарта тых органаў і кіраўнікоў, на якіх ускладзена прама і непасрэдна задача арганізаваць работу транспарта. Так трэба справу ставіць. Я ніколькі не зніжаю таго становішча, што пытанні транспарта—гэта пытанні ўсёй партыі. Гэта абсалютна правільна. Але перш за ўсё гэта пытанні тых арганізацый, якія заклікаты гэтую справу рабіць.

Тут многа гаварылі на з'ездзе пра чыгуначны транспарт, і Варашылаў абрысаваў справу вельмі добра, але транспартнікі звычайна гавораць: вы нам мала дапамагаеце, транспарт—справа ўсёй партыі. Але вы-та, вы, мілыя людзі, дзе вы? Перш за ўсё вы павінны па-большэвіцку ўзяцца за справу, разбудзіць, расшаволіць рабочых, падняць на ногі партыйную арганізацыю таго-ж самага чыгуначнага, воднага транспарта. Бо там-жа рабочыя зусім не другарадныя. Гэта чапуха.

На транспарце такія-ж рабочыя, такія-ж члены партыі, як і ва ўсіх іншых галінах гаспадаркі. Трэба толькі здолець абаперціся на іх.

Так сама трэба падыйсці і да вырашэння жывёлагадоўчай праблемы.

Уся партыя ставіць і шчыльна бярэцца за вырашэнне пытанняў жывёлагадоўчай гаспадаркі, але перш за ўсё гэта значыць, што ўсе органы Наркамзема, знізу даверху, павінны карэнным чынам палепшыць практыку іх работы і кіраўніцтва. Без гэтага нічога не выйдзе.

Таварыш Сталін падрабязна расказваў нам аб значэнні таваразвароту на даным этапе соцыялістычнага будаўніцтва. Я не ведаю, ці ясна для ўсіх у поўным аб'ёме тое, што ён сказаў. Бо на самай справе, калі мы будзем пакідаць таваразварот у яго сучасным стане, то справа можа скласціся так, што і тавары будуць, і попыт, вядома, будзе, і ўсё-ж такі можа наступіць сур'ёзнае расстройства гаспадарчага жыцця нашай краіны толькі таму, што такое звяно нашай работы, як таваправодзячая сетка, будзе працаваць з рук вон дрэнна. Гэта трэба зразумець, і тут я звяртаюся к таму, што справа не толькі ў тым, каб запісаць, што даная задача з'яўляецца задачай усёй партыі.

Трэба падняць перш за ўсё адказнасць усіх арганізацый, якія адказваюць за справу развіцця совецкага гандлю.

## Аб партыйнай вучобе і самакрытыцы

І апошняе пытанне, на якім я хачу спыніцца і аб якім мы часта забываем у захапленні, відавочна, усімі астатнімі работамі. Я маю на ўвазе партыйна-масавую работу нашых арганізацый, пытанні прапаганды марксізма-ленінізма і палітычнага выхавання рабочых мас.

Трэба прама сказаць, што гэта адзін з вельмі адказных участкаў усёй нашай партыйнай работы. Па крайняй меры на практыцы выходзіць так,—трэба прама, па-чэснаму прызнацца,—што мы, занятыя заводамі, промфінпланамі, праграмамі, калгасамі, соўгасамі, вугалем і так далей, і інш. і інш., пакідаем падчас справу партыйнага выхавання ў баку і няма, каб пазаняцца гэтымі пытаннямі шчыльна і глыбока. Складаюцца ўсякія метадычкі, праграмы, тэзісы, і для агітацыі і для прапаганды, усё спускаецца ўніз. А я па-чэснаму прызнаюся,

што далёка не заўсёды цікавіўся да гэтага часу блізка, якія праграмы, якія метадычкі, чаму і як яны вучаць. Агітуюць, прапагандуюць, увогуле, вядома, правільна агітуюць; але вось ці заўсёды разумее агітуемы тое, што яму гавораць, і як даводзяцца да рабочага і калгасніка нашы лозунгі і рашэнні,—пра гэта мы, кіраўнікі, не заўсёды ведаем. А гэта далёка не апошняе пытанне. Ад яго ў велізарнай меры залежаць нашы далейшыя поспехі.

Вядома, вельмі прыемна бачыць п'есу якога-небудзь пісьменніка, які піша нашы совецкія п'есы, аб тым, як расце новае пакаленне, якое не бачыла ў жыцці, што такое жывы гарадавы, і т. д.

Гэта усё, вядома, вельмі добра. Але вось зараз расце яшчэ больш маладое пакаленне, якое не ведае, не мае ніякага жывога ўяўлення, акрамя мазгавога, аб тым, што такое беспрацоўе, галеча, голад, а на практыцы зусім не ведае гэтых рэчаў. Але-ж гэтых людзей трэба выхаваць, трэба даць ім зразумець, адчаго і чаму гэта адбылося. А гэта могуць даць толькі добра пастаўленая прапаганда і агітацыя ў карысць нашай вялікай марксісцка-ленінскай навукі. Ніякім іншым спосабам гэтай справы не возьмеш. Я думаю, што ўсякую навуку, у тым ліку і тэхніку і механіку, мы павінны ўзнімаць на такую вышыню, якая недаступна капіталістычным краінам. Гэта зусім верна. Скажам, навука аб супраціўленні матар'ялаў—гэта надта неабходная навука. Але мы ні на адну мінуту не павінны забываць, што мы жывем у такой абстаноўцы, калі тая навука, якая вывучае супраціўленне супроцьстаячых нам класаў унутры краіны і за яе межамі,—гэта навука павінна займаць першае месца. **(Гром апладысментаў).**

Узброеная ленінізмам, у непрымірымай барацьбе з апартунізмам усіх масцей, шырока паставіўшы большэвіцкае выхаванне ў сваіх радах, наша партыя, як ніколі, адзіна, маналітна, цвёрда і згуртавана вакол свайго ЦК і правадыра таварыша Сталіна.

Таварышы, наша далейшая будоўля будзе таксама ў велізарнай меры залежаць ад таго, наколькі мы будзем беражна і любоўна ажыццяўляць адзін з найвялікшых лозунгаў нашай партыі—лозунг самакрытыкі. Многа гаварыць аб гэтым я-б не хацеў, але мне прыходзіць у галаву гэта пытанне ў сувязі з учарайшым выступленнем таварыша Варашылава. Я чуў ад паасобных таварышоў, якія гаварылі, што Варашылаў быццам як-бы празмеру хваціў у крытыцы недахопаў чыгуначнага транспарта. Гэта гаварылі паасобныя таварышы, а з'езд, вы ведаеце, сустрэў выступленне таварыша Варашылава зусім па-іншаму. **(Шумныя апладысменты па адрасу таварыша Варашылава).**

Разважанні некаторых таварышоў аб тым, ці не занадта многа самакрытыкі,—вельмі шкодная штука. І сапраўды, калі дрэнна, калі нядобра, дык дзе-ж пра гэта гаварыць, як не ў асяроддзі нашай партыі? Калі я сёння як быццам нічога, змазлівенькі, а заўтра стаў неказісты,—куды-ж мне ісці, акрамя партыі, за лячэннем? **(Апладысменты).** Толькі такім парадкам можна мабілізаваць партыю. Тут часам я, грэшны чалавек, думаю, не страшна нават, калі перагнеш, тут значна небяспечней, калі не дагнеш, таму што «жэнеўская» самакрытыка, якой там займаюцца—і так і гэтак, у якой не зразумееш, дрэнна ці добра,—нам не да твару, нам такой самакрытыкі не трэба.

У нас, большэвікоў, так вядзецца: калі самакрытыка—даводзіць да канца. І нічога тут не здарыцца, ніхто нікуды тут не правaліцца.

Гэта толькі дапаможа выправіць справу, і гэта захавае партыю ад небяспекі зазнайства, аб чым папярэджваў таварыш Сталін.

Поспехі сапраўды ў нас велізарны. Чорт яго ведае, калі па-чалавецку сказаць, дык хочацца жыць і жыць. **(Смех).** І сапраўды, паглядзіце, што робіцца. Гэта-ж факт! **(Шумныя апладысменты).**

Але ёсць небяспека: можна так захапіцца ўсякімі песнапеннямі, што перастанеш разумець, што навокал дзеецца. **(Смех).** А без самакрытыкі папярэдзіць сябе ад галавакружэння ніякім чынам нельга.

Самакрытыка—самая надзейная, адзіная і самая моцная зброя для папярэджання той хваробы, якую таварыш Сталін назваў галавакружэннем ад поспехаў.

Я ведаю, што і мне непрыемна было-б, калі-б мяне крыху крытыкнулі, можа быць, і я не так весела-б пра гэта расказваў **(смех),** але гэта не значыць, што тое, што я гавару, няверна. Гэта абсалютна правільна. І ў гэтых адносінах даклад таварыша Сталіна з'яўляецца зусім выключным. **(Галасы з месц:** «Правільна!» **Апладысменты).**

Паглядзіце, таварышы, там не было сказана Іваноў, Пятроў, Сідараў, але вазьміце пытанне аб жывёлагадоўлі—хіба гэта не цяжкая рэч для ўсіх нас? А калі таварыш Сталін сказаў аб гэтым, то некаторыя гаварылі: «Ці не лепш было-б не гаварыць аб гэтым?»

Тым часам большэвіцкая партыя можа і павінна ставіць хворыя пытанні толькі так, як гэта зрабіў таварыш Сталін.

А гэта значыць, што жывёлагадоўчая гаспадарка патрабуе велізарнай і безадкладнай работы партыі. І гэта было пастаўлена прама ў лоб для таго, каб гэтую справу выправіць. І ад такой пастаноўкі мы толькі выйгрываем, бо яна мабілізуе партыю і рабочы клас, узнімае іх актыўнасць.

Толькі партыя, якая ўсведамляе сваю сілу, толькі партыя, якая смела ідзе наперад, можа адкрыта перад усім светам так ускрыць недахопы сваёй работы. Няхай спрабуюць паны капіталісты, якія ўстанавілі фашысцкі рэжым, нават для статыстыкі расказаць праўду аб тым, што ў іх робіцца з іх гаспадаркай, прадпрыемствамі, банкамі, валютай і т. д.

Я лічу, што ўзор самакрытыкі, калі браць яе па-сапраўднаму, пазелавому, у дзеянні, а не тэарэтычна, дан нам у дакладзе таварыша Сталіна. **(Апладысменты).**

Таварышы, некалі Троцкі (вымаўляеш гэта імя, і нядобры адразу настрой робіцца, будзь ён тройчы пракляты, каб яго памінаць на такіх нашых з'ездах!) абвінавачваў нашу партыю ў «нацыянальнай абмежаванасці», у здрадзе інтэрнацыяналізму. Цяпер больш чым калінебудзь відаць, чаго варта гэтая контррэволюцыйная балбатня. Бо цяпер як ніколі стаіць высока наш аўтарытэт ва ўсім свеце сярод найшырэйшых мас рабочых і сярод сялян. А ворагі нашы навучыліся паважаць нашу сілу і магутнасць. Таварыш Літвінаў лепш за мяне расказаў-бы, чаму дасягнуты нашыя поспехі ў міжнароднай палітыцы, усе гэтыя пакты і інш. Калі-б мы пашлі з гэтымі-ж пактамі пяць год таму назад, з тым багажом, які мелі тады ў нашым соцыялістычным балансе, на міжнародную арэну, нас-бы ўсур'ёз не ўзялі, за дзівакоў палічылі. Зараз не тое, мы гаворым не так галосна, можа быць, без лішніх фраз, але кожны разумее, што зараз за кожнай фразай крыецца ў той ці іншай ступені тое, аб чым нам таварыш Варашылаў так падрабязна ўчора расказваў. **(Апладысменты).**

І тут, таварышы, як ні прыкідвай, падабаецца гэта каму-небудзь

ці не падабаецца, а магутнасць наша—яна зараз відна для ўсіх, і гэтым, таварышы, мы заваёўваем новыя і новыя пазіцыі не толькі ўнутры нашай краіны, але і за межамі нашай вялікай социялістычнай бацькаўшчыны.

Таварыш Сталін гаварыў, што мы закончылі фундамент соцыялістычнай будоўлі, што мы разгортваем работу для таго, каб збудаваць на гэтым вялікім фундаменце ўсе надбудовы, якія створаць новае, небывалае ў гісторыі чалавецтва грамадства, комуністычнае грамадства.

Работа, таварышы, не толькі захапляючая, але работа вельмі цяжкая, вельмі складаная і вельмі адказная. Але калі мы маем такі геpaічны рабочы клас, які насяляе нашу Совецкую краіну, калі мы маем такую партыю, якую выпеставаў найвялікшы з людзей—Уладзімір Ільіч Ленін, цвет якой засядае вось тут зараз, партыю, якая не ведае ніякіх прапон, ніякіх перашкод, партыю, у якой у праваце сваёй справы няма ні малейшага сумнення, я думаю, што з такой партыяй, з такім рабочым класам, задачы, якія стаяць уперадзе, не толькі вырашальны, але вырашальны бліскуча і вырашальны пераможна, тым больш, што асноўныя труднасці ўжо засталіся ззаду.

Таварышы, дзесяць год таму назад мы пахавалі таго, хто стварыў нашу партыю, хто стварыў нашу пролетарскую дзяржаву. Але таксама дзесяць год таму назад вуснамі лепшага прадаўжальніка справы Леніна, лепшага кормчага нашай вялікай соцыялістычнай будоўлі, нашай мільённай партыі, нашага мільённага рабочага класа, вуснамі гэтага лепшага мы далі свяшчэнную клятву выканаць вялікія заветы Леніна. Мы, таварышы, з гонарам перад памяццю Леніна можам сказаць: мы гэтую клятву выконваем, мы гэтую клятву і ў далейшым будзем выконваць, таму што клятву гэту даў вялікі стратэг вызвалення працоўных нашай краіны і ўсяго свету—таварыш Сталін. **(Бурныя, доўга не змаўкаючыя апладысменты, гарачая авацыя ўсёй залы, усе ўстаюць).**

---

**Н. Ф. Гікало**

# Ён будзіў і клікаў

Жыва памятаю бліскучыя выступленні Кірава на народным з'ездзе Терскай області ў Маздоку ў 1918 г. Гэтыя выступленні будзілі, клікалі на барацьбу працоўных горцаў, казакаў, рабочых. Адзін сівы, стары горац, памаладзеўшы пасля прамовы Сергея Міронавіча, лёгкім поступам горца ўзабраўся на трыбуну з'езда і ў сваёй адрывістай гартаннай прамове кляўся ў адданасці справе рабочага класа, совецкай улады.

Незабыўны вобразы страснай і магутнай прамовы Кірава на заключным пасяджэнні, калі ён заклікаў дэлегатаў з'езда да апошняй кроплі крыві змагацца за свабоду. Ён прывёў прыгожую старажытную легенду аб Праметэю, як увасабленні свабоды, прыкаваным да скалы на вяршыні Казбека, чыё змардаванае цела нястомна дзяўбе арол. І маладыя, і старыя, і горцы, і казакі, і рабочыя ўскаквалі з месц і ў нястрымнай страсці да перамогі над векавой цемнатою крычалі на розных мовах сваё прывітанне большэвікам, Леніну і скромнаму прамоўцу, які клікаў іх на барацьбу за вызваленне чалавецтва.

З'езд галасаваў у сваёй пераважнай большасці за прапанову большэвікоў і паслаў тэлеграму Совету Народных Камісараў—Леніну, вітаючую Окцябрскую рэволюцыю і ўладу Советаў. І цяпер ужо не дзесяткі, а сотні агітатараў раз'ехаліся па аулах змагацца за справу, пачатую Леніным. Гэтыя агітатары праніклі глыбока ў станіцы, аулы, лясы і горы і ўсюды збіралі дэлегатаў на з'езд у Пяцігорск.

Пазней прыходзілася сустракацца і бачыць тав. Кірава ўжо ў іншай абстаноўцы. Войскі інтэрвентаў, банды айчынных генералаў, памешчыкаў і капіталістаў разгромлены і раздаўлены рабочымі і сялянамі совецкай краіны. Трэба было ўмацоўваць совецкую ўладу, аднаўляць прамысловасць і сельскую гаспадарку. К канцу 1920 года я сустрэў Кірава ўжо як члена Каўказскага бюро ЦК ВКП(б).

Разам з тав. Серго Орджанікідзе Кіраў стаў кіраўніком комуністычнай арганізацыі былой Горскай рэспублікі, затым прадстаўніком совецкага ўрада ў меншавіцкай тады Грузіі і потым зноў кіраўніком большэвіцкай арганізацыі на Паўночным Каўказе. І ўсё тая-ж нязменная бадзёрасць, скромнасць, усё тая-ж непахіснасць у барацьбе за справу рабочага класа, за справу партыі Леніна, у барацьбе супроць якіх-бы там ні было адхіленняў ад лініі партыі.

**А. Картукоў**

# За 7—8 мільярдаў пудоў зярна*)

Апошнія месяцы насычаны такімі выдатнымі з'явамі і фактамі, якія робяць літаральны пераварот у рабоце прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Стаханаўскі рух, які разгарнуўся ў тоўшчах рабочых мас і калгаснікаў, ясна гаворыць аб тым, што працаваць старымі метадамі нельга, што мы ўвайшлі ў такую паласу соцыялістычнага будаўніцтва, калі трэба перабудоўваць усю работу і кіраўніцтва на вышэйшую ступень, у адпаведнасці з тэмпамі жыцця, з ростам таго творчага ўздыму, сведкамі якога мы з'яўляемся.

Тав. Сталін на нарадзе камбайнераў паставіў перад усёй краінай задачу—дабіцца за бліжэйшыя 3-4 гады штогодняй вытворчасці зярна ў 7-8 мільярдаў пудоў.

Гэтая задача, як геніяльна і проста вытлумачыў нам тав. Сталін, узнікла з росту соцыялістычнай вытворчасці, з росту патрэбнасцей працоўных Совецкай краіны і таму яна безумоўна ажыццявіма.

Калі вы сачылі за ўсімі выдатнымі сустрэчамі членаў ЦК партыі і саюзнага ўрада з лепшымі людзьмі нашай краіны, якія бурным струменем з усіх канцоў совецкай зямлі сцякаліся к сценам Крэмля на нарады, то кожны з вас мог бачыць, з якім захапленнем сустракалі яны лозунг тав. Сталіна аб 7-8 мільярдах пудоў зярна.

На гэтых нарадах выступалі людзі з вялікім вопытам калгаснага будаўніцтва і асваення сельскагаспадарчай тэхнікі: калгаснікі, якія дабіліся 150-200 і больш пудоў ураджаю з гектара; трактарысты, якія выпрацавалі 1000-2000 і больш га на трактар; камбайнеры, якія ўбралі 500-700 і больш гектараў; малатарнікі, якія далі 800-1000-1500 і больш тон зярна на малатарнях МК 1100 і БДО 34.

Гэтых людзей не так яшчэ многа. Але ўся сіла іх у тым, што вядуць яны за сабой ужо дзесяткі і сотні тысяч калгаснікаў, калгасніц, рабочых соўгасаў і МТС.

Тав. Сталін на нарадзе стаханаўцаў гаварыў:

> «Задача заключаецца ў тым, каб дапамагчы стаханаўцам разгарнуць далей стаханаўскі рух... Неабходна, каб нашы партыйныя арганізацыі ўключыліся ў гэту справу і дапамаглі стаханаўцам давесці рух да канца».

З пастаўленай задачы—даваць штогод па 7-8 мільярдаў пудоў зярна—кожная вобласць, кожны край і рэспубліка павінны зрабіць

*) З дакладу на нарадзе пры ЦК КП(б)Б па пытаннях уздыму сельскай гаспадаркі.

для сябе практычныя вывады: вызначыць план павышэння ўраджайнасці на бліжэйшыя гады.

5 снежня ў Маскве была склікана нарада, на якой ЦК і Соўнаркомам прынята пастанова аб арганізацыйна-гаспадарчым умацаванні калгасаў і ўздыме сельскай гаспадаркі ў абласцях, краях і рэспубліках нячорназемнай паласы.

Мэта гэтай пастановы—узняць удзельную вагу нячорназемнай паласы ў барацьбе за 7-8 мільярдаў пудоў хлеба, пératварыць яе краі і абласці з так званых спажываючых у буйныя сельскагаспадарчыя раёны, як гэта пастаноўлена было XVII партыйным з'ездам. Краі і абласці нячорназемнай паласы, а значыць і БССР, за 3-4 гады павінны дабіцца з гектара 90-100 пудоў у сярэднім ураджаю зернавых, 4-5 цэнтн. ільнавалакна, 900-1100 пудоў бульбы.

Асноўныя недахопы нячорназемнай паласы, аб якіх гавораць у сваёй пастанове ЦК ВКП(б) і СНК Саюза, цалкам уласцівы і нам. Першы, гэта—недастатковае выкарыстанне складаных машын і адсутнасць добрых кадраў; другі—невыкарыстанне мясцовых угнаенняў, надта нездавальняючая справа з канюшынай, парушэнне сталінскага статута, недастатковае правядзенне яго ў жыццё.

Трактарны парк у гэтым годзе справіўся з планавым заданнем на 101%, але трэба мець на ўвазе, што норма на трактар у нас мізэрная—265 га. Калі-ж узяць паасобныя МТС, то там справа яшчэ горш. Напрыклад у Прыямінскай, Барысаўскага раёна, прадукцыйнасць усяго 218 га на трактар, у Парыцкай—184, у Сенненскай—179, у Чашніцкай—159, у Петрыкаўскай—182.

Адной з неабходнейшых умоў уздыму ўраджаю з'яўляецца радковая сяўба. Тым часам па зоне МТС у 1935 годзе засеяна было гэтым спосабам толькі 15-20% пасеўнай плошчы. Тое-ж самае і з выкарыстаннем ільнацерабілкі «ВНІІЛ-5», якая ў сярэднім дала 10 га, замест паложаных ёй 50 га.

Мы ўсе талкуем, што нам патрэбен севазварот, што мы за севазварот, але забываем пра тое, што ў нашых умовах канюшына вырашае пытанне аб севазвароце. З года ў год насенне канюшыны мы цалкам не засыпаем, не нарыхтоўваем. На гэты год мы маем насеннай канюшыны пакуль толькі 27% плана.

Не першы год ужо мы гаварым аб торфе, але вельмі слаба скарыстоўваем яго для ўгнаення. За мінулы год мы выканалі план тарфавання палёў толькі на 20-25%. На гэты год намечана затарфаваць каля 65 тысяч га.

Што-ж дае нам тарфаванне? Возьмем факты.

Нядаўна Наркамзем БССР узнагародзіў старшынь калгасаў, якія выканалі і перавыканалі заданні па торфу. Калгас «Чырвоная армія», Віцебскага раёна, перавыканаў свой план тарфавання, залажыўшы 2100 кубаметраў кампосту. Які ўраджай ён атрымаў? Аўса—120 пудоў з га, бульбы—1000 пуд., капусты—2000 пуд. і бручкі—3600 пуд. Калгас «Прамень Советаў», Паўлаўскага сельсовета, Кіраўскага раёна, атрымаў не горшы ўраджай: 122 пуды аўса з га, 102 пуды ячменю, 800 пудоў бульбы, 2000 пудоў морквы.

Гэтыя прыклады красамоўна гавораць аб тым, што мы ўпускаем велізарныя магчымасці, якія знаходзяцца ў нашых руках.

Што робіцца ў нас з укараненнем сталінскага статута сельскагаспадарчай арцелі, які адыгрывае рашаючую ролю ў справе арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў? Аказваецца, да гэтага

часу мы зарэгістравалі толькі 81% статутаў. У Круглянскім раёне дашлі нават да таго, што ў 5 калгасах статут яшчэ не прапрацоўвалі на сходах і не прымалі яго. Сакратар Круглянскага райкома тав. Новікаў 22 снежня паведаміў у ЦК аб тым, што са 142 калгасаў статуты зарэгістраваны ў 137. Праз два тыдні звонім у РВК і пытаемся старшыню: «Скажы сумленна, колькі ў цябе зарэгістравана статутаў?» Ён адказвае: «Сумленна кажучы,—110». Адкуль-жа гэта розніца? Проста райком не ведаў, што робіцца са статутамі. Статуты ў Круглянскім раёне зарэгістраваны са скажэннямі. У раздзеле V, дзе гаворыцца аб растэрміноўках для новаўступаючых бясконных і безнасенных, запісана, што растэрміноўка прадастаўляецца «на 6 год», замест «да 6 год». Гэта грубейшае скажэнне не заўважаюць старшыня РВК і ўвесь прэзідыум. У выніку скажоны статут гуляе па Круглянскаму раёну.

Возьмем далей пытанні ўнутрыкалгаснай дэмакратыі. Нядаўна мы выявілі, што за 1934 год па 250 калгасах, на выбарку, змянілася 27% старшынь, а пасля прыняцця статута—14%. Суражскі раён з мая месяца паспеў зняць 34 старшынь, Талачынскі—40, Бягомльскі—41, Сенненскі—42, Багушэўскі—44 (35% усіх старшынь раёна), Шклоўскі—51 і т. д. Агульныя сходы не сталі яшчэ месцам, дзе калгаснік вырашаў-бы ўсе сур'ёзныя пытанні свайго калгаса.

У гэтым годзе значна вырасце наш трактарны парк. Мы атрымаем у дадатак да чатырох тысяч дзве тысячы новых трактароў, што павялічыць магутнасць парка на 30 тыс. конскіх сіл.

Пасеўны і ўборачны інвентар узрасце на 30%.

Мы атрымаем 200 камбайнаў. Гэтых машын у нас да апошняга часу зусім не было. Іх трэба асвоіць, але не так, як асвойвалі ільнацерабілкі. Не такі час. Зараз нам скідкі на асваенне не будзе.

Уводзіцца новая машына—бульбакапалка двухрадная, якую нашы палі яшчэ не бачылі. Яе таксама трэба ўмець асвоіць, значыць трэба рыхтаваць людзей—кадры.

У 1936 годзе ЦК павышае нам норму выкарыстання трактара з 265 да 380 га. Новымі машынамі мы павінны выцерабіць 36 тыс. га лёну, абмалаціць 650 тыс. тон зярна. Для гэтага нам трэба падрыхтаваць 11 тыс. чалавек—6 тыс. адных толькі трактарыстаў, 200 камбайнераў, 500 ільнацерабільшчыкаў і т. д. На падрыхтоўку камбайнераў прыдзецца звярнуць асаблівую ўвагу, бо работа на камбайне не такая простая справа.

Сёлета нам трэба закласці насеннікі канюшыны з тым, каб ужо ў 1937 годзе атрымаць неабходную колькасць насення. А гэта справа сур'ёзная.

Нам трэба правесці рад мерапрыемстваў для поўнага выкарыстання ўгнаенняў, вывазкі торфу, попелу і т. п., для захавання ўраджаю ад страт, асабліва пры ўборцы (будаваць павеці, гумны, сушні і інш.), для сцягвання хутароў, аб'яднання дробных калгасаў і т. д.

Наша нарада склікана для таго, каб яшчэ раз як найлепш прадумаць пастанову ЦК і СНК СССР і вызначыць практычныя мерапрыемствы на 1936 год. Вы атрымалі на рукі праект размеркавання машын і заданняў па раёнах, якія ўстанаўляе сярэднюю ўраджайнасць зернавых па рэспубліцы ў 12 цэнтн. з га, выходзячы з вынікаў апошніх трох год, асабліва 1933 і 1934, калі з гектара мы мелі 9 цэнтн. ураджаю. Такім чынам намечана павышэнне на 33%, а супроць

1935 г.—на 50%. Па мінуламу году раўняцца мы не можам, бо нельга працаваць старымі тэмпамі, мерацъ старою меркай. Рост ураджайнасці на 33%—справа зусім рэальная.

Ужо ўвесну прыдзецца вывезці не менш 11 тыс. тон гною, затарфаваць 67.500 га зямлі, сабраць попелу 34 тыс. пудоў. Трэба дабіцца, каб ужо ўвесну было засеяна не менш 306 тыс. га, а разам 620 тыс. га радковым спосабам пасеву. У гэтых адносінах карэнным чынам прыдзецца перабудавацца і дырэктару МТС, і сакратару РК, і старшыні РВК. Кожная сеялка павінна быць цалкам выкарыстана.

Старыя правілы аграмінімума для нас цяпер не падыходзяць. Таму, калі ў намётках гутарка ідзе пра ўгнаенне, то яно разумеецца не проста як пытанне аб гнаі ці торфе, а як пытанне аб гноехавальніках, аб студнях для стоку жыжы і т. п., якія даюць магчымасць падрыхтаваць найбольш эфектыўнае ўгнаенне.

Агромнае значэнне для росту ўраджайнасці мае ранняе зябліва ворыва. На жаль прыходзіцца адзначыць, што ў жніўні мы амаль не практыкуем зябліва, у верасні—процантаў на 30, а рэшта прыпадае на кастрычнік і лістапад. План выконваем на 85%, прычым ранняга зябліва па сутнасці справы ў нас мала, што прыводзіць да зніжэння ўраджаю.

Дрэнна пастаўлена ў нас справа таксама з чыстагатунковым насеннем. Ці вядзецца ў нас у гэтым кірунку вопытная работа, ці сталі нашы хаты-лабараторыі месцам згрупавання вопытнікаў, дзе-б людзі вучыліся агратэхніцы? Мы нават не ведаем, дзе яны знаходзяцца. Калі прышлося даць адказ на гэта пытанне, таварышы з раёнаў хадзілі з хаты ў хату, а лабараторыі не знашлі.

Не ўсе раённыя кіраўнікі адчуваюць сур'ёзнасць справы засыпкі насення. Гэта відаць ужо з таго, што хоць па рэспубліцы засыпана насення 104% планавага задання, але 21 раён плана не выканаў на 1/I. Сярод іх Круглянскі раён, які засыпаў 91,8%, Ельскі—88,6%, Капаткевіцкі—85,5%, Жыткавічскі—85% і т. д. І гэта называецца падрыхтоўкай да вясны 1936 года—сур'ёзнейшай вясны, якая будзе праверкай работы па-новаму! Дрэнна праходзіць і ачыстка насення. На 1 студзеня па рэспубліцы ачышчана толькі 62% плана, прычым 14 раёнаў зусім адсталі: Дрыбінскі ачысціў 19,5%, Смілавіцкі—26%, Быхаўскі—23%, Даманавіцкі—38% і т. д. Такім чынам любы паказчык падрыхтоўкі да вясны выразна сведчыць аб тым, што цэлы рад раёнаў на многа адстаў ад сярэдняга рэспубліканскага ўзроўню.

У чым тут прычына? Нікога, акрамя сябе, вінаваціць не прыходзіцца. Уся справа ў дрэнным кіраўніцтве, якое не ўмее арганізаваць людзей, забываючы папярэджанне тав. Сталіна аб тым, што:

> «пераход да калгаснай гаспадаркі, як пераважаючай формы гаспадаркі, не змяншае, а павялічвае нашы клопаты аб сельскай гаспадарцы, не змяншае, а павялічвае кіруючую ролю камуністаў у справе ўздыму сельскай гаспадаркі».

Што-ж можна параіць кіраўніцтву гэтых раёнаў?

Вельмі моцна падцягнуцца, каб не застацца ў хвасце, не быць змеценым тым магутным рухам, які ахапіў усю нашу рэспубліку, усю краіну. Гэта маленькае папярэджанне трэба добра засвоіць таму раённаму кіраўніцтву, якое не разумее асаблівасцей вясны 1936 года.

Ва ўсёй справе падрыхтоўкі да вясны, у ажыццяўленні пастаўленых перад намі партыяй і ўрадам задач агромную ролю адыгрываюць

МТС. Чаму? Таму, што МТС, у прыватнасці беларускія, ужо зараз канцэнтруюць у сабе велізарную матар'яльную і людскую сілу—кадры.

На гэтай нарадзе прысутнічаюць 11 чалавек, узнагароджаных ордэнам «Працоўнага чырвонага сцягу» і «Знаком почета». Гэта—лепшыя людзі нашай рэспублікі, якія ва ўмовах Беларусі дасягнулі ўсесаюзных рэкордаў ураджайнасці: 152 пуды, 164 пуды і 175 пудоў з гектара. Але сярод іх няма ніводнага трактарыста. Гэта павінны ўлічыць дырэктары МТС. Тым часам у Маскву ездзілі нашы трактарысты, якія далі на трактар 650 і 708 га. Мы думалі—тон задамо гэтай лічбай, але з ёю прышлося пад лаўку схавацца. Трактарысты Валошын, Гусеў, Ангеліна і інш. далі такія паказчыкі, што нас за імі і відаць не было, і ўзнагароды нашы трактарысты не атрымалі.

Нядрэнныя былі ў нас трактарысты Ячмянёў і Чубакоў ад Хоцімскай МТС, Калінін ад Рэчыцкай, брыгадзірша Рачак ад Капыльскай МТС, якая са сваёй брыгадай давала па 465 га на трактар, але ўсё гэта аказалася надта малым у параўнанні з паказчыкамі перадавікоў іншых рэспублік і абласцей.

Яны мне потым адкрыта сказалі: «У нас сакратар і дырэктар людзі нядрэнныя, ды і МТС таксама не з горшых, і працавалі мы не абы як, але было-б лепш, каб да нас часцей прыходзіў дырэктар, ці райком часам пацікавіўся. Няхай-бы паклікалі ды сказалі: Ячмянёў, Чубакоў, добра вы працуеце, але ёсць ужо многа лепшых за вас. Давайце падцягнемся яшчэ, падкруцім справу. Вы думаеце, што мы не далі-б і 1000 га? Мы зараз абяцаем даць 1100 га і выканаем гэта».

І трэба сказаць, як гэта цяпер выявілася, што ў нас ёсць трактарысты, якія далі на трактар больш 708 га і за змену больш 600 га, але дырэктары гэтых лепшых сваіх людзей не ведалі.

На працягу двух тыдняў мы біліся за гэту справу, прасілі даць нам лепшых людзей, лепшых трактарыстаў. Аднак акрамя тт. Ячмянёва і Чубакова (праўда, таксама добрых работнікаў) не выявілася людзей, якія-б выцягнулі на ордэн.

Калі паўстала пытанне аб лепшых майстрах ураджаю, то сакратар Тураўскага РК т. Дамброўскі ўказаў на тт. Юхневіча і Блоцкага, якія дабіліся 164 пудоў з га. Калі-ж мы вярнуліся з нарады, то т. Дамброўскі званіць, што ён знашоў проста клад—204 пуды. Ён знашоў клад, калі мы прыехалі!

А ўсё здарылася таму, што людзей мы не ведаем, не цікавімся імі як след. На гэта дырэктарам МТС неабходна звярнуць асаблівую ўвагу.

Зараз па ўсёй нашай краіне шырокаю хваляй пракатваецца стаханаўскі рух. Хто-ж у першую чаргу павінен узначаліць, арганізаваць і кіраваць ім у МТС? Натуральна, дырэктар. А як гэта справа пастаўлена? Слаба. У цэлым радзе МТС людзі не растуць таму, што дырэктар, або старшы механік ці старшы аграном раўнадушна праходзяць міма такіх фактаў, калі трактар засыпаецца снегам, заліваецца дажджом, калі МТС мае агромную запазычанасць, не можа набыць гаручага і валіць усё на Наркамзем, што той не дае сродкаў, тым часам як вінавата ў гэтым кіраўніцтва МТС, якое не ўмее выявіць сваіх унутраных рэзерваў. Раўнадушна праходзяць дырэктары МТС і міма дрэннай работы трактарыста, не растлумачаць і не пакажуць яму, як трэба працаваць, не звяжуць гэтай справы са стаханаўскім рухам.

Хіба мы можам думаць аб тым, што ў такіх умовах у нас вырастуць людзі, выкуюцца кадры?

Некаторыя думаюць, што кадры можна каваць на курсах, забываючы аб тым, што рабочы становіцца стаханаўцам не на курсах, а на прадпрыемстве, за станком, на трактары. Вось дзе ён расце.

Чалавек выхоўваецца таксама і на прыкладах культурнага абыходжання з машынай. Як-жа ў нас абыходзяцца з машынай? Трэба прама сказаць—па-варварску. Я сам быў таму сведкай. У нашых умовах работы малатарню прыходзіцца часта перасоўваць з аднаго месца на другое. Пры гэтым патрэбна асаблівая асцярожнасць, каб часам яе не паламаць. Але мала ў нас пра гэта клапоцяцца, бо ніхто за паломку не адказвае. Як зачапілі малатарню, так і цягнуць яе, пакуль не здарыцца аварыі. Пры такіх наплявацельскіх адносінах да машыны нельга прывіць людзям культурных навыкаў працы.

А вось прыгледзьцеся да работы т. Ангелінай—брыгадзіра жаночай трактарнай брыгады на Украіне. Як там пастаўлена справа? Ангеліна на нарадзе гаварыла, што яе брыгада выпрацоўвае на трактар 1200 га і больш. Яе дзяўчаты-трактарысткі падыходзяць да трактара ў чыстай адзежы, брудныя да машыны не дапускаюцца. І гэта не словы. Прыехалі яны на гэты самы з'езд так хораша апранутыя, што нашы лепшыя ўдарнікі хадзілі за імі, прыглядаліся і дзіву даваліся з іх параднага плацця, шапачак і інш. Але аказалася, што гэта ў іх такая форма, у якой яны на трактары працуюць. І сапраўды ў іх так пастаўлена справа, што на трактар брудным не забярэшся. Працаваць дзяўчаты ўмеюць лепш за многіх трактарыстаў.

Ясна, што дырэктар МТС, дзе працуе брыгада Ангелінай, не праходзіць безуважна міма непарадкаў, добра ведае сваю справу, умее змагацца з расхлябанасцю, вырошчваць культурных працаўнікоў.

Іменна пытаннем культурнасці работы МТС мы павінны з вамі моцна зацікавіцца. Дырэктары павінны адразу рашуча ўзяцца за культурную пастаноўку работы сваіх МТС. Гэта зусім неабходна зрабіць, калі яны не хочуць па-ранейшаму правальвацца.

Нашы паасобныя МТС можна паставіць у прыклад бездэфіцытнай работы. Першая менская МТС (дырэктар тав. Шэлег) ужо адмовілася ад дзяржаўнай датацыі і звярнула 60 тыс. руб. Рэчыцкая МТС (дырэктар тав. Глезіна) таксама звярнула 60 тыс. руб. Па бульбакіраўніцтву 8 МТС перашлі ўжо на работу без датацыі, што складае суму ў 295 тыс. руб. Па Ільнакіраўніцтву адмовіліся ад датацыі 6 МТС на 210 тыс. руб. Па Зернакіраўніцтву—7 МТС на 135 тыс. руб.

Такім чынам цэлы рад МТС ужо знашлі ў сябе дадатковыя рэзервы, якія дазволілі ім перайсці на бездэфіцытную работу.

Мне здаецца, што дырэктары МТС павінны вельмі моцна заняцца людзьмі, бо кадры вырашаюць усё. Нашы кадры павінны так асядлаць тэхніку, каб даць нам у гэтым годзе рэкордныя ўзоры работы. Трэба прама сказаць, што калі дырэктары МТС не возьмуцца за перабудову ўсёй работы па-новаму, па культурнаму, то яны не выканаюць даныя на гэты год нормы.

Але не адны толькі дырэктары МТС павінны ўзначаліць стаханаўскі рух, выхоўваць і вырошчваць людзей. Гэту велізарнай важнасці справу павінны ўзяць у свае ўласныя рукі і партыйныя арганізацыі. Ад комуніста, які працуе на вёсцы, у калгасе, у МТС, мы патрабуем вельмі многага. Ён павінен быць арганізатарам гаспадаркі з вялікай колькасцю машын, з вялікім пасеўным планам, а значыць павінен

быць палітычна і тэарэтычна падкаваны, умець добра распазнаваць класавага ворага.

А як у нас гэты комуніст, у большасці адзіночка, жыве і працуе? Па Беларусі налічваецца 4 тысячы комуністаў-адзіночак, часцей за ўсё адарваных ад партыйнага жыцця. Мы павінны добра ўзброіць іх і палітычна падкаваць, каб яны маглі заўсёды справіцца з пастаўленымі перад імі задачамі, арганізуючы вакол сябе актыў.

У нашых калгасах і МТС вялікая колькасць спецыялістаў. Комуніст павінен рашуча адмовіцца ад пагардлівых адносін да спецыялістаў, умець з імі працаваць, арганізоўваць іх, вучыцца ў іх. Праўда, маладыя спецыялісты працуюць навошчуп, але гэта яшчэ больш патрабуе ад нас падтрымання. У нас сярод узнагароджаных ёсць маладыя спецыялісты. Аграном-насенавод 1 менскай МТС т. Бляхерава яшчэ толькі пачынае працаваць, але падае ўжо надзеі, што будзе сапраўды буйным работнікам. Мы яе падтрымалі. Урад і партыя яе ўзнагародзілі. Дзесяткі і сотні маладых спецыялістаў чакаюць ад нас падтрымання. Яны будуць выдатнейшымі людзьмі. Нельга іх трэціраваць як хлопчыкаў, і да старых спецыялістаў трэба змяніць агульныя адносіны, як да шкоднікаў.

Комуніст павінен умела падыходзіць да спецыяліста, дапамагаць яму расці на рабоце. Разам з тым, ён сам павінен вучыцца ў яго. Кіраўнік буйнай гаспадаркі павінен добра яе ведаць, а для гэтага трэба яе вывучаць. Вы ведаеце, як вялікія людзі, кіраўнікі нашай партыі і ўрада адносяцца да спецыялістаў. На нарадзе ў Маскве яны не сцясняліся пытацца і слухаць тлумачэнні спецыялістаў. А некаторыя нашы вясковыя комуністы лічаць для сябе ўніжэннем папрасіць у спецыяліста растлумачыць тое ці іншае пытанне. Як гэта, комуніст, і раптам у беспартыйнага спецыяліста растлумачэння пытае. Тут няма чаго саромiцца і чваніцца. Не ведаеш—запытайся. А тое, што спецыялісту няясна,—растлумач, дапамажы яму, бліжэй прыцягні да сябе, да актыўнай грамадскай работы.

Мне здаецца, што ў нашы калгасы трэба рушыць цэлую армію агітатараў і прапагандыстаў, якія маглі-б як след расказаць аб тым, што ў нас робіцца зараз у сценах Крэмля, як правадыры нашай партыі і ўрада прымаюць лепшых людзей. Ды расказаць пра ўсё гэта на зразумелай калгасніку мове. Тады-б узнялася цэлая бура стаханаўскага руху, нястрымнага імкнення працаваць так, як працуюць лепшыя людзі нашага вялікага Совецкага саюза.

Так вось мы і самі вучыліся ў Маскве. Я з нашай дэлегацыяй сядзеў на нарадзе, наглядаючы як людзі ўсведамляюць усё тое, што там адбываецца. Для мяне самога гэта нарада была вялікаю школай, дзе вучылі, як па-сапраўднаму трэба вырошчваць людзей, клапаціцца аб іх. Таварыш Сталін сядзеў на гэтай нарадзе дзенна і ноцчна і ўважліва слухаў кожнага.

У апошнія месяцы члены Цэнтральнага Камітэта, члены ўрада і тав. Сталін асабіста прымалі сотні і тысячы перадавікоў прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Для кожнага з іх яны знаходзілі патрэбныя словы, да кожнага падыходзілі з таварыскім клопатам, цёплай увагай, умелі запаліць энтузіязмам, жаданнем працаваць. Трэба было бачыць, з якім захапленнем прамоўцы, канчаючы сваё выступленне, паціскалі руку тав. Сталіну пры агульным хваляванні ўсёй паўтаратысячнай нарады, якой шчасліваю ўсмешкай квітнеў іх твар, калі яны ішлі на сваё месца, на ўсё жыццё захаваўшы ў сэрцы

цёплыя словы правадыра. І мы ведаем, што гэта будуць байцы на любым фронце, што яны ніколі не здадуць.

Я глядзеў на тав. Сталіна і думаў, як ён у вялікай сваёй рабоце знаходзіць час гадзінамі сядзець за сталом, слухаць кожнае выступленне, падаваць рэплікі, размаўляць, а потым здымацца з дэлегацыямі, і не проста стаяць або сядзець за сталом, а кінуць дзесяткам людзей незабыўныя словы, дзесяткі людзей падбадзёрыць, прымусіць шчыра смяяцца, на ўсё жыццё запаліцца агнём барацьбы за калгасны лад, за лепшае жыццё.

Гэта мае каласальнае значэнне для людзей. Вось што значыць клапаціцца аб людзях, іх ведаць, знаходзіць, вырошчваць. На жаль, яшчэ нельга сказаць, каб мы ўжо цалкам зразумелі сутнасць лозунга, кінутага тав. Сталіным,—«Кадры вырашаюць усё».

Пастаўленая тав. Сталіным задача—даць 7-8 мільярдаў пудоў зярна замест 4-5 мільярдаў—безумоўна грандыёзна. Ні адна капіталістычная краіна і думаць не можа аб такіх тэмпах. Толькі наша краіна, наш савецкі народ можа з ёю справіцца. І мы, беларусы, таксама выканаем сваю задачу—за 3-4 гады дабіцца з гектара 90-100 пудоў зернавых. Выканаем таму, што наша краіна—краіна перамогшага пролетарыята, краіна калгаснага ладу, першакласнай тэхнікі, таму што наша краіна—краіна вялікага брацтва народаў, таму што нашу краіну вядзе ад перамогі к перамозе вялікая камуністычная партыя і такі рулявы, як наш вялікі правадыр, любімы друг і настаўнік—тав. Сталін.

---

А. Зюзькоў

# 1905 год на Беларусі

Рэволюцыю 1905 года ва ўсёй царскай Расіі мы павінны разглядаць як адзіны працэс, на чале якога стаялі вядучыя пролетарскія цэнтры. Першыя штуршкі рэволюцыі ідуць са сталіц, з буйных пролетарскіх цэнтраў і шырока падхапляюцца ўсёй рэволюцыйнай Расіяй, у тым ліку і яе акраінамі—калоніямі і поўкалоніямі.

Адной з такіх калоній царскай Расіі была Беларусь. Дзякуючы свайму каланіяльнаму становішчу, яна асуджалася на лёс сельскагаспадарчага раёна, на становішча рынку збыту тавараў прамысловасці цэнтральных мясцовасцей Расіі.

Прамысловасць Беларусі *) была слаба развіта. Даволі сказаць, што прыбытак ад прамысловасці складаў толькі 9,05% агульнанацыянальнага прыбытку ў Беларусі. Лік рабочых, занятых у прамысловасці, на будаўніцтве (сталыя рабочыя) і транспарце складаў 70 тыс. чалавек. У самой прамысловасці было занята 44 тыс. рабочых. Але разам з тым працвітала саматужніцтва. Побач з невялікаю праслойкай пролетарыята, у гарадах і мястэчках Беларусі была вялікая праслойка дробнай буржуазіі.

Больш паловы зямлі належала памешчыкам. Зямельны голад асноўных мас сялянства ўсё павялічваўся. А побач—толькі 147 буйнейшых памешчыкаў уладалі трэцяй часткай усёй прыватнаўласніцкай зямлі, або амаль ⅕ усёй тэрыторыі Беларусі.

Расла дыферэнцыяцыя вёскі. Поруч з поўпролетарызаванымі масамі сялянства, была даволі значная колькасць кулацтва, прычым пасобныя кулакі мелі па 2000—2500 дзесяцін зямлі.

Калі да ўсяго гэтага дадаць сільнейшы нацыянальны ўціск, абмежаванні, пагромы, нацкоўванне адной нацыі на другую, што было адным з асноўных сродкаў барацьбы самадзяржаўя супроць рэволюцыйнага руху, то стане зусім зразумелай уся складанасць задач, якія паўсталі перад арганізацыямі РСДРП у Беларусі.

Ужо ў маі 1904 г. у сваім першым дакуменце «Паведамленне аб утварэнні Паўночна-Заходняга камітэта РСДРП» апошні пісаў:

> «Выступаючы, як Камітэт Расійскай Соцыял-Дэмакратычнай Рабочай Партыі, мы ўсведамляем усю труднасць і складанасць нашай задачы. Пролетарыяту пражываючых тут нацыянальнасцей прыходзіцца змагацца ў атмасферы, насычанай нацыянал-дэмакратычнымі парамі, яна акружае яго сваім паветам, улівае ў яго апартуністычныя элементы, надае яму свой

*) Да Беларусі мы адносім пяць губерній: Менскую, Віцебскую, Віленскую, Гродненскую і Магілеўскую.

адбітак антаганізма, праводзіць паміж пролетарыятамі розных нацыянальнасцей, якія змагаюцца супроць аднаго палітычнага рэжыма, баразну» *).

Многанацыянальны склад насельніцтва Беларусі пры адсталай прамысловасці, мностве рамеснікаў і саматужнікаў выклікаў да жыцця і многа разнастайных дробна-буржуазных палітычных партый. Акрамя агульна-расійскіх дробна-буржуазных і буржуазных партый, у Беларусі існавалі нацыяналістычныя партыі—Бунд, Паалейцыён, розныя сіяністкія арганізацыі, ППС, СДПЛ, Беларуская соцыялістычная грамада і рад іншых, з якімі большэвікі Беларусі вялі барацьбу.

У красавіку 1904 г. Цэнтральным Камітэтам РСДРП былі зацверджаны Паўночна-Заходні і Палескі камітэты РСДРП, якія знаходзіліся на тэрыторыі Беларусі. **В. І. Ленін** у сваёй прадмове да справаздачы аб III з'ездзе РСДРП «К яўрэйскім рабочым», выданай на яўрэйскай мове, звязвае ўтварэнне адзначаных камітэтаў РСДРП з неабходнасцю аб'яднання ўсіх рабочых у адно цэлае, бо нацыяналістычная лінія партыі Бунда была разлічана на раскол рабочага руху ў Беларусі.

**В. І. Ленін** пісаў:

> «Пасля II з'езду наш Цэнтральны Камітэт павёў не нацыяналістычную палітыку, а клапаціўся аб утварэнні такіх камітэтаў (Палескі, Паўночна-Заходні), якія аб'ядналі-б у адно цэлае ўсіх мясцовых рабочых як яўрэйскіх, так і неяўрэйскіх» **).

Раён дзейнасці гэтых камітэтаў быў наступны:

**Паўночна-Заходні камітэт,** арганізаваны ў сакавіку 1904 г., ахапляў тэрыторыю Менскай, Віленскай, Віцебскай і часткі Ковенскай губерній.

У галоўнейшых арганізацыях, аб'яднаных Паўночна-Заходнім камітэтам, у канцы 1904 года знаходзілася: у віленскай—120 членаў партыі і каля 300 спачуваючых, у смаргоньскай ***—175 членаў партыі, у менскай—150 членаў партыі і больш 200 спачуваючых, у бабруйскай—75 членаў партыі, у віцебскай гарадской—180 членаў партыі і каля 150 спачуваючых, у віцебскай вясковай—75 членаў партыі і больш 20 спачуваючых, у невельскай—35 членаў партыі, у веліжскай—25 членаў партыі, у дзвінскай—25 членаў партыі, у барысаўскай—каля 100 членаў партыі і больш 300 спачуваючых. Няма звестак аб полацкай, ковенскай, слуцкай і іншых арганізацыях.

**Палескі камітэт,** арганізаваны ў студзені 1904 года, к канцу года ахапіў амаль усю Магілеўскую губ. (Гомель, Магілеў, Орша, Капыль, Шклоў, Горкі, Кукуевічы, Дабранка, Ветка, Шэрсцін, Карма, Чачэрск і інш.), паўночную частку Чарнігаўскай губ. (Новазыбкаў, Клінцы і інш.), поўдзень Менскай губ. (Мазыр, Рэчыца, Лоеў і інш.) і станцыі па Лібава-Роменскай чыгунцы аж да станцыі Рамны Палтаўскай губ. уключна.

---

*) „КП(б)Б у рэзалюцыях", ч. I, стар. 16, выд. Інстытута гісторыі партыі, Менск 1934 г.

**) Ленін, т. VIII, стар. 25—26.

***) Смаргонь—у сучасны момант разбуранае мястэчка Зах. Беларусі, акупавана Польшчаю, да вайны было адным з буйнейшых цэнтраў гарбарнай прамысловасці Беларусі і мела да тысячы рабочых. Такім-жа цэнтрам гарбарнай прамысловасці было мястэчка Крынкі.

Калі гэтыя арганізацыі РСДРП фармальна ядналі і большэвікоў і меншавікоў, то фактычна ў кожнай з іх было дзве арганізацыі. Як арганізацыю большэвіцкага напрамку, можна назваць **менскую.** Тут большэвікі на ўсім працягу рэволюцыі 1905 года мелі **пераважную большасць.** У Гомелі чыгуначная арганізацыя была большэвіцкай. У астатніх пунктах (Бабруйск, Смаргонь, Дзвінск і інш.) былі моцныя групы большэвікоў, якія ў паасобныя перыяды складалі большасць арганізацыі.

Барацьба большэвікоў супроць меншавікоў асабліва абвастрылася ў сувязі з утварэннем Бюро камітэтаў большасці і скліканнем III з'езда партыі.

26 студзеня 1905 года менская група па пытанню аб скліканні III з'езда партыі прыняла рэзалюцыю, якая прама абараняла пункт погляду большэвікоў:

> «Раздзяляючы арганізацыйныя прынцыпы партыйнай большасці, мы вітаем з'яўленне органа «Вперед», на старонках якога «большасць» атрымае нарэшце магчымасць абараняць і развіваць гэтыя прынцыпы.
>
> Лічачы, што ўнутрыпартыйная палітыка ЦК замест прымірэння вядзе да яшчэ большага хаосу і разброду, мы выражаем ЦК сваю несалідарнасць з яго палітыкай і выказваемся за тэрміновае скліканне трэцяга з'езду, які толькі адзін можа аднавіць адзінства партыі, асабліва неабходнае ў даны момант» *).

Паўночна-Заходні камітэт выказаўся за скліканне з'езду, але адначасова заняў прымірэнчую пазіцыю, паслаўшы дэлегатам прымірэнца Пасталоўскага, «Вадзіма». Менская група рэзка выказалася супроць гэтай прымірэнчай пазіцыі Паўночна-Заходняга камітэта:

> «Стоячы на пункце погляду партыйнай большасці і недавер'я Паўночна-Заходняму камітэту, як прымірэнчаму ў выбары дэлегата, менская група на паседжанні сваім ад 22 сакавіка пастанавіла: паслаць свайго дэлегата на з'езд, калі гэта акажацца магчымым» **).

Пасля III з'езду Паўночна-Заходні камітэт, выслухаўшы свайго дэлегата на III з'ездзе і азнаёміўшыся з паведамленнем канферэнцыі аб яе рабоце, прызнаў з'езд «з фармальна-статутнага пункту погляду законным». Быў прыняты і статут, выпрацаваны на III з'ездзе.

Палескі камітэт 5 (18) сакавіка стаў на пункт погляду неабходнасці склікаць III з'езд партыі, прызнаўшы, што «скліканне III чарговага з'езду з'яўляецца насушна неабходным» і пастанавіўшы «звярнуцца да цэнтральных установаў партыі з прапановай аб тэрміновым скліканні III з'езду» ***).

Дэлегатам ад Палескага камітэта быў т. Владзіміраў.

Але на першым з'ездзе арганізацый РСДРП Палескага раёна (у 20 лічбах мая 1905 года), які заслухаў даклад аб III з'ездзе партыі, была прынята прымірэнчая рэзалюцыя. У гэтай рэзалюцыі, побач з пунктамі аб падпарадкванні абранаму III з'ездам Цэнтральнаму Камітэту, ёсць і агаворкі аб нязгодзе з радам пунктаў статута, пакінута «адкрытым» пытанне аб юрыдычнай законнасці з'езду і т. п. ****).

*) „Вперед" № 7, люты 1905 г.
**) „Вперед" № 18, май 1905 г.
***) „КП(б)Б у рэзалюцыях", ч. I, стар. 20.
****) Там-жа, ч. I, стар. 23—24.

**В. І. Ленін** у лісце Цэнтральнаму Камітэту партыі ад 11 ліпеня (28 чэрвеня) 1905 года з поваду гэтага з'езда пісаў:

> «У Палессі на з'ездзе нікога не было. Скандал. Яны ледзь не адпалі» *).

Такім чынам, да рэволюцыі 1905 г. на тэрыторыі Беларусі даволі шырока была раскінута сетка соцыял-дэмакратычных арганізацый, прычым, па ўсіх даных, у гэтых арганізацыях вялікае месца, а ў некаторых і пераважнае, займалі большэвікі.

Дробна-буржуазная маса, рамеснікі і саматужнікі гарадоў і мястэчак Беларусі былі спрыяючай глебай для нацыяналістычнай прапаганды Бунда. Гэта дробна-буржуазная маса не магла не мець уплыву і на некаторыя слаі рабочых яўрэяў. Вось чаму ўжо ў паведамленнях аб утварэнні Паўночна-Заходняга камітэта РСДРП вялікае месца адводзіцца выкрыццю нацыяналістычнай раскольніцкай пазіцыі Бунда. Больш перадавыя рабочыя, якія раней уваходзілі ў Бунд, вельмі хутка заваёўваюцца створанымі с.-д. арганізацыямі. Але гэты працэс праходзіць іменна там, дзе с.-д. арганізацыі былі большэвіцкімі або мелі большэвіцкую большасць,—у Менску, Смаргоні, Бабруйску. Вось чаму Бунд падняў вой, калі на тэрыторыі Беларусі, а таксама Украіны, былі створаны камітэты РСДРП.

Уплыў сіянізма ў асяроддзі рабочых яўрэяў быў меншы. Тут сказаліся і ўрокі «Незалежнай яўрэйскай рабочай партыі» зубатаўскага тыпу, якая існавала легальна ў 1901—03 гг. Разнастайныя чыста сіяністкія арганізацыі к рэволюцыі 1905 года прышлі ў заняпад, падняўшыся зноў толькі пасля паражэння рэволюцыі.

З беларускіх нацыяналістычных партый існавала толькі адна «Беларуская соцыялістычная грамада». Але ўся гэта «партыя» налічвала толькі 2—3 дзесяткі членаў і ніякага ўплыву на масы не мела.

Газета «Наша доля», а пазней і «Наша ніва», якія выдаваліся з 1906 г. групаю членаў БСГ, падтрымлівалі сталыпінскую рэформу, былі паслугачамі царызма.

Вось у якіх умовах сустракала Беларусь 1905 год.

Ужо ў 1903—04 гг. на Беларусі адчуваецца нарастанне рэволюцыйных падзей. Прамысловы крызіс пачатку XX стагоддзя пацягнуў за сабой закрыццё многіх прадпрыемстваў. У адной толькі Гродненскай губ. у выніку крызіса было выкінута на вуліцу 4.943 рабочыя **). Не знаходзячы заработку ў горадзе, рабочыя накіроўваліся ў вёску.

Асабліва вялікую ролю ў рэволюцыянізаванні сялянства адыграў зварот адыходнікаў у вёску ў сувязі з крызісам ва ўсёй Расіі.

1904 год даў даволі вялікую колькасць палітычных дэманстрацый у гарадах—Менску, Вільні, Бабруйску, Пінску, Беластоку, Мазыры, Дзвінску, Шклове.

Рэволюцыйныя падзеі нарасталі.

* * *

Расстрэл рабочых 9 студзеня 1905 года ў Пецербургу выклікаў магутную хвалю пратэстаў, забастовак салідарнасці і дэманстрацый на Беларусі.

---

*) Ленін, т. VIII, стар 6. Гутарка ідзе аб непасылцы прадстаўніка ЦК на палескі з'езд.

**) Паводле матар'ялаў, распрацаваных акадэмікам Шчэрбаковым.

«Рабочы клас атрымаў вялікі ўрок грамадзянскай вайны,— пісаў Ленін,—рэволюцыйнае выхаванне пролетарыята за адзін дзень ступіла ўперад так, як яно не магло-б ступіць за месяцы і гады шэрага, будзёнага, забітага жыцця. Лозунг геройскага пецербургскага пролетарыята: «смерць або свабода!» рэхам перакатваецца цяпер па ўсёй Расіі» *).

Пад гэтым лозунгам выступаюць і пролетары Беларусі. Ужо 11(24) студзеня пачалася ўсеагульная палітычная забастоўка ў Вільні. Баставала каля 2.500 рабочых. У Смаргоні група РСДРП пастанавіла пачаць усеагульную забастоўку. 12 студзеня пачалася забастоўка ў Менску (2.000 рабочых), у Смаргоні (каля 3.000), у Магілеве, Віцебску, Дзвінску і нават у мястэчку Крэслаўка. У Менску і Смаргоні—дэманстрацыі, мітынгі. Дэманстрацыя ў Смаргоні настолькі спалохала прыхільнікаў старога ладу, што былі выкліканы войскі. У Гомелі Палескі камітэт склікаў сход рабочых чыгуначнікаў, які пастанавіў абвясціць забастоўку.

У далейшыя дні забаставалі рабочыя гарадоў—Полацк, Гродна, Бабруйск, Барысаў, Горкі, Беласток, Шклоў, Рэчыца, Новавілейка, Невель, Пінск, Слонім, Мазыр, Рагачоў; мястэчак—Шчэдрын, Талачыно, Капыль, Гарадок, Крынкі, Ошмяны, Ляды, Дуброўна, Ветка і т. д. Узброеныя сутычкі былі ў Полацку, Шклове, Крынках, Гомелі.

Асабліва паказальна для настрою мас паўстанне ў мястэчку Крынкі.

17(30) студзеня пачалася забастоўка на гарбарных заводах м. Крынкі. 18 студзеня адбыўся паўтаратысячны мітынг. Пасля мітынгу пачалася дэманстрацыя, на чале якой стаў узброены баявы атрад. Не гледзячы на тое, што ў мястэчку з усёй акругі былі сабраны даволі буйныя паліцэйскія сілы, ім прышлося адступаць. Была разгромлена паліцэйская ўправа, мяшчанская і валасная ўправы і манаполька. Усё праходзіла вельмі арганізавана. Да рабочых далучыліся сяляне навакольных вёсак. К вечару па ўсіх вуліцах мястэчка збудаваны былі барыкады. У ноч на 19 студзеня шляхам ашуканства ў Крынкі была ўведзена рота салдат 63 Угліцкага палка. 19 студзеня прыбылі яшчэ дзве роты салдат і кавалерыя. Было арыштавана 200 рабочых, узброенае супраціўленне падаўлена. Але гэта ўсё-ж не сарвала забастоўкі. Яшчэ 20 студзеня рабочыя спрабавалі прарвацца ў суседнюю вёску Галынка і мяст. Вялікая Берастовіца.

Вельмі характэрна, што спробы паліцыі натравіць сялян навакольных вёсак на рабочых усюды канчаліся няўдачай. У Шклове сяляне адмовіліся выступаць супроць дэманстрантаў, таворачы: «А за што мы іх біць будзем, калі яны хочуць, каб паны і наш брат—усе былі роўнымі?»

Галоўнейшым дэзарганізатарам гэтага магутнага руху з'яўляўся Бунд, які нават і забастовачны рух хацеў падзяліць па нацыянальнасцях. Бундаўцы, калі і наладжвалі забастоўкі, дык толькі яўрэйскіх рабочых, зрываючы, дзе толькі мелі магчымасць, агульныя забастоўкі. Яўрэйскія рабочыя, якія ішлі за Бундам, аказваліся штрэйкбрэхерамі, і забастоўкі не дасягалі сваёй мэты. Гэтым самым уносіўся нацыянальны антаганізм у асяроддзе рабочага класа.

Увесну 1905 года віцебская група РСДРП выступіла са спецы-

*) Ленін, т. VII, стар. 79.

**) „Вперед" №№ 6 і 7.

яльнай пракламацыяй да рабочых Віцебска з поваду раскольніцкай дзейнасці Бунда. Пракламацыя прама ставіла пытанне, што размежаваннем бастуючых па нацыянальнасцях «ствараецца спрыяючая глеба для нацыянальнай сваркі», а нацыянальная сварка перашкаджае яднанню ўсяго пролетарыята. Віцебская група РСДРП у пракламацыі заклікае яўрэйскіх рабочых не ўдзельнічаць у такіх бундаўскіх забастоўках *).

Паліцыя, як толькі магла, карысталася гэтай здрадніцкай паслугай Бунда. Так было, напрыклад, у час усеагульнай забастоўкі ў Беластоку 17 лютага. Скарыстаўшы той факт, што Бундам быў склікан асобны мітынг яўрэйскіх рабочых, на мітынг неяўрэйскіх рабочых у прадмесце Беластока (вёс. Скаруны) прыехаў прыстаў. На мітынгу сабралася больш 2000 чалавек. Прыстаў звярнуўся да іх з прапановай не далучацца да яўрэйскіх рабочых. Прапанову гэту рабочыя сустрэлі з абурэннем. У адказ на яе, увечары ўжо ў самым Беластоку сабраўся трохтысячны мітынг рабочых усіх нацыянальнасцей.

Увесну 1905 г. узнялася новая хваля забастовак. У данясенні менскага губернатара дэпартаменту паліцыі адзначана толькі з 26 красавіка па 10 мая 17 эканамічных забастовак у Менскай губ., прычым некаторыя адметны былі вялікай колькасцю бастуючых. Так, у майстэрнях і дэпо Маскоўска-Брэсцкай чыгункі баставала 750 рабочых, на ліцейным заводзе «Тэхнолаг»—114, на чыгуналіцейным заводзе Якабсона і Ліфшыца—130 і т. д. Але пра найбольш буйныя губернатар у сваім данясенні не ўспамінае. Так, 1(14) мая забаставала 800 рабочых запалкавай фабрыкі Саламонава ў Барысаве, 2 мая—600 рабочых фанернай фабрыкі А. Лур'е ў Пінску і т. д. Галоўнейшыя патрабаванні—змяншэнне рабочага дня і павелічэнне зарплаты.

Вось характэрнае патрабаванне забаставаўшых рабочых завода Ракаўшчык, сфармуляванае менскай бальшэвіцкай групай РСДРП:

«1. 8-гадзінны рабочы дзень усіх рабочых і работніц;

2. Кожную гадзіну звышштэрміновай працы лічыць за $1\frac{1}{2}$ гадзіны:

3. Дадаць кожнаму рабочаму і работніцы па 2 руб. у месяц, прычым месячны заработак работніцы не павінен быць менш 10 руб.;

4. Паступовае павелічэнне зарплаты: праз год работы дадаваць па 1 руб. у месяц;

5. Поўны 24-гадзінны адпачынак адзін раз у тыдзень;

6. Адмена ўсякіх штрафаў;

7. Ніхто не павінен быць звольненым без згоды рабочых;

8. Бясплатная медычная дапамога рабочым і іх сямействам;

9. Поўная аплата за час хваробы на працягу першых двух тыдняў, а за другія два тыдні $\frac{1}{2}$ зарплаты;

10. Страхаванне рабочых ад няшчасных выпадкаў;

11. Ветлівае абыходжанне з рабочымі і работніцамі;

12. Ніхто не павінен пацярпець за ўдзел у забастоўцы» **).

*) „Соцыялістычны рух на Беларусі ў пракламацыях 1905 года". Менск, 1927 г. стар. 32.

**) „1905 год на Беларусі". Зборнік архіўных дакументаў. 1926 г., стар. 26.

Рабочыя фабрыкі Саламонава ў Барысаве выставілі патрабаванне 8-гадзіннага рабочага дня, павелічэння зарплаты на 10—15%, знішчэння штрафаў, абсталявання фабрычнай больніцы і аптэкі, ветлівага абыходжання, платы за час стачак і т. д. Гэтыя патрабаванні ў выніку чатырохдзеннай забастоўкі былі прыняты.

Няверна было-б ахарактарызаваць забастоўкі ў веснавыя месяцы 1905 года толькі як эканамічныя. Забастоўкі палітычныя займалі ў гэты час вялікае месца (забастоўкі пратэсту супроць бакінскай разні, жытомірскага пагрому, расправу паліцыі з дэманстрантамі і т. д.). 1 мая святкавалася ва ўсіх гарадах і вялікай колькасці мястэчак Беларусі. Баставалі рабочыя не толькі ў Менску, Вільні, Гомелі, Бабруйску, Барысаве, Оршы, Магілеве, Гродне і т. д., але і ў невялікіх мястэчках: Дрыбіна, Дуброўна, Капыль, Карма, Лёзна, Ляды, Сянно, Талачыно, Чэрыкаў і т. д.

Бунд і ў першамайскае свята імкнуўся падзяліць рабочых па нацыянальнасцях, спрабаваў нават зрываць забастоўкі. У Дзвінску, напрыклад, святкаванне паводле рашэння арганізацыі РСДРП было перанесена на 19 красавіка (2 мая). Бунд павёў агітацыю супроць гэтага рашэння, і яму ўдалося сарваць стачку на ф-цы Натансона і некаторых іншых. Усё-ж рабочыя большасці і прытым буйнейшых прадпрыемстваў (чыгуначныя майстэрні—1400 рабочых, гарбарныя заводы—900 рабочых, арсенал, дэпо, запалкавая фабрыка і т. д.) баставалі *).

Вялікі ўздым рэволюцыйнага руху на Беларусі выклікалі летнія падзеі (барыкады ў Лодзі, бойкі ў Іванава-Вазнесенску, паўстанне на браненосцы «Пацёмкін», расстрэлы рабочых у Одэсе і т. д.).

Ужо 19 чэрвеня (2 ліпеня) менская група РСДРП у адказ на жорсткае падаўленне паўстання ў Лодзі правяла сход з 600 удзельнікаў, які прыняў наступную рэзалюцыю:

> «Сход менскіх рабочых, скліканы мясцовай групай РСДРП, схіляецца перад святой памяццю лодзінскіх таварышоў, загінуўшых за свабоду, і выказвае цвёрдую ўпэўненасць у тым, што набліжаецца гадзіна, калі менскія рабочыя далучаць свае намаганні да намаганняў арганізаванага пролетарыята, пад напорам якога звергнецца і навекі прападзе праклятае самадзяржаўе».

Усеагульная забастоўка ў Менску цягнулася два дні (28 і 29 чэрвеня). За гэты час забіта 4 рабочых, адзін задушан у паліцыі, многа раненых **).

Амаль па ўсіх гарадах і мястэчках адбываліся мітынгі, дэманстрацыі, забастоўкі. Характэрна, што многія дэманстрацыі былі ўзброены, чакаючы больш рашучых дзеянняў. І там, дзе ўзброеных выступленняў не было, рабочыя выказвалі, як напрыклад у Смаргоні, нездаволенасць ***).

Рабочыя масы ўзбройваюцца.

На III з'ездзе партыі Канстанцінаў (Владзіміраў—кіраўнік Палескага камітэта) гаварыў: «Для работы ў дробных цэнтрах пытанне аб узброеным паўстанні мае важнае значэнне. Я мяркую па настроях у Гомелі, Магілеве і іншых месцах. Настроі павышаныя, рабочыя

*) „Искра", № 100.
**) „1905-07 гг. на Беларусі" (хроніка падзей). 1931 г., стар. 95, 100—102.
***) „Пролетарий" № 12.

**ходзяць на сходы ўзброенымі. Прыходзілася часта вырашаць пытанне аб сутычках з войскамі» *).**

Партыйныя арганізацыі шырока папулярызавалі пастанову III з'езда партыі аб узброеным паўстанні. Так у Менску 19 верасня на сходзе 800 рабочых, сабраных групай РСДРП, аднагалосна была прынята рэзалюцыя III з'езда аб узброеным паўстанні **).

* * *

Рост рабочага руху ў горадзе выклікаў рэволюцыйны рух сельскагаспадарчых рабочых і сялян на вёсцы.

Уздым забастовачнай хвалі сярод батракоў асабліва быў высокі ў веснавыя месяцы і ў час уборкі. Галоўнымі патрабаваннямі былі: павышэнне заработнай платы, устанаўленне працягласці рабочага дня, павелічэнне водпуску прадуктаў харчавання і т. п. Мясцамі ў адказ на выклік памешчыкамі войск батракі падпальвалі маёнткі. Так, у Дрысенскім павеце батракі падпалілі ўвесь маёнтак Байчакова. У Магілеўшчыне была спроба разбурыць маёнтак Ляўкі. Многімі забастоўкамі кіравалі непасрэдна с.-д. групы.

Сялянскі рух ужо ў лютым набывае грозныя формы ў Дзвінскім павеце, дзе былі разгромлены маёнткі Марыямпаль, Асташава, Дубнягі і Магнусава ***). За сакавік у Крэлаўскім павеце разгромлена 10 найбольш буйных маёнткаў ****). У Віцебскай губ. разгромлен маёнтак Крэслаўль, у 6 маёнтках спалены ўсе гаспадарчыя будынкі. Рухам ахоплена было ўсяго 8—10 паветаў Беларусі. Вялікія памеры набывае парубка памешчыцкага лесу, узворванне памешчыцкіх зямель, касьба памешчыцкага лугу. Гэтай формай сялянскага руху ўжо ўвесну і летам 1905 года былі ахоплены амаль усе паветы Беларусі.

Хваляванні ў некаторых мясцовасцях былі настолькі моцныя, што цэлай роце салдат не ўдавалася «устанавіць парадак». Так, у вёсцы Стрэлічава, Рэчыцкага павету, было аказана супраціўленне роце пяхоты і паліцыі і толькі пасля прыезду казакаў «парадак быў адноўлен». Аднак хваляванні не сціхалі нават і пасля «аднаўлення парадку». У Навагрудскім павеце па маёнтках размеркаваны былі кавалерыйскія і пяхотныя часці, у маёнтку Шорсы на працягу трох месяцаў стаяла сотня казакаў, але хваляванні не спыняліся *****).

* * *

З іншых буйных найбольш характэрных рэволюцыйных выступленняў на Беларусі ў гэты перыяд неабходна адзначыць кампанію, праведзеную партыйнымі арганізацыямі за байкот Булыгінскай Думы. 6 жніўня быў выдан маніфест аб скліканні Булыгінскай Думы, як дарадчага органа. Ленін рэзка выказаўся за байкот, супроць удзелу ў выбарах гэтай думы. Меншавікі стаялі за ўдзел у выбарчай працэдуры, высоўваючы лозунг рэволюцыйнага самакіраўніцтва, арганізуемага выбарнымі ў Думу.

Першая абласная канферэнцыя РСДРП Паўночна-Заходняга краю,

*) „III з'езд РСДРП", 1924 г. стар. 140.
**) „Пролетарий" № 22
***) „1905-07 гг. на Беларусі", стар. 33.
****) Там-жа, стар. 48.
*****) „1905 год на Беларусі", стар. 75—78.

аб якой гутарка будзе ніжэй, у жніўні 1905 года па пытанню аб Дзяржаўнай думе пастанавіла:

«Канферэнцыя, далучаючыся прынцыпова да прапановы ЦК, пастанавіла: а) выкрыць шляхам шырокай агітацыі сярод пролетарыята і сялянства рэакцыйныя мэты ўрада, які ўстанаўляе Дзяржаўную думу, даказваючы неабходнасць у інтарэсах рабочых і сялян склікання рэволюцыйным шляхам установчага сходу на аснове ўсеагульнага, роўнага і прамога выбарчага права з тайнай падачай галасоў; б) выносіць на ўсіх агітацыйных сходах адпаведныя рэзалюцыі; в) карыстаючыся прадвыбарнай агітацыяй ва ўсіх стадыях прадвыбарнай кампаніі, аказваць самымі энергічнымі мерамі націск на выбарчыя сходы, пабуджаючы іх адмаўляцца ад выбараў; г) прыняць самыя энергічныя меры для падрыхтоўкі пролетарыята к адкрытаму выступленню ў форме ўсеагульных забастовак, узброеных дэманстрацый і ўзброенага паўстання—як адразу пасля абвяшчэння ўрада аб скліканні Дзяржаўнай думы, так і ў час выбараў».

Паўночна-Заходні саюз РСДРП выдаў 2.000 экземпляраў пракламацыі «Далоў Дзяржаўную думу». У пракламацыі гаварылася:

«Мы будзем усюды наладжваць мітынгі з вынясеннем пратэсту супроць урадавага ашуканства, мы будзем выходзіць на вуліцу, нарэшце, мы са зброяй у руках не дамо адбыцца выбарам у самадзяржаўную Думу, будзем дабівацца сваіх правоў».

Гэты заклік партыйнай арганізацыі выклікаў буру пратэстаў супроць Булыгінскай Думы. Арганізатары РСДРП амаль у кожным горадзе правялі рабочыя масоўкі. У Беластоку на масоўцы было больш 1.500 рабочых, якія аднагалосна выказаліся супроць удзелу ў выбарах Булыгінскай Думы. Нават у такіх невялікіх мястэчках і гарадах, як Смалявічы, Ігумен (зараз Чэрвень), масоўкі збіралі па 400—500 чалавек. Нарастаўшы рэволюцыйны рух пад кіраўніцтвам большэвікоў змёў Булыгінскую Думу.

Барацьба дасягнула вышэйшага напружання ў кастрычніку 1905 года.

7 кастрычніка пачалася забастоўка менскага чыгуначнага вузла, 9 кастрычніка яна была падтрымана чыгуначнікамі Вільні, дзе арганізаваўся камітэт па кіраўніцтву забастоўкай. 10 кастрычніка ў Гомелі адбыўся пяцітысячны мітынг чыгуначнікаў, які таксама пастанавіў далучыцца да забастоўкі. У Менску адбыўся першы дэлегацкі з'езд чыгуначнікаў, які сфармуляваў рад патрабаванняў к забастоўцы, прычым у адным з пунктаў патрабавалася свабода арганізацыі палітычных советаў. Побач з гэтым было пастаўлена патрабаванне зняць ваеннае становішча і ўзмоцненую ахову, даць агульнае выбарчае права, самавызначэнне нацый і т. д.

Оршанская група РСДРП на паседжанні камітэта вылучыла камісію для спынення чыгуначнага руху на сваім вузле. Стачка ў Оршы пачалася 11 кастрычніка. У гэты-ж дзень у Гомелі адбыўся мітынг чыгуначнікаў, які сабраў каля 10.000 удзельнікаў. На мітынгу быў сканструяваны забастовачны камітэт.

У Менску 11 кастрычніка чыгуначную забастоўку падтрымалі

друкары, а 12 пачалася ўсеагульная забастоўка, да якой паступова далучаліся ўсё новыя гарады і мястэчкі: Баранавічы, Пінск, Беласток, Слуцк, Мазыр, Ліда, Пухавічы, Віцебск, Смілавічы, Капыль і інш. Паўсюды забастоўкі суправаджаліся дэманстрацыямі, мітынгамі, узброенымі сутычкамі.

Паліцыя і войскі ўжо ў першы дзень забастоўкі пачалі прымяняць зброю. 16 кастрычніка ў Вільні паліцыя і салдаты стралялі ў дэманстрацыю. Паводле данясення губернатара Палена, было забіта 5 і ранена 17 чал. 17 кастрычніка пахаванне ахвяр паліцэйскага сваяволля вылілася ў велізарную дэманстрацыю, у якой удзельнічала 30—40 тысяч чалавек.

18 кастрычніка стала вядома аб царскім маніфесце. У Менску ўжо з самай раніцы пачалося ажыўленне. Губернатар Курлоў затрымаў друкаванне маніфеста. А 12 гадзіне дня ў зале 3 класа вакзала Лібава-Роменскай чыгункі пачаўся мітынг чыгуначнікаў. Зала не магла ўмясціць усіх жадаючых, і мітынг быў перанесен на вакзальную плошчу. К другой гадзіне дня на плошчу сабралася больш 15 тысяч рабочых. Быў агалошаны маніфест. На мітынгу выступіў рад соцыял-дэмакратаў бальшэвікоў. Бальшэвікі крытыкавалі маніфест і папярэджвалі, што пакуль цар застанецца на троне, аб свабодзе не можа быць і гутаркі. На мітынгу была абрана дэпутацыя да губернатара па пытанню вызвалення палітычных вязняў. Дэпутацыя на чале ўдзельнікаў мітынга накіравалася к дому губернатара, а потым к турме. А 4 гадзіне дэпутацыя вярнулася на плошчу з 15-ю вызваленымі палітычнымі. Адбыўся грандыёзнейшы мітынг. У гэты-ж час ля вакзала пачалі канцэнтравацца войскі. Даведаўшыся аб гэтым, арганізатары мітынга абвясцілі мітынг закончаным і прапанавалі прайсціся па гораду. Але, як толькі аб гэтым было абвешчана, рота Омскага палка без усякага папярэджання дала залп баявымі патронамі па натоўпу. Пачалася паніка. Следам за першым залпам пачалі страляць з усіх бакоў. Крыжавы агонь працягваўся мінут 8—10. Уся плошча была ўсеяна забітымі і раненымі. Уцякаючых дэманстрантаў расстрэльвала паліцэйская засада каля 4 паліцэйскага ўчастка. Усяго было забіта каля 100 і ранена 300—400 чалавек.

У гэты-ж дзень была расстрэлена дэманстрацыя ў Вільні. Але там было аказана ўзброенае супраціўленне. Забіта ўсяго двое рабочых.

19 кастрычніка была расстрэлена дэманстрацыя ў Дзвінску. Забіта 6, многа ранена.

У Беластоку дэманстранты спрабавалі вызваліць палітычных. Казакі адкрылі стральбу—забіта 3, ранена 7 чал.

У Мазыры цяжка ранена 8 дэманстрантаў.

21 кастрычніка ў Вільні ў другі раз была расстрэлена дэманстрацыя: забіта і ранена больш 20 чалавек.

Але гэтым чорнасоценцы не здаволіліся і скарысталі другі верны сродак—пагромы. 21 кастрычніка чорнасоценцы ўчынілі пагром у Оршы. Не гледзячы на прыезд атрадаў самаабароны з Дуброўны і Шклова, пагромы спыніліся толькі 24 кастрычніка. Зверскі забіта было больш 30 чалавек і больш 10 з атраду самаабароны.

Пагромы былі арганізаваны таксама ў Рэчыцы, Полацку, Лоеве. Але ў Лоеве мясцовая група РСДРП разбіла чорнасоценцаў і пагром хутка быў ліквідаваны.

Цікава, што там, дзе былі моцны соцыял-дэмакратычныя арганізацыі, Бунду не ўдавалася ўнесці раскол у рабочае асяроддзе і арганізацыя пагромаў не ўдавалася. Так было і ў Лоеве, дзе ў атрады самаабароны былі ўцягнуты не толькі яўрэйскія, але і рабочыя іншых нацый. Так было і ў Менску, дзе мясцовая большэвіцкая арганізацыя развіла велізарную дзейнасць па барацьбе супроць пагромаў, правяла рад мітынгаў на заводах («Тэхнолаг», у чыгуначнікаў і т. д.).

Расстрэлы і пагромы не змаглі задушыць рэволюцыйны рух. Ён зноў і зноў узнімаўся.

15 лістапада пачалася забастоўка паштова-тэлеграфных служачых, якая ахапіла ўвесь асабісты склад пошты і тэлеграфа ў Гомелі, Дзвінску, Менску і Барысаве. 16 лістапада забастоўкай была ахоплена большасць гарадоў Беларусі. У Менску для барацьбы са штрэйкбрэхерамі вакол паштова-тэлеграфнай канторы былі выстаўлены стачачныя патрулі. Забастоўку часткова падтрымалі і работнікі пошты і тэлеграфа чыгункі. 21 лістапада ў Вільні на сходзе членаў саюза палескіх чыгунак была прынята пастанова з заклікам да тэлеграфістаў чыгункі не прымаць дзяржаўных і прыватных дэпеш па лініі чыгуначнай тэлеграфнай сувязі.

У цэлым радзе вайсковых часцей на тэрыторыі Беларусі адбыліся выступленні, якімі кіравалі вайсковыя групы РСДРП.

У Бабруйску яшчэ ў кастрычніку арганізавалася вайсковая група РСДРП, куды ўвайшлі Ольга (Шнейерсон), Галынскі, Рубінштэйн, Ясенеў і Кустановіч. Група наладзіла сувязь з канвойнай камандай, мясцовым ваенным шпіталем, Крэмлёўскім і Клязьмінскім палкамі, артылерыйскім паркам запаснай батарэі і нават некаторую сувязь з казацкімі часцямі. У кастрычніку адбыўся рад сходаў і мітынгаў, на якіх выступалі прадстаўнікі салдат.

У Гродне, Вільні і іншых гарадах Беларусі ўжо раней існавалі вайсковыя арганізацыі. Гродненская арганізацыя правяла ў лістападзе выступленне салдат артылерыстаў. 5(18) лістапада палкоўнік Макалінскі—камандзір першай батарэі 26 артылерыйскай брыгады—патрабаваў затрымаць у казармах аднаго салдата, западазронага ім у агітацыі. Таварышы па батарэі адстаялі салдата, і не гледзячы на стральбу палкоўніка, выкінулі апошняга з казармы разам з фельдфебелем. Першую батарэю падтрымала другая. Узброеныя салдаты выбеглі на двор. Вайсковая рэволюцыйная арганізацыя сабрала мітынг усёй брыгады, на якім выступіла многа прадстаўнікоў с.-д. і салдат. На мітынгу былі сфармуляваны патрабаванні, выпрацаваныя рэволюцыйнай арганізацыяй. Для ўсмірэння артылерыстаў прыбылі пехацінцы Вяцкага палка, але зараз-жа яны былі адкліканы, бо адкрыта выражалі спачуванне артылерыстам.

Праз некалькі дзён, а іменна 22 лістапада, пачалося паўстанне ў дысцыплінарным батальёне ў Бабруйску. Дысцыплінары ў колькасці каля 1000 чалавек сабраліся на двары казармы і прад'явілі цэлы рад патрабаванняў, уключаючы амністыю арыштаваным салдатам свайго батальёна. Ніякія ўгаворы з боку камандвання не мелі ўплыву. Паўстаўшыя прагналі афіцэраў, разбілі цэйхгауз, узброіліся і праз кіраўніка паўстання Якушава Івана адразу звязаліся з мясцовай вайсковай с.-д. арганізацыяй. У казармах і на двары адбываліся безупынныя мітынгі. Начальнік гарнізона пабаяўся паслаць супроць паўстаўшых мясцовыя Крэмлёўскі і Клязьмінскі палкі, бо і яны па-

чалі ўзбройвацца. таму іх прышлося ізаляваць ад дысцыплінараў. Урэшце былі выкліканы войскі з карнай экспедыцыі Орлова.

У ноч на 25 лістапада значныя вайсковыя сілы акружылі казармы дысцыплінарнага батальёна. У час перагавораў дысцыплінарам абяцалі нікога за паўстанне не праследваць. Паўстаўшыя здалі зброю, пасля чаго, наперакор абяцанню, зараз-жа былі арыштаваны і адданы ваеннаму суду 36 салдат. У лютым 1906 года ваенна-акруговы суд у Бабруйску прысудзіў 13 салдат к расстрэлу, 12— на пятнаццаць год катаргі кожнага і 3—на тры гады катаргі кожнага.

Не гледзячы на расфармаванне дысцыплінарнага батальёна і цэлы рад карных мерапрыемстваў, хваляванні ў бабруйскім гарнізоне не сціхлі. Ужо 5 снежня салдаты 237 пяхотнага Крэмлёўскага палка прад'явілі патрабаванне зняць камандзіра 16 роты капітана Сержнутоўскага, палепшыць харчаванне, выдаць цёплую вопратку і інш.

Хваляванні адбываліся і ў іншых гарнізонах. У Баранавічах 10 снежня на мітынгу забаставаўшых чыгуначных і гарадскіх рабочых былі арыштаваны трое салдат, але іх сілай вызвалілі прыбегшыя салдаты чыгуначнага батальёна. На наступны дзень на брыгаднай плошчы быў склікан мітынг гарадскіх рабочых, чыгуначнікаў і салдат чыгуначнага батальёна. Пад аховай афіцэраў на мітынг з'явіўся брыгадны генерал Арцёмаў і прапанаваў прысутным пакінуць раён распалажэння брыгады. Рабочыя чыгуначнікі збілі генерала. Паміж афіцэрамі і рабочымі завязалася перастрэлка. Салдаты з крыкам «да зброі» кінуліся ў казармы, але там засеў верны генералу ўзброены атрад. У выніку перастрэлкі было ранена двое рабочых. Горад быў абвешчан на ваенным становішчы.

На гэтым фоне развіваюцца снежаньскія падзеі.

8 снежня пачалася забастоўка ў Менску. А 12 гадзіне дня забаставалі чыгуначнікі, якіх дружна падтрымалі рабочыя ўсіх фабрык і заводаў. Забаставалі нават вучні ўсіх навучальных устаноў горада. З дазволу забастовачнага совета працавалі толькі водапровод, электрастанцыя, хлебапякарня і аптэкі. У Гомелі, таксама а 12 гадзіне дня, пачалася забастоўка на Лібава-Роменскай чыгунцы. К канцу дня да забастоўкі далучыліся рабочыя і служачыя палескіх чыгунак. У абраны забастовачны камітэт Гомельскага раёна ўвашлі некалькі прадстаўнікоў ад с.-д. арганізацый. Забастоўка ахапіла не толькі горад, але і ўсю лінію Палескай і Лібава-Роменскай чыгунак.

У Дзвінску, Вільні, Брэсце, Баранавічах, Беластоку і іншых гарадах забастоўка пачалася 9 снежня. 11 снежня на экстраным паседжанні віленскага абласнога камітэта РСДРП большэвікі ўнеслі прапанову прыняць рашэнне міжраённай канферэнцыі аб выступленні рабочых Вільні. Праект канферэнцыі заключаўся ў тым, што група баявікоў забарыкадуецца ў гарадской думе і адтуль пачне перастрэлку з войскам і паліцыяй. У той-жа час баявыя дружыны павінны ўзняць масы на паўстанне і пачаць будаваць барыкады. Супроць гэтай прапановы рашуча выказаліся меншавікі. Прапанова была адхілена, было вырашана «чакаць падзей». У той-жа дзень віленскі камітэт РСДРП адхіліў таксама прапанову смаргоньскай групы РСДРП аб арганізацыі паўстання рабочых і сялян у Смаргоньскім раёне.

Віленскі камітэт, як вядома, складаўся ў большасці з меншавікоў. Так сваімі апартуністычнымі паводзінамі меншавікі Вільні сарвалі падтрымку паўстання на Чырвонай Прэсні віленскімі і смар-

гоньскімі рабочымі. Апартуністычную пазіцыю занялі і бундаўцы, што асабліва ярка выявілася ў Пінску, дзе старшыня Бунда прад'явіў патрабаванне аб'яднанаму забастовачнаму камітэту аб сканчэнні ўсеагульнай забастоўкі. Пры падтрыманні меншавікоў бундаўцы правялі гэту сваю прапанову. Такім чынам ужо 12 снежня забастоўка ў Пінску была сарвана. У гэты-ж дзень, дзякуючы пастанове эсэраўскага анархісцкага совета рабочых дэпутатаў, забастоўка была сарвана і ў Беластоку.

Хваляванні, выкліканыя снежаньскім паўстаннем у Маскве, падаўляліся з неймавернай лютасцю. Віленскі генерал-губернатар атрымаў ад міністра ўнутраных спраў Дурнаво наступную тэлеграму: «Згодна асвятленню агенцкімі дэпешамі, войскі робяць залпы ў паветра, будзьце ласкавы паведаміць, па якому распараджэнню прыняты такі парадак». У гэтыя-ж дні віленскі генерал-губернатар непасрэдна па загаду Нікалая II атрымаў прапанову перадаць Орлову, каб той са сваім карным атрадам «дзейнічаў пры падаўленні мяцежу самымі рашучымі мерамі, прымяняючы зброю без усякага патурання. Такі спосаб дзеянняў асабліва неабходзен у Гомелі».

Тэрор разам са здрадніцтвам меншавікоў, бундаўцаў, эсэраў і іншых апартуністычных партый зрабіў сваю справу. У 20 лічбах снежня быў узноўлен рух па чыгунках, спынілася ўсеагульная забастоўка па гарадах Беларусі.

Не гледзячы на існаванне ў Беларусі с.-д. арганізацый, у якія ўваходзілі меншавікі і большэвікі, гаварыць аб адзінстве гэтых арганізацый не прыходзіцца, што ярка пацвярджаецца прыведзенымі вышэй фактамі. Гэта былі дзве арганізацыі двух партый, якія вялі паміж сабой самую жорсткую барацьбу.

**У барацьбе супроць меншавікоў і бундаўцаў, эсэраў і беларускіх нацыяналістаў гуртаваліся і раслі кадры большэвікоў на Беларусі.**

* * *

У жніўні 1904 года сабраўся I з'езд арганізацый Паўночна-Заходняга краю. З'езд павінен быў вырашыць наступныя пытанні: 1) арганізацыйныя пытанні, у прыватнасці прыняцце з'ездам новага статута; 2) аб перайменаванні Паўночна-Заходняга камітэта ў Паўночна-Заходні саюз; 3) аб адносінах да нацыянал-соцдэмакратычных арганізацый; 4) аб аб'яднанні двух частак партыі і 5) аб арганізацыі дэманстрацый.

Па першаму пункту з'езд прыняў новы статут, па другому—зацвердзіў перайменаванне Паўночна-Заходняга камітэта ў Паўночна-Заходні саюз, што было значным крокам к далейшаму аб'яднанню ўсіх партыйных сіл Беларусі, якое завяршылася ў 1906 годзе перайменаваннем Паўночна-Заходняга саюза ў саюз РСДРП Літвы і Беларусі.

Па пытанню аб адносінах да нацыянал-соцдэмакратычных арганізацый было пастаноўлена застацца на пункце погляду II партыйнага з'езда і вітаць ініцыятыву ЦК аб скліканні міжпартыйнай с.-д. канферэнцыі. Пры гэтым у рэзалюцыі падкрэслівалася, што «расійская соцыял-дэмакратычная рабочая партыя па-ранейшаму лічыць неабходным арганізаваць пад сваім сцягам пролетарыят усіх нацыянальнасцей і пакідае за сабою права ідэйнай барацьбы з нацыянальнымі с.-д. партыямі».

У рэзалюцыі аб аб'яднанні абодвух частак РСДРП сказаўся моцны ўплыў меншавікоў. У радзе пунктаў гэтай рэзалюцыі прыняты прапановы, аналагічныя прапановам прадстаўніка арганізацыйнай камісіі на нарадзе 12 (25) ліпеня 1905 года па пытанню аб'яднання партый.

Так, з'езд арганізацый Паўночна-Заходняга камітэта выказваецца за аб'яднанне шляхам «згоды паміж цэнтральнымі ўстановамі з аднаго боку і мясцовымі арганізацыямі з другога боку». Але, як вядома, «аб'яднанне па-за рамкамі III з'езда і без склікання IV з'езда Цэнтральны Камітэт лічыць зусім невыканальным» («Пролетарый» № 20). Такім чынам у гэтым пытанні з'езд Паўночна-Заходняга камітэта стаяў не на бальшэвіцкім, а на меншавіцкім пункце погляду. Так было і ў пытанні аб прадастаўленні перыферыі рашаючага голасу, і асабліва ярка ў пункце 4-м: «У інтарэсах канчатковага знішчэння трэнняў паміж абодвума часткамі партыі з'езд прызнае пажаданым часова пакінуць загаловак ЦО і за «Искрой» і за «Пролетарыем». Як вядома, В. І. Ленін і Цэнтральны Камітэт партыі рэзка выказваліся супроць двух цэнтральных органаў.

Па пытанню аб дэманстрацыях з'езд прызнаў мэтазгоднымі дэманстрацыі «пры наяўнасці моцных узброеных атрадаў, для стварэння якіх арганізацыі павінны прыкласці ўсе намаганні».

У жніўні 1905 года адбылася і I канферэнцыя РСДРП Паўночна-Заходняга краю. Яна ахапляла прадстаўнікоў партыйных арганізацый не толькі Паўночна-Заходняга краю (Беларусі), але і суседнія арганізацыі і камітэты—рыжскі, смаленскі і варшаўскі.

Аб партыйнай прыналежнасці дэлегатаў, якіх было ўсяго 13 чал., вядома толькі пра 8 таварышоў: 6 былі бальшэвікамі і двое меншавікамі. Паводле даных, можна меркаваць, што смаргоньская і бабруйская арганізацыі таксама былі прадстаўлены бальшэвікамі. Такім чынам перавага сіл была на баку бальшэвікоў. Але ўсё-ж на радзе пунктаў рэзалюцыі, якую вынесла канферэнцыя, сказалася і тое, што ў радах бальшэвікоў аказаліся прымірэнцы (Пасталоўскі, Негоеў).

У адзнаку ад I з'езда арганізацый Паўночна-Заходняга камітэта, канферэнцыя ў рэзалюцыях аб аб'яднанні партый падкрэсліла, што «не верыць у магчымасць моцнага і сапраўднага аб'яднання партый толькі шляхам згоды паміж Цэнтральным Камітэтам і ОК», таму ў рэзалюцыі адзначаецца, што «найлепшым сродкам для канчатковага аб'яднання з'яўляецца скліканне агульнапартыйнага з'езду». Такім чынам тут падкрэсліваецца адно з асноўных патрабаванняў бальшэвікоў—«скліканне новага з'езду для аб'яднання», але зусім не адзначаецца другое асноўнае іх патрабаванне—«аб'яднанне на падставе пастановы III з'езду партыі», у чым сказалася прымірэнцтва некаторых бальшэвікоў.

Па пытанню аб адносінах да нацыянальных с.-д. партый канферэнцыя, падкрэсліўшы, што стаіць «на пункце погляду II партыйнага з'езду», пастанавіла: «для ўзмацнення работы і ўплыву РСДРП у краі неабходна выданне літаратуры на мясцовых мовах».

Разгортванне масавага руху дало магчымасць перабудавацца і партыйным арганізацыям. Буйныя партыйныя арганізацыі разбіваюцца на фабрычна-заводскія пярвічныя групы. Арганізацыі Палескага і Паўночна-Заходняга камітэтаў былі падзелены на рад акруговых арганізацый: гомельскую, клінцоўскую, магілеўскую, новазыбкаўскую, менскую, віцебскую, віленскую і інш. Гарадскія арганізацыі таксама

былі падзелены на рад раёнаў: віленская на тры, менская на два. Райкомы абіраліся на агульных сходах членаў партыі данага раёна. У Менску, дзякуючы праведзенаму партыйнаму тыдню, у кастрычніку 1905 года ўжо налічвалася больш 450 членаў партыі.

Асабліва вострa стаяла пытанне аб выхадзе партыйных арганізацый у некаторай ступені з падполля. Ленін у гэты перыяд пісаў: «задача стаіць ясна: захаваць пакуль канспірацыйны апарат і развіць новы, адкрыты» *). Партыйная арганізацыя Беларусі працавала ў гэты перыяд, г. зн. у канцы 1905 або ў пачатку 1906 года, поўлегальна, цалкам захоўваючы і ўмацоўваючы свой нелегальны апарат.

Перабудова партыйных арганізацый у акруговыя значна ўзмацніла магчымасці работы на вёсцы. Амаль кожная арганізацыя выпусціла даволі вялікую колькасць лістовак, пракламацый, адозваў да сялян. Палескі камітэт выпусціў паасобнай брашурай главу з работы Леніна—«Да вясковай беднаты». Паўночна-Заходні камітэт (галоўным чынам менская група, якая абслугоўвала сваёй друкарняй увесь Паўночна-Заходні камітэт) выпусціў таксама даволі вялікую колькасць лістовак. Так пракламацыя «Што патрэбна зараз селяніну» была выпушчана 20-тысячным тыражом. У гэтай пракламацыі Паўночна-Заходні камітэт заклікаў сялян: «Узбройвайцеся, адбірайце зброю ў стражнікаў,ураднікаў, станавых прыставоў, ляснікоў і памешчыкаў і са зброяй у руках абараняйце свае справядлівыя патрабаванні».

Акруговыя партыйныя канферэнцыі, якія адбыліся ў канцы 1905 і пачатку 1906 гг., паставілі адным з асноўных пытанняў—работу на вёсцы. Віленская акруговая канферэнцыя ў красавіку 1906 года прыняла па гэтаму пытанню рэзалюцыю: «Арганізаваць сельскі пролетарыят і поўпролетарыят у самастойныя соцыял-дэмакратычныя групы, арганізаваць рэволюцыйныя сялянскія камітэты для кіраўніцтва ўзброеным паўстаннем сялянства і правядзення канфіскацыі памешчыцкіх, казённых, манастырскіх і т. п. зямель». Канферэнцыя пастанавіла таксама стварыць са спачуваючых сялян групы і выдаваць нелегальны папулярны сялянскі орган.

Менская партыйная арганізацыя падабрала для работы на вёсцы кадр таварышоў, якія ведалі беларускую мову. Створана была менская акруговая сялянская арганізацыя РСДРП. Карэспандэнт у газеце «Социал-демократ» № 2 указвае, што «амаль ва ўсіх гарадах і мястэчках ёсць невялікія групы ці паасобныя работнікі с.-д., якія займаюцца агітацыяй сярод сялян, распаўсюджваецца літаратура, арганізуюцца сялянскія камітэты па вёсках. Мясцамі ў нас ёсць нават валасныя сялянскія камітэты, якія самі збіраюць са сваіх членаў грошы, выпісваюць з Менска літаратуру і агітатараў, заказваюць нам для сябе пячатку».

У карэспандэнцыях указваецца, што за лета 1906 года менскі акруговы камітэт распаўсюдзіў некалькі тысяч экземпляраў разнастайных брашур і пракламацый і правёў каля 60 мітынгаў, не лічачы тых, якія склікаліся непасрэдна мясцамі.

Дзякуючы ўвазе партыйных арганізацый, якую яны ўдзялялі рабоце на вёсцы, Беларусь у 1905—07 гг. па колькасці ахопленых сялянскім рухам паветаў займае трэцяе месца сярод усіх астатніх раёнаў Расіі (першае і другое займалі украінскія і паўднёва-заходнія губерніі Расіі, дзе рухам было ахоплена 100 і 97% паветаў, на Беларусі—90,7%). Калі-ж падзяліць тэрыторыю Расійскай імперыі на дзве

*) Ленін, т. VIII, стар. 374.

паласы—чорназемную і нячорназемную, то беларускія губерніі ў нячорназемнай паласе ідуць на першым месцы па колькасці сялянскіх выступленняў *).

Працуючы ў вёсцы, большэвіцкім партыйным арганізацыям асабліва востра прышлося сутыкацца з эсэрамі. Але гэтыя «лібералы з бомбай», якія пад «леваю фразай» хавалі сваю кулацкую сутнасць, не здолелі разгарнуць у Беларусі вялікай работы. Найбольшым уплывам эсэры карысталіся ва ўсходняй частцы Беларусі—Магілеўскай і Віцебскай губернях, а таксама ў некаторых частках Менскай губ. (Слуцкі павет), г. зн. там, дзе найбольш моцнай была кулацкая праслойка. Вельмі цікава, што ў 1917 г. і пазней эсэры карысталіся найбольшым уплывам якраз у гэтых мясцовасцях.

Што датычыць «Беларускай соцыялістычнай грамады», якую пазней беларускія нацыянал-дэмакраты заднім чыслом імкнуліся прадставіць як гегемона сялянскага руху на Беларусі ў 1905 годзе, то яна з'яўлялася партыяй вузкай, далёка нямасавай і ахапляла ўсяго два-тры дзесяткі членаў. Шырока разгарнуць сваю работу на вёсцы БСГ безумоўна не магла. Паводле сваіх праграмных установак БСГ была блізка да эсэраў і ППС. Эсэраўская зямельная праграма плюс самы яры нацыяналізм ППС—вось твар кулацкай БСГ. У 1906—07 гг. БСГ становіцца на шлях падтрымання сталыпінскай рэформы. Па нацпытанню БСГ патрабавала аўтаноміі Беларусі і падтрымлівала бундаўскі лозунг культурна-нацыянальнай аўтаноміі. Не гледзячы на сваю малалікасць БСГ выхавала рад найбольш ярых нацыяналістаў, кіраўнікоў контррэволюцыйнага нацдэмакратызма.

Вялікую ўвагу с.-д. удзялялі рабоце ў арміі. Паколькі сувязь з арміяй у першы перыяд рэволюцыі была слабая, с.-д. галоўную ўвагу звярнулі на пісьмовую прапаганду. Аб гэтым гаворыць і выступленне дэлегата Палескага камітэта Владзімірскага на III з'ездзе партыі: «сярод арміі асабістая прапаганда амаль немагчыма, трэба накіраваць усе свае сілы на пісьмовую прапаганду, неабходны спецыяльныя лісткі для салдат» **).

У першай палове 1905 года партыйныя арганізацыі сістэматычную работу вялі толькі ў Гродне, дзе была вайсковая арганізацыя, і часткова ў Гомелі. А з другой паловы 1905 года становішча змянілася. У цэлым радзе гарадоў былі створаны вайсковыя с.-д. арганізацыі. У Вільні работа сярод салдат пачалася яшчэ ў маі 1905 года. Прыблізна ў гэты-ж час і дзвінская с.-д. арганізацыя пачала работу ў арміі. У кастрычніку аформілася вайсковая група с.-д. арганізацый у Бабруйску, Вільні, а ў пачатку 1906 года—у Дзвінску. У Менску сувязь з гарнізонам была наладжана праз арганізаваных работніц.

Арганізацыі выпускалі газеты «Солдатская жизнь»—орган вайскова-рэволюцыйнай арганізацыі абласнога саюза РСДРП Літвы і Беларусі (ад 3 да 6 тысяч экз.), «Солдатская воля»—орган гродненскай вайсковай арганізацыі РСДРП (1.500 экз.), «Солдатская жизнь»—орган дзвінскай вайсковай арганізацыі РСДРП і «Из стен казармы»—орган віленскай арганізацыі.

Таксама ў вялікай колькасці распаўсюджвалася сярод салдат большэвіцкая газета «Казарма».

---

*) **Марахавец.** „Сялянскі рух і с.-д. у эпоху першай рускай рэволюцыі", стар. 13

**) Пратакол III з'езда, стар. 141.

Пад кіраўніцтвам гэтых арганізацый праходзілі выступленні салдат: у лістападзе 1905 года паўстанне дысцыплінарнага батальёна ў Бабруйску, выступленне каманды запасных салдат у Віцебску, сапёраў у Баранавічах, чыгуначных брыгад і т. д.

* * *

Ужо ў пачатку снежня 1905 года ў беларускіх губернiях было ўведзена ў некаторых месцах ваеннае становішча і ў астатніх—становішча надзвычайнай аховы. Рэакцыя асабліва ўзняла галаву пасля паражэння снежаньскага паўстання. Але барацьба не спынялася. Якраз іменна ў гэты перыяд шырока развіваецца прафесіянальны рух. Карыстаючыся некаторымі легальнымі магчымасцямі, створанымі пасля кастрычніцкай стачкі, профсаюзы хутка растуць.

Па пытанню прафесіянальнага руху большэвікі вялі самую жорсткую барацьбу з меншавікамі і Бундам. Калі меншавікі стаялі на пункце погляду поўнай «беспартыйнасці» профсаюзаў, іх поўнай нейтральнасці, зводзячы ролю профсаюзаў толькі да «эканамічных арганізацый» рабочага класа, то бундаўцы імкнуліся стварыць «партыйныя» профсаюзы, якія-б уваходзілі прама ў партыю; пры гэтым Бунд праследваў мэту стварыць свае бундаўскія профсаюзы, куды ўваходзілі-б толькі яўрэйскія рабочыя. Тым самым Бунд імкнуўся адарваць яўрэйскіх рабочых ад рабочых іншых нацыянальнасцей і ў профсаюзах.

Большэвікі абаранялі пункт погляду партыйнасці профсаюзаў, але зусім не ў бундаўскім сэнсе гэтага слова. Большэвікі імкнуліся ператварыць профсаюзы ў палітычныя арганізацыі рабочага класа, якія-б знаходзіліся пад ідэйным кіраўніцтвам партыі. Але гэта зусім не азначала іх падпарадкаванасці партыі і тым больш іх непасрэднага ўваходжання у партыю. Таму большэвікі вялі самую жорсткую барацьбу як супроць бундаўцаў, так і супроць меншавікоў па пытанню аб профсаюзах.

На ўстаноўчых сходах прафесіянальных саюзаў галоўны агонь прышлося накіраваць якраз супроць Бунда. У сувязі з раскольніцкай дзейнасцю Бунда цэлы рад прафесіянальных саюзаў раскалоўся на прыхільнікаў арганізацыі профсаюзаў па нацыянальнасцях і прыхільнікаў адзіных профсаюзаў. Так, напрыклад, існавалі два саюзы прыказчыкаў: адзін бундаўскі, другі пад уплывам большэвікоў. Такая-ж барацьба праходзіла і ў іншых арганізацыях. У Вільні каля 180 прыхільнікаў Бунда і літоўскай соцыял-дэмакратыі, якая ў пытанні аб профсаюзах стаяла на тых самых пазіцыях, што і Бунд, пакінулі сход гарбароў, які сабраў каля 1000 чал. Старшыня сходу «Андрэй» (большэвік Сольц) прапанаваў працягваць сход, на якім засталіся толькі прыхільнікі большэвіцкага пункту погляду. Старшынёю праўлення быў абраны большэвік «Сова» (Руткоўскі). Саюз пратрымаўся да 1908 года.

У Дзвінску пад кіраўніцтвам большэвікоў знаходзіліся саюзы чыгуначнікаў, дрэваапрацоўчых рабочых і металістаў. Работа вялася таксама ў профсаюзах булачнікаў і друкароў.

Такім чынам большэвікам удалося ўжо ў 1905 і асабліва ў 1906 годзе заваяваць значную колькасць існаваўшых на Беларусі прафесіянальных саюзаў.

У гэты-ж перыяд у пачатку 1906 года абласны Паўночна-Заходні саюз РСДРП перайменоўваецца ў «Абласны саюз РСДРП Літвы і

Беларусі». Ужо гэта адно паказвае на тую велізарную ўвагу, якую партыя ўдзяляла нацыянальнаму пытанню.

У веснавыя месяцы 1906 г. барацьба паміж большэвікамі і меншавікамі асабліва абвастрылася ў сувязі з падрыхтоўкай IV з'езда партыі. Але наступленне рэакцыі давала ўжо сябе адчуваць. Зусім зразумела, што ўдары рэакцыі ў першую чаргу былі накіраваны супроць большэвікоў, як паслядоўных рэволюцыйных прадстаўнікоў пролетарыята. Ужо ў першыя месяцы 1906 года было арыштавана, расстрэлена і саслана многа большэвікоў. Гэта і было адно з прычын таго, чаму цэлы рад с-д. арганізацый, якія ў дні ўздыму рэволюцыі былі ў руках большэвікоў, к IV з'езду партыі перашлі ў рукі меншавікоў. З усіх 6-ці дэлегатаў, якія прадстаўлялі соцыял-дэмакратычныя арганізацыі Беларусі на IV з'ездзе, толькі двое (менскі—Полазаў і дзвінскі—Алексееўскі) галасавалі на з'ездзе з большэвікамі. У Вільні на выніки выбару дэлегатаў меў уплыў правал раду арганізацый, які адбыўся якраз перад выбарамі на IV з'езд.

Менская арганізацыя і ў гэты перыяд знаходзілася ў руках большэвікоў. Ужо неўзабаве пасля IV з'езда, на якім меншавікі атрымалі большасць, менская арганізацыя выступіла за скліканне новага з'езда:

> «Прымаючы пад увагу, па-першае, тое, што змяніўшаяся з разгромам Думы палітычная сітуацыя краіны высунула рад новых пытанняў (аб выбарах у Думу, аб узгодненасці дзеянняў у выбарчай кампаніі з буржуазнымі партыямі і т. д.), па-другое, што тактыка ЦК не адпавядае задачам моманту, па-трэцяе, што ўступленне ў партыю нацыянальных с.-д. арганізацый абавязвае партыю прадставіць ім магчымасць прыняць удзел у выпрацоўцы абавязковых агульнапартыйных дырэктыў,—менскі кіруючы калектыў выказваецца за тэрміновае скліканне партыйнага з'езду».

Менская арганізацыя і на V з'ездзе РСДРП была прадстаўлена дэлегатам-большэвіком.

Але абласная канферэнцыя саюза РСДРП Літвы і Беларусі, якая адбылася ў кастрычніку 1906 года, выступіла супроць склікання новага з'езду партыі. На канферэнцыі большасць належала меншавікам. Аб гэтым гавораць і іншыя рэзалюцыі канферэнцыі. Так, напрыклад, па пытанню аб удзеле ў выбарчай кампаніі ў Дзяржаўную думу, канферэнцыя ў сваёй рэзалюцыі вызначыла ролю Дзяржаўнай думы, як «нацыянальнага цэнтра, які павінен падрыхтаваць умовы склікання рэволюцыйным шляхам устаноўчага сходу». Таксама па пытанню аб блоках пры выбарах была дана магчымасць соцыял-дэмакратам уступіць у згоду з іншымі партыямі, прычым не было нават абумоўлена з якімі іменна.

Увосень 1906 года адбываецца правал раду партыйных арганізацый. Сярод меншавікоў пачынае панаваць ліквідатарскі настрой. Але большэвікі ідуць у глыбокае падполле, каб рыхтаваць масы к новай рэволюцыі.

* * *

Такім чынам мы бачым, што на Беларусі адступленне рэволюцыйных сіл адбываецца значна хутчэй, чым у цэнтральных мясцовасцях, у буйных пролетарскіх цэнтрах. Тут сказалася тая асаблівасць, аб якой Владзімір Ільіч пісаў у студзені 1917 года ў сваім «Дакладзе аб рэволюцыі 1905 года».

Гаворачы аб паўстанні на браненосцы «Пацёмкін» і руху ў войсках, Ленін указваў, што правадыры руху рэкрутаваліся галоўным чынам з асяроддзя рабочых. Далей Ленін указваў:

«Але шырокія масы былі яшчэ занадта наіўны, занадта мірна, занадта дабрадушна, занадта па-хрысціянску настроены. Яны ўспыхвалі даволі лёгка, любы выпадак несправядлівасці, занадта грубае абыходжанне афіцэраў, дрэннае харчаванне і т. п. магло выклікаць абурэнне. Але не хапала вытрымкі, адсутнічала яснае ўсведамленне задачы: не хапала дастатковага разумення таго, што толькі самы энергічны працяг узброенай барацьбы, толькі перамога над усімі вайсковымі і грамадзянскімі ўладамі, толькі нізвяржэнне ўрада і захоп улады ва ўсёй дзяржаве з'яўляецца адзінай гарантыяй поспеху рэволюцыі» *).

Гэта палажэнне Леніна ў вышэйшай ступені характэрна для Беларусі. Тут перавага дробна-буржуазных мас у горадзе стварыла такое становішча, аб якім гаварыў Ленін. Студзень 1905 года даў Беларусі велізарны выбух рэволюцыйнай энергіі. Летнія падзеі суправаджаліся ўзброенымі выступленнямі. Кастрычніцкая забастоўка яшчэ ў большай меры ўзняла хвалю рэволюцыйнага руху. Але першыя-ж расстрэлы пасля кастрычніцкай забастоўкі (курлоўскі і інш.), а тым больш падаўленне маскоўскага рэволюцыйнага паўстання прыводзяць к заняпаду рэволюцыйнага руху. Не хапіла вытрымкі. К снежню 1905 года стачка не была так аднадушна як у кастрычніку і ахапіла значна меншае кола рабочых. І калі ў 1906 і нават у 1907 годзе пролетарыят буйных пролетарскіх цэнтраў яшчэ дае баі самадзяржаўю, у Беларусі рэволюцыйны рух хутка ідзе на спад.

Рэволюцыя пацярпела часовае паражэнне, але яна была пралогам, генеральнай рэпетыцыяй вялікай пролетарскай рэволюцыі. Ленін і Сталін высока ставілі гістарычнае значэнне рэволюцыі 1905 года. Выкрываючы Мартава і Троцкага, якія зводзілі вопыт рэволюцыі 1905 года к таму, што «большэвіцкая і анархісцкая некультурнасць атрымалі перамогу над марксісцкай культурнасцю», **Ленін** пісаў:

«І калі Мартаў і яго сябры, следам за лібераламі ўказваюць на цяжкія паражэнні рэволюцыі як на ўрок таго, **«чаго не рабіць»**, то мы адкажам ім: адзіная рэальная перамога, атрыманая рэволюцыяй, была перамогай пролетарыята, які адкінуў ліберальныя парады ісці ў Булыгінскую Думу і павёў за сабою сялянскія масы на паўстанне. Гэта па-першае. А па-другое, сваёй гераічнай барацьбой на працягу трох год (1905—1907) рускі пролетарыят заваяваў сабе і рускаму народу тое, на заваёву чаго іншыя народы патрацілі дзесяцігоддзі. Ён заваяваў **вызваленне** рабочых мас **з-пад уплыву** здрадніцкага і ганебна-бяссільнага **лібералізма.** Ён заваяваў **сабе** ролю **гегемона** ў барацьбе за свабоду, за дэмакратыю, як умову для барацьбы за соцыялізм. Ён заваяваў усім прыгнечаным і эксплаатуемым класам Расіі **ўменне** весці рэволюцыйную масавую барацьбу, без якой нідзе на свеце не дасягалася нічога сур'ёзнага ў прагрэсе чалавецтва.

**Гэтых** заваёў не адбярэ ў рускага пролетарыята ніякая рэакцыя, ніякая ненавісць, лаянка і злоснічанне лібералаў, ніякія хістанні, блізарукасць і малавер'е соцыялістычных апартуністаў» **).

*) **Ленін**, т. XIX, стар. 350—351.
**) **Ленін**, т. XV. стар. 20.

**Р. Соскін**

Сакратар оршанскага РК КП(б)Б

# Неаслабна змагацца супроць буржуазна-нацыяналістычных і контррэволюцыйных трацкісцкіх элементаў

Праверка партыйных дакументаў, праведзеная па ініцыятыве правадыра партыі—тав. Сталіна, з'явілася важнейшым палітычным мерапрыемствам па ўмацаванню боездольнасці радоў партыі і ажыўленню ўнутрыпартыйнай работы. Указанні ў лісце ЦК ВКП(б) аб тым, што ў партыйнай гаспадарцы многіх партарганізацый пануе хаос, поўнасцю пацвердзіліся на вопыце праверкі партдакументаў у оршанскай партарганізацыі.

Пры праверцы партыйных дакументаў райком партыі асабліва ўважліва і глыбока вывучаў палітычны твар кожнага комуніста, улічваючы, што г. Орша і раён былі ў мінулым арэнай дзейнасці контррэволюцыйных груп эсэраў, меншавікоў, бундаўцаў, нацдэмаў, трацкістаў, што ў раёне былі развіты бандытызм, дэзерцірства і кулацкі сабатаж калектывізацыі.

Оршанскі Совет, кіруемы ў 1917 г. меншавіцка-эсэраўскай большасцю, актыўна змагаўся супроць Окцябрскай социялістычнай рэволюцыі і стварыў «Камітэт грамадскай безапаснасці», мэтай якога было падаўленне большэвіцкіх сіл у гарнізоне Оршы і на чыгуначным вузле. Усе антысовецкія контррэволюцыйныя групы (эсэры, меншавікі, сіяністы, бундаўцы і інш.) аб'ядналіся ў «баявы штаб самаабароны» супроць наступлення пролетарскай рэволюцыі.

У 1918-19 гг., у той час калі оршанскія большэвікі ўсе свае сілы аддавалі фронту грамадзянскай вайны і падаўленню контррэволюцыйных кулацкіх паўстанняў, лева-эсэраўскія, меншавіцкія, бундаўскія, паалей-цыяністцкія і іншыя контррэволюцыйныя групы вялі падрыўную работу супроць пролетарскай рэволюцыі. У рэзультаце контррэволюцыйнай дзейнасці левых эсэраў і меншавікоў у 1918 г. быў справакаваны на контррэволюцыйнае паўстанне супроць совецкай улады Стайкаўскі полк.

З матар'ялаў, сабраных пры праверцы партдакументаў, відаць, што ў Оршанскім раёне ў мінулым налічвалася вялікая група эсэраў і меншавікоў, частка якіх раз'ехалася па розных гарадах Саюза,

значная колькасць асела ў г. Оршы, некаторым удалося прабрацца ў партыю і на кіруючыя пасады.

Пры праверцы выяўлены і выключаны з радоў партыі рад былых эсэраў і ўдзельнікаў лева-эсэраўскага контррэволюцыйнага паўстання ў г. Оршы.

У працэсе праверкі нам удалося выявіць, што гэтыя эсэраўскія контррэволюцыйныя элементы былі цесна звязаны з беларускімі нацдэмамі. У выніку прытуплення рэволюцыйнай пільнасці ў паасобных звеннях партарганізацыі актыўныя нацдэмы, іх жоны і родзічы пралезлі ва многія навучальныя ўстановы і стварылі там свае контррэволюцыйныя трупоўкі.

Адна з такіх контррэволюцыйных нацдэмаўскіх груп выкрыта ў белдрэсаўскай НСШ. У школе была значная колькасць выкладчыкаў нацдэмаў, якія атручвалі свядомасць дзяцей контррэволюцыйнымі, нацыяналістычнымі ідэямі. У школьнай бібліятэцы і на кватэрах настаўнікаў знойдзена вялікая колькасць контррэволюцыйнай нацдэмаўскай і трацкісцкай літаратуры, якую выкладчыкі-нацдэмы выкарыстоўвалі на лекцыях і давалі дзецям для чытання. З усёй вучэбна-выхаваўчай работы школы яны вытраўлялі пралетарскі інтэрнацыяналізм.

Як устаноўлена, нацдэмаўская група ў Белдрэсаўскай школе ставіла сабе задачай праз распаўсюджванне контррэволюцыйнай нацдэмаўскай літаратуры сярод вучнёўскай моладзі і навакольнага насельніцтва падабраць і падрыхтаваць антысовецкі актыў, які можна было-б выкарыстаць для антысовецкай работы.

Як сведчаць самі ўдзельнікі гэтай групы, яны стараліся ўсімі мерамі шкодзіць і дыскрэдытаваць совецкую школу, зрываючы ажыццяўленне дырэктыў партыі і ўрада аб падрыхтоўцы ў пачатковых і сярэдніх школах усебакова граматных і развітых людзей. Нацдэмы насаджалі няграматнасць, сабатавалі стабільныя падручнікі, пераводзілі вучняў з класа ў клас без адпаведных ведаў.

Каб набыць сродкі для сваёй контррэволюцыйнай дзейнасці, гэта група фабрыкавала фіктыўныя рахункі і такім чынам растраціла да 5 тысяч рублёў дзяржаўных грошай, асігнаваных на народную асвету.

Як паказала праверка, контррэволюцыйныя нацдэмаўскія элементы ў сваіх здрадніцкіх контррэволюцыйных мэтах найбольш імкнуліся пралезці на культурны фронт—у школы і іншыя культурна-асветныя ўстановы.

Карэнні гэтых груповак цягнуцца з мінулых гадоў контррэволюцыйнай дзейнасці нацдэмаў у Оршанскай акрузе. У 1917 годзе ў г. Оршы згрупавалася з былых афіцэраў, шляхты і кулацкай моладзі нацыянал-дэмакратычная арганізацыя, якая ставіла сваёй задачай адрыў Беларусі ад РСФСР і стварэнне «Беларускай нацыянальнай рэспублікі». На-галаву разбітыя асколкі контррэволюцыйнай нацдэмаўшчыны прытаіліся, чакаючы «лепшага часу» для сваёй здрадніцкай дзейнасці.

З 1924-25 гг. на тэрыторыі былой Оршанскай акругі зноў актывізавалі сваю контррэволюцыйную дзейнасць беларускія нацдэмы і іх скрытая агентура ў радах партыі. Стаўленікі Ігнатоўскага і Баліцкага нацдэмы Ганчарык, Акулік, Южын, Карачук, Сауліч, Храмянкоў і інш. акапаліся ў культурна-асветных установах і школах, абраўшы ў якасці рупара сваіх контррэволюцыйных нацыяналістычных ідэй

літаратурны часопіс «Оршанскі маладняк», нваднілі нацдэмаўскай літаратурай бібліятэкі раёна, скарыстоўвалі для сваёй контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай агітацыі настаўніцкія канферэнцыі, гурткі па вывучэнню беларускай мовы. Іх контррэволюцыйная дзейнасць аблягчалася тым, што на чале культпропа былога оршанскага акругкома КП(б)Б стаялі тады нацдэмы Южык, а потым Саўліч, а на чале акрАНА—Акулік, а затым Храмянкоў. Усе яны былі цесна звязаны і кіраваліся контррэволюцыянерамі Ігнатоўскім і Баліцкім.

Пасля разгрому контррэволюцыйнай нацдэмаўшчыны скрытыя нацдэмы Сауліч, Храмянкоў і інш. прытаіліся, завязваючы сувязь з контррэволюцыйнымі элементамі і падбіраючы «надзейных» людзей для сваіх контррэволюцыйных спраў.

Пры праверцы выяўлена і выключана з партыі група бундаўцаў, якія, скрываючы сваю прыналежнасць к Бунду, займаліся ідэалізацыяй яго контррэволюцыйнага мінулага.

Пралезшы ў ВКП(б), многія з бундаўцаў засталіся вернымі сваім контррэволюцыйным антыпартыйным поглядам. Ідэалізуючы контррэволюцыйны Бунд, яны арганізавалі кругавую паруку для абароны скрытых бундаўцаў.

Рад былых бундаўцаў у сувязі з праверкай партдакументаў дапусцілі яўна контррэволюцыйныя вылазкі. У саюзе Медсанпрацы старшынёй якога з'яўлялася былая бундаўка Зайцава, а парторгам былая бундаўка Хшыва, на сходзе секцыі ўрачоў мелі месца яўна контррэволюцыйныя выступленні былых бундаўцаў Берліна і Саламоніка. Наглае контррэволюцыйнае выступленне бундаўскага ахвосця, сустрэўшае рэзкі адпор ад удзельнікаў сходу і беспартыйных урачоў, стала магчымым не толькі ў выніку таго, што парторг Хшыва і старшыня саюза Зайцава зусім не вялі палітыка-выхаваўчай работы ў саюзе Медсанпрацы, але і ў выніку таго, што гэтыя людзі самі прадаўжалі ідэалізаваць контррэволюцыйны Бунд, знаходзячы ў ім «толькі **элементы** контррэволюцыйнасці» (Зайцава), і арганізавалі кругавую паруку, скрываючы наяўнасць у саюзе раду контррэволюцыйна настроеных былых бундаўцаў.

Праверка партыйных дакументаў дапамагла ўскрыць рад удзельнікаў контррэволюцыйнай трацкісцкай групоўкі, якая існавала ў Оршы ў 1925-27 гг. і праводзіла актыўную контррэволюцыйную барацьбу супроць партыі і яе кіраўніцтва. Шульман, Іоффе і інш. на словах адмежаваліся ад трацкізма, а на справе не праводзілі актыўнай барацьбы з контррэволюцыйнымі трацкісцкімі элементамі, бо самі, як паказала праверка, засталіся скрытымі трацкістамі. Рад скрытых трацкістаў прыбылі з іншых арганізацый. Скрываючы ад партыі свой трацкісцкі твар, яны ў той ці іншай форме прапагандавалі погляды контррэволюцыйнага трацкізма.

Узяць, к прыкладу, Когана Я. І. У 1927 г., працуючы ў Дзяржплане РСФСР, ён жульніцкі падтасаваў лічбы супроць генеральнай лініі партыі па пытанню аб накапленні. Гэтымі лічбамі карысталіся трацкісты, і сам Коган на партсходзе ячэйкі Дзяржплана выступіў з імі ў абарону контррэволюцыйнай платформы трацкістаў. За сваю актыўную контррэволюцыйную дзейнасць Коган, як прызнаўся сам на бюро РК, быў падняты лідэрамі трацкізма на шчыт. Коган фармальна прызнаў сваю памылку, у сувязі з чым ячэйка Дзяржплана аб'явіла яму толькі вымову. Захаваўшы сабе партбілет, Коган не толькі не раззброіўся як трацкіст, а наадварот, ва ўсёй сваёй далейшай рабоце быў двурушнікам, прапагандаваў контррэволюцыйны

трацкізм, старанна захоўваючы ад партыі сваю да яго прыналежнасць у мінулым.

У напісаных Коганам брашурах, выданых у 1930 і 1931 гг., прапагандуецца як у адкрытай, так і замаскаванай форме, контррэвалюцыйны трацкізм. У брашуры «Соўгасы, калгасы і МТС (1-шы год 2-й пяцігодкі і кантрольныя лічбы другога года)» Коган выказвае сумненне ў правільнасці генеральнай лініі партыі і заклікае к рэвізіі яе, адмаўляе ленінскае вучэнне аб саюзе рабочага класа з сялянствам і канчае брашуру сцверджаннем, што толькі бедната ўвойдзе ў калгасы. Будучы кіраўніком кафедры тэорыі совецкай гаспадаркі ў Масвоўскім транспартным інстытуце, Коган і там пратасквваў трацкізм, за што быў зняты з кіраўніцтва кафедры, але і па сёння не разззброіўся. За 1½ гады прабывання ў оршанскай партарганізацыі Коган ні на гарадскім партактыве, ні на сходах сваёй партарганізацыі не выступаў з выкрыццём контррэвалюцыйнага трацкізма. Нават у самы цяжкі для партыі час—у дні забойства падонкамі контррэвалюцыйнага трацкісцка-зіноўеўскага ахвосця народнага трыбуна тав. Кірава—Коган маўчаў. Атрымаўшы ад райкома заданне разам з інструктарам РК паехаць на Копыскі завод «Пралетарый» для прапрацоўкі закрытага ліста ЦК ВКП(б), Коган на працягу 8 дзён не знаходзіў для гэтага часу.

Сярод форм і метадаў контррэвалюцыйнай дзейнасці трацкістаў былі найбольш пашыраны: ідэалізацыя контррэвалюцыянера Троцкага, распаўсюджванне антысовецкіх, накіраваных супроць партыі і яе кіраўніцтва анекдотаў, выкарыстоўванне малейшых магчымасцей для пастаноўкі правакацыйных пытанняў на сходах, у палітгуртках і школах, згрупаванне вакол сябе нездаволеных, антысовецкі настроеных элементаў, блакіроўка з былымі меншавікамі, эсэрамі і т. д.

За час праверкі партдакументаў выяўлены і выключаны з партыі рад асоб, якія, маскуючыся, праводзілі ідэалізацыю контррэвалюцыйнага трацкізма.

Сарвана маска з групы белагвардзейцаў, кулакоў, бандытаў, удзельнікаў лева-эсэраўскага паўстання ў г. Орша ў 1918 г. Выкрыты правакатары, якіх імперыялістычныя дзяржавы спецыяльна пасылалі ў нашу краіну для шпіёнскай і дыверсійнай работы.

Прытаіўшыся, класавы вораг вядзе падрыўную контррэвалюцыйную работу. Так, на будаўніцтве Ільнакамбіната класавы вораг для падрыву стаханаўскага руху разбурыў у час абедзенага перапынку работу лепшага каменшчыка-стаханаўца; на Ільначасальнай фабрыцы 6 лепшых стаханавак былі занесены на чорную дошку; на Асінторфе група класавых ворагаў, узначаленая дзесятнікам, сістэматычна здзекавалася над лепшымі стаханаўцамі, не дастаўляла ім своечасова ваду, а часам і вылівала яе на зямлю, не давала спраўнага інвентара

Праверка партдакументаў ярка паказала, як класавы вораг выкарыстоўвае для сваёй шкодніцкай работы страту рэволюцыйнай пільнасці і разлажэнне паасобных комуністаў. У Якаўлевіцкім сельсовеце кулак загадчык пошты Жураўлёў схіліў на контррэволюцыйную аферу двух разлажыўшыхся комуністаў—сакратара сельсовета Зіманава і старшыню прафкома. Яны скуплялі ў калгаснікаў за бясцэнак аблігацыі дзяржаўных пазык, фабрыкавалі пастановы камсода аб іх продажы і прысвойвалі сабе атрыманыя грошы.

Разам з выкрыццём ворагаў партыі праверка дапамагла нам выявіць каналы, спосабы і метады пралязання класавага ворага ў рады

партыі. Найбольш лёгка ўдавалася яму гэта ў тых партарганізацыях, дзе не было дастатковай партыйнай пільнасці, дзе ратазейнічалі, запусцілі партыйную гаспадарку, несур'ёзна і не глыбока падыходзілі да прыёму ў партыю, перадаваючы другарадным работнікам выдачу партыйных дакументаў і прыём на ўлік. Асаблівая безадказнасць панавала ў партарганізацыі Осінторфа, праз якую пралез у партыю рад белагвардзейцаў, кулакоў і жулікаў.

* * *

Стаўшы на шлях перабудовы арганізацыйнай, партыйна-масавай і выхаваўчай работы ў адпаведнасці з указаннямі тав. Сталіна і рашэннямі XVII з'езда ВКП(б), партарганізацыя ўзняла вышэй сваю ролю ў справе мабілізацыі рабочых і калгасных мас на большэвіцкае выкананне чарговых гаспадарча-палітычных задач.

Добрая падрыхтоўка да партсходаў павысіла іх выхаваўчае значэнне і актыўнасць комуністаў (Ільнакамбінат, Мясакамбінат, соўгас «Усце», Белдрэс і інш.). Большасць партарганізацый ставіць на павестку дня пераважна пытанні партыйнай работы і самасправаздачы комуністаў. Ва ўсёй практычнай рабоце райкома асноўнае месца занялі партыйныя пытанні. Рэарганізацыя партыйнага апарата і ўвядзенне інстытута інструктароў палепшыла канкрэтнае кіраўніцтва і практычную дапамогу райкома пярвічным партарганізацыям.

Узнялася зацікаўленасць і адказнасць комуністаў за павышэнне свайго ідэйна-палітычнага ўзроўню, палепшылася наведванне заняткаў і якасць вучобы.

Выходзячы з вынікаў праверкі, у бягучым навучальным годзе ў горадзе і вёсцы арганізаваны 50 партыйных школ і гурткоў, з іх: 4 ВСПШ, вячэрні комвуз з адным філіялам, 3 гурткі па вывучэнню пасобных твораў класікаў марксізма, 3 гурткі па вывучэнню статута і праграмы партыі, 8 гурткоў для спачуваючых і 28 гурткоў па вывучэнню гісторыі ВКП(б), якімі ахоплена 87 проц. членаў і кандыдатаў партарганізацыі і 266 спачуваючых. Астатнія таварышы ахоплены завочным навучаннем і іншымі відамі партыйнай вучобы.

Праверка ўзняла партыйную пільнасць у падборы прапагандысцкіх кадраў. Калі ў мінулым былі дапушчаны да гэтай работы чуждыя элементы, то цяпер у прапагандысты падабраны правераныя таварышы з пэўнай палітычнай падрыхтоўкай і вопытам партыйнай работы. Склад прапагандыстаў правяраўся на бюро і асабіста сакратаром райкома. Палепшылася кіраўніцтва прапагандыстамі, сістэматычна склікаюцца семінары, арганізаваны індывідуальныя кансультацыі.

Партыйныя школы забяспечаны літаратурай. Кожная школа і гурток маюць двухтомнік Леніна, Маркса, аднатомнік Леніна—Сталіна і мастацкія творы.

Зацікаўленасць комуністаў у павышэнні свайго ідэйна-палітычнага ўзроўню вырасла настолькі, што партгабінет не ў сілах абслужыць усіх жадаючых, патрабуецца расшырыць памяшканне і павялічыць штат прапагандыстаў.

Палепшылася выхаваўчая работа таксама і ў комсамольскай арганізацыі. Для кіраўніцтва комсамольскімі палітшколамі райком вылучыў 20 падрыхтаваных членаў партыі, частка якіх прапушчана праз спецыяльныя курсы.

Каб павысіць агульна-адукацыйныя веды комуністаў, райком даў заданне прайсці ў бягучым навучальным годзе праграму 4-годкі. Звыш 50 кандыдатаў партыі будуць прапушчаны праз спецыяльныя курсы пры партгабінеце. Такія-ж курсы ствараюцца пры буйнейшых парткомах (Белдрэс, Осінторф, Мясакамбінат і інш.). 15 прапагандыстаў будуць дадаткова прапушчаны праз курсы, паколькі праверкай выяўлена, што ўзровень развіцця іх нездавальняючы.

Асаблівую ўвагу партарганізацыя ўдзяляе выхаванню спачуваючых. Усе яны зараз ахоплены вучобай. Большасць партарганізацый дае спачуваючым даручэнні па пытаннях партыйна-масавай работы, каб выхаваць у іх навыкі большэвіцкай арганізаванасці і дысцыплінаванасці. Райком намеціў заслухаць справаздачы паасобных партарганізацый аб рабоце са спачуваючымі і самасправаздачы спачуваючых, а таксама практычныя мерапрыемствы для палепшання работы і кіраўніцтва комсамольскай арганізацыяй.

Аднак з усёй рэзкасцю трэба сказаць, што да гэтага часу партыйная прапаганда ў раёне пастаўлена нездавальняюча. Таму неабходна цяпер гэтай справе ўдзяліць максімальную ўвагу.

За апошні час на прадпрыемствах, у калгасах, соўгасах разгарнуўся стаханаўскі рух. Прадпрыемствы раёна налічваюць зараз звыш 548 стаханаўцаў і стаханавак, якія паказваюць большэвіцкія ўзоры работы.

Комсамолец-токар Гольфард з дня ў дзень дае 549 проц. нормы, Мядзведзкі—300 проц., Лаўрэнцьева—495 проц., Ушакова—532 проц. Работніца Ільначасальнай фабрыкі пачала абслугоўваць машыну «Геклінг» адна, яе прыкладу паследвала яшчэ 16 работніц, што павысіла прадукцыйнасць працы кожнай да 210 проц. Качагар Белдрэса Шалупенка з аднаго катла перашоў на абслугоўванне двух, следам за ім на два катлы перашлі яшчэ 4 качагары.

Член партыі Радкевіч да праверкі партдакументаў лічылася адной з самых пасіўных комуністак, сваю норму выконвала на 90—95 проц. Партком вынес рашэнне аб выключэнні яе з радоў партыі. Пасля гутаркі ў райкоме і ў адказ на рашэнне бюро аб аднаўленні ў партыі Радкевіч абавязалася стаць лепшай комуністкай і работніцай камбіната. Зараз яна з'яўляецца першай стаханаўкай Мясакамбіната, прадукцыйнасць працы давяла да 390—400 проц. Асабістым прыкладам Радкевіч узняла стаханаўскі рух у сваім цэху, які ў мінулым не выконваў вытворчай праграмы. Цяпер цэх на 200 проц. перакрыў сваю праектную магутнасць.

Энтузіясты стаханаўцы выраслі ў калгасах і соўгасах. Брыгадзір калгаса «Чырвоны бераг» тав. Бондараў Кузьма па сваёй брыгадзе дабіўся ўраджайнасці 18 цэнт. пшаніцы з га, 15 цэнт. жыта, 17 цэнт. ячменю, 18 цэнт. аўса, 200 цэнт. бульбы і 300 цэнт. гародніны.

Свінарка калгаса «Чырвонае Шанькава» Кулік Насця вырасціла за год ад 10 свінаматак 172 парасят, прычым не дапусціла ні аднаго выпадку адыходу. 70-гадовая трапальшчыца калгаса «Брыгадзір» Бабашка Насця штодзенна вытропвала па 13 кгр. ільнавалакна 13 і 14 нумарам.

Праверка партдакументаў дала магчымасць глыбей вывучыць ідэйна-палітычны ўзровень комуністаў, іх запросы, яна адкрыла новыя багатыя рэзервы для вылучэння на адказную работу.

У працэсе праверкі на кіруючую партыйную работу райком вылучыў: інструктарам акружкома—1, інструктарамі райкома—5, сакра-

тарамі парткома—3, у апарат райкома—5, прапагандыстамі—8, на профсаюзную і гаспадарчую работу—27 чалавек. Створан моцны рэзерв для вылучэння на кіруючую партыйную, гаспадарчую і савецкую работу.

Для характарыстыкі новавылучаных кадраў можна прывесці некалькі прыкладаў.

**Юсічаў** (рабочы Белдрэс, член партыі з 1927 г.), вылучаны сакратаром парткома Мясакамбіната, добра спраўляецца з новай работай. З першага дня свайго прыходу на Мясакамбінат унёс свежы струмень у работу партыйнай арганізацыі, і яна пачала безупынна паляпшацца.

**Баскін** (старшыня сельсовета, член партыі з 1926 г.), вылучаны сакратаром парткома буйнейшага ў раёне будаўніцтва—Ільнакамбіната, таксама з першых дзён паказаў добры ўзор арганізацыі партыйнай работы.

**Засценская** (работніца Ільнакамбіната, 9 год вытворчага стажу, член партыі з 1932 г.), вылучаная старшынёю заўкома, зусім апраўдала сябе на гэтай рабоце.

**Корбан** (рабочы завода «Чырвоны Окцябр», член партыі з 1930 г.) вылучан старшынёю заўкома, і т. д.

Для выхавання і падрыхтоўкі рэзерва вылучэнцаў, райком наметаў правесці ў студзені спецыяльныя курсы.

Падводзячы вынікі праверкі партдакументаў, партарганізацыя моцна ўлічыла яе ўрокі, яшчэ больш завастрыла большэвіцкую пільнасць кожнага комуніста з тым, каб да канца знішчыць карэнні апартуністычнага дабрадушша, расхлябанасці і ратазейства, зрабіць статут партыі непарушнаю асновай унутранага жыцця кожнай партыйнай арганізацыі.

Рыхтуючыся да абмену партыйных білетаў і новага прыёму ў партыю, партарганізацыя будуе ўсю сваю работу так, каб кожны комуніст і ў першую чаргу партыйны апарат засвоіў, што ў партыю мы павінны ўцягваць сапраўды перадавых, адданых справе рабочага класа і лепшых людзей нашай слаўнай радзімы соцыялізма.

Ачысціўшы свае рады ад ворагаў партыі, дэзарганізатараў жалезнай большэвіцкай дысцыпліны і ўсіх недастойных насіць высокае званне члена вялікай партыі Леніна—Сталіна, большэвікі Оршанскага раёна яшчэ мацней згуртавалі свае рады, вышэй узнялі партыйную пільнасць і боездольнасць. Пад непасрэдным кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б і лепшага большэвіка Беларусі тав. Гікало яны пакажуць высокія ўзоры работы на ўсіх участках у барацьбе за пабудову бясkласавага соцыялістычнага грамадства.

---

**С. Мышалаў**

Сакратар дубровенскага РК КП(б)Б

# Праверка партыйных дакументаў і перабудова работы партарганізацыі

Праверка партыйных дакументаў у дубровенскай партыйнай арганізацыі і навядзенне большэвіцкага парадку ў партыйнай гаспадарцы праходзілі на высокім прынцыпова-палітычным узроўні, дзякуючы непасрэднай дапамозе і кіраўніцтву ЦК КП(б)Б. Арганізуючы праверку ў адпаведнасці з указаннямі закрытага ліста ЦК ВКП(б) і дырэктыў ЦК КП(б)Б, мы ўлічылі і спецыфічныя асаблівасці раёна ў мінулым, умовы, у якіх расла і выхоўвалася партыйная арганізацыя, рэзкае адставанне раёна на працягу раду гадоў у выкананні важнейшых мерапрыемстваў партыі і ўрада на вёсцы.

Значная засмечанасць раёна ў мінулым рознымі антысовецкімі групоўкамі (бандытызм, дробна-буржуазныя партыі Бунда, Паалейцыён і інш.) наклала свой адбітак на паасобныя звенні партыйнай арганізацыі, асабліва на партарганізацыю фабрыкі «Днепроўская мануфактура», дзе была значная праслойка выхадцаў з дробна-буржуазных шавіністычных партый, у прыватнасці з Бунда, не парваўшых з контррэволюцыйнай ідэалогіяй.

Па партстажу арганізацыя нашага раёна зусім маладая. Даволі сказаць, што 58 проц. арганізацыі ўступіла ў партыю ў 1930 годзе і пазней, і толькі 7,4 проц. уступіла ў перыяд 1917-20 гг. Праслойка рабочых у партарганізацыі нязначная—усяго 14 проц., пры наяўнасці 65 проц. служачых.

Прапрацоўка закрытага ліста ЦК ВКП(б) ад 13 мая праходзіла ва ўмовах вялікай актыўнасці, палітычнай завостранасці і разгорнутай большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі. На 21 агульным партсходзе, прысвечаным абгаварэнню закрытага ліста, удзельнічала 236 комуністаў—97 проц. усёй партарганізацыі. У спрэчках выступілі ў сярэднім каля 50 проц. усіх удзельнікаў сходаў, на паасобных сходах актыўнасць дасягала 85 проц. (соўгас «Арловічы», МТС, РВК, работнікаў каапераціі і інш.). Спрэчкі насілі канкрэтны выкрываўчы характар. У рэзультаце разгорнутай крытыкі і самакрытыкі, ужо ў час абгаварэння закрытага ліста, на паасобных комуністаў паступіў кампраметуючы матар'ял, выкрыты буйнейшыя недахопы ў рабоце пярвічных партарганізацый, райкома партыі, асабліва ў галіне арга-

нізацыі і пастаноўкі ўнутрыпартыйнай работы і палітычнага выхавання комуністаў.

Побач з гэтым выяўлены факты нядбайных адносін да хавання партыйных дакументаў.

Амаль ва ўсіх пярвічных партарганізацыях партыйная таспадарка была запушчана ў рэзультаце абыякавых да яе адносін. У пратаколах агульных сходаў цяжка было разабрацца. У выніку злачынна-нядбайных адносін да партдакументаў 6 комуністаў згубілі свае партбілеты. У члена партыі Кажурова невядома кім сарвана марка з партбілета аб праходжанні чысткі 1933 года. У архіве райкома партыі аказаліся 83 непагашаныя кандыдацкія карткі, узятыя ў выключаных і механічна выбыўшых з партыі і ў пераведзеных з кандыдатаў у члены.

Праверка партыйных дакументаў праводзілася на аснове ўсебаковага вывучэння кожнага комуніста, яго партыйнага твару, соцыяльнага паходжання, авангарднай ролі на вытворчасці, у калгасе, установе, яго ідэйна-палітычнага ўзроўню. Індывідуальнае знаёмства з членамі партыі дало магчымасць дасканала вывучыць якасць партыйна-выхаваўчай работы кожнай пярвічнай партарганізацыі, работы інструктароў райкома з комуністамі-адзіночкамі і кіраўніцтва райкома партыі гэтым важнейшым участкам.

У працэсе праверкі выяўлены буйнейшыя дэфекты ў партдакументах значнай часткі комуністаў. Усе гэтыя дэфекты—вынік выключнай неахайнасці партарганізацый, запаўняўшых партдакументы.

У рэзультаце праверкі класава-варожыя элементы выгнаны з радоў партыі. Усе яны ашуканчым шляхам пралезлі ў нашу большэвіцкую партыю і доўгі час карысталіся яе давер'ем толькі з-за прытуплення партыйнай пільнасці партарганізацый. Рад комуністаў прыцягнут да партыйнай адказнасці за несур'ёзныя адносіны пры выдачы рэкамендацый уступаючым у партыю.

Праверка партыйных дакументаў садзейнічала выяўленню засмечанасці таксама і ў паасобных звеннях совецка-гаспадарчага апарата. Аказаліся засмечанымі апараты сельсоветаў, асабліва Рассосенскі, Азерацкі і Цілевіцкі.

Трэба таксама адзначыць засмечанасць кіруючага складу фабрыкі «Днепроўская мануфактура». Дырэктар фабрыкі Кадышэс—выхадзец з Бунда, не зжыўшы яго контррэволюцыйнай ідэалогіі, праводзіў лінію па выжыванню з фабрыкі маладых спецыялістаў, ігнараваў партарганізацыю фабрыкі, заціскаў самакрытыку, груба адносіўся да рабочых. Інжынер Канькоў—у мінулым дэзерцір з Чырвонай арміі, быў звязан з чуждымі элементамі. Начальнік аховы Курзінер—у мінулым спекулянт. Сама партарганізацыя аказалася сільна засмечанай бундаўцамі, троцкістамі і чуждымі людзьмі.

* * *

Мы часта скардзіліся на тое, што кадраў нехапае. Праверка паказала, што гэта далёка не так, што нашы скаргі—рэзультат няведання людзей. Варта было толькі заняцца іх вывучэннем, як кадры знайшліся. За час праверкі партдакументаў партарганізацыя выявіла 21 чалавека і вылучыла іх на больш адказную работу. За лік сваіх уласных кадраў мы поўнасцю ўкамплектавалі партыйны апарат: вы-

лучылі 4 новых інструктароў райкома, прычым т. Дварэцкага—намеснікам сакратара РК, 6 старшынь сельсоветаў, старшыню торсовета, двух намеснікаў старшынь сельсоветаў, 4 старшынь сельпо, старшыню промарцелі, загадчыка пункта Заготзярно, намесніка загадчыка райза, старшыню рабачкома соўгаса. Усе гэтыя таварышы спраўляюцца з работай. Акрамя таго ёсць рэзерв з 7 чалавек, для вылучэння якога вядзецца падрыхтоўчая работа.

Праверка партыйных дакументаў зрабіла рашаючы зрух у перабудове і ўзмацненні партыйна-выхаваўчай работы. Ускрыты і выяўлены нашы слабыя месцы, буйнейшыя недахопы ў рабоце. Асноўнымі былі бясчланавасць у рабоце пярвічных партарганізацый, дрэнная пастаноўка работы сярод спачуваючых, неналаджанасць партыйнага кіраўніцтва комсамолам, слабая пастаноўка палітычна-масавай работы сярод калгаснікаў, асабліва калгаснага актыва, надзвычай нізкі ідэйна-палітычны ўзровень значнай часткі комуністаў.

З першых-жа дзён прапрацоўкі закрытага ліста ЦК ВКП(б) райком партыі рашуча прыступіў да ліквідацыі выяўленых недахопаў. Зараз рэгулярна праводзяцца адзіныя партдні ў пярвічных партарганізацыях, два разы ў месяц склікаюцца куставыя сходы комуністаў-адзіночак пры ўдзеле сакратароў і членаў бюро райкома, палепшылася падрыхтоўка да агульных партсходаў, на якіх пераважнае месца займаюць пытанні партыйнага характару. Праведзен спецыяльны партдзень па другому пункту статута—«Аб членах партыі і іх абавязках», на якім комуністы зрабілі самасправаздачы аб сваім удзеле ў палітычным жыцці, аб павышэнні сваёй ідэйнай узброенасці, аб рабоце сярод беспартыйных і т. п.

Сістэма работы райкома партыі карэнным чынам змянілася. Абвестка дня паседжання бюро больш насычана пытаннямі ўнутрыпартыйнай работы і палітычнага выхавання комуністаў, у асноўным ліквідавана празмерная самазагрузка райкома савецка-гаспадарчымі пытаннямі. Адменена таксама практыка пасылкі ў сельсоветы абязлічаных упаўнаважаных райкома, якія па сутнасці займаліся адміністраваннем, падмяняючы сельсоветы, ні за што не адказвалі і мала дапамагалі ў рабоце.

Пасылаючы свайго прадстаўніка ў сельсовет, райком дае яму канкрэтны ўчастак—калгас, брыгаду, на якім ён павінен асабістым прыкладам паказаць, як трэба арганізаваць палітычна-масавую работу і выкананне дырэктыў партыі і ўрада. Па выкананні даручэння прадстаўнік робіць справаздачу перад райкомам, што павышае яго адказнасць і дысцыпліну.

У ходзе праверкі партдакументаў райком заслухаў пярвічныя партарганізацыі МТС, партком фабрыкі, соўгас «Першае Мая» і інш. аб становішчы ў іх партыйна-выхаваўчай работы і па кожнай прыняў канкрэтныя рашэнні, абавязаўшы інструктароў праверыць выкананне. Заслуханы таксама самасправаздачы значнай часткі раённага партактыва—кіраўнікоў розных совецкіх і гаспадарчых арганізацый. Такі метад работы ўвайшоў у практыку райкома і нізавых партарганізацый, як адна з найлепшых форм кіраўніцтва і канкрэтнай дапамогі комуністу ў выпраўленні памылак, ідэйна-палітычным росце.

За час праверкі праведзен рад арганізацыйных мерапрыемстваў для правільнай перабудовы нізавых партарганізацый. Створаны 4 новыя пярвічныя партарганізацыі ў горадзе (фінработнікаў, промарце-

лей, судова-следчых органаў і сувязі). Некаторыя з пярвічных партарганізацый рэарганізаваны ў сувязі з вынікамі праверкі (выключэнне і перавод на іншую работу). Распрацаваны канкрэтныя мерапрыемствы па аб'яднанню раду комуністаў-адзіночак у тэрытарыяльныя партарганізацыі і кандыдацкія групы пры сельсоветах. Гэта мерапрыемства мае выключна важнае значэнне для ўмацавання работы вясковай часткі партыйнай арганізацыі, асабліва ў галіне ідэйна-палітычнага выхавання комуністаў, палепшання работы са спачуваючымі і падрыхтоўкі да новага прыёму ў партыю.

Перабудавана таксама сетка партыйнай асветы. На вёсцы, акрамя існуючых пры соўгасах і Ляднянскім местачковым совеце партшкол, створаны 4 куставыя школы па вывучэнню гісторыі партыі і 3 кандыдацкія школы, заняткі ў якіх адбываюцца рэгулярна 3 дні ў месяц з адрывам ад работы. Гэтае мерапрыемства цалкам сябе апраўдала— палепшылася палітычнае выхаванне комуністаў, павысілася якасць партыйнай вучобы. Усім комуністам, якія працуюць на вёсцы, райком выдаў хатнія бібліятэчкі з палітычнай і мастацкай літаратурай.

Нанова перагледжана і зацверджана гарадская сетка партасветы: 7 школ і турткоў па вывучэнню гісторыі партыі, 3 кандыдацкія школы, 4 школы для спачуваючых. Праверан увесь склад прапагандыстаў і кіраўнікоў школ. Для райпартактыва створаны 2 гурткі павышанага тыпу: 1 па гісторыі партыі і 1 па ленінізму. Асаблівая ўвага звернута на пастаноўку партыйна-выхаваўчай работы ў партарганізацыі фабрыкі. Школы і гурткі пераўкамплектаваны з улікам узроўню ведаў кожнага комуніста, падобран склад прапагандыстаў, створаны адпаведныя ўмовы для вучобы, арганізаваны партгабінеты. Для часткі комуністаў створана дадатковая школа па агульна-адукацыйных прадметах.

Значна палепшылася работа сярод спачуваючых. Усе яны ахоплены школамі партасветы, выконваюць паасобныя даручэнні партарганізацыі. Горш пастаўлена вучоба сярод спачуваючых-адзіночак, якія адарваны ад штодзеннага партыйнага кіраўніцтва. Але са стварэннем тэрытарыяльных партарганізацый гэты недахоп можна будзе хутка ліквідаваць.

Палепшылася таксама партыйнае кіраўніцтва комсамолам. Пярвічныя партарганізацыі і паасобныя комуністы ўсвядомілі сваю адказнасць за работу комсамола, за палітычнае выхаванне моладзі. Аднак гэты ўчастак усё яшчэ застаецца адным з адстаючых. Райком партыі і ўся партарганізацыя ў цэлым павінны ўдзяліць яму самую сур'ёзную ўвагу.

Важнейшым палітычным вынікам праверкі партдакументаў, побач з ачысткай радоў партыі ад бундаўскіх і жульніцкіх элементаў, людзей класава-чуждых і маральна раслажыўшыхся, з'яўляецца ажыўленне ўсёй унутрыпартыйнай работы. У партыйнай гаспадарцы наведзен большэвіцкі парадак, вывучаны самы каштоўны капітал партыйнай арганізацыі—кадры, людзі, што безумоўна палегчыла правільную расстаноўку сіл.

Рэзка павысіўся ўзровень ідэйна-палітычнага жыцця ўсёй партыйнай арганізацыі пасля праверкі партдакументаў. Вырасла актыўнасць, партыйная пільнасць комуністаў, іх непрымірымасць да ворагаў партыі і рабочага класа, узмацнілася партыйная дысцыпліна, больш дзельнай зрабілася большэвіцкая крытыка і самакрытыка, значна ўзрасла цяга да вучобы, адчуванне адказнасці комуністаў за даручаную справу, іх арганізуючая роля ў правядзенні генеральнай лініі

партыі. Рэзультаты праверкі партдакументаў ужо сказаліся ў практычнай рабоце партыйнай арганізацыі на важнейшых участках соцыялістычнага будаўніцтва. Рэзка падцягнуліся адстаючыя ўчасткі, асабліва на вёсцы.

Гэтыя станоўчыя вынікі ёсць, бясспрэчна, толькі першы крок па шляху перабудовы партыйнай работы, умацавання партыйнай арганізацыі і далейшага яе большэвіцкага загартавання. У нас яшчэ не мала буйнейшых недахопаў і арганізацыйных непаладак, але большэвікі Дубровеншчыны ўпэўнены, што здолеюць іх ліквідаваць сваёй упартай работай пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б на чале з тав. Гікало і ўзняць усю ўнутрыпартыйную і палітычна-выхаваўчую работу да ўзроўню палітычных задач нашай вялікай эпохі.

---

*Л. Эпштэйн*

# Вылучэнне новых парткадраў — баявая задача ўсіх арганізацый

Праверка партыйных дакументаў дапамагла не толькі выкрыць і выгнаць з партыі класава-чуждых людзей, ворагаў партыі, але і ўскрыць свае ўласныя недахопы і памылкі ў партыйна-арганізацыйнай рабоце, прыняць меры для яе карэннага палепшання.

Выяўленне новых большэвіцкіх кадраў, вывучэнне і вылучэнне іх на кіруючую работу—адно з важнейшых звенняў праверкі.

Менская партарганізацыя, паводле даных на 20 снежня, вылучыла на партыйную, гаспадарчую і профсаюзную работу 144 чал.: па Сталінскаму раёну—50, па Кагановічскаму—57, па Варашылаўскаму—37. З іх на кіруючую партыйную работу вылучаны: намеснікамі сакратароў і інструктарамі ў горрайкомы Менска 10, інструктарамі райкомаў у іншыя раёны—9, сакратарамі парткомаў—17, парторгамі—48, а разам—84 чалавекі.

Перыяд праверкі партдакументаў супадае з арганізацыяй у Менску трох раённых камітэтаў партыі. Апарат гэтых райкомаў амаль цалкам укамплектаваны з большэвікоў, вывучаных і вылучаных намі ў выніку праверкі.

Намеснікамі сакратароў оргбюро РК вылучаны таварышы:

**Пятрухін** (Кагановічскі райком)—ленінградскі рабочы, большэвік з 1919 года, актыўны ўдзельнік грамадзянскай вайны, быў неаднакроць старшынёю камісіі па чыстцы партарганізацый, у апошні час працаваў сакратаром парткома завода імя Варашылава.

**Перачынскі** (Варашылаўскі райком)—вырас на заводзе «Большэвік», дзе працаваў у якасці рабочага, а пазней сакратаром парткома.

**Дзяткова** (Сталінскі райком)—пачала сваю палітычную работу з важатага піонер-атрада, потым была на комсамольскай рабоце, а ў апошні час працавала інструктарам гаркома партыі.

Інструктарскі склад райкомаў:

**Фейгіна** (Сталінскі райком)—работніца, загадчыца яслей на заводзе імя Варашылава.

**Зальцман** (Сталінскі райком)—студэнт ВКСГШБ.

**Казлоўскі** (Кагановічскі райком)—сакратар парткома Горспажыўсаюза.

**Залеская** (Кагановічскі райком)—заг. партгабінета на фабрыцы імя Кагановіча.

**Савіцкі** (Варашылаўскі райком) — рэдактар шматтыражкі ў ВКСГШБ.

Тав. Канапацкі, член партыі з 1930 года, па нацыянальнасці татарын, рабочы стаж—18 год, па прафесіі гарбар-стругальшчык. Член пленума гаркома партыі. Да вылучэння працаваў на заводзе «Большэвік» спачатку рабочым, потым брыгадзірам, часта быў парторгам у брыгадзе. Старанна і ўпарта працаваў без адрыву ад вытворчасці над ліквідацыяй сваёй няграматнасці. Зараз мае агульную асвету за 4-5 груп, скончыў соўпартшколу, займаецца ў гуртку гісторыі партыі павышанага тыпу.

У час праверкі партдакументаў т. Канапацкі вылучан сакратаром парткома завода «Ланцугоў Галля». Пачынаючы партработу на заводзе, ён стаў уважліва вывучаць кожнага комуніста сваёй арганізацыі. У зборачны цэх, дзе не было парторга, вылучыў т. Жураўлёва, і там палепшылася кіраўніцтва палітыка-выхаваўчай работай. Каб ахапіць комуністаў вучобай, Канапацкі адным з першых пашоў на заняткі. Зараз усе комуністы вучацца. Партарганізацыя мела трох спачуваючых, з якімі ніякай работы не вялося. Канапацкі прымацаваў да кожнага членаў партыі—Марголіна, Віхоту, Шайтмана, якія прапрацоўваюць са спачуваючымі статут партыі і пытанні бягучай палітыкі. З шасцю лепшымі стаханаўцамі завода праводзіцца індывідуальная работа, каб уцягнуць іх у групу спачуваючых. Выкарыстоўваючы вопыт завода «Большэвік», т. Канапацкі разам з дырэктарам завода т. Марголіным, арганізавалі вучобу майстраў і начальнікаў цэхаў. Пачалі займацца 16 чалавек тэхнічнага актыва.

Тав. **Суражынскі**—рабочы клеевар завода «Большэвік», член партыі з 1930 года, зараз вылучан сакратаром парткома Трампарка.

Вось як зразумеў тав. Суражынскі сваю ролю і задачы: «Партработа з'яўляецца асабліва адказнаю справай. Працуючы ў партыйным камітэце, трэба людзей вучыць, а для гэтага і самому трэба вучыцца. Рэгулярна займаюся ў марксісцка-ленінскім гуртку. Я не хачу сказаць, што ўсё ведаю, але стараюся і імкнуся к таму, каб набыць максімум ведаў.

Тав. Суражынскі пачаў сваю работу з вывучэння людзей. У партарганізацыі Трампарка было многа маўчальнікаў (член партыі Баяровіч, кандыдаты Штанюк, Падабед і інш.). Тав. Суражынскі пачаў даваць ім канкрэтныя заданні, невялікія даклады, ад якіх яны спачатку ўсяляк адмахваліся, а цяпер сталі актыўнымі партыйцамі: прыходзяць у партгабінет за літаратурай, старанна рыхтуюцца да выступленняў і партсходаў. Тав. Падабед стаў лепшым стаханаўцам. За 15 дзён выканаў план на 226% і зарабіў 216 руб. замест 78.

Жывыя мерапрыемствы т. Суражынскага актывізавалі партарганізацыю, былыя маўчальнікі выступаюць зараз больш талкова, чым «штатныя» прамоўцы.

Тав. Суражынскі па сваёй ініцыятыве ўмела падбірае абвестку для партсходаў. Напрыклад, даклады па асобных раздзелах статута партыі даручаецца рыхтаваць тром комуністам, пры чым у партгрупе праводзіцца самаправерка, як кожны дакладчык засвоіў статут партыі.

Тав. **Кобец**—машыніст электрастанцыі, член партыі з 1928 года зараз вылучан сакратаром парткома швейнай фабрыкі «КІМ».

Вось, што расказвае нам тав. Кобец аб сваіх першых кроках: «Я заўважыў, што людзі забыліся аб сапраўдным значэнні праверкі

партдакументаў. Пагаварылі па гэтаму пытанню на адкрытым партсходзе і адразу-ж паступіў кампраметуючы матар'ял на трох членаў партыі».

Тав. Кобец здолеў згуртаваць вакол сябе актыў, заваяваць павагу і аўтарытэт у партарганізацыі, што натхняе яго на далейшае разгортванне партыйнай работы. З гэтага поваду ён гаворыць: «Адчуваецца, што парторгі і партактыў аднесліся да мяне, новага работніка, па-комуністычнаму. Калі даручаеш комуністу якую-небудзь работу, ён выконвае яе без агаворак. Калі я прыступаў да работы, мяне папярэдзілі, што некаторыя таварышы лічаць сябе вялікімі людзьмі і не хочуць выконваць даручэнні. Пасля гутаркі з імі справа адразу пашла добра. Я думаю, што партарганізацыя і ў далейшым дапаможа мне добра спраўляцца з работай».

Многія пярвічныя партарганізацыі зусім правільна зразумелі задачу вылучэння і вырошчвання партыйных кадраў. Яны дапамаглі гаркому і райкомам партыі вылучыць на розныя прадпрыемствы групу добрых і талковых таварышоў. Партарганізацыя завода імя Кірава за час праверкі вылучыла на кіруючую партыйную і гаспадарчую работу пяць чалавек; парторгамі, прафоргамі цэхаў і на іншыя работы—12 чалавек.

Партарганізацыя завода «Большэвік» вылучыла 11 чалавек, фабрыка імя Кагановіча—14 чалавек.

Сакратар парткома тав. Шамэс зусім правільна адзначыў: «З завода забралі групу работнікаў актыва. Работа партарганізацыі, здавалася, аслабне, але вышла наадварот. А чаму? Таму, што партком узяў правільную палітыку вырошчвання і вылучэння новых кадраў, настойлівай работы з імі».

Большасць партарганізацый да апошняга часу трымалася традыцыі прасіць у гаркома людзей, як толькі трэба было замяніць якога-небудзь адказнага работніка, забываючы аб магчымасцях вырошчвання ўласных новых кадраў.

Так было, напрыклад, з сакратаром парткома фабрыкі «Комунарка» тав. Рабкіным. Калі ён прынёс «патрабаванне» на людзей для замены выключаных у час праверкі партдакументаў, гарком параіў яму вывучыць сваіх, выяўленых у час праверкі.

Пазней т. Рабкін сам расказваў: «Была ў партарганізацыі думка, што не дастанем замены. Але варта было добра азнаёміцца з людзьмі, як выявілі з асяроддзя партарганізацыі групу партыйцаў, здольных заняць кіруючыя пасты ўнутры фабрыкі. Так, напрыклад, работніка аддзела кадраў т. Флендэра вылучылі старшынёю фабкома, т. Заводніка—парторгам мякка-шакаладнага цэха, т. Фрыдмана—загадчыкам вучкамбіната, т. Яглоўскага—начальнікам бісквітнага цэха. Але і гэтым не вычэрпваюцца нашы магчымасці. У рэзерве мы маем групу партыйцаў, якія зоймуць кіруючыя пасады пасля адпаведнай з імі работы.

Ведучы ўпартую паслядоўную работу над вырошчваннем кадраў, рад партарганізацый здолеў ужо знайсці ў сваіх радах і паставіць на кіруючыя партыйныя і профсаюзныя пасты новых выдатных большэвікоў.

На заводзе імя Кірава вылучан парторгам кавальскага цэха т. Саўчук—член партыі з 1930 года. Аб сабе ён расказвае: «Сам я селянін. Вучыўся ў саматужніка, потым у Чырвонай арміі, дзе ўступіў у партыю. Зараз працую кавалём на заводзе. Агульныя і пар-

тыйныя сходы наведваю акуратна. З 1933 года працаваў у цэху праформгам. Зараз мяне абралі парторгам. Я не рашаўся прыступіць да гэтай работы, бо адчуваў сябе палітычна слаба падкаваным і баяўся дапусціць памылкі. Аднак партком дапамог мне сваімі ўказаннямі, парадамі, і работа ў мяне наладзілася».

З дапамогай парткома т. Саўчук добра разгортвае работу партгрупы, дабіўся таго, што ўсе комуністы ахоплены вучобай. Тав. Грыневічу, які раней ніколі не вучыўся, рэкамендаваў школу, мастацкую літаратуру і асабіста правярае, як ён вучыцца. Саўчук— ініцыятар стаханаўскага руху ў сваім цэху, здолеў перадаць свой вопыт многім рабочым. У выніку кавальскі цэх мае 46 стаханаўцаў.

Праформгам новага механа-зборачнага цэха вылучылі т. **Галаўню**, кандыдата партыі з 1932 года. Раней яго лічылі бузацёрам, бо не здолелі прывіць партыйную адказнасць за даручаную работу праформга брыгады, увесь час дзёргалі, замест аказання дзелавой таварыскай дапамогі. Таму і з работай ён не спраўляўся. Індывідуальная справаздача на сходзе партгрупы дапамагла яму зразумець свае недахопы. Пасля таго гутарылі з ім у парткоме, у цэху. І вось т. Галаўня справіўся і з'яўляецца ўзорам перадавога комуніста ў цэху. Рэгулярна наведвае гурток па вывучэнню гісторыі партыі, добра рыхтуецца да заняткаў, чытае мастацкую літаратуру. Тав. Галаўня—адзін з першых стаханаўцаў новага механа-зборачнага цэха. У снежні сабраў тры станкі, замест аднаго.

Аналагічныя прыклады мы маем і на фабрыцы «Окцябр».

Вылучэнка т. **Вельтман** працуе на фабрыцы восем год, член партыі з 1931 года. Да праверкі партдакументаў была пасіўным членам партыі, ніколі не выказвалася на сходах, не заходзіла ў парткамітэт, была непрыметна ў партарганізацыі. Цяпер Вельтман—адна з першых стаханавак фабрыкі, паказвае добрыя поспехі ў партшколе, прымае актыўны ўдзел у партыйным жыцці, дзелавіта выступае, уносіць рад канкрэтных мерапрыемстваў у рабоце, з'яўляецца парторгам брыгады, у якой налічваецца ўжо 12 стаханаўцаў.

Партарганізацыя шчотачнай фабрыкі таксама мае добрых вылучэнцаў.

Тав. **Рыбіцкая**—з 1924 года працавала чорнарабочай, капала канавы. У 1929 г. прышла на шчотачную фабрыку адсталай, малаграматнай. У партыю ўступіла ў 1932 г. На сходах ніколі не выступала. Зараз вылучана майстрам аддзелачнага цэха, добра спраўляецца з работай, выступае на сходах, вучыцца ў гуртку па гісторыі партыі. Па даручэнню парткома выступіла на партсходзе з дакладам аб VII кангрэсе Комінтэрна.

Фабрыка імя Кагановіча вылучыла парторгам машыннага цэха т. **Галубіцкага.** У яго цэху выраслі ініцыятары стаханаўскага руху Беларусі. Тав. Галубіцкі так расказвае аб сваёй рабоце: «У маім цэху выраслі ініцыятары стаханаўскага руху фабрыкі тт. Скабло і Розенберг. Я іх уцягнуў у спачуваючыя, акружыў выключнай увагай. Праверка ўзняла нашу большэвіцкую пільнасць. Мы адразу заўважылі, што майстар Булкін перашкаджае т. Скабло працаваць, дабівацца новых рэкордаў. Арганізацыя зняла Булкіна з работы. У цэху 7 комуністаў. Як парторг, я пабываў у кожнага на даму, знаёміўся з бытам, з культурнымі інтарэсамі. Усе партыйцы вучацца. У старых рабочых з'явілася цяга ў партыю. За час праверкі партгрупа атрымала некалькі заяў аб уступленні ў спачуваючыя».

У рабоце з вылучэнцамі, побач са станоўчымі вынікамі, мы маем

і сур'ёзныя недахопы. Оргбюро райкомаў і партактыў прадпрыемстваў яшчэ мала ўвагі і клопатаў удзяляюць вылучэнцам, не аказваюць ім дапамогі. Таму паасобныя таварышы, вылучаныя сакратарамі парткомаў, не здолелі добра аўладаць даручанай ім справай. Нельга сказаць, што яны не спраўляюцца з работай. Як добрыя большэвікі, яны маюць палкае жаданне разгарнуць яе, але, не ведаюць за што спачатку ўхапіцца.

Возьмем к прыкладу тав. Гуманава.

Тав. Гуманаў—член партыі з 1925 года, мае 25-гадовы вытворчы стаж, працаваў электраманцёрам на заводзе імя Кірава, дзе быў парторгам цэха. Пасля вылучэння на пасаду сакратара парткома ЦЭЦ, тав. Гуманаў энергічна ўзяўся за партработу, перагледзеў і перабудаваў структуру партарганізацыі, вывучыў людзей, вылучыў новых парторгаў—тт. Радзюка і Маршака, уцягнуў інжынера-комуніста ў прапагандысцкую работу, сам кіруе палітгуртком спачуваючых.

Тав. Гуманаў скардзіцца: «На заводзе імя Кірава я быў самым актыўным удзельнікам марксісцка-ленінскага гуртка. Быў старастай гуртка. Разы 2-3 на месяц хадзіў у тэатр, часта наведваў кіно. Калі-ж перашоў на ЦЭЦ, то вышла так, што я нідзе не займаюся. Дырэктара ў нас няма, да зімы трэба было хутка падрыхтаваць барак. Па ўсіх такіх пытаннях ідуць у партком. Так вось цэлы дзень і праводзіш на прадпрыемстве. Паўстае пытанне: як-жа мне займацца?»

Тав. Гуманаў занадта перагрузіўся. Ён стараецца выканаць работу і за заўкома і за дырэктара, таму і не мае магчымасці працаваць над сабой.

Прывядзем яшчэ адзін прыклад.

Тав. Самойлаў—член партыі з 1928 г., машыніст электрастанцыі, вылучан сакратаром парткома. Як-жа падтрымаў партактыў электрастанцыі свайго ўласнага вылучэнца? Тав. Самойлаў заяўляе: «Прыступаючы да абавязкаў сакратара парткома, мне трудна было ўзяцца за гэту работу, бо дырэктар і паасобныя комуністы маюць спецыяльнасці інжынераў і больш за мяне палітычна развіты. Вучобу я не наведваў, бо быў у адпуску, а зараз не займаюся, таму што станцыя ў прарыве».

З паданых прыкладаў гарком і райкомы партыі павінны зрабіць адзін вывад: штодзенна дапамагаць вылучэнцам, праяўляць максімум чуласці да іх запросаў.

Нельга не адзначыць выдатную ініцыятыву сакратара парткома завода імя Кірава—тав. Шамэса. Калі з яго партарганізацыі быў вылучан т. Гуманаў сакратаром парткома ЦЭЦ, то т. Шамэс не парваў з ім цеснай сувязі і ўсямерна дзеліцца вопытам партработы, практычна дапамагае. Гэты сапраўды большэвіцкі прыклад непарыўнай сувязі з нашымі вылучэнцамі і таварыскай дапамогі трэба зараз-жа пераняць усім партарганізацыям.

Гарком і райкомы павінны арганізаваць сапраўдную дапамогу і інструктаж сакратароў парткомаў і парторгаў, асабліва вылучаных у працэсе праверкі, склікаць перыядычныя нарады для абмену вопытам, для абгаварэння планаў работы паасобных партарганізацый, для інфармацыі аб важнейшых дырэктывах партыі і практычных задачах партарганізацыі. Такія нарады павінны склікацца не толькі ў раённым маштабе, але і дыферэнцыявана (група партработнікаў металапрадпрыемстваў, швейных, совецкіх устаноў, навучальных і т. д).

Адным з канкрэтных метадаў практычнай дапамогі вылучэнцам з'яўляецца прымацаванне да іх работнікаў гаркома і райкомаў. Але дапамога гэта павінна быць умелай. Ні ў якім разе нельга падмяняць работу вылучэнца, падаўляючы яго ініцыятыву. Трэба вучыць яго на канкрэтных прыкладах пастаноўцы партыйнай работы.

Таксама трэба часцей наладжваць сустрэчы вылучэнцаў з больш вопытнымі партработнікамі, пасылаць іх на перадавыя прадпрыемствы для вывучэння паасобных пытанняў і метадаў партработы.

Нарэшце, асоба стаіць пытанне аб вучобе. Вылучэнцаў неабходна прапусціць праз кароткатэрміновыя курсы па пытаннях партыйнага будаўніцтва і арганізацыйных прынцыпаў бальшавізма. Акрамя таго, у некаторых выпадках арганізаваць індывідуальнае навучанне, у тым ліку і для павышэння іх агульнаадукацыйнага ўзроўню.

---

**М. Чаускі**

Заг. культпропа кагановічскага РК КП(б)Б

# Партыйную прапаганду і агітацыю—у цэнтр увагі

Праверка партдакументаў выклікала значнае ажыўленне партыйнай прапаганды. Непараўнаўча большы размах набыла ідэйна-выхаваўчая работа, значна пашырылася сетка партыйных школ і гурткоў, дасягнут некаторы якасны зрух у пастаноўцы партвучобы. Аднак у цэлым партыйная прапаганда пастаўлена пакуль што нездавальняюча.

Асноўным і самым буйным недахопам з'яўляецца тое, што многія сакратары парткомаў і парторгі безадказна адносяцца да пастаноўкі партвучобы на прадпрыемствах. Замест таго, каб папярэдзіць зрыў заняткаў, зацікавіцца кожным паасобным слухачом, яны часта займаюцца толькі голай фіксацыяй фактаў зрыву заняткаў, дрэннай засвяаемасцю ў гуртках.

Такая шкодная практыка асабліва ўкаранілася на шклозаводзе «Пралетарый» і на цагельным заводзе № 1.

Кандыдацкая школа на шклозаводзе «Пролетарый» закончыла праграму па падручніку Воліна, але вынікі вучобы не падводзіліся, засваяемасць не правяралася. У школе ленінізма займаюцца непадрыхтаваныя да гэтай праграмы члены партыі, над сабой яны зусім не працуюць. Прапагандыст прачытвае матар'ял і лічыць сваю місію на гэтым закончанай. Памяшканне для заняткаў няўтульнае, бруднае, паламаныя крэслы, тусклае святло. Слухачы самі гавораць, што школа ленінізма ім не па-плячу, што ў іх цяга да вывучэння гісторыі партыі.

Сістэматызацыя і ўлік работы гурткоў усё яшчэ пастаўлены дрэнна. Гурткі часта не заканчваюць праграму, пераскакваюць з адной праграмы на другую, па 4-5 год вывучаюць гісторыю партыі і ніяк не дабяруцца да канца. Пры такой пастаноўцы справы ў слухачоў прападае імкненне вучыцца.

Выключна дрэнна пастаўлена партыйная вучоба ў савецкіх установах. Райкомам праверана 40 савецкіх устаноў і школ. Рэдка дзе ў савецкай установе члены партыі займаюцца сістэматычна, большасць ухіляецца ад вучобы па матывах занятасці, раз'ездаў, камандзіровак і т. п.

У Белдзяржснабзбыт гарком накіраваў прапагандыста для работы ў гуртку па вывучэнню гісторыі партыі, але парторг т. Чэртоў не паклапаціўся гэты гурток арганізаваць.

Выключна дрэнна пастаўлена партвучоба з комуністамі-адзіночкамі, большасць якіх зусім не займаецца. Праўда, за апошні час райкам прыняў некаторыя захады для ўцягнення адзіночак у пар-

тыйную сетку, праведзены тры палітзаняткі. А зараз арганізаваны раённыя гурткі па вывучэнню гісторыі партыі, якімі будуць ахоплены комуністы дробных партарганізацый і комуністы-адзіночкі.

Механічны падыход некаторых арганізацый да ўкамплектавання партыйнай сеткі ставарае лішнія труднасці ў вучобе. Прапагандыст БДУ т. Алай заяўляе: «У маім гуртку павышанага тыпу займаецца 25 чалавек. Пры наборы ў гурток да людзей падышлі фармальна. Тут ёсць добра развітыя, адносна падрыхтаваныя і слабенькія па свайму палітычнаму развіццю таварышы. Ясна, што з такім складам вельмі цяжка займацца».

Першыя дні праверкі паказалі, што партвучоба на фабрыцы «Окцябр» пастаўлена нездавальняюча. Партарганізацыя прыняла рад мер для ліквідацыі гэтага недахопу. Ліквідавана сезоннасць у партвучобе. За апошнія 3-4 месяцы гурткі і школы працуюць бесперабойна. Арганізавана гібкая сетка партасветы, прыстасаваная да ўзроўню развіцця і запатрабаванняў кожнага члена, кандыдата партыі і спачуваючага.

Бясспрэчнага зруху ў пастаноўцы партыйнай асветы таксама дабіліся партарганізацыі фабрык імя Кагановіча і імя Куйбышэва.

Самае-ж лепшае, што мы маем за апошні час у пастаноўцы партвучобы, гэта тое, што рад членаў партыі, кандыдатаў, якія да праверкі былі пасіўнымі ў партыйным жыцці, слаба вучыліся, туга засвойвалі пытанні, што разбіраліся на гуртку, у школе, зараз, пасля таго як яны прашлі праверку, атрымалі адпаведныя ўказанні і пасля таго як за гэтую справу канкрэтна ўзялася партыйная арганізацыя, яны зрабілі для сябе сур'ёзныя вывады. Мы маем многіх членаў партыі, якія значна выраслі за апошні час. На іх варта спыніцца:

Тав. **Татарскі** (фабрыка імя Кагановіча)—член партыі з 1928 года, не разбіраўся ў самых элементарных пытаннях палітграматы, слаба ўдзельнічаў у партыйным жыцці. Пры праверцы гэтаму таварышу ўказалі на яго слабы ідэйна-палітычны ўзровень, паставілі індывідуальную справаздачу на парткоме, дзе ён падзяліўся сваёй думкай аб тым, чаму і што яму цяжка засвоіць. Да яго падышлі індывідуальна, змясцілі ў школу па ўзроўню ведаў. Прашло некалькі месяцаў, і ён сам канстатуе факт свайго росту. На тэарэтычнай канферэнцыі, па матар'ялах VII кангрэса Комінтэрна т. Татарскі зрабіў даклад на тэму «Аб адзіным фронце пролетарыята», прычым нядрэнна карыстаўся матар'яламі кангрэса, цытатамі з твораў Леніна па пытаннях адзінага фронту.

Тав. **Зарэцкер** (ф-ка імя Кагановіча)—кандыдат партыі, на сходах, у палітгуртках быў упартым «маўчальнікам», а зараз выступае з дакладамі і на занятках і на партсходах. Значна выраслі комуністы Баскін, Шахновіч, кандыдаты партыі—Фітэрсон, Ошэраў і інш. У гэтым—безумоўна заслуга партарганізацыі.

Або ўзяць партыйны камітэт фабрыкі «Окцябр». Пры праверцы партдакументаў многія члены партыі былі палітычна малаграматныя, некаторыя не маглі адказаць на рад элементарных пытанняў. Сакратару парткома тав. Канопіку прышлося моцна ўзяцца за наладжанне партвучобы на фабрыцы і падумаць аб павышэнні ідэйна-палітычнага ўзроўню не толькі комуністаў, але і кандыдатаў і спачуваючых. Зараз тав. Канопік ужо можа расказаць аб поспехах у вучобе паасобных членаў партыі, кандыдатаў і спачуваючых.

Тав. **Зеленка**—член партыі з 1931 г., лічылася мала падрыхтава-

най, а зараз зрабіла даклад на тэму: «Вучэнне Леніна—Сталіна аб дыктатуры пролетарыята».

Тав. **Ладышаў**—кандыдат партыі талкова выступіў па пытанню аб нацыянальнай палітыцы партыі.

Тав. **Бурштэйн**—кандыдат партыі даў разгорнуты аналіз ленінскага закону аб нераўнамернасці развіцця капіталізма, расказаў пра вучэнне Леніна—Сталіна аб пабудове соцыялізма ў адной краіне.

Тав. **Бергман** і іншыя члены партыі ўжо не раз граматна выступалі па раду палітычных пытанняў.

Для глыбокага тэарэтычнага вывучэння даклада тав. Берыя «К пытанню аб гісторыі большэвіцкіх арганізацый у Закаўказзі» партком фабрыкі імя Кагановіча яшчэ ў пачатку снежня вынес рашэнне аб неабходнасці правесці тэарэтычную канферэнцыю.

Да канферэнцыі партарганізацыя пачала рыхтавацца са снежня мінулага года. Уся партыйная сетка фабрыкі ўдзяліла максімум увагі прапрацоўцы даклада тав. Берыя, і ў выніку партком выявіў больш 70 членаў і кандыдатаў партыі, якія могуць выступіць з дакладам па пытанню гісторыі большэвіцкіх арганізацый у Закаўказзі.

Увесь даклад тав. Берыя быў разбіты на 8 тэм. Па кожнай тэме вызначана 8—9 дакладчыкаў, у дапамогу якім партком мабілізаваў прапагандыстаў і партактыў фабрыкі. З усімі дакладчыкамі праведзена кансультацыя, а па некаторых больш складаных раздзелах, як «Нацыянальнае пытанне», «Перыяд рэакцыі»,—па некалькі кансультацый.

Для падрыхтоўкі дакладчыкаў былі выкарыстаны, акрамя даклада тав. Берыя, творы Леніна—Сталіна: «Пытанні ленінізма», VII і VIII томы твораў Леніна, а таксама мастацкая літаратура: «Маці» Горкага, «Цусіма» Новікава-Прыбоя і інш. У працэсе падрыхтоўкі да канферэнцыі партгрупы заслухоўвалі паасобных комуністаў, як яны рыхтуюцца к дакладу. Так, партгрупа закройнага цэха заслухала тт. Бярэзіна, Кождана, Капелевіча, 2 групы першага пашывачнага цэха—тт. Ліпкінда, Дзебака, Бацвініка, партгрупа штамповачнага цэха—тт. Баскіна, Гельфанда. У дапамогу слабым таварышам прымацавалі больш падрыхтаваных.

6 студзеня партком праверыў, як падрыхтаваліся да канферэнцыі тт. Макарэвіч, Шахновіч, Бацвінік, Шлепакоў, Альбух, Кождан і рад іншых. Пры гэтым выявілася неабходнасць прымацаваць прапагандыстаў да групы таварышоў для дадатковай прапрацоўкі з імі матар'ялаў на даму. 13 студзеня на кватэрах тт. Ліпкінда, Будніка, Ліпкера, Фрыдлянда, Гельфанда, Пеўзнера і інш. праведзена прапрацоўка і кансультацыя па тэмах дакладу. Прысутнічала 50 членаў партыі.

19 студзеня з уступным словам на канферэнцыі выступіў прапагандыст тав. Альяс. Па першай тэме выступіў член партыі тав. Бярэзін (закройны цэх), які раней рэдка выказваўся на сходах. Тав. Бярэзін зрабіў добры даклад і завастрыў увагу ўсёй партарганізацыі на неабходнасць вывучаць кожнаму комуністу гісторыю нашай большэвіцкай партыі. Далей выступіў тав. Шахновіч, які ярка ахарактарызаваў ролю тав. Сталіна ў арганізацыі большэвіцкіх арганізацый у Закаўказзі. Тав. Шахновіч—адзін з актыўных слухачоў партыйнай школы, добра рыхтуецца да заняткаў. Партгрупа абрала яго парторгам цэха. Добра падрыхтаваліся к дакладу тт. Тамашоў, Фрыдлянд, Шлепакоў, Бейненсон, якія раней рэдка выступалі па тэарэтычных пытаннях.

Побач з добрымі выступленнямі, трэба адзначыць паасобных комуністаў, якія, лічачы сябе ўсезнайкамі, не падрыхтаваліся да канферэнцыі. Так, тав. Фішкін заблытаўся ў пытанні аб значэнні лозунга партыі аб самавызначэнні нацыі аж да яе дзяржаўнага аддзялення. Не падрыхтаваліся таксама тт. Бацвінік, Рахлес.

Канферэнцыя працягвалася 7 гадзін. Усяго выступіла 26 членаў і кандыдатаў партыі.

Канферэнцыя паказала, што ў выніку праверкі партдакументаў значна ўзнялася актыўнасць і ідэйна-палітычны ўзровень членаў і кандыдатаў нашай арганізацыі. Многія таварышы ўяснілі сабе рад незразумелых раней пытанняў з дакладу тав. Берыя.

Перад партыйным камітэтам паўстала цяпер пытанне аб пераводзе часткі комуністаў з партыйнай школы ў марксісцка-ленінскі гурток (Фрыдлянд, Бярэзін, Таманаў), аб дадатковых гадзінах на агульнаадукацыйныя прадметы для павышэння ўзроўню кандыдатаў партыі тт. Лавіт, Торгмана, Кумок.

Тэарэтычная канферэнцыя дала магчымасць выявіць рад таварышоў, якія могуць быць скарыстаны ў якасці цэхавых агітатараў (Фрыдлянд, Бярэзін, Гельфанд, Баскінд і інш.).

На фабрыцы імя Куйбышэва да тэарэтычнай канферэнцыі па пытаннях стаханаўскага руху рыхтавалася 40 дакладчыкаў. Многія з іх ніколі раней не выступалі. Вяліка было здзіўленне сакратара парткома тав. Бруднера, калі ён убачыў, як адзін за другім падыходзяць да трыбуны і толкова выступаюць раней непрыметныя людзі. Тут ён пераканаўся ў безгрунтоўнасці сваіх разважанняў аб тым, што пашырыць сетку агітатараў і бяседчыкаў-чытчыкаў немагчыма, бо не хапае людзей. Ён пераканаўся ў тым, што многім з выступаўшых можна даручыць гэтую сур'ёзную справу.

На шчотачнай фабрыцы ў працэсе праверкі партдакументаў таксама выраслі новыя кадры здольных людзей (тт. Беланоўская, Рэбінская, Шамэс, Баброва і інш.).

Тав. **Гуліна** Ольга з фабрыкі імя Куйбышэва расказвае: «Мяне правяраў т. Хадасевіч. Усё, гаворыць ён, добра, але вось адстала ты моцна, слабы твой палітычны ўзровень. І сапраўды. Мне 55 год, я дэпутат горсовета, дзеці ў мяне добрыя: сын працуе на маскоўскім аўтазаводзе, працуе і дачка, самы малодшы сын, комсамолец, працуе тут-жа на фабрыцы, добры ўдарнік-стаханавец. Сама я стаханаўка. Нутром сваім разумею палітыку партыі, ведаю, за што яна змагаецца, а вось вытлумачыць не магу. Трудна мне. Мяне часта лаялі за адсталасць, але не цікавіліся ў чым-жа тут справа? Не зацікавіліся тым, што, калі я прыходжу дамоў, п'яны муж часта наладжвае скандалы і бойкі. Заўсёды я нэрвуюся. Цяпер мяне выслухалі, падышлі па-таварыску, прымацавалі настаўніка, і я спадзяюся, што свой культурны і палітычны ўзровень узніму».

У нас не мала такіх комуністаў, якія гадамі праседжваюць у гуртках і не праяўляюць ніякіх поспехаў у вучобе. А чаму? Таму, што большасць з іх проста не падрыхтаваны да гэтых заняткаў, іх патрэбна перасадзіць у такі гурток, які адпавядаў-бы іх узроўню развіцця, або навучыць чытаць і пісаць.

Да падбору людзей у партыйную сетку трэба падыходзіць з усёй сур'ёзнасцю. Механічны падыход да гэтай важнейшай справы можа прывесці к таму, што гурткі і школы будуць працаваць упустую. Адначасова з гэтым мы павінны ў школах і гуртках мацней завастрыць увагу і класавую пільнасць членаў партыі і комсамоль-

цаў к ворагам партыі, якія спрабуюць скарыстаць заняткі ў сваіх мэтах для прапаганды контррэволюцыйных тэорый. А такія выпадкі мы ўжо мелі 2 лістапада ў Белскурабутактрэсце на занятках гуртка па вывучэнню гісторыі партыі. Праходзілі тэму «Окцябрская рэволюцыя». Член партыі Гехтэр, заўважыўшы, што прапагандыст т. Вальфоўскі недастаткова падрыхтаваўся да гэтай тэмы, выступіў з контррэволюцыйнай трацкісцкай тэорыяй, нібы Окцябрская рэволюцыя з'яўляецца буржуазна-дэмакратычнай. У гэтым факце партарганізацыя нічога сур'ёзнага не ўгледзела. Настойлівыя просьбы т. Вальфоўскага разабраць справу на парткоме засталіся без адказу, пакуль не ўмяшаўся райком. Але нават і пасля таго як гэтае пытанне стаяла на парткоме, пасля таго як усе слухачы ўскрылі контррэволюцыйнасць трактоўкі Гехтэра, партком ніяк не мог расквітацца з гэтым трацкісцкім паследышам. Оргбюро райкома выключыла Гехтэра з партыі.

Гэты факт сігналізуе аб тым, што партарганізацыі павінны больш сур'ёзна правяраць работу школ і гурткоў, узняць сваю пільнасць і своечасова рэагаваць на няправільныя выступленні паасобных слухачоў, а часта і класава-варожыя выступленні чуждых элементаў. Прапагандысты павінны дапамагчы партыйным арганізацыям выкрываць тых, хто спрабуе ўзвесці паклёп на нашу партыю.

Партыйныя камітэты павінны па-сапраўднаму ўзначаліць работу школ і гурткоў, арганізаваць сапраўдны кантроль, ударыць па бюракратычных адносінах да гэтай справы і папярэдзіць дабрадушша і самасупакоенасць, якія часта скрываюцца за агульнымі лічбамі ахопу вучобай.

* * *

На выключную вышыню ўздымаецца роля і значэнне прапагандысцкай работы ў сувязі са стаханаўскім рухам. У стаханаўскім руху вялікі правадыр нашай партыі тав. Сталін з уласцівай яму празарлівасцю раскрыў пачаткі таго культурна-тэхнічнага ўздыму рабочага класа нашай краіны, той шлях, які вядзе да ліквідацыі процілегласці паміж працай разумовай і працай фізічнай, забяспечвае тую высокую прадукцыйнасць працы і багацце прадметаў спажывання, якія неабходны, каб пачаць пераход ад соцыялізма к комунізму.

> «Значэнне стаханаўскага руху заключаецца ў тым, што ён з'яўляецца такім рухам, які ламае старыя тэхнічныя нормы, як недастатковыя, перакрывае ў цэлым радзе выпадкаў прадукцыйнасць працы перадавых капіталістычных краін і адкрывае, такім чынам, практычную магчымасць далейшага ўмацавання соцыялізма ў нашай краіне, магчымасць ператварэння нашай краіны ў найбольш заможную краіну.
>
> Але гэтым не вычэрпваецца значэнне стаханаўскага руху. Яго значэнне заключаецца яшчэ ў тым, што ён падрыхтоўвае ўмовы для пераходу ад соцыялізма к комунізму.
>
> ... Хіба не ясна, што стаханаўцы з'яўляюцца наватарамі ў нашай прамысловасці, што стаханаўскі рух прадстаўляе будучыню нашай індустрыі, што ён змяшчае ў сабе зярно будучага культурна-тэхнічнага ўздыму рабочага класа, што ён адкрывае нам той шлях, на якім толькі і можна дабіцца тых вышэйшых паказчыкаў прадукцыйнасці працы, якія неабходны для пера-

ходу ад соцыялізма к комунізму і знішчэння процілегласці паміж працай разумовай і працай фізічнай?» **(Сталін).**

Давесці прамову таварыша Сталіна і матар'ялы апошняга пленума ЦК ВКП(б) аб стаханаўскім руху да свядомасці кожнага рабочага і работніцы, арганізаваць масы на новы гераізм працы—вось якую задачу райком партыі паставіў перад сабой і ў прыватнасці перад кожным прапагандыстам.

Новы этап соцыялістычнага будаўніцтва, шырокі стаханаўскі рух, які ахапіў нашы прадпрыемствы і выклікаў новую хвалю спаборніцтва, новыя рэкорды,—патрабуюць ад нас рэзка падняць арганізацыйна-партыйную работу і якасць партыйнай прапаганды.

* * *

Палітычнай агітацыі ў масах наша большэвіцкая партыя на ўсіх этапах свайго гістарычнага шляху ўдзяляла вялікую ўвагу, бо «метад пераконвання з'яўляецца асноўным метадам кіраўніцтва партыі класам» **(Сталін).** Нязмерна выраслі патрабаванні да нашай палітычнай агітацыі ў сувязі з ростам культурнага і палітычнага ўзроўню мас.

Тав. Сталін вучыць нас, што:

«Партыя павінна з дня ў дзень заваёўваць сабе давер'е пролетарскіх мас, што яна павінна сваёй палітыкай і сваёй работай каваць сабе падтрыманне мас, што яна павінна не камандваць, а пераконваць перш за ўсё, палягчаючы масам распазнаць на ўласным вопыце правільнасць палітыкі партыі, што яна павінна, значыць, быць кіраўніком, правадыром, настаўнікам свайго класа» *).

У сувязі з праверкай партыйных дакументаў і па нашаму раёну значна ажывілася большэвіцкая агітацыя. Усё шырэй укараняецца сістэматычная чытка газет, палітгутаркі ў цэхах, брыгадах, індывідуальная агітацыя ў бараках і інтэрнатах нашых навучальных устаноў і на кватэрах рабочых.

Намнога лепш падрыхтоўваюцца нашы дакладчыкі. Ёсць некаторыя зрухі ў выхаваўчай рабоце з кадрамі агітатараў. Мы маем пасобныя факты, калі заслухоўваюцца справаздачы агітатараў на парткомах. Тварам да агітатара павярнуліся і некаторыя шматтыражкі і парткабінеты.

Вялікую актыўнасць праявілі агітатары і бяседчыкі ў час прапрацоўкі прамовы тав. Сталіна на нарадзе стаханаўцаў і матар'ялаў па стаханаўскаму руху.

За некалькі дзён да з'яўлення ў друку прамовы тав. Сталіна парткомы правялі на фабрыках, у навучальных установах спецыяльныя нарады з агітатарамі-чытчыкамі для прапрацоўкі матар'ялаў нарады і перадавіцы «Праўды»—«Слухаючы Сталіна». Раніцой, калі газет яшчэ не было ў кіёсках, агітатары і чытчыкі былі ўжо забяспечаны прамовай тав. Сталіна.

На фабрыках «Кагановіча», «Окцябр», «Куйбышэва» у цэхах, агрэгатах, сталовых ужо зранку з'явіліся лозунгі з прамовы

*) Пытанні ленінізма, выд. X, стар. 121.

тав. Сталіна. Агітатары прапрацоўвалі прамову ў брыгадах, цэхах, інтэрнатах. Пасля работы былі праведзены мітынгі. Прамова правадыра была прапрацавана на кватэрах лепшых рабочых. Значную работу правялі агітатары і чытчыкі ў гадавіну забойства тав. Кірава. Партарганізацыя БДУ сістэматычна арганізуе чытку газет і індывідуальную агітацыю ў бараках і інтэрнатах.

Праведзеная агітацыйна-масавая работа ў цэхах, брыгадах, на кватэрах рабочых, у сувязі з прапрацоўкай матар'ялаў па стаханаўскаму руху, не прашла дарма. Аб гэтым сведчаць наступныя факты.

На фабрыцы імя Кагановіча яшчэ 8 кастрычніка быў толькі адзін стаханавец—Скабло Зэлік. 10 кастрычніка іх было трое: Скабло Зэлік, Скабло Гірша і Розенберг Самуіл. А пасля прапрацоўкі прамовы таварыша Сталіна і матар'ялаў нарады рух мас за стаханаўскі метад работы хутка пачаў разрастацца.

Большасць комуністаў, комсамольцаў і, што характэрна,—у першую чаргу агітатары, чытчыкі-бяседчыкі перашлі на стаханаўскія метады работы. Арганізуючую ролю адыграла партыйная група тав. Галубіцкага ў першым пашывачным цэху. У другім пашывачным цэху арганізаваў работу і паказаў прыклад агітатар-комуніст тав. Поляк, які на прашыўнай машыне пры норме 432 пары зрабіў 1.116 пар. Такую-ж ролю адыграў у закройным цэху комуніст-праформ тав. Піпкер. Агітатары ў цэхах арганізуюць новы ўздым рабочага калектыву сваім асабістым прыкладам у рабоце. Агітатары-комуністы Гармізо, Фрыдлянд, Ошэраў сталі стаханаўцамі і выконваюць нормы вышэй 200 процантаў.

Майстар-агітатар лепшага (пашывачнага) цэха праявіў вялікую актыўнасць і ініцыятыву ў справе арганізацыі свайго агрэгата для бесперабойнай работы стаханаўцаў. Начальнік цэха комуніст агітатар тав. Альбрух правёў вялікую работу па перабудове працэсаў для ўкаранення стаханаўскіх метадаў. Ён добры арганізатар і вынаходца. Па яго ініцыятыве ўстаноўлен светлавы электрычны цыркуль для вымеру наска на абцяжной машыне.

Вялікую агітацыйную і масавую работу праводзіць парторг пашывачнага цэха тав. Галубіцкі. У рэзультаце яго работы лепшыя стаханаўцы тав. Скабло, Зэлік і Розенберг Самуіл падалі заявы і прыняты ў групу спачуваючых. Тав. Галубіцкі практыкуе скліканне вытворчых нарад, ён добра ведае жыццё і добрабыт кожнага стаханаўца паасобку, бывае ў іх на кватэрах. А стаханаўцы ў яго дома прапрацоўваюць прамову тав. Сталіна і іншыя матар'ялы.

На фабрыцы «Окцябр» у той дзень, калі з'явілася прамова тав. Сталіна ў друку, сабралася тысячная маса рабочых. Арганізаваным парадкам, са сцягамі і партрэтамі таварыша Сталіна яны дэманстравалі па вуліцах сваю адданасць партыі і любімаму правадыру. Быў праведзен вялікі мітынг. Прамова таварыша Сталіна прапрацоўвалася ў цэхах, брыгадах. На 25 рабочых кватэрах, дзе ўсяго прысутнічала 600 чалавек, вывучалі прамову тав. Сталіна. У выніку папулярызацыі стаханаўскіх метадаў лік стаханаўцаў на фабрыцы ўзрос да 350 чалавек.

Такія-ж зрухі мы маем і па фабрыцы «Куйбышэва», шчотачнай і інш.

Рашэнні пленума ЦК ВКП(б) выклікалі новы ўздым палітычнай актыўнасці сярод рабочых. Агітатары, чытчыкі-бяседчыкі прапрацоўвалі матар'ялы пленума на агульных сходах рабочых, у цэхах,

брыгадах, на кватэрах. На радзе фабрык (імя Кагановіча, «Окцябр», «Куйбышэва», войлачная і інш.) праведзены стаханаўскія змены, суткі і пяцідзенкі. Перад гэтым праводзілася вялікая агітацыйна-масавая работа. Партком фабрыкі імя Куйбышэва правёў спецыяльную нараду агітатараў, чытчыкаў-бяседчыкаў, якая абгаварыла задачы палітычнай агітацыі ў сувязі са стаханаўскімі суткамі. З дапамогай агітатараў па цэхах былі праведзены агульныя сходы рабочых і вытворчыя нарады па групах. Дакладчыкі стаханаўцы расказвалі, якімі метадамі яны павысілі сваю выпрацоўку. У цэхах, у брыгадах былі сабраны рабочыя прапановы, выпушчаны спецыяльныя групавыя насценгазэты з прапановамі па пытанню правядзення стаханаўскіх сутак.

К 9 студзеня ўсё было падрыхтавана. Адміністрацыйна-тэхнічны персанал і ўсе рабочыя былі гатовы пачаць работу. Стаханаўскія суткі праведзены бліскуча. Паасобныя рабочыя стаханаўцы паказалі ўзоры рэкорднай прадукцыйнасці працы. Работніца Башкова за адну гадзіну 50 мінут выканала дзенную норму на 109 %, Дзятко выканаў норму на 680%.

У выніку павялічаны супроць снежаньскага на 25% сутачны план фабрыкі (45.000 руб.) выканан на 144% пры значна меншай затраце рабочай сілы. Добрых вынікаў дабіліся пры правядзенні стаханаўскіх змен і сутак фабрыка «Окцябр», імя Кагановіча, войлачная і інш.

Сярод рабочых і служачых моцна вырасла зацікаўленасць міжнароднымі падзеямі і пытаннямі ўнутранага становішча. Рабочыя фабрык імя Куйбышэва, імя Тэльмана, Хлебазавода задаюць рад пытанняў, звязаных з італа-абісінскім канфліктам, вельмі цікавяцца становішчам у Кітаі, поспехамі кітайскай чырвонай арміі, будаўніцтвам нашых каналаў, метро, ростам трактарнай прамысловасці і т. п. Усё гэта сведчыць аб велізарным росце палітычнай свядомасці рабочых, аб патрэбнасці сур'ёзнай паліт'інфармацыі. Але не заўсёды рабочы атрымлівае вычарпальны адказ на пытанне, якім ён цікавіцца.

Нажаль, наша агітацыйная работа значна адстае ад новых патрабаванняў. Мы яшчэ не здолелі перайсці да сістэматычнай, групавой агітацыі, да штодзеннай работы ў масах, не адмовіліся ад кампанейшчыны.

Агітатарскія кадры ў значнай частцы ўсё яшчэ складаюцца з людзей, якія не зусім адпавядаюць свайму прызначэнню. Агітатар павінен быць перш за ўсё палітычна граматным, добра ведаць тое, аб чым гаворыць, глыбока вывучыць асяроддзе, у якім працуе, заваяваць аўтарытэт сярод рабочых. Аднак у гэтых адносінах у нас не ўсё яшчэ добра.

На Хлебазаводзе, напрыклад, мы маем зусім слабых агітатараў. Тав. Кавалёў, па чыстцы партыі 1933 года пераведзены ў кандыдаты за слабую палітычную падрыхтаванасць, недастаткова палітычна граматны, не карыстаецца патрэбным аўтарытэтам. Буглак, кандыдат партыі, таксама слаба падрыхтаваны. З васьмі агітатараў, якія знаходзяцца на «уліку» у партарганізатара, у наяўнасці аказалася толькі 4 чалавекі, астатнія механічна прызначаны агітатарамі (дырэктар завода, сам парторг, рэдактар шматтыражкі Кантаровіч і інш.). Агітатарамі фактычна ніхто не кіруе, яны не ведаюць што чытаць, не маюць нават цэнтральных і мясцовых газет.

Не выпадкова, што чытка газет у цэхах праходзіць нудна, пры

небялікім кола рабочых. У загатоўчым цэху пачалася гучная чытка пры 50 рабочых, але хутка засталося толькі 10 чалавек.

Вопыт работы чытчыкаў і агітатараў не ўлічваецца. Да іх падбору наогул падышлі фармальна. Вылучаныя 4 агітатары безумоўна не могуць ахапіць усю масу рабочых завода.

Пастанова ЦК ВКП(б) аб становішчы палітычнай прапаганды і агітацыі на Балахнінскім цэлюлозна-папяровым камбінаце цалкам адносіцца і да нашай партыйнай арганізацыі. І ў нас штодзенная палітыка-растлумачальная работа пастаўлена нездавальняюча. Партыйныя камітэты не аказваюць неабходнай дапамогі агітатарам і чытчыкам, канкрэтна не кіруюць іх работай.

Праўда, за апошні час, у сувязі з прапрацоўкай гэтай пастановы, ёсць ужо некаторы зрух.

Сакратар парткома фабрыкі «Окцябр» тав. Канопік праводзіць спецыяльныя гутаркі з агітатарамі і чытчыкамі. У працэсе работы ён пераканаўся ў тым, што колькасць агітатараў і чытчыкаў на фабрыцы недастатковая і зараз вывучае членаў партыі, кандыдатаў, спачуваючых і камсамольцаў, якія могуць быць вылучаны на гэту работу. Партком правёў спецыяльныя дзесяцідзенныя курсы агітатараў і чытчыкаў з адрывам ад вытворчасці.

Партарганізацыі фабрык «Окцябр», «Кагановіча», «Куйбышэва» пасля азнаямлення з пастановай ЦК ВКП(б) аб Балахнінскім камбінаце зразумелі, што ад агітатара патрабуецца не простая падрыхтоўка к дакладу ці гутарцы, а сістэматычная работа над павышэннем агульнага палітычнага ўзроўню. За апошні час з агітатарамі вядзецца спецыяльная работа, партгабінет арганізуе інструктаж, нарады, кансультацыі па літаратуры і т. п.

Пры парткоме фабрыкі «Окцябр» арганізован і зацверджан парткомам калектыў агітатараў і бяседчыкаў з 40 чалавек, з іх членаў партыі—21, кандыдатаў—3, спачуваючых—8 і комсамольцаў—8. Партгабінет дапамагае ім сістэматычнай кансультацыяй.

Большэвіцкія агітатары павінны выступаць не толькі ў ролі растлумачальнікаў дырэктыў партыі і ўрада, але і сапраўдных арганізатараў мас.

Задача парткомаў—выпрацаваць у агітатараў любоў да сваёй справы, імкненне сістэматычна працаваць над сабой, глыбока прадумваць ідэйны змест сваіх выступленняў. З гэтай задачай мы можам справіцца тады, калі штодзенна будзем працаваць з кожным агітатарам.

У нас ужо нямала добрых агітатараў і чытчыкаў.

Тав. **Чэрчэс**—агітатар фабрыкі імя Куйбышэва—так расказвае аб сваім вопыце: «Я перш за ўсё вывучыў асяроддзе, з якім маю справу, настрой кожнага рабочага. Стараюся вывучаць пытанні, якімі найбольш цікавяцца рабочыя, і адказваць на іх. Рабочага зараз цікавяць злободзенныя пытанні міжнароднай і ўнутранай палітыкі. Арганізуючы чыткі, я імкнуся ўлавіць у газетным матэр'яле іменна тое, што цікавіць рабочага. І не дарма мяне часта засыпаюць пытаннямі. Не было яшчэ выпадку, каб рабочы пашоў ад мяне незадаволены адказам».

Тав. **Левандоўскі** два гады нязменна працуе чытчыкам у брыгадзе, заўсёды прыходзіць падрыхтаваным, добра тлумачыць прачытанае.

Такіх людзей сярод агітатараў і чытчыкаў мы можам знайсці нямала. Уся бяда ў тым, што парткомы дрэнна яшчэ кіруюць работай агітатараў, забываючы пра пастанову ЦК ВКП(б) аб Балахнінскім камбінаце, якая абавязвае сакратара парткома:

«Апіраючыся на калектыў агітатараў, вывучаць пытанні, якія цікавяць рабочых і работніц, дабівацца поўнага вычарпальнага адказу на гэтыя пытанні шляхам дакладаў, гутарак, асвятлення іх у заводскай газеце і насценных газетах і сістэматычна інструктаваць агітатараў па ўсіх важнейшых пытаннях, якія стаяць перад партарганізацыяй».

Цяжка назваць партарганізацыю, дзе-б да апублікавання пастановы ЦК ВКП(б) адбываліся рэгулярныя заняткі з агітатарамі і бяседчыкамі-чытчыкамі, дзе-б парткомы звярнулі ўвагу на агульна-адукацыйную падрыхтоўку гэтых кадраў. І не выпадкова, што многія з іх слаба ведаюць геаграфію, не чытаюць мастацкай літаратуры, партыйных часопісаў і т. п.

Пастанова ЦК ВКП(б) аб становішчы палітычнай агітацыі з'яўляецца канкрэтнай праграмай палепшання і перабудовы ўсёй работы з агітатарамі і чытчыкамі. Усе парткомы павінны зрабіць для сябе неабходныя вывады з гэтага партыйнага дакумента.

Горрайком намеціў рад мерапрыемстваў па рэалізацыі гэтага рашэння.

Выходзячы з таго, што на некаторых прадпрыемствах нават не вылучаны агітатары, чытчыкі-бяседчыкі (хімзавод), а колькасць агітатараў на паасобных фабрыках далёка недастатковая, горрайком сумесна з пярвічнымі партыйнымі арганізацыямі зараз пераглядае ўвесь склад агітатараў і чытчыкаў-бяседчыкаў. Адначасова падбіраюцца кадры агітатараў і чытчыкаў-бяседчыкаў з лепшых, палітычна-граматных і аўтарытэтных у масах партыйцаў, комсамольцаў, спачуваючых. Кожная кандыдатура абгаварваецца і зацвярджаецца на парткомах і агульных партыйных сходах.

Улічваючы недастаткова высокі агульна-адукацыйны ўзровень большасці агітатараў і чытчыкаў-бяседчыкаў, пры буйных партарганізацыях, як фабрыка «Кагановіча», «Окцябр», «Куйбышэва», шчотачная, арганізуюцца спецыяльныя кароткатэрміновыя курсы. На гэтых курсах вывучаецца геаграфія, эканоміка Совецкага саюза і паасобных капіталістычных краін. Адначасова ўводзіцца спецыяльны прадмет—методыка работы агітатараў.

Райком партыі звярнуў асаблівую ўвагу на работу партгабінетаў. Іх абавязак—дапамагчы кожнаму агітатару ў прапрацоўцы даклада ці гутаркі, даць яму патрэбную літаратуру. Партгабінеты могуць і павінны адыграць у гэтым вялікую ролю (падбор газетнага матар'ялу, часопісаў, паасобных артыкулаў, карт, дыяграм, матар'ялаў з жыцця прадпрыемства, індывідуальныя і групавыя кансультацыі, інструктаж і т. п.).

Райком практыкуе абмен вопытам работы агітатараў. Нядаўна была праведзена сустрэча агітатараў і чытчыкаў-бяседчыкаў фабрыкі «Куйбышэва» і шчотачнай. У сваіх выступленнях яны зрабілі рад прапаноў і заўваг аб арганізацыі палітычнай агітацыі: шырока асвятляць у друку лепшыя метады і вопыт работы, арганізаваўшы ў газетах спецыяльныя «трыбуны агітатара, чытчыка-бяседчыка», і інш.

Улічваючы апраўдаўшы сябе вопыт, райком паставіў мэтай шырока прымяняць чытку газет і мастацкай літаратуры ў сем'ях рабочых і ў інтэрнатах.

Уся работа райкома ў галіне пастаноўкі палітычнай агітацыі на прадпрыемствах, у навучальных і савецкіх установах праводзіцца на аснове гістарычных указанняў таварыша Сталіна, зробленых на першай усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў,—у прамове, якая з'яўляецца крыніцай новых вытворчых, культурных і палітычных перамог у нашай краіне.

В. Смоляр

# Ідэйна-палітычным выхаваннем комуністаў трэба кіраваць канкрэтна

Выключнай важнасці задачы стаяць перад партыяй. Неймаверна ўскладніліся формы і метады нашай работы, формы класавай барацьбы. Вось чаму партыя з выключнай завостранасцю ставіць цяпер задачу—павысіць узровень узброенасці кожнага комуніста, палепшыць кіраўніцтва ідэйна-палітычнай работай. Кожны член і кандыдат партыі павінны быць у авангардзе барацьбы мас за ажыццяўленне гістарычных рашэнняў XVII партыйнага з'езда, павінны безупынна, упарта і напружана працаваць над сабой.

Тав. Сталін на XVII з'ездзе партыі чотка вызначыў нашы задачы ў галіне ідэйна-палітычнай работы:

«1. Узняць тэарэтычны ўзровень партыі на належную вышыню;

2. Узмацніць ідэалагічную работу ва ўсіх звеннях партыі;

3. Весці нястомную прапаганду ленінізма ў радах партыі;

4. Выхоўваць партарганізацыі і акружаючы іх беспартыйны актыў у духу ленінскага інтэрнацыяналізма;

5. Не замазваць, а крытыкаваць смела адхіленні некаторых таварышоў ад марксізма-ленінізма;

6. Сістэматычна выкрываць ідэалогію і рэшткі ідэалогіі варожых ленінізму плыней».

Гэтыя задачы знашлі сваё адлюстраванне ў статуце нашай партыі, прынятым на XVII партыйным з'ездзе. Барацьба за іх выкананне з'яўляецца праграмай работы кожнай партарганізацыі.

Рэалізуючы ўказанні тав. Сталіна, дырэктывы XVII з'езда партыі, партарганізацыі сталінскага горрайкома за апошні час дабіліся значнага палепшання работы па марксісцка-ленінскаму выхаванню.

Сеткай партыйнай вучобы па Сталінскаму раёну ахоплена 1.744 члена партыі, 389 кандыдатаў, 149 спачуваючых, 225 комсамольцаў і 870 беспартыйных рабочых-актывістаў (не лічачы партарганізацый НКВД і ГК КП(б)Б).

Па формах партвучобы слухачы размеркаваны наступным чынам:

| Тып школы, гуртка | Колькасць гурткоў | Членаў КП(б)Б | Колькасць слухачоў | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Кандыд. | Спачув. | Комса-мольц. | Беспарт. | Усяго ахопл. |
| Кандыдац. школа | 14 | 42 | 71 | 14 | 17 | 31 | 175 |
| Школа спачув. | 4 | 3 | 9 | 28 | 21 | — | 61 |
| Пачат. школа малаграматных | 2 | 9 | 13 | 4 | — | — | 26 |
| ВСПШ (8 мес.) | 2 | 29 | 11 | 2 | — | 10 | 52 |
| Гурт. бяг. паліт. | 39 | 384 | 68 | 17 | 72 | 217 | 758 |
| Марксісцка-ленін. гурток | 4 | 28 | 17 | 3 | 7 | — | 55 |
| Гурт. па гіст. ВКП(б) | 98 | 947 | 111 | 49 | 92 | 257 | 1456 |
| Гурт. па вывуч. класікаў | 2 | 19 | 4 | — | — | — | 23 |
| Завочн. (акрамя БІМЗО) | — | 24 | — | — | — | — | 24 |
| У вяч. інст., рабфак., шк. | — | 85 | 30 | 5 | — | — | 120 |
| Палітшкол. беспарт. раб. | 10 | 10 | 15 | 10 | 27 | 128 | 190 |
| Вячэрні комвуз | — | 59 | 21 | — | — | — | 80 |
| У партсеці ДП актыва | — | 85 | 17 | — | — | — | 102 |
| Гурток па дыямату | 1 | 10 | 1 | — | | — | 1 |
| Гурток па палітэканоміі | 1 | 10 | 1 | — | — | — | 1 |
| Разам | — | 1744 | 389 | 132 | 236 | 643 | 3144 |

Акрамя гэтага, 95 прапагандыстаў са 182 перыядычна наведваюць пропсемінар, частка—партыйныя школы і гурткі павышанага тыпу па гісторыі ВКП(б).

Такім чынам, партвучобай ахоплена 95% усёй партарганізацыі, астатнія 5% або 100 чал. не ахоплены па прычынах хваробы, камандзіровак і т. п.

У сувязі з праверкай партдакументаў ажывілася і ўзмацнілася ўся партыйная работа ў большасці партарганізацый. Партыйныя камітэты больш ўважліва, канкрэтна і адказна падышлі да арганізацыі марксісцка-ленінскай вучобы. Рад парткомаў пярвічных партыйных арганізацый (з-ды: імя Кірава, імя Варашылава, ф-ка Крупскай) заслухоўваюць справаздачы прапагандыстаў аб рабоце школ і гурткоў партасветы, паасобных комуністаў па пытаннях іх вучобы, работы над сабой, росту палітычнага ўзроўню.

Ліквідавана сезоннасць у партвучобе. Школы і гурткі амаль ва ўсіх партарганізацыях перашлі на бесперапынную вучобу на працягу ўсяго года.

Значна палепшылася якасць партвучобы ў школах і гуртках завода імя Кірава, імя Варашылава. Слухачы лепш рыхтуюцца да заняткаў. Пры прапрацоўцы паасобных тэм прапагандысты выка-

рыстоўваюць наглядныя дапаможнікі—геаграфічныя карты, дыяграмы, чытаюць урыўкі з мастацкай літаратуры, вядуць канспекты.

У выніку палітычна значна выраслі паасобныя комуністы.

З партарганізацыі завода «Варашылава»:

**Ланько**—кандыдат партыі, пераведзены па чыстцы ў 1933 г. за палітычную няграматнасць, акуратна наведвае гурток па гісторыі ВКП(б), добра рыхтуецца да заняткаў, знаёміцца з мастацкай літаратурай (прачытаў «Цусіму», «Дрыгву»), пачаў актыўна выступаць на партсходах.

**Дубравіцкі**—член партыі, акуратна наведвае і добра рыхтуецца да заняткаў; як парторг вядзе ўпартую работу па выхаванню комуністаў цэхавай партгрупы.

**Залатарэвіч**—член партыі, палітычна значна вырас, вылучан прапагандыстам гуртка па гісторыі ВКП(б).

**Крайко**—член партыі, брыгадзір ліцейнага цэха, займаецца ў гуртку па гісторыі ВКП(б), чытае многа мастацкай літаратуры, палітычна значна вырас, зараз камандзіруецца на курсы марксізма пры ЦК КП(б)Б для вучобы.

З партарганізацыі завода «Кірава»:

**Козляк**—член партыі, начальнік цэха шырспажыву, раней наведваў гурток па гісторыі ВКП(б), зараз займаецца ў гуртку партактыва, за добрую вучобу прэміраван творамі Леніна.

**Юньянскі**—член партыі, пажарны ахраннік, раней вельмі дрэнна займаўся, прапускаў заняткі, не выступаў на партсходах, зараз вучыцца ў гуртку па гісторыі ВКП(б), прэміраван за добрую вучобу шасцітомнікам твораў Леніна.

З партарганізацыі завода «Большэвік»:

**Аксельрод**—член партыі, рабочы клеевар, за апошні час палітычна вырас; скончыў вячэрні комвуз і вучыцца ў марксісцка-ленінскім гуртку, працуе прапагандыстам, зараз камандзіруецца на курсы марксізма пры ЦК КП(б)Б.

**Дзіменштэйн**—у 1933 г. за палітычную няграматнасць быў пераведзен у кандыдаты партыі, зараз скончыў вячэрні комвуз, вылучан агітатарам у цэху.

Можна было-б прывесці яшчэ нямала падобных прыкладаў. Яны сведчаць аб тым, што калі партком па-сапраўднаму, па-большэвіцку кіруе партвучобай—гэтым важнейшым участкам партыйнай работы, то дасягае патрэбных вынікаў: ідэйна-палітычнага росту паасобных комуністаў і ўсёй партарганізацыі, умацавання партыйнай дысцыпліны, павышэння авангарднай ролі комуністаў на вытворчасці, разгортвання стаханаўскага руху.

Аднак мы не можам абмежавацца аднымі толькі колькаснымі паказчыкамі ў нашай марксісцка-ленінскай вучобе. Стварыць школы і гурткі—гэта яшчэ не значыць арганізаваць высокаякасную вучобу. У гэтай вялікай і адказнай рабоце галоўным крытэрыем павінна быць якасць прапаганды, якасныя рэзультаты вучобы.

Трэба адзначыць, што ў паасобных партарганізацыях Сталінскага райкома партыйная вучоба пастаўлена выключна дрэнна. У партарганізацыі РВК, пачынаючы з сакавіка і да гэтага часу, не арганізавана партвучоба. У партарганізацыі ВЭТ (Усесаюзны электрычны трэст) гурткі партвучобы пачалі працаваць толькі ў апошні час. У партарганізацыі Лесбела былы сакратар парткома Петракоў у час праверкі партдакументаў зусім спыніў работу марксісцка-ленінскага гуртка.

Наведванне заняткаў у большасці партшкол і гурткоў нізкае—60—70%, а ў некаторых партарганізацыях (завод «Чырвоная зорка», горсовет) даходзіць да 40—50%. Яшчэ горш пастаўлена навучанне комуністаў-адзіночак у партсеці дома партактыва, дзе наведванне складае 30%. З-за няяўкі слухачоў былі выпадкі зрыву заняткаў (гурток палітэканоміі—кіраўнік Баран).

Некаторыя парткомы і партарганізацыі (горсовет, завод «Чырвоная зорка», РВК, Мясакамбінат, ЦС АСО) зусім нездавальняюча кіруюць партвучобай. На паседжанні парткома ні разу не ставіліся даклады прапагандыстаў аб рабоце гурткоў, самасправаздачы паасобных комуністаў аб вучобе. Асабліва слаба наладжан кантроль, дапамога і кіраўніцтва парткомаў заводаў «Варашылава», «Большэвік», горсовета партвучобай комуністаў, якія займаюцца ў вячэрнім комвузе, доме партактыва, вячэрніх інститутах, рабфаках. У некаторых партарганізацыях (газета «Рабочий», Лесбел, Горспажыўсаюз) не вядзецца ўліку наведвання школ і гурткоў.

У выніку дрэннага кіраўніцтва і нізкай якасці вучобы паасобныя комуністы паказалі абсалютную палітычную няграматнасць. Тав. Сурво—нам. дырэктара Мясакамбіната, член партыі з 1928 г. на паседжанні оргбюро горрайкома не мог адказаць на пытанне, калі адбыўся XVII партыйны з'езд, якія стаялі на ім пытанні і інш. Студэнтка III курса ВКСГШБ Ліпкіна не магла растлумачыць сутнасці стаханаўскага руху. Член партыі Іткін загадчык нафтабазы не здолеў растлумачыць сутнасці італа-абісінскага канфлікта.

На ЦЭЦ слухачы гуртка павышанага тыпу па гісторыі ВКП(б) (прапагандыст Жураўлёў) не маглі адказаць на пытанні аб тым, хто з'яўляецца членам палітбюро ЦК ВКП(б), колькі саюзных рэспублік у СССР і назвы іх.

У некаторых школах і гуртках (ЦЭЦ, тэлеграф і інш.) выкладанне гісторыі партыі вядзецца без увязкі з сучаснай барацьбой нашай партыі за чыстату сваіх радоў, без увязкі з пераможным соцыялістычным будаўніцтвам.

Некаторыя прапагандысты (Жураўлёў) зусім няправільна падыходзяць да распрацоўкі ў гуртках пытанняў бягучай палітыкі. Замест таго, каб самому вычарпальна растлумачыць усе ўзнікаючыя пытанні, уцягнуць усіх слухачоў у актыўную работу гуртка, даручаюць падрыхтаваць пытанне аднаму са слухачоў, які выступае ў ролі дакладчыка. Астатнія слухачы да заняткаў не рыхтуюцца, і прапрацоўка пытанняў бягучай палітыкі зусім зрываецца, як гэта было ў гуртку ЦЭЦ. Зусім слаба выкарыстоўваюцца наглядныя дапаможнікі: геаграфічныя карты, дыяграмы і т. п.

Буйнейшым недахопам амаль усіх школ і гурткоў па гісторыі ВКП(б) з'яўляецца адсутнасць асвятлення гісторыі большэвіцкіх арганізацый у Беларусі, іх барацьбы з дробна-буржуазнымі, контррэволюцыйнымі партыямі, эсэрамі, бундаўцамі, нацдэмамі і іншымі антыленінскімі плынямі.

Яшчэ горш пастаўлена ідэйна-выхаваўчая работа з нізавымі кіруючымі партыйнымі работнікамі. 20 сакратароў парткомаў і парторгаў, з агульнай колькасці 90 чалавек, ніякімі формамі партвучобы да гэтага часу не ахоплены. Неабходна безадкладна закончыць арганізацыю дзённага комвуза для кіруючых нізавых партыйных работнікаў.

Задача прапагандыста—не толькі дапамагчы слухачам высветліць тыя ці іншыя тэарэтычныя пытанні, але і прывіць ім навыкі сама-

стойнай работы над кнігай. Гэтаму важнейшаму пытанню партвучобы большасць прапагандыстаў не ўдзяляе належнай увагі, не вядуцца канспекты і запісы прапрацоўваемага матар'ялу, не даецца канкрэтных заданняў для самастойнай работы.

Зусім слаба прывіваюцца слухачам элементы культурнасці. У час заняткаў слухачы кураць, сядзяць у верхняй вопратцы, шапках (завод «Варашылава»—гурток спачуваючых, завод «Кірава»—гурток па гісторыі ВКП(б) і інш.).

Пры ўкамплектаванні сеткі партвучобы трэба было кіравацца ўзроўнем развіцця, падрыхтаванасці і асабістым жаданнем слухача ў выбары формы партвучобы. Аднак, некаторыя партарганізацыі (завод «Большэвік», «Чырвоная зорка») абышлі гэты прынцып камплектавання і пасылалі малаграматных комуністаў у гурткі па гісторыі ВКП(б).

Некаторыя школы і гурткі на працягу некалькіх год, поўнасцю не заканчваючы праграму па гісторыі ВКП(б) і іншых прадметах, пачынаюць яе спачатку, што з'яўляецца вялікім недахопам, бо зніжае зацікаўленасць слухачоў і не дасягае пастаўленай мэты. Партком і партарганізацыі не падводзяць вынікаў работы гурткоў, не даюць ацэнку таго, як комуніст прапрацаваў і засвоіў пройдзеную праграму.

* * *

У сетцы нашага раёна працуе 182 прапагандыста. Па соцыяльнаму становішчу: рабочых—66 чал. (36,3%), сялян—62 чал. (35%), служачых—54 чал. (28,7%). Па партыйнаму стажу: да 1917 г.—5 чал. (2,8%), з 1917 па 1925 г.—48 чал. (25,5%), з 1925 па 1930 г.—87 чал. (48,3%), з 1930 г.— 42 чал. (23,4%). Па палітычнай падрыхтоўцы: вышэйшая (Гістпарт, БелАН)—67 чал., сярэдняя і ніжэйшая (соўпартшколы, II курс ВКСГШБ)—113 чал. (63%). Прапагандыстаў з рабочых, якія непасрэдна працуюць на вытворчасці,—15 чал.

Такім чынам рабочая праслойка сярод прапагандыстаў займае зусім нязначнае месца, вялікі процант падае на катэгорыю служачых. 41 прапагандыст (22%) мае партыйныя спагнанні.

Значная частка прапагандыстаў (63%)—людзі малакваліфікаваныя, з сярэдняй і ніжэйшай палітычнай падрыхтоўкай. Прапагандыст Тамілін—студэнт ВКСГШБ—не змог растлумачыць слухачам пазіцыі Англіі ў італа-абісінскай вайне. Прапагандыст Еўдакімаў на занятках гуртка партарганізацыі ЦС АСО на запытанне слухача: «Хто кіруе II Інтэрнацыяналам»—адказаў: «Менш за ўсё я думаў аб II Інтэрнацыянале, я аб III Інтэрнацыянале вам расказваю». Да заняткаў Еўдакімаў не рыхтуецца.

Указанне ЦК КП(б)Б аб вылучэнні на прапагандысцкую работу кіруючых работнікаў партыйных апаратаў намі поўнасцю не выканана. З кіруючых работнікаў прапагандыстамі працуюць толькі 13 чалавек.

Большасць прапагандыстаў неакуратна наведваюць пропсемінары.

Усе гэтыя факты сведчаць аб тым, што рашэнне ЦК аб прапагандысцкай рабоце ў бліжэйшы час, якое завастрае ўвагу ўсіх партарганізацый на падбор і падрыхтоўку прапагандыстаў, ад якіх у першую чаргу залежыць узровень палітыка-выхаваўчай работы ў школах і гуртках, намі ўсё яшчэ не выканана.

Праўда, за апошні час, асабліва ў сувязі з праверкай партдакументаў, некаторыя партарганізацыі (з-даў «Кірава», «Варашылава», КІЖ, фабрыкі «Комунарка») значна палепшылі кіраўніцтва партвучобай. На паседжанні парткомаў заслухоўваюцца даклады прапагандыстаў аб рабоце, арганізуюцца тэарэтычныя канферэнцыі. Фабрыка «Комунарка» правяла канферэнцыі на тэму: «Задачы рускіх соцыял-дэмакратаў», «Аб народніцтве». Заводы імя Варашылава і Кірава—на тэмы: «Міжнароднае становішча», «Італа-абісінскі канфлікт», «Літаратурная творчасць Астроўскага» і інш.

Каб палепшыць пастаноўку партыйнай прапаганды і агітацыі, горрайком на паседжаннях аргбюро перыядычна заслухоўвае даклады сакратароў парткомаў і прапагандыстаў. Для дапамогі прапагандыстам пры горрайкоме арганізуецца партыйны габінет. Вылучана 40 новых прапагандыстаў, з якіх 10 чал. рабочых, занятых на вытворчасці. У студзені намечана арганізаваць курсы для падрыхтоўкі прапагандыстаў без адрыву ад вытворчасці.

Для абмену вопытам работы і павышэння тэарэтычнага ўзроўню праводзяцца перыядычна, не менш аднаго разу ў месяц, нарады прапагандыстаў з пастаноўкай інструкцыйных і тэарэтычных дакладаў.

Усё гэта—толькі першыя крокі разгортвання і наладжвання партыйнай прапаганды. Многае яшчэ трэба зрабіць для таго, каб паставіць справу ідэйна-палітычнага выхавання комуністаў так, як гэтага патрабуе ЦК ВКП(б), у адпаведнасці з гістарычнымі задачамі, якія стаяць перад нашай партыяй.

---

І. Саладкоў

# З вопыту партыйна-масавай работы на заводзе імя Кірава

Праверка партыйных дакументаў, гэта важнейшае арганізацыйна-палітычнае мерапрыемства, прадпрынятае па ініцыятыве тав. Сталіна, з'явілася магутным сродкам умацавання радоў ВКП(б), у тым ліку і партыйнай арганізацыі завода імя Кірава. Яна дапамагла заводскай партарганізацыі вызваліцца ад значнай часткі варожых людзей, узняла яе рэволюцыйную пільнасць і боездольнасць. Заводская партыйная арганізацыя і шырокія масы рабочых прынялі ў праверцы актыўны ўдзел.

І пасля праверкі партыйных дакументаў у партарганізацыі не аслабявае барацьба за далейшае павышэнне рэволюцыйнай пільнасці комуністаў. Дэталёва правяраюцца партыйныя дакументы і партыйны твар кожнага прыбываючага таварыша.

Праверка партыйных дакументаў значна ўзняла і якасць усёй партыйнай работы на заводзе, што пацвярджаецца практыкай правядзення партыйных сходаў, палепшаннем палітычнай агітацыі, выхавання комуністаў і т. д.

У сучасны момант на заводзе працуе чатыры гурткі партасветы, якімі ахоплена 42 члены партыі, 13 кандыдатаў, 24 спачуваючыя і 11 чалавек беспартыйнага актыва. Акрамя таго, у вячэрнім комвузе займаецца 12 членаў партыі і 2 кандыдаты. На курсах майстроў, дзе таксама ўведзена вывучэнне гісторыі ВКП(б), навучаецца 2 члены і 2 кандыдаты партыі. Такім чынам, сеткай партасветы ахоплены ўсе комуністы завода.

У гуртку павышанага тыпу па гісторыі ВКП(б) займаецца 18 членаў партыі, 3 кандыдаты, 1 спачуваючы і 5 чалавек беспартыйнага актыва. Гурток па першакрыніцах прапрацоўвае галоўным чынам пытанні пасляокцябрскага перыяда.

Многія слухачы нядрэнна арыентуюцца ў пытаннях бягучай палітыкі, міжнароднага становішча, гісторыі партыі. Тав. Шурэвіч (член партыі з 1931 г.) да заняткаў рыхтуецца добра. Прапрацаваў матар'ялы VII кангрэса Комінтэрна, чытае «Звязду», «Известия» і многа мастацкай літаратуры. Тое-ж самае можна сказаць пра Эрэнгроса, Юльянскага, Козляка і іншых таварышоў.

За добрую паспяховасць партком прэміраваў т. Козляка поўным зборам твораў Леніна. З 18 слухачоў членаў партыі 16 чалавек маюць поўны збор твораў Леніна.

У гуртку па гісторыі ВКП(б), дзе вывучаюцца паасобныя этапы гісторыі партыі, займаецца 13 членаў партыі, 2 спачуваючыя, 2 камсамольцы і 1 беспартыйны.

З пачатку ўкамплектавання праведзена 18 заняткаў: 14 па прапрацоўцы матар'ялаў VII кангрэса Комінтэрна і 4 па прапрацоўцы даклада тав. Берыя «К пытанню аб гісторыі большэвіцкіх арганізацый у Закаўказзі». Паасобныя комуністы дапусцілі пропуск заняткаў без уважлівых прычын (Скрыпко—6 і Лазавік—3). Да гэтых таварышоў прыняты адпаведныя меры. Іх паводзіны абгавораны былі на партгрупе, пасля чаго яны сталі акуратна рыхтавацца і наведваць заняткі.

Аднак партыйная сетка працуе ўсё яшчэ нездавальняюча. Прапагандысты Прусліна, Віленская безадказна адносяцца да сваіх абавязкаў, на заняткі прыходзяць непадрыхтаванымі, часта чытаюць або дрэнна пераказваюць напісанае ў падручніку, даюць неахайныя, нячоткія фармулёўкі, дапускаюць памылкі пры асвятленні паасобных фактаў.

Часта заняткі не наведваюцца па няўважлівых прычынах. Асабліва часта прапускаюць заняткі спачуваючыя. Узровень развіцця многіх слухачоў нізкі.

На адным з заняткаў выявілася, што комуніст Верабейчык не ведае розніцы паміж формай улады ў Германіі і Францыі, спачуваючы Несцюк адносіць памешчыкаў у праслойку дробнай буржуазіі і т. п.

Партком, партгабінет і прапагандысты не вядуць належнай барацьбы за поўнае знішчэнне ўсіх недахопаў у рабоце партыйнай сеткі завода. На спазненні слухачоў ніхто не звярачае ўвагі, значная частка слухачоў сядзіць у верхняй вопратцы, хоць у памяшканні цёпла; бываюць выпадкі перабою з падачай электрычнага асвятлення, а карасінавых лямп у аудыторыі няма; не ўсе слухачы забяспечаны сшыткамі і алоўкамі. Для партарганізацыі і паасобных груп рабочых за апошнія 6 месяцаў арганізавана толькі 4 лекцыі.

* * *

Пасля праверкі партыйных дакументаў партарганізацыя завода імя Кірава мае некаторае палепшанне ў рабоце па павышэнню ідэйна-палітычнага ўзроўню комуністаў. На партыйных сходах груп і паседжаннях парткома рэгулярна заслухоўваюцца самасправаздачы комуністаў аб рабоце над сабой. Да адстаючых таварышоў прымацоўваюцца больш падрыхтаваныя. Наладжана сістэматычная праверка таго, як комуністы выконваюць прынятыя па самасправаздачы рашэнні, дапамагаюць адстаючым у павышэнні іх палітычнага ўзроўню.

Праверка партыйных дакументаў дапамагла выявіць вялікі рэзерв работнікаў, якіх магчыма скарыстаць на кіруючай партыйнай і гаспадарча-вытворчай рабоце. Яна дапамагла вывучыць кожнага комуніста, яго станоўчыя і адмоўныя бакі, яго запатрабаванні, што садзейнічала больш правільнай расстаноўцы партыйных сіл.

У працэсе праверкі партыйных дакументаў было вылучана на партыйную, гаспадарчую і профсаюзную работу 19 чалавек: унутры прадпрыемства—11, для гаркома КП(б)Б—5 і паслана на вучобу—3.

**Марголін**—член партыі з 1927 года, вытворчы стаж 23 гады, працаваў механікам на заводзе імя Кірава, у жніўні вылучан дырэктарам завода «Ланцугі Галля».

**Гуманаў**—член партыі з 1925 г., вытворчы стаж 25 год, працаваў электраманцёрам і парторгам, вылучан сакратаром парткома ЦЭЦ.

**Палякоў**—член партыі з 1928 г., вытворчы стаж 15 год, працаваў майстрам брыгады-нажоўкі, вылучан тэхнічным дырэктарам завода «Ланцугі Галля».

**Акуценка** Люба—член партыі з 1931 года, вытворчы стаж 17 год, працавала слесарам брыгады цэнтравальных станкоў, вылучана інструктарам оргмасавага аддзела горсовета.

Унутры завода вылучаны:

**Козляк**—у партыі з 1929 года, вытворчы стаж 35 год, працаваў інструментальшчыкам кавальскага цэха, вылучан начальнікам цэха шырспажыву. На рабоце апраўдвае сябе.

**Сіўчук**—член партыі з 1930 года, вытворчы стаж 10 год, стаханавец, працуе кавалём, вылучан парторгам кавальскага цэха.

**Васілеўскі**—кандыдат партыі, вытворчы стаж 8 год, стаханавец, вылучан праформгам ліцейнага цэха.

Таварышы Асташонак, Сокалаў і Кацовіч вылучаны парторгамі, Галаўня і Пякарскі—праформгамі, Мацюш—начальнікам цэха. Для далейшага вылучэння на партыйную і профсаюзную работу ёсць рэзерв з 10 чалавек.

Усе вылучаныя таварышы ахоплены палітвучобай і павышаюць сваю кваліфікацыю ў тэхнічных гуртках. Большасць чытае дзве-тры газеты, часопісы, мастацкую літаратуру.

З вылучанымі на кіруючую работу ўнутры прадпрыемства і рэзервам партком за апошні час прапрацаваў наступныя пытанні: «Аб папярэдніх выніках праверкі партдакументаў у арганізацыі», «Чаго партыя патрабуе ад комуністаў у асабістым быце і ў рабоце» (семінар), «Чаму ў Менску ствараюцца горрайкомы», «Аб італа-абісінскай вайне», «Аб светапоглядзе партыйнага работніка» (перадавы артыкул «Праўды» ад 25/XI-35 г.), аб падрыхтоўцы да правядзення партыйнага дня, і т. д.

* *
*

За апошні час на агульна-заводскіх партыйных сходах і партгрупах прапрацаваны папярэднія вынікі праверкі партыйных дакументаў, работа комсамольскай арганізацыі, падрыхтоўка к МЮД'у, «Аб комуністычным выхаванні дзяцей», «Ад Лютага да Окцябра» і іншыя пытанні, што дапамагло выявіць засваяемасць комуністамі гісторыі ВКП(б), іх ідэйна-палітычны рост, чытаемасць газет, часопісаў, мастацкай літаратуры.

Рыхтуючыся да партдня, партком разам з партактывам, як правіла, абмяркоўваюць абвестку і распрацоўваюць канкрэтны план усёй работы.

Праведзены 21 жніўня партыйны дзень па пытанню папярэдніх вынікаў праверкі партдакументаў і справаздачы парткома пачаўся з нарады парторгаў. На гэтай нарадзе абмяркоўвалася абвестка дня і выпрацаван план, у якім было канкрэтна ўказана, хто і які ўчастак падрыхтоўкі да сходу забяспечвае. У падрыхтоўку былі ўцягнуты 42 комуністы, падзеленыя на пяць брыгад: па праверцы стану партыйнай гаспадаркі; па праверцы выканання рашэнняў, вынесеных у сувязі з прапрацоўкай закрытага ліста ЦК ВКП(б) ад 3 лютага і рашэнняў Ленінградскага пленума гаркома партыі ад 11 красавіка;

па праверцы работы з кандыдатамі і спачуваючымі; па пытаннях вырошчвання і вылучэння партыйных, профсаюзных і гаспадарчых кадраў; па праверцы стану партвучобы ў заводскай партарганізацыі.

Брыгады зрабілі абагульняючыя вывады з праведзенай імі работы і ўнеслі канкрэтныя прапановы, якія былі пакладзены ў аснову рашэння, прынятага на партдні.

Шырокая падрыхтоўчая работа партарганізацыі да партдзён значна палепшыла якасць іх правядзення, узняла актыўнасць камуністаў. У спрэчках на сходзе 21 жніўня выступіла 17 членаў партыі.

Лепш праходзяць і сходы партыйных груп, якія пераважна займаюцца пытаннямі палітычнага і культурнага росту комуністаў, пытаннямі быту, выхавання дзяцей і т. п.

Аднак работу партыйных груп усё яшчэ нельга прызнаць здавальняючай. Сходы часта выносяць неканкрэтныя рашэнні. Так, 12 верасня на сходзе партгрупы кавальскага цэха па індывідуальнай справаздачы 7 комуністаў аб чытаемасці газет і літаратуры вынесена рашэнне: «Усім таварышам прачытваць у месяц па дзве кніжкі з мастацкай літаратуры. Наведваць два разы ў месяц кіно». У рашэнні сходу партгрупы такарнага цэха па справаздачах комуністаў аб культурным росце сказана: «Лічыць агульнае становішча па павышэнню культурнага ўзроўню комуністаў у партгрупе нездавальняючым. Правесці рад мерапрыемстваў па павышэнню культурнага росту комуністаў: галосную чытку газет, калектыўныя паходы ў кіно, разбор мастацкай літаратуры з беспартыйнымі рабочымі».

За апошні час партарганізацыя правяла вялікую работу да партдня, па пытанню, як комуністы выконваюць другі пункт статута ВКП(б). У падрыхтоўцы прымалі ўдзел 36 комуністаў. Створана было 5 брыгад, якія правяралі пытанні: ідэйна-палітычнага росту комуністаў, іх работы над сабой; выканання партыйных і грамадскіх нагрузак; праяўлення авангарднай ролі на вытворчасці; тэхнічнай вучобы і аўладання тэхнікай; выканання партыйнай, профсаюзнай і дзяржаўнай дысцыпліны.

Брыгады пачалі сваю работу з 12 лістапада, партыйны сход адбыўся 17 снежня.

* * *

Агітацыйная і прапагандысцкая работа, як сярод комуністаў, так і беспартыйных рабочых, да апошняга часу была на нізкім узроўні.

Агітатарамі партком кіраваў недастаткова, хоць і вылучыў іх у кожным цэху: у нова-механічным—2, стара-механічным—2, кавальскім—2, ліцейным—1. Іх работа ішла самацёкам.

Толькі адзінкі агітатараў здолелі як след арганізаваць сваю работу. Таварышы Эрэнгрос і Міндэль сістэматычна праводзяць гутаркі на розныя палітычныя тэмы, у абедзены перапынак і пасля работы чытаюць рабочым газеты. Раз у шасцідзенку зачытаны газетны матар'ял падагульняецца паасобнымі рабочымі, якім даручана сачыць за міжнароднымі падзеямі, і калектыўна абмяркоўваецца. У час гутарак выкарыстоўваюцца геаграфічныя карты, растлумачваюцца незразумелыя словы. Для ажыўлення работы таварыш Эрэнгрос чаргуе чытку палітычнага матар'ялу з мастацкай літаратурай і фельетонамі. Прачытаны паасобныя главы з раману Н. Астроўскага «Як гартавалася сталь», з Паднятай цаліны» Шолахава і інш.

Работа тт. Эрэнгроса і Міндэля дала станоўчыя вынікі. Усе рабочыя іх груп падпісаліся на газеты. Галосныя чыткі прывілі рабо-

чым любоў да газеты, зацікаўленасць палітыкай і мастацкай літаратурай. За апошнія два месяцы рабочыя прачыталі многа мастацкіх твораў. Тав. Галаўня прачытаў «Дрыгву» Я. Коласа, «Маці» М. Горкага, «Развітанне» Гоббера; тав. Гершун—«Зямлю» Бака і «Маці» М. Горкага; тав. Шчурэвіч—«Зямлю» Бака і «Запіскі з мёртвага дома» Дастаеўскага і т. д.

Тав. Эрэнгрос скардзіцца на партгабінет, які да апошняга часу мала дапамагаў яму ў рабоце, і ўсё прыходзілася рабіць самому.

У сувязі з рашэннем ЦК ВКП(б) «Аб становішчы палітычнай агітацыі на Балахнінскім цэлюлозна-папяровым камбінаце імя Дзержынскага (Горкаўскі край)» партком завода моцна ўзяўся за кіраўніцтва агітацыйнай і прапагандысцкай работай, дадаткова вылучыў 18 агітатараў і бяседчыкаў-чытчыкаў з лепшых комуністаў, комсамольцаў і спачуваючых, замяніў неапраўдаўшых сябе на рабоце агітатараў больш здольнымі таварышамі. Кожная кандыдатура агітатара і бяседчыка ўважліва абмяркоўвалася і потым зацвярджалася на паседжанні парткома.

Большасць вылучаных ужо мела некаторы вопыт агітацыйнай работы. Для прапрацоўкі апошніх прамоў тав. Сталіна было прыцягнута 36 палітычна граматных комуністаў, комсамольцаў і спачуваючых. Гэтыя таварышы прапрацоўвалі прамовы тав. Сталіна не толькі ў цэхах і брыгадах, але і на кватэрах рабочых. Такі метад прымяняўся і ў час прапрацоўкі матар'ялаў VII кангрэса Комінтэрна.

Лепшая частка гэтых таварышоў замацавана цяпер для сталай работы агітатарамі і бяседчыкамі-чытчыкамі. Гэты абавязак з'яўляецца асноўным у іх грамадскай рабоце. Сакратар парткома тав. Шамэс правёў з вылучанымі таварышамі 13 снежня першыя заняткі на тэму: «Як трэба арганізаваць палітычную агітацыю на заводзе і месца ў гэтай рабоце прапагандыстаў і бяседчыкаў-чытчыкаў». Заняткі прашлі вельмі ажыўлена. Лепшыя агітатары, тт. Эрэнгрос і Міндэль, падзяліліся вопытам сваёй работы. Абгавораны былі практычныя мерапрыемствы па ажыўленню і лепшай арганізацыі палітычнай агітацыі на заводзе ў далейшым.

Партком зацвердзіў прыняты сумесна з калектывам агітатараў план іх работы. Згодна плану заняткі праводзяцца рэгулярна раз у дэкаду па вывучэнню эканамічнай і фізічнай геаграфіі, у студзені намечана правесці дзесяцідзенныя курсы агітатараў з адрывам ад вытворчасці. Пры партгабінеце пачаў працаваць семінар для агітатараў і бяседчыкаў-чытчыкаў, дзе намячаюцца артыкулы і заметкі для чарговага чытання сярод рабочых, растлумачваюцца незразумелыя словы, даюцца неабходныя тлумачэнні, праводзяцца пробныя чыткі і т. п. Такім чынам чытчыкі загадзя падрыхтоўваюцца для работы ў цэху.

*

Палепшанне партыйнай і палітмасавай работы значна ўзняло авангардную ролю комуністаў на вытворчасці. Усе комуністы выконваюць і перавыконваюць свае вытворчыя заданні. Большасць комуністаў з'яўляюцца стаханаўцамі. Таварышы Кісель, Васілеўскі, Галаўня, Асташонак, Грыб, Савіцкі, Гейман і іншыя выконваюць свае вытворчыя заданні на 150—200 і больш процантаў. А тав. Гейман Майсей даў 400% нормы, зарабіўшы ў лістападзе 819 руб.

Стаханаўскі рух на заводзе выявіў магчымасці далейшага павы-

шэння прадукцыйнасці працы. На аснове разгортвання стаханаўскага руху завод выканаў свой гадавы вытворчы план яшчэ 20 лістапада і абавязаўся даць краіне прадукцыі на 565.000 рублёў звыш плана. Гэта сваё абавязацельства завод паспяхова выканаў.

Калектыў рабочых і інжынерна-тэхнічных работнікаў завода, абмеркаваўшы зварот рабочых станкабудаўнічага завода імя Серго Орджанікідзе і дасканала праверыўшы свае рэзервы, ускрытыя стаханаўскім рухам, прыняў на сябе абавязацельства: ад простага машынабудаўніцтва перайсці поўнасцю ў 1936 годзе да складанага і вывесці завод у перадавыя станкабудаўнічыя заводы БССР; выканаць план другой пяцігодкі за чатыры гады, даўшы краіне ў 1936 годзе 500 складаных станкоў, замест 285 па плану 1935 года.

На 1936 год запланаваны былі па капіталаўкладаннях 51 дадатковы станок, завод-жа абавязаўся выканаць гадавую праграму пры 26 дадатковых станках, адмовіўшыся такім чынам ад 25 станкоў, што дае дзяржаве эканоміі 390.000 рублёў.

Пасля выступлення тав. Сталіна на нарадзе стаханаўцаў партыйная арганізацыя моцна занялася кіраўніцтвам стаханаўскім рухам. Асаблівая ўвага звернута на тое, каб забяспечыць вядучую ролю камуністаў у стаханаўскім руху. Такі напрамак у рабоце пачынае ўжо даваць станоўчыя рэзультаты.

Практыка правядзення стаханаўскіх сутак на заводзе за апошні час паказвае, што ёсць поўная магчымасць не толькі выканаць, але і перавыканаць узятае абавязацельства. Стаханаўскія суткі, праведзеныя 31 снежня, паказалі, што пры ўмове добрай арганізацыі работы выдатных поспехаў могуць дабіцца не толькі паасобныя стаханаўцы, але і ўвесь завод у цэлым. Паасобныя стаханаўцы (Кантаровіч, Гімельштэйн, Галаўня і інш.) выканалі сваю норму на 347—401 проц., а завод у цэлым за гэты дзень выканаў свой план на 191 проц.

Яшчэ лепшыя вынікі далі стаханаўскія суткі, праведзеныя 11 студзеня ў адзнаку дня ўдарніка. Зменны план па заводу быў выканан на 290 проц. Паасобныя цэхі дабіліся яшчэ лепшых паказчыкаў: механа-зборачны (начальнік цэха Мацюш, тэхнарук—інжынер Гершун) выканаў зменнае заданне на 362 проц.

У цэнтры ўвагі партарганізацыі і рабочага калектыва завода—барацьба за якасць прадукцыі. Уведзеная двухбальная сістэма прыёмкі прадукцыі (на добра і выдатна) цалкам сябе апраўдала. Рабочыя Васілеўскі, Лапін, Шульман, Дубіцкі, Глінскі і іншыя здаюць прадукцыю на выдатна.

Шырока разгорнута барацьба за аўладанне тэхнікай, за ператварэнне завода ў завод суцэльнай тэхнічнай граматнасці. Адных толькі выдатнікаў тэхвучобы на заводзе 259 чалавек. Клопатамі аб людзях, чулымі адносінамі да запатрабаванняў кожнага рабочага вырашчаны новыя кваліфікаваныя кадры. Палепшыліся культурныя ўмовы работы. Увесь рабочы калектыў змагаецца за чыстату і парадак у цэхах.

Нядаўна закончана будаўніцтва новага механа-зборачнага цэха коштам у 4 млн. рублёў. Праводзіцца значная работа па ўпарадкаванню заводскага двара. Усё гэта стварае агромныя перспектывы далейшага развіцця і ператварэння завода імя Кірава ў буйнейшы станкабудаўнічы завод.

На працягу дзевяці месяцаў завод моцна трымае пераходны сцяг ГК КП(б)Б, ЦСПСБ і газеты «Рабочий», што з'яўляецца лепшым

довадам згуртаванай большэвіцкай работы партыйнай арганізацыі і ўсяго рабочага калектыва па выкананню пастаўленых перад імі партыяй і ўрадам задач.

Партарганізацыя завода не супакойваецца на дасягнутым. Зараз праводзіцца вялікая работа па замацаванню поспехаў і новага ўздыму актыўнасці, выкліканай праверкаю партыйных дакументаў, па далейшаму палепшанню якасці партыйнай работы.

---

**Салаўёў**

**Сакратар парткома добрушскай папяровай фабрыкі „Герой працы"**

# З вопыту правядзення палітдня на фабрыцы

Партарганізацыя фабрыкі пасля праверкі партыйнай гаспадаркі і партыйных дакументаў налічвае звыш 100 членаў і кандыдатаў партыі. Рабочы калектыў складае каля 4000 чалавек. Да праверкі партыйных дакументаў на фабрыцы выключна дрэнна праводзілася партыйна-выхаваўчая работа як унутры партыйнай арганізацыі, так і сярод беспартыйных рабочых.

Асноўнай прычынай гэтаму былі чуждыя людзі, якія ашуканчым шляхам прабраліся ў партыю і ў парткіраўніцтва фабрыкі.

Малярэвіч у перыяд праверкі партдакументаў як сакратар парткома стараўся даказаць райкому партыі, што на фабрыцы ўсё добра, што чуждых людзей у партыі няма. Але райком партыі, дзякуючы сваёй большэвіцкай настойлівасці, пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б, да канца выкрыў варожы твар парткіраўніцтва фабрыкі.

Вылучаны пасля праверкі партдакументаў новы партком здолеў дабіцца пэўных поспехаў у пастаноўцы партыйна-масавай работы, асабліва ў галіне падрыхтоўкі і правядзення палітдня.

Палітдзень на фабрыцы праводзіцца па зацверджанаму графіку 22 чысла кожнага месяца. Усе рабочыя актыўна рыхтуюцца да яго, як да святочнага дня. Дзякуючы правільнай пастаноўцы партыйна-масавай работы, фабрыка датэрмінова выканала план выпрацоўкі паперы за 1935 год і дала на 1.200.000 руб. прадукцыі звыш праграмы.

Асноўная задача палітдня—разгарнуць масавую выхаваўчую работу сярод усяго калектыва, вывучыць настроі рабочых, мабілізаваць іх на разгортванне стаханаўскага руху, на датэрміновае і якаснае выкананне промфінплана фабрыкі на аснове ўкаранення гістарычнай прамовы тав. Сталіна на ўсесаюзнай нарадзе стаханаўцаў.

К 1 студзеня 1936 года на фабрыцы налічвалася 200 чалавек стаханаўцаў. Усе яны ахоплены школамі тэхмінімума і палітграматы. Кожнага 10 чысла сакратар парткома склікае парторгаў разам з актывам, рэдактарамі насценгазет на нараду, каб абгаварыць пытанні, якія цікавяць рабочых у даным месяцы. Вынікі нарады пераносяцца на партком, які зацвярджае план правядзення палітдня.

13 чысла на семінары парторгаў і рэдактароў глыбока прапрацоўваецца тэма палітдня, пасля чаго парторгі склікаюць актыў сваіх цэхаў, знаёмяць з тэмай і рассылаюць па брыгадах бяседчыкаў для растлумачальнай работы сярод рабочых.

17 числа рабочым раздаюцца чыстыя бланкі для запісу пытанняў, якія 18—19 числа збіраюцца парторгамі і перадаюцца асабіста сакратару парткома для сістэматызацыі. Гэтыя пытанні ўручаюцца потым дакладчыку, каб ён мог загадзя азнаёміцца з імі перад сваім выступленнем.

У перыяд падрыхтоўкі да палітдня выпускаюцца спецыяльныя нумары цэхавых і брыгадных газет, раздаюцца на рукі ўсім рабочым, а частка пасылаецца на дом сем'ям рабочых.

За 5—6 дзён да палітдня па радыё і праз кіно-хроніку ў рабочым клубе паведамляецца, якія цэхі, парторгі, рэдактары насценгазет лепш рыхтуюцца да палітдня.

У вялікай колькасці своечасова вывешваюцца плакаты на тэму палітдня. Фасад фабрыкі і клуб мастацкі афармляюцца светлавымі лозунгамі, дыяграмамі з паказчыкамі выпрацоўкі прадукцыі стаханаўцамі і іх заработку.

20 числа партком склікае нараду парторгаў для інфармацыі аб тым, як праведзена падрыхтоўчая работа. На палітдзень усе цэхі з'яўляюцца арганізавана, з гармошкай, песнямі. Адчуваецца святочны настрой.

На фабрыцы праведзена за апошні час тры палітдні. 22 кастрычніка адбыўся палітдзень, прысвечаны італа-абісінскай вайне. Ад рабочых паступіла 1.137 пытанняў. К дакладу клуб падрыхтаваў 2 вялікія геаграфічныя карты: светлавую Абісініі, на якой флажкамі ўказвалася месца ваенных дзеянняў, і карту Еўропы, Афрыкі і Азіі.

Усе цэхі з'явіліся арганізавана. Клуб умяшчальнасцю на 1.500 чалавек быў перапоўнены. Рабочыя з вялікім задавальненнем праслухалі двухгадзінны даклад і ў прапановах прасілі як мага часцей праводзіць палітдні.

22 лістапада быў праведзен другі палітдзень на тэму: «Некаторыя пытанні пераходнага перыяду ад капіталізма к соцыялізму». Ад рабочых паступіла 1.500 пытанняў. Пасля даклада калектыў з 30 рабочых правёў вусны календар «18 год СССР» і ўрэшце дэманстраваўся кінофільм.

Трэці палітдзень адбыўся 22 снежня на тэму: «Фашысцкая Германія і яе ўзбраенні».

Усе палітдні спрыялі палепшанню масава-выхаваўчай работы, мабілізуючы ўсіх рабочых на выкананне пастановы СНК СССР і ЦК ВКП(б) аб папяровай прамысловасці. Рабочыя самі патрабавалі арганізаваць цэхавыя палітшколы. Зараз працуюць 5 школ стаханаўцаў з ахопам 200 чал., у палітшколе займаецца 300 рабочых.

Бюро райкома партыі вынесла спецыяльнае рашэнне аб тым, каб вопыт фабрыкі ў правядзенні палітдзён перадаць усяму раёну. Першы палітдзень па ўсіх сельсоветах адбыўся 22 снежня. Зацікаўленасць калгаснікаў і аднаасобнікаў была агромна. Яна сведчыць аб тым, што палітдзень з'яўляецца вышэйшай формай масава-выхаваўчай работы сярод працоўных.

Палітдні на фабрыцы ўжо замацаваны. Вылучаны сталы калектыў добра падрыхтаваных дакладчыкаў. Разам з тым выявіліся і некаторыя недахопы. Дакладчык за адзін вечар не можа поўнасцю адказаць на ўсе пастаўленыя пытанні. Большасць жонак рабочых прыходзяць з дзецьмі, што вельмі перашкаджае спакойна праслухаць тэму палітдня. Партком прыняў ужо меры для знішчэння гэтых

недахопаў. Абсталяваў дзіцячы пакой пры клубе, агульнафабрычную чытальню, арганізаваў два агітпункты, дзе падрыхтаваныя таварышы растлумачваюць рабочым усе пытанні, на якія не паспеў адказаць дакладчык.

Улічваючы вялікую зацікаўленасць палітднямі жонак рабочых і хатніх гаспадынь горада, на 26 студзеня рыхтуецца для іх спецыяльны палітдзень на тэму: «Рашэнні Пленума ЦК ВКП(б) ад 21/XII 1935 г.»

---

# Пытанні прамысловасці і транспарта ў сувязі са стаханаўскім рухам

*Рэзалюцыя Пленума ЦК ВКП(б) па дакладах т. т. Орджанікідзе, Любімава, Мікаяна, Лобава, Кагановіча Л. М., прынятая 25 снежня 1935 года*

Пераможнае ажыццяўленне плана першай і другой пяцігодак забяспечыла ўздым усёй тэхнічнай базы народнай гаспадаркі на новую вышэйшую ступень. Дзякуючы правільнай палітыцы індустрыялізацыі краіны і калектывізацыі сельскай гаспадаркі, праведзенай у барацьбе з класавымі ворагамі і іх агентурай унутры партыі і рабочага класа, Совецкая краіна пераўзброілася тэхнічна і рэарганізавала народную гаспадарку на аснове соцыялістычнай эканомікі.

Найвялікшымі намаганнямі партыі і дзяржавы, гераічнай барацьбой рабочага класа, намаганнямі ўсёй краіны ў кароткі тэрмін створана магутная соцыялістычная цяжкая прамысловасць, абсталяваная па апошняму слову тэхнікі і стаўшая базай рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі.

Створана машынабудаўнічая і сыравінная база для шпаркага росту лёгкай прамысловасці і перабудовы яе на новай тэхнічнай базе.

Замест дробных саматужных харчовых промыслаў і нямногіх буйных прадпрыемстваў створана аб'яднаная па ўсяму СССР харчовая індустрыя.

Замест саматужных, падрадніцкіх лесараспрацовак створана аб'яднаная буйная лясная прамысловасць.

Чыгуначны транспарт, які адставаў у задаваленні ўзрастаючых патрэб народнай гаспадаркі, шпарка падымаецца ўгару і тэхнічна пераўзбройваецца.

Усе гэтыя факты ў злучэнні з ліквідацыяй апошняга капіталістычнага класа—кулацтва і астаткаў эксплаатататарскіх класаў, са знішчэннем эксплаатацыі ў Совецкай краіне, з ператварэннем працы ў справу гонару, славы, адвагі і геройства, з карэнным палепшаннем матэр'яльнага становішча рабочых, з ростам іх палітычнай свядомасці і актыўнасці,—прывялі да бурнага развіцця ў нашай краіне стаханаўскага руху.

Стаханаўскі рух ёсць рэзультат усяго нашага развіцця на шляхах к соцыялізму, рэзультат перамогі соцыялізма ў нашай краіне.

Стаханаўскі рух азначае арганізацыю працы па-новаму, рацыяналізацыю тэхналагічных працэсаў, правільны падзел працы ў вытворчасці, вызваленне кваліфікаваных рабочых ад другараднай падрыхтоўчай работы, лепшую арганізацыю рабочага месца, забяспечанне

шпаркага росту прадукцыйнасці працы, забяспечанне значнага росту заработнай платы рабочых і служачых.

Стаханаўскі рух узнімае культурна-тэхнічны ўзровень рабочага класа, ламае старыя тэхнічныя нормы, перакрывае ў радзе выпадкаў прадукцыйнасць працы перадавых капіталістычных краін, забяспечвае шпаркі рост вытворчасці прадметаў спажывання і іх падзешаўленне, забяспечвае ператварэнне нашай краіны ў найбольш заможную краіну і ўмацоўвае такім чынам пазіцыі соцыялізма ў сусветным маштабе.

У капіталістычных краінах сур'ёзны рост прадукцыйнасці працы абавязкова выклікаў-бы скарачэнне ліку занятых рабочых, падзенне зарплаты, рост беспрацоўя, рост галечы, бо капіталізм не можа не скоўваць прадукцыйныя сілы краіны. У СССР, наадварот, бурны рост прадукцыйнасці працы абавязкова вядзе да расшырэння фронту вытворчасці, да павелічэння колькасці дзеючых станкоў і агрэгатаў і, значыць, да росту колькасці занятых рабочых, да росту іх зарплаты, бо совецкі лад, вызваліўшы прадукцыйныя сілы ад капіталістычных акоў, не можа не весці да ўсямернага іх развіцця.

У капіталістычных краінах сур'ёзны рост прадукцыйнасці працы стварыў-бы для буржуазіі небяспечнейшыя затрудненні, бо ён прывёў-бы, па-першае, да бурнага росту прадукцыі, што небяспечна ва ўмовах крызісу, ён прывёў-бы, па-другое, да падзешаўлення прадметаў спажывання, што таксама небяспечна для капіталізма, бо сучасны капіталізм лічыць за лепшае прадаваць тавары па манапольных цэнах. У СССР, наадварот, бурны рост прадукцыйнасці працы, рост прадукцыі і яе падзешаўленне з'яўляюцца не небяспекай, а найвялікшым дасягненнем, якое вядзе да багацця прадметаў спажывання, да іх падзешаўлення і да росту рэальнай зарплаты, бо совецкі лад не ведае крызісаў, ён не прыемле манапольных цэн і ставіць сваёй гаспадарчай мэтай не здабыванне высокіх прыбыткаў для прыватных асоб, а няўхільны ўздым матар'яльнага становішча працоўных, якія з'яўляюцца асноўнай і найбольш каштоўнай сілай усёй народнай гаспадаркі.

Некаторыя гаспадаркі прамысловасці і транспарта не зразумелі сэнсу стаханаўскага руху і апынуліся ў палоне заніжаных праектных магутнасцей нашых прадпрыемстваў, разлічаных у свой час на адсталасць нашых рабочых і тэхнічных кадраў. Іменна гэты факт, злучаны з самазадаваленнем з выпадку дасягнення заніжаных праектных магутнасцей, прывёў к таму, што некаторыя відныя і ў мінулым маючыя бясспрэчныя заслугі ў індустрыялізацыі краіны гаспадарнікі не толькі не здолелі ўзначаліць стаханаўскі рух, але сталі нават тормазам яго.

Акрамя таго, ў радах работнікаў інжынерна-тэхнічнай працы, побач з прагрэсіўнымі элементамі ёсць частка інжынераў і тэхнікаў, якія выхаваліся на аснове вопыту капіталістычнай вытворчасці і ў значнай сваёй частцы на аснове адсталай тэхнікі дарэволюцыйнай рускай прамысловасці, якая на першых этапах аказалася ў хвасце стаханаўскага руху.

Гэтыя акалічнасці затрудняюць разгортванне стаханаўскага руху.

Задача заключаецца ў тым, каб, карыстаючыся ўсімі навуковымі ведамі і тэхнічным вопытам, накопленымі прамысловасцю, адрашыцца ад недавыкарыстання тэхнікі, немінучага ў капіталістычным грамадстве, дзе рабочы працуе не на сябе, не на калектыў, а на капіта-

ліста, дзе гаспадарка развіваецца не па плану, у інтарэсах усяго народу, а стыхійна, у інтарэсах паасобных капіталістаў, пайсці ў нагу са стаханаўскім рухам, узначаліць яго і дапамагчы яму стварыць новую, вышэйшую ў параўнанні з капіталізмам, прадукцыйнасць працы.

Неабходна, перш за ўсё, зламаць застаўшаеся супраціўленне стаханаўскаму руху з боку кансерватыўнай часткі гаспадарнікаў і інжынерна-тэхнічных работнікаў усіх галін прамысловасці і транспарта і, па-другое,—усямэрна дапамагчы ўзначаліць гэты рух тым гаспадарнікам, інжынерам і тэхнікам, якія ідуць насустрач стаханаўскаму руху, але не здолелі яшчэ ўзначаліць яго.

Партыйныя і профсаюзныя арганізацыі павінны выкрываць класава-варожыя элементы, якія прабуюць пакасціць стаханаўцам, і згуртаваць вакол стаханаўскага руху найшырэйшыя масы рабочых.

Неабходна замяніць цяперашнія тэхнічныя нормы, як застарэлыя, больш высокімі нормамі і змяніць адпаведна нормы выпрацоўкі ў бок некаторага іх павышэння з тым, аднак, каб ва ўмовах прагрэсіўнай здзельшчыны цяперашнія расцэнкі былі захаваны, а фонд заработнай платы з прычыны росту стаханаўскага руху быў павялічаны.

Пленум ЦК асуджае існуючую сістэму і практыку ўстанаўлення норм выпрацоўкі, як не адпавядаючую дасягнутаму ўзроўню перадавой тэхнікі СССР і не адказваючую задачы далейшага ўздыму прадукцыйнасці працы.

Пераважанне ў практыцы нармавання так званых вопытна-статыстычных норм, раўненне на выпрацоўку слаба ўладаючага тэхнікай сваёй вытворчасці рабочага, адсутнасць пры ўстанаўленні норм выпрацоўкі сапраўднага аналіза росту вытворчых магчымасцей прадпрыемства і цэха, росту энергаўзброенасці рабочага, росту яго тэхнічнага і культурнага ўзроўню—усё гэта робіць існуючую практыку нармавання працы тормазам на шляху далейшага росту прадукцыйнасці працы і заработку рабочых.

Неабгрунтаванасць і шкоднасць існуючай практыкі ўстанаўлення норм асабліва наглядна дэманструюцца на каласальным перавыкананні новаўстанаўляемых норм выпрацоўкі зараз-жа пасля іх устанаўлення і пры тым не паасобнымі рабочымі, з значнай масай рабочых.

Пленум ЦК лічыць асабліва недапушчальным, што гэты адказнейшы ўчастак арганізацыі вытворчасці скрозь і ўсюды перададзены так званым нармоўшчыкам і тарыфікатарам, а начальнікі цэхаў, інжынеры, тэхнікі, майстры і кіраўнікі прадпрыемстваў або зусім не займаюцца пытаннямі нармавання, або механічна штэмпелююць распрацоўваемыя нармоўшчыкамі і тарыфікатарамі нормы выпрацоўкі.

Пленум ЦК лічыць неабходным:

а) Выходзіць пры ўстанаўленні норм выпрацоўкі са строгай праверкі вытворчых магчымасцей цэха і прадпрыемства і ўліку перадавога вытворчага вопыту стаханаўцаў;

б) Ускласці работу па нармаванню і адказнасць за яе стан на інжынерна-тэхнічны персанал цэха і прадпрыемства пад непасрэдным кіраўніцтвам дырэктара прадпрыемства;

в) Шырока прыцягнуць да работы па ўстанаўленню новых норм выпрацоўкі на прадпрыемствах кадры стаханаўцаў.

Каб пашырыць стаханаўскі рух па ўсёй нашай краіне, каб масавы стаханаўскі рух не вытлумачваўся, як хуткапраходзячая кампанія, каб дапамагчы стаханаўцам перамагчы тыя перашкоды, якія ёсць на іх

шляху, партыйныя і профсаюзныя арганізацыі павінны ўключыцца ў справу развіцця стаханаўскага руху і накіраваць намаганні стаханаўцаў у арганізаванае русло.

Неабходна дапамагчы ўсім без выключэння стаханаўцам папоўніць свае тэхнічныя веды, стварыўшы для іх спецыяльныя тэхнічныя курсы, якія не патрабуюць адрыву ад вытворчасці.

Неабходна сістэматычна расшыраць кола рабочых і работніц, якія падлягаюць абавязковаму абучэнню тэхнічнаму мінімуму.

Неабходна, нарэшце, зрабіць абучэнне тэхнічнаму мінімуму ўсеагульным і абавязковым для ўсіх рабочых і работніц, падначаліўшы гэту важнейшую справу задачы ўздыму культурна-тэхнічнага ўзроўню рабочага класа да ўзроўню работнікаў інжынерна-тэхнічнай працы.

Пленум ЦК ВКП(б) рэкамендуе наступныя мерапрыемствы па асобных галінах народнай гаспадаркі:

### У галіне цяжкай індустрыі

1. Разгарнуць ва-ўсю стаханаўскі рух **перш за ўсё ва ўсіх здабываючых** галінах і, у першую чаргу, у **вугальнай і руднай** прамысловасці, дзе стаханаўскі рух упершыню пачаўся і разгарнуўся, у **нафтавай** прамысловасці, дзе да гэтага часу стаханаўскі рух не развіт, у **чорнай і каляровай металургіі, у будаўніцтве,** у вытворчасці **будматар'ялаў** і ў тых **хімічных** вытворчасцях, якія не абмежаваны сыравіннымі рэсурсамі (у першую чаргу, вытворчасць сінтэтычнага аміяка і азотных угнаенняў, сінтэтычнага каўчука і т. д.).

Арганізацыя стаханаўскага руху павінна мець у гэтых галінах асноўнай сваёй мэтай максімальнае павелічэнне вытворчасці і зніжэнне яе сабекошту, выходзячы з таго, што вытворчая праграма з'яўляецца толькі мінімальным абавязковым заданнем.

2. У **машынабудаўніцтве** стаханаўскі рух павінен быць накірован у першую чаргу на лепшае скарыстанне металу, на лепшае скарыстанне рабочай сілы, на павышэнне скарыстання машыннага часу, на высокую якасць вырабаў, на аўладанне вытворчасцю і падзешаўленне ўдасканаленых у тэхнічных адносінах і бездакорных па якасці машын на існуючым абсталяванні.

3. На **электрастанцыях і электрасетках**—пераход на безаварыйную работу, павышэнне скарыстання абсталявання за кошт змяншэння прастояў кацельных і турбінных агрэгатаў у бягучым і капітальным рамонце, скарачэнне ўдзельнага расходу апалу.

4. У галінах цяжкай прамысловасці, якія перапрацоўваюць дэфіцытную сыравіну, побач з барацьбой за высокую прадукцыйнасць працы, стаханаўскі рух павінен быць накірован па лініі эканоміі сыравіны, замены гэтай сыравіны іншай, барацьбы са стратамі ў браку і адыходах, па лініі рэзкага палепшання якасці прадукцыі, павелічэння тэрміну службы гатовага вырабу.

5. Народнаму Камісарыяту Цяжкай Прамысловасці закончыць у 1936 г. перагляд тэхнічных норм абсталявання і вытворчых магутнасцей прадпрыемстваў у бок іх павышэння, пачаўшы перагляд з вугальных шахт, жалезных руднікоў, руднікоў і ўзбагачальных фабрык каляровай металургіі, з нафтавых промыслаў, нафтаперагонных заводаў, доменных печаў, сталеплавільных цэхаў, пракатных станаў, медзеплавільных, цынкавых, свінцовых, алюмініевых заводаў і прадпрыемстваў рэдкіх металаў,—вытворчасці сінтэтычнага аміяка

і азотных угнаенняў, сернай кіслаты, фасфатных угнаенняў, сінтэтычнага каўчука, аніла-фарбавай прамысловасці і інш., а таксама цэментных заводаў і іншых прадпрыемстваў будаўнічых матар'ялаў, а таксама будаўнічых механізмаў.

У аснову перагляду праектных магутнасцей пакласці новыя, павышаныя тэхнічныя нормы. Гэтыя тэхнічныя нормы, якія вызначаюць магутнасці паасобных агрэгатаў абсталявання, складаць на аснове праверанага вопыту лепшых стаханаўцаў.

6. Народнаму Камісарыяту Цяжкай Прамысловасці прыступіць у пачатку 1936 года да перагляду норм выпрацоўкі ў бок некаторага павышэння, для чаго папярэдне склікаць, па календарнаму плану, зацверджанаму НКЦП, галінныя канферэнцыі ў складзе дырэктароў заводаў, прадпрыемстваў, начальнікаў цэхаў, інжынераў, майстроў і стаханаўцаў, на якіх дасканала, падрабязна і канкрэтна прапрацаваць пытанне як аб пераглядзе тэхнічных норм абсталявання і магутнасцей прадпрыемстваў, так і аб пераглядзе норм выпрацоўкі.

7. Прапанаваць НКЦП распрацаваць і зацвердзіць план перагляду падручнікаў, справачнікаў, энцыклапедый і ўсякага роду тэхнічных дапаможнікаў, каб прывесці іх у адпаведнасць з новымі тэхнічнымі нормамі абсталявання.

8. Абавязковае абучэнне мінімуму тэхнічных ведаў рабочых 255 вядучых спецыяльнасцей цяжкай прамысловасці цалкам сябе апраўдала. З 797.050 рабочых, здаўшых дзяржаўны тэхнічны экзамен, выйшлі лепшыя стаханаўцы, у тым ліку таварышы **Стаханаў, Бусыгін, Арцюхаў** і многія іншыя. Лічачы першаступенным задачай ахапіць тэхнічнай вучобай пагалоўна ўсіх рабочых цяжкай прамысловасці, Пленум ЦК ВКП(б) абавязвае НКЦП правесці наступныя мерапрыемствы:

а) неадкладна расшырыць круг рабочых, падлягаючых абавязковаму абучэнню тэхмінімуму, з такім разлікам, каб у бліжэйшыя тры-чатыры гады ахапіць тэхнічнай вучобай **усіх** рабочых цяжкай прамысловасці і перагледзець змест тэхмінімуму ў адпаведнасці з новымі магчымасцямі і з новымі задачамі цяжкай прамысловасці;

б) для выдатных рабочых, рабочых-стаханаўцаў, арганізаваць без адрыву ад вытворчасці спецыяльныя курсы майстраў соцыялістычнай працы, прымаючы на гэтыя курсы стаханаўцаў, якія даюць высокую прадукцыйнасць працы.

### У галіне лёгкай прамысловасці

1. У лёгкай прамысловасці стаханаўскі рух развіць, у першую чаргу, у галінах першапачатковай перапрацоўкі сыравіны—па **бавоўназаводах, ільназаводах, пеньказаводах, шоўкаматальных, скурасурагатных** прадпрыемстваў і па вытворчасці дапаможных матар'ялаў, дэталей і машын. У тэкстыльных галінах: у першую чаргу па ільнянай і шаўковай прамысловасці і, у асаблівасці, па **ільнапрадзенню і шоўкаткацтву;** па баваўняна-папяровай, трыкатажнай і пенька-джутавай прамысловасці, у першую чаргу, па **прадзенню** і, у прыватнасці, па выпрацоўцы **грабеннай** і **кручанай** пражы.

У сувязі з стаханаўскім рухам, дабіцца эканоміі ў выдаткаванні сыравіны, поўнага выкарыстання адыходаў і ўгараў, шырокага развіцця і выкарыстання замяніцеляў пры адначасовым палепшанні асартыменту, якасці прадукцыі і яе падзешаўленні.

2. Наркамату Лёгкай Прамысловасці, на аснове дасягненняў прадукцыйнасці абсталявання і вопыту работы лепшых стаханаўцаў, на працягу 1936 года перагледзець у бок павышэння тэхнічныя нормы абсталявання і вытворчыя магутнасці існуючых прадпрыемстваў, а таксама праектныя магутнасці новабудуючыхся фабрык і заводаў, правёўшы гэту работу ў першую чаргу па бавоўназаводах і ільназаводах, па ільнянай, пяньковай, шаўковай, гарбарнай і інш. галінах прамысловасці.

Забяспечыць найбольш поўнае выкарыстанне вытворчых магутнасцей і павышэнне каэфіцыента карыснага дзеяння абсталявання шляхам знішчэння прастояў і павелічэння хуткасцей машын, станкоў і агрэгатаў. Пры пераходзе стаханаўцаў на абслугоўванне большай колькасці станкоў і машын забяспечыць далейшае павышэнне прадукцыйнасці абсталявання.

3. У адпаведнасці з пераглядам тэхнічных норм перагледзець нормы выпрацоўкі ў бок некаторага павышэння па галінах лёгкай прамысловасці. Устанавіць нормы выпрацоўкі прадукцыі на аднародных гатунках на аднаго вытворчага рабочага ў ткацтве і прадзенні. Перагледзець нормы абслугоўвання станкоў і машын адным рабочым, праверыць склад і размеры брыгад, якія працуюць на ўшчыльненых работах, і забяспечыць лепшыя ўмовы і матар'яльную зацікаўленасць у рабоце майстроў і падмайстраў.

Для выпрацоўкі тэхнічных норм і перагляду магутнасцей прадпрыемства Наркамлегпрому на працягу першага паўгоддзя 1936 года склікаць галінныя вытворчыя канферэнцыі ў складзе дырэктароў прадпрыемстваў, галоўных інжынераў, начальнікаў цэхаў, майстроў, падмайстраў і лепшых стаханаўцаў, закончыўшы гэту работу к моманту складання вытворчых планаў на 1937 год.

4. У сувязі з задачай лепшай падрыхтоўкі інжынерна-тэхнічных кадраў, Наркамлегпрому перагледзець сістэму падрыхтоўкі інжынерна-тэхнічнага персанала, а таксама падручнікі і тэхнічныя справачнікі, устраніўшы застарэлыя тэхнічныя ўказанні і тэхнічныя нормы.

Правесці мерапрыемствы па павышэнню кваліфікацыі інжынерна-тэхнічнага персанала, майстроў і падмайстраў, забяспечыўшы абмен вопытам інжынерна-тэхнічных работнікаў з лепшымі прадпрыемствамі Саюза і азнаямленне з вопытам заграніцнай тэхнікі.

Побач з існуючымі праграмамі па тэхмінімуму ўстанавіць павышаныя праграмы па тэхмінімуму і забяспечыць засваенне як існуючай, так і павышанай праграмы па тэхмінімуму ўсімі рабочымі на працягу 1936 і 1937 гг., а для стаханаўцаў-вінаградаўцаў арганізаваць сетку курсаў і школ без адрыву ад вытворчасці.

5. У мэтах знішчэння існуючых недахопаў у сістэме заработнай платы па лёгкай прамысловасці і перш за ўсё знішчэння недапушчальнай «прагрэсіўкі ўнутры норм», даручыць Наркамлегпрому прадставіць у ЦК і СНК свае прапановы аб перабудове заработнай платы з улікам неабходнага матар'яльнага заахвочання вядучых у вытворчасці кваліфікаваных кадраў рабочых і інжынераў.

6. Лічыць асноўным патрабаваннем да лёгкай прамысловасці пастаянную сістэматычную барацьбу за палепшанне і разнастайнасць асартыменту прадукцыі, за павышэнне яе якасці, за лепшае афармленне, расфарбоўку, маляўнічасць і зграбнасць вырабаў у адпаведнасці з задачай поўнага выканання плана другой пяцігодкі.

## У галіне харчовай прамысловасці

Пленум ЦК ВКП(б) ставіць перад Наркамхарчпромам СССР і ўсімі кіраўнікамі харчовых прадпрыемстваў задачу ўсямернага разгортвання стаханаўскага руху, у першую чаргу, на **цукрова-пясочных** і **рафінадных** заводах, **бісквітных** фабрыках, **спіртовых** заводах, у **рыбнай** прамысловасці, на **саляных** шахтах і **промыслах,** дзе багацце сыравінных рэсурсаў і тэхнічная рэканструкцыя прадпрыемстваў ствараюць найбольш спрыяючыя ўмовы для павышэння прадукцыйнасці працы і шпаркага росту прадукцыі.

Разгортванне стаханаўскага руху на харчовых прадпрыемствах павінна суправаджацца барацьбой за максімальнае скарачэнне страт у вытворчасці—сыравіны, поўфабрыкатаў, упаковачных і іншых матар'ялаў і карэнным палепшаннем усёй пастаноўкі справы снабжэння рабочых сыравінай і матар'яламі і барацьбой за зніжэнне сабекошту.

Пленум ЦК ВКП(б) прапануе Наркамхарчпрому СССР:

1. На працягу 1936 года перагледзець у бок павышэння на аснове вопыту работы стаханаўцаў сапраўдную тэхнічную магутнасць паасобных агрэгатаў, апаратаў і канвеераў і на падставе гэтага ўстанавіць вытворчую магутнасць прадпрыемстваў.

2. Выявіць вузкія месцы прадпрыемстваў, зніжаючыя іх магутнасць, і ліквідаваць гэтыя вузкія месцы, накіроўваючы капіталаўкладанні 1936 года ў першую чаргу на гэту мэту.

3. Перабудаваць кіраўніцтва прадпрыемствамі, шырока ўкараняючы праверараны вопыт стаханаўцаў па лепшай арганізацыі рабочага месца, падзелу працы і вызваленню кваліфікаваных рабочых ад некваліфікаванай работы, павелічэнню рабочых хуткасцей агрэгатаў і канвеераў, механізацыі ручных працэсаў, новай расстаноўцы абсталявання, якая палягчае абслугоўванне адным рабочым некалькіх агрэгатаў, палепшанню работы ўнутрызаводскага транспарту і дапаможных цэхаў, лепшай арганізацыі рамонтнай справы і т. д.

4. Перагледзець існуючыя і выдаць новыя тэхнічныя інструкцыі, справачнікі і тэхнічныя кіраўніцтвы, на падставе вопыту работы стаханаўцаў харчовай прамысловасці.

5. Улічыць новыя формы арганізацыі працы і тэхналагічнага працэсу на падставе вопыту работы стаханаўцаў і перагляд застарэлых тэхнічных нарматываў прадпрыемстваў пры праектаванні новага будаўніцтва як у вылічэнні магутнасцей прадпрыемстваў, так і ў расстаноўцы агрэгатаў.

6. Склікаць канферэнцыі па галінах харчовай прамысловасці з удзелам дырэктароў, інжынераў і рабочых-стаханаўцаў для перагляду тэхнічных норм у бок іх павышэння і адпаведна з гэтым перагляду норм выпрацоўкі у бок іх некаторага павышэння, а таксама для распрацоўкі мерапрыемстваў па расшыўцы вузкіх месц прадпрыемстваў з тым, каб новыя нормы ўвесці з пачатку новага сезона, у першую чаргу па цукровай, салянай, рыбнай і спіртовай прамысловасці.

7. Шырэй разгарнуць справу тэхнічнага абучэння рабочых, забяспечыўшы праходжанне тэхмінімума ўсімі сталымі рабочымі харчовых прадпрыемстваў, а таксама сезоннымі рабочымі кваліфікаваных прафесій са здачай імі дзяржаўнага экзамена па тэхмінімуму на працягу 1936 і 1937 гг.

Для рабочых, якія вытрымалі іспыты па тэхмінімуму, арганізаваць спецыяльныя курсы павышанага тыпу са здачай па сканчэнні

гэтых курсаў дзяржаўната экзамена на тэхнічныя веды другой ступені без адрыву ад вытворчасці.

Шырэй разгарнуць кароткатэрміновыя курсы па ўдасканаленню для дырэктароў, інжынераў, хімікаў і тэхнікаў прадпрыемстваў, у прыватнасці, скарыстоўваючы для гэтага час сезонных перапынкаў у вытворчасці.

Прапусціць праз курсы ўдасканалення ў 1936 годзе большасць інжынерна-тэхнічных работнікаў цукровай, спіртовай, мясной, маслабойнай і кандзіцерскай прамысловасці.

8. Пленум ЦК ВКП(б) абавязвае кіраўнікоў харчовай прамысловасці ўлічыць, што стаханаўскі рух ставіць перад харчовай прамысловасцю не толькі задачы павелічэння прадукцыйнасці працы і павелічэння колькасці выпускаемай прадукцыі, але патрабуе ўсямернага палепшання смакавых і спажыўных якасцей харчовых прадуктаў, палепшання іх упакоўкі, расфасоўкі, узбагачэння асартыменту, у адпаведнасці з павышанымі патрабаваннямі працоўных і разгортваючагася совецкага гандлю.

### У галіне лясной прамысловасці

1. Разгарнуць стаханаўскі рух па **лесазагатоўках**, у першую чаргу, на **механізаваных лесапунктах**, выкараняючы антымеханізатарскія настроі адсталай часткі лесазагатоўчага апарата. У **папяровай прамысловасці**—ў поўфабрыкатных цэхах, па выпрацоўцы цэлюлозы і дрэўнай масы, па павелічэнню знімання цэлюлозы з 1 кбм. варачнага катла, а таксама па павелічэнню выпрацоўкі папераробчых машын. У **лесапіленні** сканцэнтравацца на павышэнні прадукцыйнасці рамазмены па пропуску сыравіны, асабліва на больш аснашчоных прадпрыемствах, павелічэнні выхадаў пілапрадукцыі. У **мэблевай, фанернай і запалкавай** прамысловасці—на павышэнні прадукцыйнасці абсталявання, палепшанні якасці прадукцыі, у лесахімічнай прамысловасці—на павелічэнні выхаду прадукцыі і паскарэнні абарачваемасці апаратаў. Асабліва важнай задачай лясной прамысловасці лічыць зніжэнне сабекошту лясных матар'ялаў.

2. Народнаму Камісарыяту Лясной Прамысловасці пераглядзець у бок іх павышэння тэхнічныя нормы прадукцыйнасці абсталявання і вытворчую магутнасць прадпрыемстваў, у першую чарту на лесазагатоўках і лесавывазцы, у папяровай прамысловасці, лесапіленні і лесахіміі.

У сувязі з пераглядам норм і вытворчых магутнасцей, пераглядзець у бок некаторага павышэння нормы выпрацоўкі на працягу першага паўгоддзя 1936 года па фабрычна-заводскіх галінах лясной прамысловасці і на працягу 1936 года—на лесазагатоўках і вывазцы, для чаго папярэдне склікаць галінныя канферэнцыі ў складзе дырэктароў прадпрыемстваў, заводаў, леспрамгасаў, начальнікаў цэхаў, лесапунктаў, ІТР і рабочых-стаханаўцаў.

3. Прапанаваць НКЛ пераглядзець падручнікі, справачнікі, тэхнічныя дапаможнікі і кіраўніцтвы для праектавання новых прадпрыемстваў з улікам дасягненняў стаханаўцаў па перавыкананню існуючых норм.

Работу навукова-даследчых інстытутаў накіраваць на скарыстанне і шырокае распаўсюджанне вопыту стаханаўцаў.

4. Адзначаючы слабы ахват тэхнічнай вучобай рабочых па прад-

прыемствах лясной прамысловасці, Пленум ЦК ВКП(б) абавязвае НКЛес разгарнуць тэхнічнае абучэнне рабочых з разлікам ахвату на працягу двух год усіх рабочых асноўных спецыяльнасцей. Перагледзеўшы змест тэхмінімума, на працягу 1936 года прапусціць праз кароткатэрміновыя курсы без адрыву ад вытворчасці са здачай дзярж-тэхэкзамена рабочых вядучых прафесій, у першую чаргу папяровай, дрэваапрацоўчай і лесахімічнай прамысловасці, а затым кадравых рабочых лесазагатовак і сплаву.

5. Абавязаць Наркамлес забяспечыць павышэнне тэхнічнай кваліфікацыі рабочых-стаханаўцаў шляхам арганізацыі як спецыяльных кароткатэрміновых курсаў, гурткоў, так і індывідуальнага абучэння, павышаючы не толькі іх кваліфікацыю, але і агульнаасветны і культурна-палітычны ўзровень.

## У галіне чыгуначнага транспарту

1. Разгарнуць стаханаўскі рух, у першую чаргу, сярод работнікаў па рамонту паравозаў, вагонаў і пуці і эксплаатацыйнікаў, якія адстаюць ад машыністаў.

Па службе эксплаатацыі асноўнай задачай стаханаўскага руху з'яўляецца палепшанне работы станцый, адпраўленне і правядзенне таварных і, у асаблівасці, пасажырскіх паяздоў строга па раскладу, далейшае павышэнне камерцыйнай хуткасці і сярэдне-сутачнага прабегу вагонаў, скарачэнне прастояў на станцыях і пад пагрузкай і выгрузкай.

Па паравознай і вагоннай гаспадарцы стаханаўска-крываносаўскі рух павінен быць накіраван на павышэнне якасці і скарачэнне тэрмінаў рамонту, бесперабойную выдачу паравозаў пад паязды, замацаванне пераходу на поўнае аўтатармажэнне паяздоў, на павышэнне тэхнічнай хуткасці ў большасці дэпо сеткі да ўзроўню, дасягнутага перадавымі дэпо, на павелічэнне сярэдне-сутачнага прабегу паравозаў і эканомію апалу.

Па пуцявой гаспадарцы стаханаўскі рух павінен быць, перш за ўсё, накіраваны на высокаякаснае ўтрыманне пуці, ліквідацыю няспраўнасцей пуці.

Першачарговым патрабаваннем, абавязковым для ўсіх служб чыгуначнага транспарту, для ўсіх прафесій, з'яўляецца безаварыйная работа. Работа без аварый і крушэнняў—рашаючы паказчык стаханаўска-крываносаўскай работы на транспарце.

2. Народнаму Камісарыяту Шляхоў Зносін закончыць у 1936 г. пачаты ў 1935 г. перагляд тэхнічных норм у бок павышэння скарыстання рухомага састава, прапускных здольнасцей лініі і абсталявання. Перагляд правесці ў першую чаргу на заводах НКШЗ, пагрузачна-разгрузачных і сартыровачных станцыях і па рамонту паравозаў, вагонаў і пуці.

Перагледзець к красавіку 1936 года графік руху паяздоў і прапускныя здольнасці ліній, у першую чаргу найбольш напружаных.

3. Народнаму Камісарыяту Шляхоў Зносін прыступіць з 2-га квартала 1936 года да перагляду норм выпрацоўкі ў бок некаторага павышэння, з улікам новых тэхнічных норм. Для гэтага папярэдне склікаць па календарнаму плану, зацверджанаму НКШЗ, адпаведныя нарады па галінах гаспадаркі і важнейшых катэгорый работнікаў

чыгуначнага транспарта, у складзе стаханаўцаў, майстроў, інжынераў, камандзіраў.

Павялічыць колькасць работнікаў, якія працуюць на індывідуальнай здзельшчыне, прымяніць акордную сістэму аплаты на пуцявых і будаўнічых работах, прымяніць апраўдаўшую сябе на прыкладзе машыністаў прагрэсіўна-здзельную аплату працы і да іншых работнікаў транспарта.

4. Народнаму Камісарыяту Шляхоў Зносін на падставе вопыту выкрыцця кансерватыўных элементаў, якія ўкараніліся на транспарце больш, чым у іншых галінах народнай гаспадаркі, арганізаваць перагляд падручнікаў, справачнікаў, энцыклапедый, усякага роду тэхнічных дапаможнікаў і інструкцый, каб прывесці іх у адпаведнасць з новай практыкай работы транспарта і з новымі тэхнічнымі нормамі.

5. Прапанаваць НКШЗ арганізаваць абучэнне мінімуму тэхнічных ведаў без адрыву ад вытворчасці, перш за ўсё ніжэйшага каманднага складу і рабочых вядучых спецыяльнасцей чыгуначнага транспарта. На працягу 1936 года абучыць тэхмінімуму не менш 500 тысяч рабочых. Распрацаваць план далейшага ахвату рабочых абучэннем з такім разлікам, каб на працягу двух—трох год абучыць тэхмінімуму ўсіх работнікаў чыгуначнага транспарта.

Арганізаваць больш кваліфікаваную тэхнічную вучобу перадавых работнікаў-стаханаўцаў-крываносаўцаў на спецыяльных курсах без адрыву, а ў выпадку неабходнасці і з адрывам ад вытворчасці, з больш павышанай праграмай, забяспечыўшы іх падручнікамі і кваліфікаванымі выкладчыкамі.

Прасоўваць лепшых стаханаўцаў, паспяхова прайшоўшых курсы, на больш высокую кваліфікацыю і камандныя пасты (напрыклад, брыгадзіраў у майстры, памочнікаў машыністаў у машыністы, стрэлачнікаў у саставіцелі і дзяжурныя па пуцях і станцыі, саставіцеляў у дзяжурныя па станцыі і т. п.).

# Вынікі праверкі партыйных дакументаў

*Рэзалюцыя Пленума ЦК ВКП(б) па дакладу тав. Ежова, прынятая 25 снежня 1935 года*

Праверка партыйных дакументаў у членаў і кандыдатаў партыі, праведзеная на аснове пастановы ЦК ВКП(б) ад 13 мая 1935 года, з'явілася велізарнай важнасці арганізацыйна-палітычным мерапрыемствам па ўмацаванню радоў ВКП(б).

У ходзе праверкі партыйных дакументаў поўнасцю пацвердзіліся ўказанні ЦК ВКП(б), даныя ў лісце ад 13 мая 1935 года, аб тым, што ва многіх партарганізацыях пануе сваявольства ў выдачы і хаванні партыйных дакументаў і хаос у пастаноўцы ўліку членаў і кандыдатаў партыі.

Важнейшым рэзультатам праверкі партыйных дакументаў з'яўляецца тое, што партыйныя арганізацыі, адначасова з выкрыццём пралезшых у партыю чуждых людзей, у значнай меры перамаглі элементы гэтай арганізацыйнай распушчанасці, прывялі ў парадак улік членаў партыі, лепш вывучылі комуністаў і на гэтай аснове вылучылі многіх новых, здольных работнікаў на кіруючую партыйную, совецкую і гаспадарчую работу.

Велізарнейшай перавагай усёй работы па арганізацыі праверкі партыйных дакументаў было тое, што па даручэнню ЦК ВКП(б) праверкай займаліся непасрэдна самі партыйныя органы, не ствараючы ніякіх спецыяльных камісій. Такім чынам, кіруючаму складу партыйнага апарата, на прыкладах выкрыцця пранікшых у ВКП(б) ворагаў і метадаў іх падрыўной работы супроць партыі, удалося ўскрыць свае ўласныя недахопы і памылкі ў партыйна-арганізацыйнай рабоце і прыняць меры для яе карэннага палепшання. Партыйны апарат у значнай меры перабудаваў сваю работу і ўмацаваўся як за кошт прыцягнення новых праверaных кадраў, так і за кошт ачышчэння яго ад нягодных для партыйнай работы людзей, у першую чаргу тых, якія, не гледзячы на неаднаразовыя папярэджанні ЦК ВКП(б), не зразумелі сэнсу і значэння праверкі партыйных дакументаў, па-апартуністычнаму падышлі да яе правядзення, а ў радзе выпадкаў аказалі прамое супраціўленне гэтаму важнейшаму мерапрыемству па ўмацаванню радоў ВКП(б).

Усё гэта разам узятае забяспечыла паспяховае вырашэнне асноўнай задачы, пастаўленай у лісце ЦК ВКП(б) ад 13 мая 1935 года— «навесці большэвіцкі парадак у нашым уласным партыйным доме», і падняло ўзровень усяго партыйнага жыцця, павысіўшы большэвіцкую боездольнасць партыйных арганізацый.

Пленум ЦК ВКП(б) лічыць, што цяпер, калі праверка партыйных

дакументаў падыходзіць к канцу, важнейшай задачай з'яўляецца ўсямернае замацаванне велізарнейшай работы, праведзенай усімі партыйнымі арганізацыямі па ачышчэнню радоў ВКП(б) ад варожых элементаў, і ўлічэнне да канца ўсіх урокаў, выцякаючых з праверкі партдакументаў.

Галоўны ўрок, як гэта паказаў вопыт праверкі партыйных дакументаў, заключаецца ў тым, што члены партыі і партыйныя арганізацыі ўсё яшчэ дрэнна засвоілі неаднаразовыя ўказанні ЦК ВКП(б) аб неабходнасці ўсямернага павышэння большэвіцкай пільнасці і дысцыпліны сярод членаў партыі.

Увесь вопыт праверкі партыйных дакументаў паказаў важнейшае значэнне ўказанняў партыі аб тым, што класавы вораг па меры росту нашых поспехаў звярачаецца да найбольш тонкіх метадаў барацьбы, скарыстоўваючы для гэтага ў першую чаргу апартуністычнае дабрадушша і ратазейства комуністаў.

Толькі адсутнасцю большэвіцкай пільнасці можна вытлумачыць шматлікія, ускрытыя ў ходзе праверкі, факты грубага парушэння статута партыі пры прыёме новых членаў у ВКП(б). Прыём у партыю, у тым ліку і выхадцаў з іншых партый, іншаземных падданых і членаў брацкіх компартый, ва многіх выпадках праходзіў без індывідуальнага разгляду кожнага прымаемага, без зацверджання яго ў райкоме, а ў патрэбных выпадках і ў ЦК ВКП(б), без адпаведных рэкамендацый, без захавання катэгорый прыёму і т. п. Такім парушэннем статута стварaліся ўмовы для засмечанасці партыйных радоў, і ў ВКП(б) удавалася пранікаць яўным ворагам партыі, у тым ліку нават шпіёнам замежных разведак, якія пралязалі пад выглядам палітэмігрантаў і членаў брацкіх компартый.

Толькі адсутнасцю большэвіцкай пільнасці можна вытлумачыць тое, што ва многіх партарганізацыях укаранілася злачынна-спрошчаная практыка выдачы партыйных дакументаў узамен страчаных і ўкрадзеных, пры якой многім авантурыстам, жулікам, двурушнікам і іншым контррэволюцыйным элементам лёгка ўдавалася атрымліваць партыйныя білеты па прад'яўленні падложнага дакумента, а часта і проста па выразцы з газеты аб страце партбілета.

Толькі адсутнасцю большэвіцкай пільнасці можна вытлумачыць тое, што партыйныя білеты ў выключаных, як правіла, не адбіраліся. Гэтым шырока карысталіся многія ворагі партыі, якія пасля іх выключэння ў адной партарганізацыі пераязджалі, не здаючы партбілетаў, у другую і прадаўжалі там лічыцца членамі ВКП(б). Гэта палягчалася ўстанавіўшайся практыкай, пры якой член партыі, не знімаючыся з уліку, мог пераехаць у любую арганізацыю і стаць там на ўлік без усякай праверкі.

Толькі адсутнасцю большэвіцкай пільнасці можна вытлумачыць тое, што важнейшыя партыйныя абавязкі па прыёму новых членаў ВКП(б), па прыёму на ўлік і зняццю з уліку членаў партыі, па захаванню партыйных дакументаў і т. п. былі цалкам перадаверaны тэхнічнаму апарату. Пры адсутнасці належнай увагі да падбору тэхнічных работнікаў ворагам партыі ўдавалася пранікнуць нават у партыйны апарат некаторых райкомаў, дзе яны, карыстаючыся сваім бескантрольным становішчам і пагардай з боку кіруючых партработнікаў да тэхнікі партыйнай работы, выдавалі партыйныя дакументы або прадавалі іх сваім суўдзельнікам па падрыўной рабоце супроць справы партыі і Совецкай улады.

Пленум ЦК ВКП(б) абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі да канца засвоіць гэтыя ўрокі і палажыць канец агіднасцям, якія былі выяўлены ў ходзе праверкі партыйных дакументаў. Толькі засвоіўшы гэтыя ўрокі і паслядоўна выконваючы неаднаразовыя ўказанні ЦК ВКП(б) аб усямерным павышэнні рэволюцыйнай большэвіцкай пільнасці і неабходнасці «узняць узровень нашай арганізацыйнай работы да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва», партарганізацыі змогуць да канца выкарчаваць карэнні апартуністычнага дабрадушша, заастрыць большэвіцкую пільнасць членаў партыі, выхаваць партыйны апарат у духу большэвіцкай астраты і непрымірымасці і дабіцца таго, што статут партыі стане сапраўды непарушнай асновай яе ўнутранага жыцця. Важнейшай умовай для гэтага з'яўляецца тое, каб адказныя работнікі партыйнага апарата самі непасрэдна займаліся справай прыёму новых членаў партыі, выдачай партыйных дакументаў і пастаноўкай уліку і вывучэння комуністаў. Толькі пры гэтай умове сакратары парткомаў, райкомаў, гаркомаў і абкомаў змогуць па-сапраўднаму ведаць членаў партыі, правільна скарыстаць іх на рабоце, выхаваць з іх сапраўдных большэвікоў, а значыць і стаць сапраўднымі кіраўнікамі партыйных арганізацый.

Пленум ЦК ВКП(б) лічыць, што бліжэйшым мерапрыемствам па замацаванню станоўчых рэзультатаў праверкі партыйных дакументаў, у асаблівасці ў частцы далейшага ўпарадкавання ўліку членаў партыі, з'яўляецца **абмен** партыйных білетаў, кандыдацкіх картак і ўліковых дакументаў у членаў партыі і кандыдатаў. Гэта мера, як паказаў вопыт праверкі, тым больш неабходна, што самі партыйныя дакументы (партыйныя білеты, кандыдацкія і ўліковыя карткі) знаходзяцца ў нездавальняючым стане і патрабуюць замены.

Пры правядзенні абмену партдакументаў партыйныя арганізацыі павінны ўлічыць шматлікія памылкі, меўшыя месца ў мінулым, калі абмен партыйных білетаў разглядаўся, як механічная замена аднаго партбілета другім. Абмен партыйных білетаў і ўвядзенне новых уліковых картак з'яўляецца сур'ёзнейшым партыйна-арганізацыйным мерапрыемствам, якое павінна замацаваць рэзультаты праверкі партыйных дакументаў і спрыяць далейшаму ўмацаванню радоў ВКП(б).

Пленум ЦК ВКП(б) лічыць, што рэзультаты праверкі партыйных дакументаў з усёй нагляднасцю паказалі, што ЦК ВКП(б) зусім правільна адхіляў неаднаразовыя прапановы многіх партыйных арганізацый аб аднаўленні прыёму новых членаў партыі.

У лісце ад 13 мая 1935 г. ЦК ВКП(б) указаў мясцовым партыйным арганізацыям, што:

**«не можа быць і гутаркі аб адкрыцці прыёму ў партыю, пакуль у справе ўліку членаў партыі пануе такі ганебны хаос, пакуль не будзе наведзен парадак у нашым уласным партыйным доме. Толькі пасля поўнага ўпарадкавання ўліку комуністаў, сістэмы выдачы партыйных білетаў і іх захаванасці,—ЦК зможа паставіць пытанне аб аднаўленні прыёму ў партыю».**

Цяпер, калі ў рэзультаце праверкі партыйных дакументаў наведзен парадак у нашым партыйным доме і партыйныя арганізацыі ачысціліся ад чуждых людзэй, ёсць магчымасць адкрыць доступ для прыёму ў ВКП(б).

Аднаўляючы прыём у партыю, Пленум ЦК ВКП(б) яшчэ раз папярэджвае ўсе партыйныя арганізацыі, што прыём можа быць праведзен толькі ў строга індывідуальным парадку, што прыём у партыю

групамі не можа быць дапушчан ні пры якіх умовах, што пры прыёме кожнага новага члена ВКП(б) неабходна найстражэйшым чынам захоўваць статут партыі і, улічваючы памылкі, ускрытыя ў ходзе праверкі партыйных дакументаў, не дапускаць засмечання партыйных радоў выпадковымі людзьмі.

Партыйныя арганізацыі павінны ўцягваць у партыю сапраўды перадавых, адданых справе рабочага класа, дастойных і лепшых людзей нашай краіны. Гэта задача тым больш выпаўніма, што за апошнія тры гады, з моманту спынення прыёму ў партыю, вакол ВКП(б) выраслі новыя кадры беззаветна адданых нашай партыі, праверанных на справе «непартыйных большэвікоў» як сярод рабочых, так і сярод калгаснікаў і працоўнай інтэлігенцыі.

Толькі пры захаванні ўсіх гэтых умоў, калі справа прыёму новых членаў партыі будзе пастаўлена, як адна з самых адказных партыйных задач, яшчэ больш умацуюцца рады ВКП(б) і ўмацуюцца сувязі партыі з масамі.

Пленум ЦК ВКП(б) пастанаўляе:

1. Паколькі праверка партдакументаў не ў поўнай меры яшчэ закончана і паспела захапіць пакуль што 93% членаў партыі і 53% кандыдатаў—праверку партыйных дакументаў у тэрытарыяльных, ваенных, транспартных і іншых партыйных арганізацыях па ўсёй партыі закончыць к 1 лютага 1936 года.

Абавязаць абкомы, крайкомы і ЦК нацкампартый да 15 студзеня 1936 года:

а) разглядзець на бюро абкомаў, крайкомаў і ЦК нацкампартый памылкі і недакладнасці, ускрытыя ЦК ВКП(б) пры пераглядзе ўсіх актаў праверкі партдакументаў, прадстаўленых мясцовымі партарганізацыямі, і паведаміць у ЦК ВКП(б) выпраўленыя даныя ў выглядзе дадатковых актаў;

б) склікаць пленумы абкомаў, крайкомаў і ЦК нацкампартый, на якіх абмеркаваць вынікі праверкі партдакументаў па арганізацыі ў цэлым (за выключэннем тых абласных, краявых і рэспубліканскіх партыйных арганізацый, дзе пленумы ўжо адбыліся і справаздачы прадстаўлены ў ЦК ВКП(б);

в) прадставіць на зацверджанне ЦК ВКП(б) канчатковыя справаздачы аб выніках праверкі партдакументаў па ўсёй партарганізацыі, справаздачы аб колькасці членаў і кандыдатаў партыі з улікам тых змен, якія адбыліся за час праверкі, і адпаведныя рэзалюцыі пленумаў.

2. З 1-га лютага па 1-е мая 1936 года правесці абмен партыйных дакументаў усіх членаў партыі і кандыдатаў.

Абмену павінны падлягаць:

а) партыйныя білеты старога ўзору 1926 года на новыя партбілеты ва ўсіх без выключэння партыйных арганізацыях як прайшоўшых чыстку партыі 1933 года, так і не прайшоўшых яе;

б) кандыдацкія карткі з устанаўленнем адзінай формы кандыдацкай карткі для ўсіх партыйных арганізацый Саюза;

в) старыя ўліковыя карткі на новыя ва ўсіх членаў і кандыдатаў партыі.

3. Абмен партыйных білетаў, кандыдацкіх картак і ўліковых картак праводзіць у строга індывідуальным парадку з тым, каб у рэзультаце абмену ўзорна паставіць усю справу ўліку і вывучэння комуністаў. Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што пры абмене партыйных білетаў

партыйныя арганізацыі могуць і не выдаваць партыйны білет сяму-таму з членаў партыі, хоць-бы і прашоўшых праверку партыйных дакументаў, калі гэтыя члены партыі не апраўдваюць высокага звання членаў партыі. Калі пры праверцы партыйных дакументаў асноўную ўвагу партыйныя арганізацыі сканцэнтроўвалі на тым, каб выкрыць ашуканчым шляхам пранікшых у ВКП(б) ворагаў партыі, усякага роду прахадзімцаў і жулікаў, то пры абмене асноўную ўвагу неабходна звярнуць на тое, каб вызваліцца ад пасіўных людзей, якія не апраўдваюць высокага звання члена партыі, якія выпадкова папалі ў рады ВКП(б).

4. Устанавіць наступны парадак правядзення абмену партыйных білетаў і іншых партыйных дакументаў:

а) практычнае кіраўніцтва абменам партыйных білетаў і іншых партыйных дакументаў ускладаецца на сакратароў абкомаў, крайкомаў і ЦК нацкомпартый і на загадчыкаў аддзеламі кіруючых парторганаў, якія персанальна адказваюць перад ЦК ВКП(б) за ўзорнае правядзенне гэтай работы.

Непасрэдную адказнасць за правільную выдачу партбілетаў і кандыдацкіх картак перад ЦК ВКП(б), крайкомамі, абкомамі і ЦК нацкомпартый нясуць персанальна сакратары гаркомаў і райкомаў.

У гарадах, дзе ёсць райкомы, падначаленыя гаркомам, за правядзенне абмену і выдачу новых партыйных білетаў сакратары райкомаў адказваюць таксама і перад гаркомамі;

б) абмен партыйных білетаў праводзяць непасрэдна сакратары райкомаў.

У раённых партыйных арганізацыях, якія налічваюць звыш 2 тыс. членаў і кандыдатаў партыі, дапусціць к абмену партбілетаў і іншых членаў бюро райкома з персанальным зацверджаннем іх першым сакратаром абласной (краявой) арганізацыі. У гэтым выпадку яны робяць толькі ўсю папярэднюю работу (гутараць з членамі партыі, запаўняюць уліковую і справаздачныя карткі і т. п.), выдачу-ж саміх партбілетаў праводзяць толькі першыя сакратары райкома;

в) у партыйных арганізацыях чыгуначнага, воднага і іншых відаў транспарта абмен партыйных білетаў павінен праводзіцца сакратарамі райкомаў і гаркомаў, на тэрыторыі якіх знаходзіцца адпаведная чыгуначная партыйная арганізацыя, а начальнікі палітаддзелаў праводзяць толькі ўсю неабходную падрыхтоўчую работу;

г) у партыйных арганізацыях РСЧА і войск НКВД абмен партыйных білетаў праводзіцца начальнікамі адпаведнага палітаддзела, які праводзіў і адказвае персанальна перад ЦК ВКП(б) за праверку партыйных дакументаў.

5. Чыстыя бланкі новых партыйных білетаў і кандыдацкіх картак, а таксама ўліковыя дакументы выдаюцца Цэнтральным Камітэтам ВКП(б) непасрэдна першаму сакратару абкома, крайкома ці ЦК нацкомпартыі пасля таго, як у ЦК ВКП(б) будзе заслуханы яго даклад аб выніках праверкі партдакументаў.

Сакратары абкомаў, крайкомаў і ЦК нацкомпартый выдаюць бланкі партыйных білетаў непасрэдна першым сакратарам райкомаў для выдачы іх членам партыі.

Сакратары райкомаў пасля абмену старых партыйных білетаў на новыя перасылаюць на імя першага сакратара крайкома (абкома) акт аб выдачы партбілетаў з прылажэннем да яго справаздачных картак і старых партыйных білетаў.

Сакратары абкомаў, крайкомаў і ЦК нацкомпартый, праверыўшы правільнасць справаздачнасці і выдачы партыйных дакументаў, зацвярджаюць акты, прадстаўленыя сакратарамі райкомаў, і адчытваюцца перад ЦК ВКП(б) за кожны атрыманы імі партбілет і за іншыя партдакументы.

6. Сакратары райкомаў пры выкліку члена ці кандыдата партыі ў райком для абмену партыйнага білета ці кандыдацкай карткі правяраюць усе даныя аб члене партыі па акту праверкі партыйных дакументаў, высняюць асабіста ў яго і ў партыйнай арганізацыі, дзе ён знаходзіцца на ўліку, ці апраўдвае ён высокае званне члена партыі і, пры адсутнасці сумненняў у мэтазгоднасці астаўлення яго ў радах ВКП(б), выдаюць яму новы партыйны білет.

Ва ўсіх выпадках, калі сакратар райкома не лічыць магчымым праводзіць абмен партбілета і знаходзіць неабходным паставіць пытанне аб выключэнні з радоў ВКП(б) члена ці кандыдата партыі, ён уносіць сваю прапанову на зацверджанне бюро райкома.

7. Даручыць Оргбюро ЦК ВКП(б) у выкананне данай пастановы выдаць не пазней 10 студзеня 1936 года для кіраўніцтва абменам партыйных білетаў і іншых партыйных дакументаў інструкцыю аб парадку і тэхніцы абмену.

8. Адкрыць прыём у кандыдаты ВКП(б) і перавод з кандыдатаў у члены партыі, пачынаючы з 1-га чэрвеня 1936 года.

Пры прыёме новых членаў у ВКП(б) партыйныя арганізацыі павінны адбіраць у партыю сапраўды перадавых, сапраўды адданых справе рабочага класа, лепшых людзей нашай краіны, з рабочых перш за ўсё, а таксама з калгаснікаў і працоўнай інтэлігенцыі, правераных на розных участках барацьбы за соцыялізм з тым, каб яшчэ больш умацаваць рады ВКП(б) і яшчэ больш расшырыць сувязі партыі з масамі.

У адпаведнасці з гэтым Пленум ЦК ВКП(б) лічыць неабходным перасцерагчы ўсе партыйныя арганізацыі супроць ператварэння прыёму новых членаў партыі ў масавую кампанію вярбоўкі, што можа прывесці да небяспекі шкоднага разбухання партыйных радоў. Прыём у члены партыі, як і ў кандыдаты, можа праводзіцца толькі ў індывідуальным парадку, пры ўважлівым індывідуальным адборы прыймаемых. Прыём групамі павінен быць безумоўна выключан з партыйнай практыкі, як зусім недапушчальны і шкодны для партыі метад.

Пленум ЦК ВКП(б) лічыць, аднак, магчымым часова не дазваляць прыёму ў члены партыі і кандыдаты для паасобных партыйных арганізацый, якія па агульнаму свайму стану і ўзроўню ўсёй іх работы яшчэ недастаткова падрыхтаваны к таму, каб па-большэвіцку ажыццявіць справу прыёму новых членаў партыі, іх выхавання і скарыстання.

Пытанне аб часовай забароне прыёму ў партыю ў адносінах паасобнай абласной, краявой ці рэспубліканскай партыйнай арганізацыі ў цэлым павінна вырашацца ў ЦК ВКП(б), а па асобных раённых ці пярвічных партыйных арганізацыях—у абкомах, крайкомах і ў ЦК нацкомпартый з зацверджання ЦК ВКП(б).

9. Ва ўсёй рабоце па прыёму ў партыю партыйныя арганізацыі павінны сур'ёзнейшую ўвагу звярнуць на групы спачуваючых, як на важнейшы рэзерв для папаўнення радоў ВКП(б). Неабходна ў найкарацейшы тэрмін знішчыць недахопы, а нярэдка і забыццё работы

са спачуваючымі. Партыйныя арганізацыі ў першую чаргу павінны выправіць зусім нецярпімае становішча, калі работу са спачуваючымі, у лепшым выпадку, зводзяць да ўцягнення іх у гурткі палітграматы і калі самі кіраўнікі пярвічных і раённых арганізацый зусім не звязаны са спачуваючымі, не ведаюць іх і з імі не працуюць.

Для таго, каб з ліку спачуваючых прышлі ў ВКП(б) лепшыя, партарганізацыі павінны вербаваць спачуваючых у строга індывідуальным парадку, прыцягваць іх у адпаведнасці з патрабаваннямі статута партыі да выканання паасобных даручэнняў, даводзіць да іх ведама і растлумачваць ім важнейшыя рашэнні партыі і ўрада, паставіць са спачуваючымі сур'ёзную палітычную работу і выкоўваць у іх навыкі большэвіцкай арганізацыйнасці і дысцыпліны.

10. Разглядаючы арганізацыю ВЛКСМ як сур'ёзнейшы резерв для папаўнення радоў ВКП(б), Пленум ЦК ВКП(б) разам з тым рашуча асуджае практыку, што склалася на месцах, калі пры прыёме ў ВКП(б) комсамольцаў статут партыі парушаецца. У час праверкі партдакументаў у партыйных арганізацыях выяўлены былі шматлікія факты кампанейскага, механічнага прыёму комсамольцаў у ВКП(б), шляхам параднай перадачы іх з комсамола ў партыю, часта прыўрочанай да той ці іншай гадавіны, свята і т. п. Такая практыка з'яўляецца небольшэвіцкай, апракідваючай статут нашай партыі, у якім зусім дакладна агаворана, на якіх умовах прымаецца ў ВКП(б) член ВЛКСМ.

Прызнаючы ўсе перавагі, якія дае члену ВЛКСМ яго прабыванне ў радах комсамола пры ўступленні ў партыю, Пленум ЦК ВКП(б) лічыць, аднак, няправільным, калі некаторыя партыйныя і комсамольскія арганізацыі ставяць пытанне аб масавым прыёме ў партыю комсамольцаў, звязваючы гэтую справу з наяўнасцю ў комсамоле вялікай колькасці так званых перарosткаў. Падмяняючы прынцып індывідуальнага адбору ў партыю прынцыпам узросным, партыйныя і комсамольскія арганізацыі няправільна выхоўваюць саміх комсамольцаў, ствараючы ў іх такі настрой, што калі іх не прымаюць у партыю па дасягненні пэўнага ўзросту, значыць яны адкідаюцца ад актыўнага палітычнага жыцця. Такая ўстаноўка з'яўляецца зусім няправільнай. Не кожны комсамолец, які дасягнуў пэўнага ўзросту (перарастак), можа і павінен быць прынят у ВКП(б). У партыю адбіраюцца толькі найбольш дастойныя, правераныя людзі, і кожны комсамолец мае магчымасць дабівацца ўступлення ў рады ВКП(б) шляхам актыўнага ўдзелу ў справе соцыялістычнага будаўніцтва, павышэння свайго ідэйнага ўзроўню і большэвіцкай загартаванасці, цесна звязваючы сваю работу з партыйнай арганізацыяй.

11. Устанавіць такі парадак, пры якім партыйны білет ці кандыдацкая картка ўручаюцца новапрынятым у партыю непасрэдна ў райкоме сакратаром райкома. Гэта мера ў спалучэнні з тым, што сакратар райкома будзе ведаць загадзя прымаемага ў партыю, дазволіць яму адначасова з прыёмам у партыю правільна вырашыць пытанне аб скарыстанні новага члена ці кандыдата партыі для партыйных заданняў не ў парадку фармальнага выканання, так званых, партнагрузак, а ў адпаведнасці з яго здольнасцямі і задачамі, якія стаяць перад данай партарганізацыяй.

Пленум ЦК ВКП(б) рашуча асуджае практыку, меўшую месца ва многіх партыйных арганізацыях, калі пасля прыёму новых членаў партыі ці кандыдатаў аб іх забывалі, не праяўляючы клопату аб

маладых, яшчэ недастаткова злажыўшыхся і не ўспрыняўшых усіх традыцый большэвіцкай арганізаванасці членах партыі.

Неабходна дабіцца, каб пад кіраўніцтвам і з дапамогай сваёй партыйнай арганізацыі кожны новы кандыдат і член партыі адразу адчуў усю адказнасць пераходу ад беспартыйнасці да большэвіцкай арганізаванасці і пранікся ўсведамленнем адказнасці перад акружаючымі масамі за справу партыі.

* * *

З прычыны таго, што чысткай партыі, пачатай у 1933 годзе, былі ахоплены асноўныя області, а праверка партдакументаў забяспечыла і па астатніх абласцях вырашэнне задач, пастаўленых перад чысткай 1933 года,—Пленум ЦК ВКП(б) пастанаўляе:

а) лічыць чыстку партыі закончанай і не праводзіць яе ў тых абласцях, дзе яна не праходзіла;

б) работу Цэнтральнай Камісіі па чыстцы радоў ВКП(б), арганізаванай пастановай ЦК ВКП(б) ад 10/V 1933 г.,—лічыць закончанай.

# Аб арганізацыйна-гаспадарчым умацаванні калгасаў і ўздыме сельскай гаспадаркі ў абласцях, краях і рэспубліках нячорназемнай паласы

*Пастанова Совета Народных Камісараў Саюза ССР і Цэнтральнага Камітэта ВКП(б)*

Соўнарком СССР і ЦК ВКП(б) устанаўляюць, што раёны нячорназемнай паласы—Маскоўская, Ленінградская, Калінінская вобласці, Беларуская ССР, Горкаўскі край, Заходняя вобласць, Паўночны і Кіраўскі краі, Іванава-Прамысловая вобласць дасягнулі за апошнія гады раду поспехаў ва ўздыме сельскай гаспадаркі: з поспехам укараняюцца пасевы азімай і яравой пшаніцы, плошча якіх узрасла з 335 тысяч га ў 1928 годзе да 2 млн. га ў 1935 годзе, выраслі прадукцыя і продаж дзяржаве бульбы, гародніны і лёну. Здавальняюча выконваецца дзяржаўны план развіцця жывёлагадоўлі. Такія вобласці, як Маскоўская, Ленінградская, Горкаўскі край, Калінінская і іншыя пакрываюць значную частку сваёй патрэбнасці ў хлебе і гародніне і амаль поўнасцю ў бульбе за кошт сваіх рэсурсаў. Разам з тым СНК СССР і ЦК ВКП(б) лічаць дасягненні ва ўздыме сельскай гаспадаркі і ўмацаванні калгасаў як у вышэй пералічаных абласцях і краях, так і па правабярэжжу Куйбышэўскага края і паўночнай часткі Курскай вобласці недастатковымі:

а) Не гледзячы на спрыяючыя кліматычныя ўмовы, ураджай зернавых, бульбы, гародніны і асабліва лёну і канапель ва ўказаных раёнах прадаўжае заставацца на вельмі нізкім узроўні і няўстойлівым: па зернавых 7—9 цэнтнераў і толькі ў паасобных абласцях і краях—да 11 цэнтнераў з гектара, па бульбе—80—90 цэнтнераў з гектара, па ільну і каноплях—2—3 цэнтнеры ў пераводзе на валакно. Такі сярэдні ўраджай мае месца пры наяўнасці перадавых калгасаў, якія атрымліваюць 30 цэнтнераў і вышэй на гектар па зернавых, 5 цэнтнераў і вышэй валакна на гектар па ільну, 200 цэнтнераў і вышэй на гектар бульбы. Дрэнна абстаіць справа з укараненнем і асабліва захаваннем севазваротаў.

б) Накіраваныя ў МТС нячорназемнай паласы складаныя сельскагаспадарчыя машыны скарыстоўваюцца, як правіла, надта нездавальняюча: прадукцыйнасць трактароў нізкая, складаныя малатарні працуюць з няпоўнай нагрузкай, асабліва нездавальняюча скарыстоўваецца шыроказахватная ільнацерабілка, даўшая ў 1935 годзе толькі 1/5 частку ўстаноўленай урадам мінімальнай нормы прадукцыйнасці, у той час як перадавыя ільнацерабільшчыкі і ільнацерабільшчыцы далі па 60—100 гектараў на машыну за сезон. Гэта адбываецца галоўным чынам таму, што краявыя і абласныя арганізацыі ўказаных раёнаў не падабралі і не падрыхтавалі кадраў для асваення складаных сельскагаспадарчых машын.

в) З прычыны недастатковай увагі да захавання і ўзнаўлення конскага пагалоўя, лік рабочых коней у гэтых краях і абласцях усё яшчэ прадаўжае зніжацца, і значная частка коней знаходзіцца ў нездавальняючым стане. У зусім недастатковых тэмпах развіваецца свінагадоўля і аўцагадоўля, як грамадская калгасная, так і ў калгасных дварах.

Надта нездавальняюча абстаіць справа з пасевамі канюшыны, расшырэнне якіх з'яўляецца адной з важнейшых умоў павышэння ўраджайнасці зернавых і асабліва лёну і павелічэння кармовых рэсурсаў для жывёлы. Планы астаўлення насеннікаў канюшыны, збору і загатовак насення не выконваюцца.

Дрэнна пастаўлена ў пераважнай большасці выпадкаў работа па палепшанню лугоў і пасьбішч і прывядзенню іх у культурны выгляд, што можа і павінна даць велізарныя рэсурсы добрых кармоў для жывёлы.

г) Краявыя, абласныя і раённыя партыйныя арганізацыі ў радзе выпадкаў не ўлічылі ўказання таварыша Сталіна, што «пераход да калектыўнай гаспадаркі, як пераважнай формы гаспадаркі, не змяншае, а павялічвае нашы клопаты аб сельскай гаспадарцы, не змяншае, а павялічвае кіруючую ролю комуністаў у справе ўздыму сельскай гаспадаркі». Не гледзячы на тое, што за апошні год арганізаваны тысячы новых калгасаў у гэтых раёнах і ў калгасы ўступіла больш мільёна аднаасобнікаў, работа па выхаванню калгаснікаў і калгасніц і па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаванню калгасаў не стала яшчэ ў цэнтры ўвагі многіх раённых партыйных арганізацый.

д) Сталінскі калгасны статут сістэматычна парушаецца. Злачынна парушаецца ўстаноўлены статутам парадак выбараў і змены кіруючых калгасных работнікаў (старшынь калгасаў і брыгадзіраў). Старшыні калгасаў часта знімаюцца без дастатковых падстаў, перакідаюцца з калгаса ў калгас, аддаюцца пад суд і штрафуюцца незаконна па зусім пусцяковых падставах, дзе было-б зусім дастаткова грамадскага ўздзеяння ці ўказання адпаведнага партыйнага і савецкага органа. Тым самым партыйныя і савецкія органы замест таго, каб выхоўваць і замацоўваць кіруючыя калгасныя кадры, растрачваюць гэтыя кадры і не ствараюць ўстойлівага кіруючага складу ў калгасах, без чаго нельга рушыць наперад справу ўмацавання калгасаў.

Ва многіх выпадках установленыя статутам правілы выключэння з калгаса парушаюцца, а іменна: выключаюць калгаснікаў за такія парушэнні дысцыпліны, якія згодна статута караюцца штрафам ці грамадскімі мерамі ўздзеяння, выключаюць членаў сем'яў адыходнікаў, ці асоб, што пашлі цалкам працаваць у прамысловасць, у той час як такі адыход з'яўляецца зусім нармальным ва ўмовах нячорназемнай паласы і не можа ні ў якім выпадку праследвацца мясцовымі органамі; выключэнні калгаснікаў прадаўжаюць праводзіцца партыйнымі і савецкімі органамі, дырэктарамі МТС, на гэта не ўпаўнаважанымі, выключэнні праводзяцца праўленнем калгаса без рашэння агульнага сходу калгаснікаў.

У мэтах забяспечання далейшага паскарэння ўздыму сельскай гаспадаркі нячорназемнай паласы, а таксама правабярэжжа Куйбышэўскага края і паўночных раёнаў Курскай вобласці і арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў СНК СССР і ЦК ВКП(б) **пастанаўляюць:**

1. Абавязаць партыйныя і савецкія арганізацыі нячорназемнай паласы забяспечыць на працягу бліжэйшых 3—4 год павышэнне ўраджайнасці: па зернавых культурах—90—100 пудоў у сярэднім з гектара, па льну—4—5 цэнтнераў льнавалакна ў сярэднім з гектара і каноплях—5—6 цэнтнераў валакна з гектара, па бульбе—900—1.100 пудоў у сярэднім з гектара. Даручыць крайкомам і абкомам на працягу сёлетняй зімы з прыцягненнем перадавых калгасаў, якія атрымліваюць ужо цяпер рэкордныя ўраджаі, распрацаваць неабходныя практычныя мерапрыемствы па павышэнню ўраджайнасці прыстасоўна да кожнага раёна і калгаса, звярнуўшы асаблівую ўвагу на ўкараненне і поўнае скарыстанне мясцовых угнаенняў (гной, попел, торф, вапна і т. п.).

Абавязаць абкомы, крайкомы, ЦК КП(б)Беларусі, абласныя, краявыя выканкомы, СНК БССР і Наркамзем СССР забяспечыць безумоўнае выкананне плана загатовак насення канюшыны ўраджаю 1935 года і залажыць у 1936 годзе ў кожнай вобласці (краі, рэспублікі) насенныя рассаднікі канюшыны на плошчы, якая-б забяспечыла вытворчасць насення канюшыны ў размерах дзяржаўнага плана, праект якога Наркамзему ў месячны тэрмін прадставіць на зацвярджэнне ўрада.

2. Аказаць вышэйадзначаным абласцям і краям нячорназемнай паласы ў 1936 годзе наступную дапамогу арганізацыяй новых МТС і трактарнымі машынамі:

### а) Будаўніцтва новых МТС

| | | |
|---|---|---|
| Паўночны край . . . | 22 у тым ліку да вясны | 14 |
| Карэльская АССР . . . | 10 " " " " | 8 |
| Ленінградская обл. . . . | 25 " " " " | 16 |
| Заходняя вобласць . . . | 25 " " " " | 16 |
| Калінінская обл. . . . | 25 " " " " | 16 |
| Маскоўская обл. . . . | 25 " " " " | 16 |
| Іванаўская обл. . . . | 15 " " " " | 10 |
| Горкаўскі край . . . | 23 " " " " | 16 |
| Кіраўскі край . . . . | 25 " " " " | 16 |
| БССР . . . . . . | 23 " " " " | 15 |
| Правабярэжжа Куйбышэўскага края . . . . | 33 " " " " | 22 |
| Паўночныя раёны Курскай обл. | 15 " " " " | 10 |
| Разам . . | 266 у тым ліку да вясны | 175 |

### б) Снабжэнне трактарамі

| | СТЗ і ХТЗ | ЧТЗ | Універсал 2 |
|---|---|---|---|
| Паўночны край . . . . . . | 900 | 125 | 25 |
| Карэльская АССР . . . . . | 80 | 60 | — |
| Ленінградская вобласць . . . . | 1450 | 300 | 300 |
| Заходняя вобласць . . . . . | 1850 | 220 | 130 |
| Маскоўская вобласць . . . . . | 2800 | 390 | 450 |
| Калінінская вобласць . . . . . | 1700 | 300 | 50 |
| Іванаўская вобласць . . . . . | 1650 | 200 | 75 |
| Горкаўскі край . . . . . . | 1800 | 250 | 50 |
| Кіраўскі край . . . . . . | 2000 | 350 | 50 |
| БССР . . . . . . . | 1600 | 300 | 100 |
| Паўноч р-ны Курскай вобласці . . . | 750 | 250 | 100 |
| Правабярэж. Куйбышэўскага края . . | 1500 | 400 | 100 |
| Разам . . . . | 18080 | 3145 | 1430 |

## в) Снабжэнне машынамі

| | Трактарныя плугі | Трактарн. сеялкі зернавыя | Малатарні | | Камбайны | | Ільнацерабілкі | Бульбаўбо-рач. машыны | | Жняяркі-самаскідкі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | МК 1100 | БДО 34 | Усяго | У тым ліку паўночныя | | Двух-радныя | Адна-радныя | |
| Паўночны край | 1200 | 200 | 50 | 200 | 60 | 50 | 100 | 50 | — | 1500 |
| Карэльск. АССР | 200 | 10 | — | 20 | — | — | — | — | — | 150 |
| Ленінград. обласць | 1910 | 700 | 200 | 250 | 325 | 300 | 200 | 330 | 150 | 3000 |
| Заходняя обласць | 2000 | 700 | 300 | 300 | 150 | 100 | 500 | 300 | 130 | 3000 |
| Маскоўск. обласць | 3100 | 1500 | 500 | 200 | 600 | 50 | 140 | 700 | 250 | 3000 |
| Калінінск. обласць | 2130 | 600 | 300 | 300 | 100 | 70 | 640 | 200 | 40 | 2500 |
| Іванаўская обласць | 1900 | 500 | 250 | 200 | 150 | 100 | 500 | 200 | 150 | 2500 |
| Горкаўскі край | 2120 | 700 | 250 | 200 | 250 | 50 | 150 | 300 | 100 | 3000 |
| Кіраўскі край | 2600 | 900 | 400 | 200 | 400 | 50 | 400 | 100 | 50 | 3500 |
| БССР | 2100 | 700 | 350 | 200 | 200 | 150 | 500 | 400 | 200 | 3000 |
| Паўн. р-ны Курск. обл. | 1200 | 500 | 300 | — | 400 | — | — | 50 | 50 | 1000 |
| Правабярэжжа Куйбышэўскага края | 2200 | 990 | 300 | 100 | 550 | 30 | 40 | 100 | 50 | 2000 |
| Разам | 22660 | 8000 | 3200 | 2170 | 3185 | 950 | 3170 | 2730 | 1170 | 28150 |

## г) Снабжэнне меліярацыйным інвентаром

| | Плугі | | Кустарэзы | Канава-капальнікі | Карчавальн машыны трактарныя |
|---|---|---|---|---|---|
| | Хмызняковыя | Балотныя | | | |
| Паўночны край | 70 | 25 | 35 | 50 | 130 |
| Карэльская АССР | 20 | 10 | 5 | 10 | 30 |
| Ленінградская обласць | 170 | 40 | 40 | 50 | 200 |
| Заходняя обласць | 200 | 15 | 35 | 50 | 90 |
| Калінінская обласць | 100 | 50 | 35 | 55 | 220 |
| Маскоўская обласць | 200 | 15 | 30 | 40 | 180 |

| | Плугі | | Кустарэзы | Канава-капальнікі | Карчавальн. машыны трактарныя |
|---|---|---|---|---|---|
| | Хмызняковыя | Балотныя | | | |
| Іванаўская обласць . . . . | 340 | 50 | 40 | 60 | 280 |
| Горкаўскі край . . . . | 150 | 30 | 20 | 20 | 150 |
| Кіраўскі край . . . . . . | 250 | 50 | 45 | 25 | 220 |
| БССР . . . . . . . . | 250 | 50 | 45 | 40 | 160 |
| Правабярэжжа Куйбышэўскага края | 20 | 30 | 20 | — | 40 |
| Разам . . . | 1770 | 365 | 350 | 400 | 1700 |

## д) Снабжэнне легкавымі машынамі райза

| | |
|---|---|
| Паўночны край . . . | 25 |
| Карэльская АССР. . . | 10 |
| Ленінградская обл. . . | 40 |
| Заходняя обласць. . . | 40 |
| Маскоўская обласць . . | 55 |
| Калінінская обласць. . | 40 |
| Іванаўская обласць . . | 35 |
| Горкаўскі край . . . | 45 |
| Кіраўскі край . . . . | 40 |
| БССР . . . . . . | 45 |
| Паўночныя раёны Курскай обласці . . | 20 |
| Правабярэжжа Куйбышэўск. края . . | 30 |

3. Зацвердзіць наступныя заданні па выпрацоўцы на адзін 15-сільны трактар у гектарах і заданні па рабоце шыроказахватных ільнацерабілак і складаных малатарань:

| | Выпрацоўка на трактар без малацьбы і транспарт. работ | Выцерабіць шыроказахватнай ільнацерабілкай тыс. га | Усяго абмалаціць на складаных малатарнях тыс. тон |
|---|---|---|---|
| Паўночны край. . . | 300 | 13 | 164 |
| Карэлія . . . . . | 150 | — | 20 |
| Ленінградская обл. . | 300 | 30 | 330 |
| Заходняя обл. . . . | 400 | 45 | 450 |
| Маскоўская обл. . . | 420 | 10 | 780 |
| Калінінская обл. . . | 350 | 63 | 340 |
| Іванаўская обл. . . . | 350 | 43 | 300 |
| Горкаўскі край. . . | 480 | 12 | 425 |
| Кіраўскі край . . . | 450 | 39 | 430 |
| Беларусь . . . . . | 380 | 36 | 650 |

4. Абавязаць партыйныя і савецкія арганізацыі нячорназемнай паласы падрыхтаваць да сельскагаспадарчых работ 1936 года кваліфікаваныя кадры для трактарных машын у наступнай колькасці:

| | Трактарыстаў | У тым ліку для ЧТЗ | Трактарных брыгадзіраў | Камбайнераў | У тым ліку для паўн. камбайн. | Ільнацерабільшчыкаў (з ліку трактарыстаў) | Машыніст і інструкт. ільнапрац. машын. | Машыністаў складаных малатарань | Вадзіцеляў бульбяных машын | Механікаў МТС |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Паўночны край . . | 3200 | 300 | 350 | 60 | 50 | 260 | 450 | 300 | 50 | 150 |
| Карэлія . . . . . | 500 | 150 | 80 | — | — | — | — | 30 | — | 60 |
| Ленінградск. обл. . | 6500 | 700 | 500 | 350 | 320 | 610 | 1200 | 550 | 480 | 250 |
| Заходняя обл. . . | 6500 | 500 | 500 | 150 | 100 | 1000 | 1200 | 700 | 430 | 220 |
| Маскоўская обл. . | 9500 | 700 | 750 | 600 | 50 | 240 | 550 | 750 | 950 | 300 |
| Калінінская обл. . . | 6000 | 700 | 600 | 100 | 70 | 1350 | 2000 | 650 | 240 | 250 |
| Іванаўская обл. . . | 5800 | 450 | 600 | 150 | 100 | 1000 | 1200 | 500 | 350 | 200 |
| Горкаўскі край . . | 6000 | 550 | 700 | 250 | 50 | 250 | 250 | 500 | 400 | 200 |
| Кіраўскі край . . . | 7300 | 800 | 700 | 400 | 50 | 950 | 650 | 700 | 150 | 250 |
| БССР . . . . . | 6000 | 700 | 600 | 200 | 150 | 850 | 1000 | 600 | 600 | 300 |
| Правабярэжжа Куйбышэўскага края . | 6500 | 900 | 450 | 550 | 30 | 50 | 100 | 450 | 150 | 200 |
| Паўночныя раёны Курскай вобласці . | 3500 | 600 | 300 | 400 | — | — | — | 300 | 100 | 120 |
| Разам . . . | 6730 | 7050 | 6130 | 3210 | 970 | 6560 | 8600 | 6030 | 3900 | 2500 |

5. Устанавіць план пад'ёму новых зямель на 1936 год за лік раскарчоўкі, расчысткі хмызнякоў і асушкі балот у размеры 700 тыс. га па нячорназемнай паласе з наступным размеркаваннем па абласцях, краях і рэспубліках:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Паўночны край . . . | 60 | Горкаўскі край . . . | 55 |
| Карэльская АССР . . | 5 | Кіраўскі край . . . . | 90 |
| Ленінградская вобласць . | 90 | БССР . . . . . . . | 70 |
| Заходняя вобласць. . . | 65 | Правабярэжжа Куйбышэўскага края . . | 30 |
| Маскоўская вобласць . . | 65 | | |
| Калінінская вобласць . . | 90 | Усяго . . . . | 700 |
| Іванаўская вобласць . . | 80 | | |

Забараніць мясцовым партыйным і савецкім органам падмяняць асваенне новых зямель за лік раскарчоўкі, расчысткі хмызнякоў і

асушкі балот разворваннем пасьбішчных і лугавых угоддзяў, што на справе не дае павелічэння агульных зямельных рэсурсаў, якія знаходзяцца ў скарыстанні, і ў радзе выпадкаў затрымлівае развіццё жывёлагадоўлі.

6. У мэтах папярэджання ў далейшым велізарных страт хлеба і лёну ва ўмовах дажджлівага надвор'я ў перыяд уборкі, СНК СССР і ЦК ВКП(б) абавязваюць усе крайкомы, абкомы і ЦК КП(б) Беларусі, абласныя і краявыя выканкомы і Соўнарком БССР папярэдзіць паўтарэнне памылак, дапушчаных ва ўборачную кампанію бягучага года, і правесці ў калгасах наступныя мерапрыемствы, якія забяспечваюць захаванне хлеба і лёну пры ўборцы, абмалоце і перапрацоўцы ва ўмовах дажджлівай восені:

а) пабудаваць да пачатку ўборкі ў кожным калгасе, а ў буйных калгасах у кожнай брыгадзе,—крытыя токі, забяспечыўшы, каб у калгасах, абслугоўваемых МТС, пад гэтымі павецямі маглі змяшчацца складаная малатарня, трактар ці рухавік і абслугоўваючыя малатарню калгаснікі;

б) пабудаваць ва ўсіх калгасах гумны і еўні, прыстасаваныя па сваіх размерах да патрэбнасцей кожнага калгаса;

в) пабудаваць у кожным калгасе прасцейшую калгасную сушню для сушкі зярна з скарыстаннем мясцовага апалу (дроў, торфу і інш.).

Абавязаць абласныя і краявыя зямельныя органы і Наркамзем Беларусі ўстанавіць сістэматычнае кіраўніцтва будаўніцтвам павецей, евень, гумнаў і сушняў і аказаць калгасам неабходную дапамогу будаўнічымі матар'яламі (лес, цэгла), а таксама тэхнічнай кансультацыяй.

7. СНК СССР і ЦК ВКП(б) указваюць партыйным і савецкім арганізацыям абласцей, краёў, што яны здолеюць у бліжэйшыя тэрміны дабіцца арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў толькі пры ўмове, калі Сталінскі калгасны статут не фармальна, а на справе атрымае сілу асноўнага дзяржаўнага закону ў кожным калгасе, і віноўныя ў парушэнні статута будуць сурова карацца.

СНК СССР і ЦК ВКП(б) прапануюць усім партыйным і савецкім арганізацыям забяспечыць найстражэйшае правядзенне ў жыццё ўстаноўленых статутам правіл выключэння з калгасаў, у прыватнасці не дапускаць выключэння з калгасаў сваякоў асоб, што пашлі на адходныя заработкі ці на пастаянную работу ў прамысловасць, і найстражэйшым чынам праследваць, як за перавышэнне ўлады, тыя партыйныя і савецкія органы, якія сваімі рашэннямі робяць выключэнні з калгасаў іх членаў.

СНК СССР і ЦК ВКП(б) прапануюць спыніць маючыя месца шматлікія парушэнні ўстаноўленага статутам парадку выбару і знімання старшынь калгасаў і брыгадзіраў, забяспечыць рэгулярнае скліканне агульных сходаў калгаснікаў і абмеркаванне на іх усіх важнейшых пытанняў калгаснай гаспадаркі, забяспечыць дакладнае захаванне прадугледжаных статутам мер па выхаванню несвядомых калгснікаў і пакаранню асоб, якія парушаюць калгасную дысцыпліну, і па ўкараненню новай грамадскай дысцыпліны працы.

СНК СССР і ЦК ВКП(б) прапануюць спыніць яшчэ шырока распаўсюджаную ў радзе раёнаў практыку незаконнага распараджэння калгаснымі сродкамі з боку савецкіх і гаспадарчых арганізацый і абавязваюць гэтыя арганізацыі ў двухмесячны тэрмін пакрыць сваю

запазычанасць калгасам, а органы пракуратуры прыцягваць да суровай адказнасці асоб, якія не выконваюць гэта ўказанне.

СНК СССР і ЦК ВКП(б) абавязваюць спыніць яшчэ сустракаючуюся ва многіх калгасах практыку агульнага незаконнага накладання штрафаў на калгаснікаў.

8. СНК СССР і ЦК ВКП(б) прапануюць пры размеркаванні сельгасмашын, арганізацыі падрыхтоўкі кадраў, дапамогі крэдытам асабліва ўлічыць неабходнасць дапамогі раёнам і калгасам, дзе адбыўся найбольшы прыліў аднаасобнікаў за апошні год, а таксама новаарганізаваўшымся калгасам з тым, каб у найкарацейшы тэрмін дапамагчы гэтым раёнам і калгасам выйсці ў лік перадавых.

9. З прычыны таго, што хутарскі характар землекарыстання ва многіх выпадках зводзіць на нішто перавагі грамадскай гаспадаркі ў калгасах і шкодзіць інтарэсам калгаснікаў і калгасаў у цэлым, прызнаць мэтазгодным у тых выпадках, калі ёсць ці можа быць створаны адзіны калгасны палявы масіў, аказанне некаторага падтрымання тым калгасным хутарскім дварам, якія пажадаюць перайсці на жыхарства ў вёску, шляхам ільготнага снабжэння лесам, разворвання новых зямель пад агароды і крэдыту для пачатковага абзавядзення.

Прапанаваць абкомам і крайкомам, абласным і краявым выканкомам нячорназемнай паласы, Соўнаркому і ЦК КП(б) БССР у двухмесячны тэрмін прадставіць на зацверджанне ў ЦК ВКП(б) і СНК СССР план неабходных першых мерапрыемстваў на 1936 год з дакладным указаннем, у адносінах якіх калгасаў і раёнаў імі намячаюцца гэтыя мерапрыемствы.

10. Канстатуючы, што наяўнасць у нячорназемнай паласе празмерна дробных калгасаў, часта ў 5—10 двароў, перашкаджае скарыстанню пераваг грамадскай калгаснай працы і скарыстанню новых машын, прапанаваць крайкомам і абкомам і адпаведным выканкомам распрацаваць неабходныя практычныя мерапрыемствы па аб'яднанню такіх празмерна дробных калгасаў пры ўмове найстражэйшай добраахвотнасці такога аб'яднання і з дакладным указаннем раёнаў і калгасаў і прадставіць іх у трохмесячны тэрмін на зацверджанне ЦК ВКП(б) і СНК СССР.

11. Даручыць сельгасаддзелу ЦК ВКП(б), Наркамзему СССР у найкарацейшы тэрмін прадставіць на зацверджанне СНК СССР і ЦК ВКП(б) парадак аплаты работнікаў на новых уборачных машынах па ільну і бульбе, выходзячы з сістэмы, прынятай у мінулым годзе і цалкам сябе апраўдаўшай пры аплаце камбайнераў на камбайнах.

12. Даручыць Совету Працы і Абароны, у сувязі з павелічэннем машынаснабжэння нячорназемнай паласы, перадаць снабжэнне гаручым ад спажыўкааперацыі—Саюзнафтагандлю, абавязаўшы апошні расшырыць колькасць баз у нячорназемнай паласе.

Абавязаць Наркамзем Саюза ССР расшырыць рамонтную базу ў нячорназемнай паласе і прадставіць на зацверджанне Совета Працы і Абароны ў тыднёвы тэрмін план будаўніцтва майстэрань капітальнага і бягучага рамонту ў адпаведнасці з зацверджаным планам узмацнення машыннага ўзбраення абласцей і краёў гэтай паласы.

13. Соўнарком СССР і ЦК ВКП(б) лічаць зусім недапушчальным той факт, што ў большасці адзначаных краёў і абласцей, у якіх жаночая праца з'яўляецца асноўнай у сельскай гаспадарцы, зусім нездавальняюча пастаўлена прасоўванне жанчын на кіруючую работу

ў калгасах і абучэнне жанчын рабоце на складаных сельгасмашынах. Такая пагарда да вылучэння жанчын з'яўляецца адной з галоўных прычын дрэннага выхавання і згуртавання калгаснага актыва.

Соўнарком СССР і ЦК ВКП(б) ставяць задачу перад крайкомамі і абкомамі, абласнымі і краявымі выканкомамі нячорназемнай паласы, перад Соўнаркомам и ЦК КП(б) БССР—дабіцца на працягу бліжэйшых 1—2 год, каб значная частка старшынь калгасаў, калгасных брыгадзіраў, трактарыстаў, камбайнераў і працуючых на трактарных машынах па ільну і бульбе, калгасных рахункаводаў і загадчыкаў калгасна-таварных ферм былі-б жанчыны-калгасніцы.

Старшыня Совета Народных Камісараў Саюза ССР В. МОЛАТАЎ.

Сакратар Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) І. СТАЛІН

19 снежня 1935 г.

# Аб рабоце Інстытута масавага завочнага навучання партактыва пры ЦК ВКП(б)

ЦК ВКП(б) заслухаў даклад аб рабоце Інстытута масавага завочнага навучання партактыва і вынес пастанову, у якой зварачае ўвагу ўсіх партыйных арганізацый на вялікае палітычнае і дзяржаўнае значэнне развіцця завочнага навучання і выкарыстання радыё ў справе шырокай прапаганды ленінізма і гісторыі партыі, асабліва ў сельскагаспадарчых раёнах і на транспарце.

У сваёй пастанове ЦК ВКП(б) адзначыў, што Інстытут масавага завочнага навучання партактыва за апошнія гады стварыў разгалінаваную сетку аддзяленняў завочнага навучання на месцах і значна павялічыў ахоп сістэмай завочнага навучання партыйнага, комсамольскага і калгаснага актыва.

Аднак арганізацыйная і навучальная работа Інстытута і яго аддзяленняў усё яшчэ пастаўлена нездавальняюча.

Буйнейшым недахопам у рабоце Інстытута з'яўляецца тое, што мясцовыя аддзяленні Інстытута не ведаюць персанальна склад навучаючыхся у асаблівасці з мясцовага партыйнага актыва, не ўстанавілі моцнай сувязі з навучаючыміся завочна таварышамі, не арганізуюць уліку іх запросаў і дапамогі ім. Рэцэнзіі на пісьмовыя работы аддзяленнямі Інстытута масавага завочнага навучання даюцца нізкай якасці і затрымліваюцца па некалькі месяцаў; не пастаўлен на належную вышыню кантроль за выкладаннем з боку дырэктароў і загадчыкаў навучальнай часткай аддзяленняў. Радыёлекцыі, перадаваемыя з Масквы Інстытутам масавага завочнага навучання партактыва пры ЦК ВКП(б), часцяком не слухаюцца, бо большасць радыёпартаудыторый або не працуе (з 5.500 працуе не больш 2.000), або працуе з вялікімі перабоямі.

Гэтыя буйнейшыя недахопы ў рабоце сістэмы завочнага масавага навучання партактыва з'яўляюцца вынікам таго, што Інстытут масавага завочнага навучання партактыва пры ЦК ВКП(б) і мясцовыя партыйныя арганізацыі, у асаблівасці аддзелы партыйнай прапаганды і агітацыі, не забяспечылі штодзеннага аперацыйнага кіраўніцтва сістэмай завочнага навучання партактыва, не ўмацавалі апарат аддзяленняў Інстытута палітычна граматнымі работнікамі, дапускаючы, у паасобных выпадках, да работы ў партыйных адносінах недастаткова правераных людзей (Іванава, Паўночны край і інш.) і не арганізавалі работы радыёаудыторый і слухання ў іх радыёлекцый.

ЦК ВКП(б) прапанаваў Інстытуту масавага завочнага навучання партактыва пры ЦК ВКП(б) устанавіць такі парадак, каб дырэктары мясцовых аддзяленняў Інстытута ведалі персанальна кожнага наву-

чаючагася і сапраўды клапаціліся аб паспяховым заканчэнні ім курса завочнага радыёпартнавучання, арганізавалі сталую дапамогу кожнаму навучаючамуся парадамі, кансультацыяй, дапаможнікамі, а таксама своечасовае і высокакваліфікаванае рэцэнзаванне іх пісьмовых работ.

На 1935—1936 год устаноўлены наступныя віды завочнага партыйнага навучання: 1) гадовыя папулярныя курсы гісторыі ВКП(б) для нізавога партыйна-комсамольскага і беспартыйнага актыва з кантынгентам у 25.000 чал.; 2) гадовыя курсы гісторыі ВКП(б) для больш падрыхтаванага раённага партыйнага і комсамольскага актыва з кантынгентам у 15.000 чал.; 3) гадовыя курсы ленінізма, для такога-ж ўзроўню актыва з кантынгентам у 8.000 чал.; 4) гадовыя курсы палітычнай эканоміі для раённага партыйна-комсамольскага актыва з кантынгентам у 7.000 чал.; 5) вывучэння партыйным актывам паасобных твораў Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна; 6) шасцімесячныя курсы партыйна-комсамольскага і вытворчага актыва калгасаў, МТС і соўгасаў з кантынгентам у 30.000 чал.

Абкомам, крайкомам і ЦК нацкомпартый, у адпаведнасці з рэальнымі магчымасцямі абслугоўвання навучаючыхся, па ўзгадненню з Інстытутам масавага завочнага навучання партактыва пры ЦК ВКП(б) прапанавана вызначыць кантынгенты завочнага навучання, прадставіўшы на зацверджанне аддзела партыйнай прапаганды і агітацыі ЦК ВКП(б) і правесці камплектаванне з тым, каб яно па раёнах было-б закончана к 15 лістапада 1935 года. Пры наборы на завочнае радыёпартнавучанне забяспечыць ахоп таксама комсамольскага актыва і ў асаблівасці прапагандыстаў партыйна-комсамольскай сеткі, комуністаў-адзіночак аддаленых сельскагаспадарчых раёнаў і транспарта.

З пачатку 1935—1936 навучальнага года ўстаноўлены наступныя цыклы лекцый Інстытута пры ЦК ВКП(б) па радыё: 1) па гісторыі ВКП(б); 2) па ленінізму; 3) па палітычнай эканоміі; 4) па статуту і праграме ВКП(б) і Комінтэрна; 5) па пытаннях міжнароднага рэволюцыйнага руху; 6) па пытаннях палітыкі партыі і ўрада; 7) па статуту сельскагаспадарчай арцелі і пытаннях сельскай гаспадаркі (агратэхніка, жывёлагадоўля).

ЦК ВКП(б) абавязаў райкомы і гаркомы партыі ў месцах, дзе існуюць радыёаудыторыі і радыёвузлы з трансляцыяй, арганізаваць слуханне радыёлекцый Інстытута пры ЦК ВКП(б) раённым партыйна-комсамольскім актывам. Інстытут пры ЦК ВКП(б) абавязан забяспечыць больш высокую якасць перадаваемых радыёлекцый, а таксама прыцягнуць да мікрафона буйных партыйных работнікаў для чытання лекцый па гісторыі ВКП(б), ленінізму і па пытаннях міжнароднага рэволюцыйнага руху. Рэдакцыям «Правды», «Известий», «Комсомольской правды», «Социалистического земледелия», а таксама рэспубліканскім, абласным, краявым і раённым партыйным газетам прапанавана рэгулярна публікаваць тэмы перадаваемых Інстытутам пры ЦК ВКП(б) радыёлекцый з указаннем аўтароў і асвятляць работу цэнтральных і мясцовых арганізацый па завочнаму навучанню.

ЦК ВКП(б) устанавіў, што дырэктары і загадчыкі навучальнай часткай абласных, краявых і рэспубліканскіх аддзяленняў Інстытута масавага завочнага навучання зацвярджаюцца аддзелам партыйнай прапаганды і агітацыі ЦК ВКП(б). Кіраўнікі прадметных камісій, раз'ездныя штатныя інструктары-выкладчыкі, рэцэнзенты і раённыя інструктары-прапагандысты павінны падбірацца і зацвярджацца абкомамі, крайкомамі і ЦК нацкомпартый. Абкомам, крайкомам і ЦК

нацкомпартый прапанавана да пачатку навучальнага года правесці праверку наяўнага складу кіруючых і выкладчыцкіх работнікаў аддзяленняў Інстытута пры ЦК ВКП(б), а таксама не дапускаць цякучасці і перакідак работнікаў завочнага радыёнавучання на працягу навучальнага года, прыраўняць інструктароў мясцовых аддзяленняў ІМЗО ў матар'яльных адносінах да інструктароў абкомаў і райкомаў па месцу іх работы.

Па абласцях, краях і нацрэспубліках устаноўлены на 1935—1936 навучальны год 1.500 раёнаў, дзе павінны быць інструктары-прапагандысты.

Для палепшання работы радыёаўдыторый ЦК прапанаваў пад асабістую адказнасць сакратароў райкомаў партыі к 1 лістапада 1935 г. падрыхтаваць усе радыёаудыторыі, якія знаходзяцца ў раёне, па прыёму радыёлекцый Інстытута пры ЦК ВКП(б), забяспечыць для радыёслухання выгодныя памяшканні, умяшчальнасцю не менш 25 чалавек, адрамантаваць праз раённы аддзел сувязі радыёпрыёмнікі, забяспечыць іх крыніцамі жыўлення і наладзіць сталы тэхнічны кантроль над імі.

Сакратары райкомаў ВКП(б) абавязаны вызваляць ад работы навучаючыхся ў сістэме завочнага партнавучання для яўкі на штомесячныя трохдзенныя заняткі, пяцідзенныя ўстановачныя заняткі ў пачатку навучальнага года і дзесяцідзенныя заключныя канферэнцыі ў канцы навучальнага года.

---

Уп. Галоўлітбела №п 5002.
Тыраж 7.815
422.400 друк. зн. (8 арк.)
Здана ў набор 20/I—36 г.
Падпісана да друку 2/II—36 г.



Менск, друк. імя Сталіна. Зак. № 22.

# ЗМЕСТ

## ЧАСОПІСА „БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ“ ЗА 1935 ГОД

### ЛЕНІНІЗМ І ПРАБЛЕМА КАДРАЎ



### ПЫТАННІ ДЫКТАТУРЫ ПРОЛЕТАРЫЯТА І СОВЕТЫ



### АРГАНІЗАЦЫЙНА-ПАРТЫЙНЫЯ ПЫТАННІ І ПАЛІТМАСАВАЯ РАБОТА

## ДЗЯРЖПРАМЫСЛОВАСЦЬ, ТРАНСПАРТ І АЎЛАДАННЕ НОВАЙ ТЭХНІКАЙ

## ПЫТАННІ ГАНДЛЮ І ПЛАНА



## ПРОФСАЮЗЫ



## ПАМЯЦІ С. М. КІРАВА



## РОЗНАЕ



## МІЖНАРОДНАЕ СТАНОВІШЧА І РАБОЧЫ РУХ



## РЭЗАЛЮЦЫІ
## ПЛЕНУМАЎ І ПАСТАНОВЫ ЦК ВКП(б) І ЦК КП(б)Б

## КРЫТЫКА І БІБЛІЯГРАФІЯ





# ІНСТЫТУТ МАСАВАГА ЗАВОЧНАГА НАВУЧАННЯ ПАРТАКТЫВА пры ЦК КП(б)Б

## СЛУХАЙЦЕ ў ЛЮТЫМ 1936 г. праз Менскую радыёстанцыю РВ-10 радыёлекцыі завочнай партвучобы

**Час перадачы—з 19 г. 30 м. да 20 г. 30 м., акрамя лекцый па гісторыі ВКП(б) для завочнікаў партвучобы, якія перадаюцца 10, 11, 12, 15, 16, 17-га лютага з 13 г. 00 м. да 14 г. 00 м.**

### ГІСТОРЫЯ ВКП(б)

**Папулярны курс.**

11/II — Як большэвікі арганізавалі перамогу над самадзяржаўем.

23/II — Як большэвікі арганізавалі перамогу Вялікай Окцябрскай рэволюцыі.

### ГІСТОРЫЯ ВКП(б)

**Курс лекцый для завочнікаў партвучобы.**

**Час перадачы—з 13 г. 00 м. да 14 г. 00 м.**

10 і 15 — Як большэвікі арганізавалі перамогу над самадзяржаўем.

11 і 16 — Як большэвікі арганізавалі перамогу Вялікай Окцябрскай рэволюцыі (1-я лекцыя).

12 і 17 — Як большэвікі арганізавалі перамогу Вялікай Окцябрскай рэволюцыі (2-я лекцыя).

### ЛЕНІНІЗМ

3/II — Ленінскае вучэнне аб перарастанні буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў соцыялістычную.

20/II — Маркс і Энгельс, Ленін і Сталін аб дзяржаве і дыктатуры пролетарыята.

28/II — Совецкая ўлада, як дзяржаўная форма дыктатуры пролетарыята.

### ПЫТАННІ ПРАГРАМЫ І СТАТУТА ВКП(б) І КОМІНТЭРНА

4/II — Як большэвікі вырашылі нацыянальнае пытанне.

14/II — Як будуецца партыя большэвікоў (статут ВКП(б)).

27/II — Статут ВКП(б) аб абавязках членаў партыі.

### ПАЛІТЭКАНОМІЯ

10/II — Дадатковая вартасць — сутнасць капіталістычнай эксплаатацыі.

13/II — Сучасныя формы і метады капіталістычнай эксплаатацыі.

15/II — Усеагульны закон капіталістычнага накаплення.

17/II — Пагоня за прыбыткам, як асноўны стымул развіцця капіталізма. Сярэдні прыбытак і цана вытворчасці.

### УВОДНЫЯ ЛЕКЦЫІ К ВЫВУЧЭННЮ ПААСОБНЫХ ТВОРАЎ МАРКСА, ЭНГЕЛЬСА, ЛЕНІНА, СТАЛІНА.

8/II — Як стварауся „Комуністычны маніфест“.

19/II — Як вывучаць „Комуністычны маніфест“ Маркса і Энгельса.

25/II — Як вывучаць работу Леніна „Дзіцячая хвароба „левізны“ ў комунізме“.

### ПАЛІТЫКА ПАРТЫІ Ў ВЁСЦЫ І ПЫТАННІ СТАТУТА СЕЛЬГАСАРЦЕЛІ

2, 9, 16, 22 і 29-га лютага.

Рэзерв — 1, 5, 7, 21, 26-га лютага.

Пытанні, якія ўзнікнуць у сувязі з праслуханай Вамі лекцыяй і прапрацоўкай вучэбнай літаратуры, а таксама водзывы і заўвагі аб лекцыях накіроўвайце па адрасу:

г. Менск, вул. К. Маркса, 47/30, БІМЗО.

Дырэкцыя інстытута.

ЦАНА 40 к…



…АМА
…НЫХ,
СОВЕЦКІХ, ГРАМАДСКІХ
АРГАНІЗАЦЫЙ і ЎСТАНОЎ

# АДКРЫТА ПАДПІСКА НА 1936 ГОД

НА ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ
ШТОМЕСЯ… ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ X

# „БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ“

ПАДПІСНАЯ ЦАНА НА 1936 г.

| | |
|---|---|
| на 1 мес. | — 40 к. |
| на 3 мес. | 1 р. 20 к. |
| на 6 мес. | 2 р. 40 к. |
| на 12 мес. | 4 р. 80 к. |

## ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА

штомесяц усімі райбюро „Саюздруку“, паасобнымі ўпаўнаважанымі па друку на прадпрыемствах, ва ўсіх паштовых аддзяленнях, агенцтвамі і ўсімі газетаносцамі

МЕНСК
ВЫДАВЕЦТВА
ЦК КП(б)Б. „ЗВЯЗДА“